УДК 908(476.4-21 Крычаў)
ББК 26.89(4 Беи)
М 99

Н а в у к о в ы  р э д а к т а р
доктар гістарычных навук П. Ф. Лысенка

Р э ц э н з е н т ы :
кандыдаты гістарычных навук
Л. У. Калядзінскі, В. С. Пазднякоў, С. В. Тарасаў

**Мяцельскі А. А.**
М99 Старадаўні Крычаў: Гіст.-археал. нарыс горада ад старажыт. часоў да канца XVIII ст. / А. А. Мяцельскі; Навук. рэд. П. Ф. Лысенка. — Мн.: Бел. навука, 2003. — 167 с.: іл.
ISBN 985-08-0541-2.

На падставе археалагічных і гістарычных крыніц аўтар рэканструюе гісторыю Крычава, прасочвае яго генезіс, тэрытарыяльна-планіровачнае развіццё, заняткі і гандлёвыя сувязі яго жыхароў. Даецца нарыс палітычнай гісторыі горада. Упершыню ў беларускай гістарыяграфіі горад разглядаецца разам з прылягаючай да яго акругай. Кніга ілюстравана.

Разлічана на археолагаў, гісторыкаў, студэнтаў, краязнаўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусь

**УДК 908(476.4-21 Крычаў)**
**ББК 26.89(4Беи)**



**ISBN 985-08-0541-2**

# УСТУП

Вывучэнне гісторыі феадальнага горада X — XVIII стст. у дынаміцы яго развіцця, на падставе комплекснага аналізу розных крыніц (археалагічных, пісьмовых і інш.) застаецца адной з актуальнейшых задач беларускай гістарычнай навукі. За апошнія гады праблема вывучэння сярэднявечнага горада знайшла свае адлюстраванне ў шэрагу манаграфічных даследаванняў, прысвечаных гісторыі буйных гарадскіх цэнтраў — Полацка, Мінска, Пінска, Віцебска, Берасця, Гародні, Гомеля, Магілёва, Заслаўя і інш. Аднак у вывучэнні медыевістычнай гарадской праблематыкі асноўная ўвага надавалася буйным гарадскім утварэнням — цэнтрам удзельных княстваў, ваяводстваў, паветаў. У той жа час значная частка гарадоў адносілася да катэгорыі так званых малых, якія хоць і не мелі «класічнага» набору гарадскіх «прыкметаў», аднак уносілі спецыфічны уклад не толькі ў палітычную, але і гаспадарчую жыццядзейнасць сістэмы феадальных грамадскіх дачыненняў.

Адным з такіх «малых» гарадоў сярэднявечча быў Крычаў, які на працягу сваёй гісторыі заставаўся невялікім гарадскім цэнтрам Смаленскага княства XII —XIV стст., горадам і крэпасцю на ўсходняй мяжы Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага... (далей ВКЛ), а потым і Рэчы Паспалітай.

Цікавасць да гісторыі горада ўзнікла ў канцы XVIII ст., калі перад падарожжам (1780 г.) імператрыцы Кацярыны II па заходніх губернях і пасля падарожжа (1786 г.) на поўдзень былі выдадзены даведнік і дзённік, у якіх ёсць невялікія апісанні замка і кароткія звесткі аб гісторыі Крычава (Топографические.., 1780. С. 99; Путешествие.., 1787. С. 18). У тэты ж час А. Мейерам было складзена «Описание Кричевскага графства, бывшего староства», у якім аўтар некалькі радкоў аддаў на апісанне помнікаў археалогіі Крычава і паходжанне назваў некаторых з іх (Мейер А., 1901. С. 91, 107, 114).

У сярэдзіне XIX ст. у Расійскай імперыі значна ўзрасла цікавасць да гісторыі наогул і ў тым ліку да гісторыі Беларусі. У 1855 г. з'яўляецца праца М. Без-Карніловіча, у якой упершыню была пададзена кароткая летапісная гісторыя Крычава XIV —XVII стст., апісаны стан Крычаўскага замка, сабраныя кароткія звесткі пра Крычаўскае староства (Без-Корнилович М. В., 1855. С. 216-218). У другой палове XIX — пачатку XX ст. выйшаў у свет шэраг гісторычна-этнаграфічных і статыстычных публікацый, у якіх таксама былі кароткія звесткі пра гісторыю горада, але усе яны абапіраліся на працу М. В. Без-Карніловіча і былі альбо раўназначныя ёй, альбо нават саступалі па фактуры матэрыялаў (Столпянский Н., 1866. С. 126; Опыт описания.., 1882; Живописная.., 1882. С. 441-442; Россия.., 1905. С. 482-483).

У тэты ж час з'яўляецца шэраг польскамоўных выданняў, сярод якіх трэба адзначыць публікацыю, прысвечаную Крычаву, у «Слоўніку геаграфічным...» (Słownik geograficzny.., 1883. S. 793 — 794), якая па сваёй грунтоўнасці значна пераўзыходзіла ўсе публікацыі першай паловы — сярэдзіны XIX ст.

У другой палове XIX ст. у розных археаграфічных выданнях пачаліся друкавацца крыніцы, непасрэдна звязаныя з гісторыяй горада і староства. Асабліва шмат іх у 10-м томе «Историко-юридических материалов...», дзе надрукаваны і пацвярджальныя граматы пра наданне гораду магдэбургскага права (ИЮМ, 1879. С. 306 — 310). Вялікая колькасць крыніц, якія тычацца гісторыі горада і яго наваколляў сярэдзіны XVII ст., змяшчаецца ў 17, 18, 25 і 28-м тамах «Историко-юридических материалов...» У 1903 г. А. А. Спіцын надрукаваў матэрыял аб помніках археалогіі Магілёўскай губерні, сабраны яшчэ ў 1873 г. У ім мы таксама знаходзім кароткія звесткі пра археалагічныя помнікі Крычава і паданне пра паходжанне назвы горада (Сведения.., 1903. С. 62).

Аднак і тэта не прывяло да павялічэння ўвагі да гісторыі горада. Як і ў XIX, так і ў XX ст., горад, які на працягу XVI —XVII стст. меў вялікае значэнне як буйная крэпасць на ўсходніх межах Рэчы Паспалітай, так і не дачакаўся свайго гісторыка, хоць матэрыялы пра яго час ад часу мільгалі і працягваюць мільгаць у навуковых публікацыях. Выключэннем з'яў-

ляюцца працы мясцовага краязнаўца М. Ф. Мельнікава. Аднак, па аб'ектыўных прычынах, сярэднявечная гісторыя горада ім была слаба асветлена (Мельнікаў М., 1985; Мельников М. Ф., Морозова Н. М. и др., 1986; Мельнікаў М., 1996). Гэтым фактычна на сённяшні дзень і абмяжоўваецца гістарыяграфія Крычава.

Першыя археалагічныя даследаванні Крычава пачаліся ў канцы XIX ст., але да 70-х гадоў XX ст. яны мелі разведачны і бессістэмны характар. Так, у 1892 г. невялікія даследаванні на гарадзішчы Гарадзец праводзіў С. Ю. Чалоўскі — старшы чыноўнік па спецыяльных даручэннях пры магілёўскім губернатары. Аднак даследаванні праводзіліся на невялікай плошчы і іх вынікі абмяжоўваліся высновай, што Гарадзец уяўляе сабой старажытныя могшы (Дневник.., 1892. С. 32-33).

Пасля гэтага археалагічныя даследаванні Крычава доўгі час не праводзіліся. Толькі ў 1936 г., пад час экспедыцыі па р. Сожы, археалагічныя помнікі гарадоў Пасожжа абследавалі А. М. Ляўданскі, С. А. Дубінскі і А. Д. Каваленя. Менавіта гэтая экспедыцыя паклала пачатак навуковага абследавання Крычава. Упершыню былі знятыя планы ўсіх археалагічных помнікаў — гарадзішчаў Гарадзец і Замкавая гара, сабраны пад'ёмны матэрыял, што дазволіла зрабіць першапачатковыя высновы пра час узнікнення горада (Каваленя А. Д., 1936). Аднак і пасля гэтага горад не кранала рыдлёўка археолагаў. Хоць у 50 —60-я гады XX ст. яго неаднаразова абследавалі (В. В. Сядоў, Л. В. Аляксееў, Л. Д. Побаль, П. Ф. Лысенка), толькі ў 1967 г. Г. В. Штыхавым былі праведзены першыя навуковыя разведачныя даследаванні на Гарадцы і Замкавай тары. Падсумоўваючы вынікі сваіх прац у Крычаве, Г. В. Штыхаў выказаў думку, што першапачатковым умацаваннем горада было гарадзішча Гарадзец, а недзе ў XII —XIII стст. цэнтр паселішча быў перанесены на Замкавую тару (Очерки.., 1972. С. 127).

Аднак, калі ў гісторыі развіцця горада XII — XVIII стст. Г. В. Штыхаў схематична верна паказаў агульны накірунак тапаграфічнага развіцця паселішча, то ў вызначэнні этнічнай прыналежнасці першапачатковых насельнікаў Гарадца ён памыліўся. Найбольш раннія матэрыялы ён характарызаваў так: «...лепшая керамика милоградского и зарубинецкого облика» (Очерки.., 1972. С. 127). І хоць сумеснае абследаванне гарадзішчаў жалезнага веку ў вярхоўях Сожа, праведзенае беларускімі і расійскімі археолагамі ў 1969 г., прывяло да высновы, што гэтыя помнікі, у тым ліку і крычаўскі Гарадзец: «идентичны городищам Смоленщины днепродвинской культуры» (Будько В. Д., Вергей В. С., Кочетков В. И., Шмидт Е. А., 1970. С. 298), сярод беларускіх і часткі расійскіх археолагаў на доўгія гады замацаваўся погляд Г. В. Штыхава, які нават паступова развіваўся (Ткачоў М. А., 1986. С. 274; Мяцельскі А. А., Ткачоў М. А., 1993. С. 347; Поболь Л. Д., 1983. С. 409; Еременко В. Е., 1989. С. 95; Вяргей В. С., Егарэйчанка А. А., 1993. С. 250-251), а частка расійскіх археолагаў прытрымлівалася поглядаў Я. А. Шмідта (Седов В. В., 1969. С. 116-125. Рис. 1; Шмидт Е. А., 1992. С. 20-22. Рис. 2).

У 1973—1976 гг. археалагічныя даследаванні ў Крычаве праводзіў М. А. Ткачоў. Ён на плошчы 46 кв. м даследаваў гарадзішча Гарадзец і ўпершыню правёў буйнамаштабныя раскопкі (360 кв. м) на Замкавай гары. Яму належыць першынство ў вывучэнні абаронных збудаванняў гэтых помнікаў, ён першы выявіў неўмацаваныя паселішчы, якія прымыкалі да іх (Ткачев М. А., 1977. С. 417-418). Аднак, нягледзячы на вялікую даследаванную плошчу, абагульніць і ўвесці ў навуковы ўжытак атрыманы археалагічны матэрыял М. А. Ткачоу не паспеў. Як выключэнне можна прывесці прыклады публікацыі крычаўскай кафлі і асобных катэгорый знаходак (Беларуская кафля, 1989; Сташкевіч А., 1993; Ткачоў М. А., Мяцельскі А. А., 1994). Такі ж лес напаткалі і яго распрацоўкі, прысвечаныя ваеннай гісторыі горада. Толькі ў апошні час з'явіліся яго напрацоўкі па гэтаму пытанню, выкладзеныя ў навукова-папулярнай форме (Ткачев М. А., 2002. С. 95-101).

Гэта прывяло да таго, што ў выдадзеным на мяжы XX і XXI стст. 3-м томе шматтомнай «Археалогіі Беларусі» (Археалогія.., 2000. С. 335) у невялікім параграфе, прысвечаным Крычаву, паўтараюцца тыя ж самыя памылкі, што был і ў выдадзеных на пачатку 70-х гадоў XX ст. «Очерках по археологии Белоруссии. Ч. 2», а па некаторых пазіцыях новае выданне саступае па сваей інфармацыйнасці больш ранняму. Амаль ніяк не адлюстраваныя вынікі даследаванняў Крычава і ў 4-м томе «Археалогіі Беларусі», прысвечаным помнікам XIV—XVIII стст. (Археалогія.., 2001).

У 1987-1988, 1995-2000 гг. раскопкі археалагічных помнікаў Крычава праводзіў аўтар. Акрамя даследаванняў на Гарадцы (168 кв. м), Замкавай гары (284 кв. м) і пасадах (76 кв. м) вяліся таксама назіранні за землянымі працамі на тэрыторыі горада. У выніку была сабрана інфармацыя аб магутнасці, характары і храналогіі культурнага слоя ў розных месцах горада, а асобныя вынікі гэтых даследаванняў знайш-

лі адлюстраванне ў друку (Ткачоў М. А., Мяцельскі А. А., 1994. С. 187-200; Метельский А. А., 1995. С. 130-132; Мяцельскі А. А., 2000. С. 81-92; Miacelski A., 2001. S. 98-103; Лошенков М. И., 2002. С. 23-34; Мядзведзева В., 2002. С. 276).

Адначасова з археалагічнымі даследаваннямі вёўся пошук архіўных крыніц па гісторыі Крычава ў архівах Беларусі і Літвы. На жаль, асноўная маса выяўленых крыніц па гісторыі горада адносіцца да другой паловы XVII — XVIII ст., што звязана, па-першае, са шматлікімі войнамі XVI — сярэдзіны XVII ст., па другое, з тым, што горад на працягу XVI — XVIII стст. бесперапынна знаходзіўся ў арэндзе ў розных дзяржаўцаў. У выніку гэтага ў дзяржаўным архіве тых часоў — Метрыцы Вялікага княства Літоўскага — вельмі мала крыніц, якія асвятляюць яго гісторыю.

Толькі асобныя матэрыялы па гісторыі горада пачатку XVI — сярэдзіны XVII ст. адклаліся ў фондзе Метрыкі ВКЛ, копія мікрафільмаў якой захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (НГАБ, кмф-18). Матэрыялы па гісторыі Крычава другой паловы XVII —XVIII ст. у першую чаргу захоўваюцца ў фондзе кмф-5 НГАБ. Тут знаходзяцца мікрафільмы інвентарных апісанняў горада і староства, перададзеныя ў свой час з Варшавы, з Архіва Галоўнага Актаў Даўніх (AGAD). Асобныя матэрыялы, звязаныя з гісторыяй горада гэтага ж перыяду, змяшчаюцца ў Радзівілаўскім фондзе Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (ф. 694). У фондах НГАБ захоўваецца спецыяльны фонд Крычаўскай магдэбургії (ф. 1812), што мае дачыненне да гісторыі горада і яго воласці першай паловы — сярэдзіны XVIII ст. Але асноўная частка крыніц, якія змяшчаюцца ў гэтым фондзе, — тэта граматы аб розных изданиях шляхце, судовыя пастановы па спрэчных зямельных пытаннях, і да гісторыі горада яны маюць ускоснае дачыненне.

Невялікая колькасць матэрыялаў па гісторыі горада і староства захоўваецца ў Радзівілаўскім фондзе (ф. 1280) і ў Фондзе камісіі для разбору даўгоў князёў Радзівілаў (ф. 459) Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы.

З картаграфічных матэрыялаў на сённяшні дзень вядомы толькі «План Крычава 1778 года», які шырока выкарыстоўваўся пры рэканструкцыі планіроўкі горада. Аўтар у сваей працы выкарыстоўваў фотакопію гэтага плана, атрыманую ім ад М. А. Ткачова. Захоўваецца ён у Цэнтральным ваенна-гістарычным архіве Расіі — (ф. ВУА, адз. зах. 22075). Гэта было выклікана тым, што варыянт плана, надрукаваны ў 1950-я гады Ю. А. Ягоравым, не зусім дакладны. Ён з'яўляецца аўтарскай рэканструкцыяй Крычава (Егоров Ю. А., 1954. С. 124) на падставе плана 1778 г., але па-за ўвагай Ю. А. Ягорава засталіся многія цікавыя факты. Арыгінал плана Крычава 1778 г. быу надрукаваны у манаграфіі І. Н. Слюньковай (Слюнькова И. Н., 1992. С. 54), але якасць друку вельмі дрэнная і таму гэтая копія не выкарыстоўвалася.

Акрамя таго, Крычаў схематычна наказаны на карце Вялікага княства Літоўскага, складзенай прыкладна ў 1604 г. Т. Макоўскім для Мікалая Хрыстафора Радзівіла і надрукаванай у Амстэрдаме ў 1613 г.

У гэтай манаграфіі аўтар упершыню ўводзіць у навуковы абарот разнастайныя крыніцы па гісторыі аднаго з невялікіх сярэднявечных гарадоў нашай Бацькаўшчыны. Менавіта такія невялікія гарадскія цэнтры ўносілі спецыфічны уклад не толькі ў палітычную, але і гаспадарчую жыццядзейнасць сістэмы феадальных грамадскіх дачыненняў.

Вывучэнне гісторыі такіх невялікіх гарадскіх цэнтраў, як Крычаў, дазволіць нам лепш зразумець усю разнастайнасць урбаністычных працэсаў эпохі сярэднявечча і напісаць сапраўдную гісторыю нашай Бацькаўшчыны.

*Раздзел* **1**

# АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ПОМНІКІ КРЫЧАВА

## § 1. Тапаграфія старажытнасцей Крычава

Рэканструяваць гісторыю горада немагчыма без уяўлення аб тапаграфіі і ўзаемасувязі археалагічных помнікаў, размешчаных на яго тэрыторыі. Толькі комплекснае вывучэнне ўсіх помнікаў археалогіі, што ўваходзілі ў структуру старажытнага горада, дазваляе асвятліць такія пытанні ў яго гісторыі, як час узнікнення, тэрытарыяльнае развіццё і планіровачная структура. Для гэтага найперш неабходна вызначыць час функцыяніравання кожнага помніка, месца іх сярод іншых адначасовых помнікаў і прасачыць працэс іх развіцця і іх ўзаемасувязь.

На тэрыторыі сучаснага Крычава знаходзяцца наступныя археалагічныя помнікі: гарадзішча Гарадзец, селішча з матэрыяламі XII — XIII стст., якое прымыкае да яго, гарадзішча Замкавая гара і пасад XIII— XVIII стст. — зона распаўсюджвання культурнага пласта у гістарычнай частцы горада (мал. 1).

Правы бераг Сожа ў раёне сучаснага Крычава ўзвышаецца над ракой на 8 — 10 м. У межах горада яго праразаюць даліны малых прытокаў Сожа — рэчка Крычаўка і Забялышчынскі ручай. На плане Крычава 1778 г. (мал. 2) выразна відаць, што менавіта гэтая гідраграфічная сетка (рэчка Крычаўка і Забялышчынскі ручай) з яе крутым! элементам! ландшафту — глыбокімі ярамі — і была тым горадаўтваральным фактарам, у межах якога ішло фарміраванне і развіццё сярэднявечнага горада.




Мал. 1. Сітуацыйны план помнікаў археалогіі Крычава: 1 — гарадзішча Гарадзец; 2 — гарадзішча Замкавая гара; 3 — Спаская гара; 4 — мяжа распаўсюджвання культурнага слоя



Мал. 2. План горада 1778 г.

У цэнтры горада, з левага боку ад месца ўпадзення ў р. Сож Забялышчынскага ручая, размяшчалася крэпасць — дзядзінец сярэднявечнага горада — гарадзішча Замкавая гара. Яно займае авальны холм на правым беразе Сожа памерамі 100х60 м. Гарадзішча ўзвышаецца над узроўнем вады ў рацэ на 10—15 м. З паўднёвага боку ад суседняга ўзвышша — Спаскай тары — Замкавая гара аддзелена натуральным ярам — Забялышчынскім, па дне якога працякае аднайменны ручай. З заходняга і паўночна-заходняга бакоў гарадзішча аддзелена ад берагавога плато шырокім, да 70 м шырыні, рвом.

Штучныя земляныя абарончыя збудаванні — валы — прасочваюцца з пауночнага, заходняга і паўднёвага бакоў Замкавай гары. Яны маюць вышыню ад 1 м у паўднёвай частцы пляцоўкі гарадзішча да 7 м з заходняга боку. Найбольшая шырыня вала каля падэшвы дасягае 15 м. З усходняга боку абарончыя валы адсутнічаюць. Тут надзейнай абаронай замка служыла рака Сож.

Асноўны аб'ём горада, згодна з планам 1778 г., размяшчаўся паміж рэчкай Крычаўкай і Забялышчынскім ярам. Толькі невялікія раёны тагачаснага горада пераходзілі за гэтыя прыродныя межы. Так, прасочваецца пачатак засялення тэрыторыі на поўнач ад рэчкі Крычаўкі. Значна большы раён быў забудаваны на поўдзень ад Забялышчынскага ручая. З усходняга боку прыроднай мяжой горада служыў Сож. Такім чынам, воды Сожа і Крычаўкі фактычна абмяжоўвалі горад з усходу і поўначы. З заходняга боку Крычаў не меў прыродных рубяжоў.

Археалагічныя даследаванні пацвердзілі, што па-за межамі горада, якія прасочваюцца на плане Крычава 1778 г., адсутнічаюць культурныя наслойванні, якія б датаваліся часам раней XIX ст. Выключэнне складае толькі невялікі ўчастак на поўнач ад рэчкі Крычаўкі ўздоўж правага берага Сожа. Згодна з планам горада 1778 г. тэты раён быў незабудаваны. Аднак ў абрыве берага Сожа, вышэй вусця рэчкі Крычаўкі, прасочваецца культурны пласт магутнасцю да 0,3 м, у якім знойдзены фрагменты керамікі канца XVII —XIX ст. Правесці тут археалагічныя даследаванні з мэтаю высвятлення пачатку засялення гэтага раёна не было магчымасці з прычыны таго, што зараз тут размешчаны гарадскія могілкі.




Мал. 3. План гарадзішча Гарадзец і прымыкаючага да яго селішча паводле М. А. Ткачова




Мал. 4. План гарадзішча Гарадзец: А — паводле П. Ф. Лысенка; Б — паводле А. А. Мяцельскага

У той жа час, да 40-х гадоў XX ст., на гэтым месцы знаходзілася Іллінская царква, якая, калі верыць паданию, была пабудавана ў 40-х гадах XV ст. Пры царкве ў XVII — пачатку XIX ст. існаваў невялікі кляштар. Магчыма, таму прасочаны тут культурны пласт змяшчае матэрыялы, якія звязаны з дзейнасцю гэтай царквы і кляштара.

На поўдзень ад Забялышчынскага ручая зона распаўсюджвання культурнага пласта прыблізна супадае з тэрыторыяй горада 1778 г. Культурны слой магутнасцю ад 0,2 м да 1,5 м не выходзіць на поўдні за межы сучасных вуліц Бялінскага і Мінскай. На ўсход ад Замкавай гары межы горада 1778 г. прасціраліся ўздоўж Забялышчынскага ручая прыкладна да раёна сённяшняй вуліцы Губеніна. Уздоўж даліны рэчкі Крычаўкі гарадская тэрыторыя даходзіла да раёна сучаснай вуліцы К. Маркса. У гэтых жа межах, на захад ад вуліц К. Маркса і Губеніна, культурны пласт з матэрыяламі раней XIX ст. адсутнічае.

Другое ўмацаванае паселішча на тэрыторыі сучаснага горада — гарадзішча Гарадзец. Мясцовыя жыхары называюць яго яшчэ «Цвінтар», ці «Прачысценская горка». Знаходзіцца яно прыблізна ў 600 — 800 м на паўночны захад ад Замкавай гары, на левым, высокім беразе рэчкі Крычаўкі. Гарадзішча моцна пашкоджана і працягвае паступова разбурацца (мал. 3—4), прычым працэс гэты ідзе ўжо даўно.

Так, яшчэ ў інвентары горада 1747 г. адзначаецца: «Гарадзішча старое, паўцыркуля (паўкруга) якога змыла рэчка Крычаўка. Некалі замак быў тут». Адначасова інвентар паведамляе нам памеры захаванай часткі помніка. На той час яна складала 8 прэнтаў, што адпавядае 190 кв. м (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 40). Аднак у дадзеным выпадку пісар, які складаў інвентар, нешта наблытаў. Пра гэта сведчыць той факт, што нават сёння памеры гарадзішча значка большыя за тыя, што дае інвентар сярэдзіны XVIII ст. Зараз частка пляцоўкі помніка, якая захавалася, мае найбольшую шырыню ў паўночнай частцы — 16 —20 м, а ў паўднёвай — 5 м. Даўжыня пляцоўкі гарадзішча дасягае 45 м. У 1936 г., калі помнік абследавалі А. М. Ляўданскі, А. Д. Каваленя і С. А. Дубінскі, ён меў шырыню ў паўночнай частцы 20 —25 м, а ў паўднёвай — 7,5 м (Архіў ІГ НАН. Адз. зах. 457. С. 7). Ад колішняга гарадзішча на сёння захавалася толькі невялікая ўсходняя частка агульнай плошчай каля 480 кв. м. Заходні бок помніка ўяўляе сабою стромкі схіл.

На поўнач ад Гарадца знаходзяцца рэшткі неўмацаванага паселішча, якое размяшчалася

ўздоўж левага берага рэчкі Крычаўкі паміж сённяшнімі вуліцамі Камсамольскай і Каінава і займае плошчу каля 0,7 га. Тут сустракаюцца фрагменты шкляных бранзалетаў, асобныя фрагменты керамікі, характэрнай для эпохі старажытнай Русі, аднак асноўны археалагічны матэрыял адносіцца да XVII —XVIII стст.

Асобныя знаходкі артэфактаў XII—XIII стст. — шыферныя праселкі, адзінкавыя . фрагменты керамікі сустракаюцца і на сядзібах, размешчаных на правым беразе Крычаўкі, на вуліцы Катоўскага. Але асноўны археалагічны матэрыял з гэтага раёна горада датуецца часам, не ранейшым за XIX ст.

Рэшткі неўмацаванага паселішча плошчай каля 1 га зафіксаваны прыкладна ў 1 — 1,5 км на паўночны ўсход ад Гарадца ў пойме левага берага Сожа, на дзюне, насупраць гарадскога мікрараёна «Сож». Тут пад час пад'ёмных збораў на месцы былога кар'ера была сабрана ў асноўным раннеганчарная кераміка X —XI стст., але зрэдку траплялiся фрагменты гаршкоў, упрыгожаныя арнаментам, зробленым шнуром, які намотваўся на палачку (мал. 5:4 — 7). Зараз культурны пласт дасягае магутнасці 0,3 м. Аднак, па звестках мясцовых краязнаўцаў, калі ў канцы 60-х гадоў XX ст. вялася распрацоўка кар'ера, то тады яны назіралі ў культурным пласце рэшткі заглыбленых у мацярык пабудоў, а магутнасць культурнага пласта на паселішчы дасягала 0,7 — 1 м.

Побач, прыкладна ў 0,5—1 км на ўсход ад гэтага селішча, вядомыя два курганныя могільнікі (Копытин В. Ф., 1999. С. 78. № 83, 84), у якіх пад час скарбашукальніцкіх раскопак (4 кургана) былі знойдзены выключна вугальныя плямы без якіх-небудзь знаходак. Верагодна, гэты курганны могільнік з пахаваннем па абраду трупаспалення (?) адносіцца да паселішча ў пойме Сожа, бо час яго функцыяніравання (X —XI стст.) адпавядае часу існавання паселішча.

## § 2. Гарадзішча Гарадзец

***Стратыграфія, храналогія культурнага слоя.*** Першае згадванне аб гарадзішчы Гарадзец мы сустракаем у пісьмовых крыніцах канца XVI ст. (1592 г.). У прывілеі аб зямельных наданнях крычаўскаму земяніну Марціну Кимбурду называецца «пляц в городе и огород над речкою Кричевцом под Городищем» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 77, арк. 412 адв.— 413 адв.).

Гарадзішча Гарадзец займае высокі мыс (вышыня пляцоўкі над берагам рэчкі дасягае 18 м) на левым беразе рэчкі Крычаўкі, прыкладна ў 0,5 км ад месца яго ўпадзення ў Сож (мал. 3). Яго пляцоўка значка нахілена з поўначы на поўдзень (перапад вышынь дасягае 2,5 м) і ў меншай ступені з ўсхода на захад. Пляцоўка помніка пашкоджана шматлікімі скарбашукальнымі ямамі. У паўночна-ўсходняй частцы гарадзішча захаваўся фрагмент абарончага вала вышынёю да 1,5 м. З паўночна-заходняга боку помнік адрэзаны ад прылегаючага плато ровам шырынёй 16 м, які першапачаткова меў глыбіню каля 1,5 м (мал. 4).

Даследаванні на гарадзішчы (плошча 214 кв. м) паказалі, што культурны пласт магутнасцю ад 3,5 м у паўднёвай частцы да 1,3 м у цэнтры пляцоўкі складаецца з трох стратыграфічных напластаванняў, якія, мяркуючы па асаблівасцях керамікі (фактуры, тэхніцы вырабу, формам посуду і арнаментацыі) і індывідуальных знаходак, адносяцца да розных археалагічных культур і храналагічных перыядаў.




Мал. 5. Кераміка з гарадзішча Гарадзец і з паселішча ў пойме Сожа: 1—3 — кераміка бронзавага часу з гарадзішча Гарадзец; 4 —7 — кераміка з паселішча ў пойме Сожа

Да гісторыі станаўлення паселішча гарадскога тыпу ў Крычаве маюць дачыненне матэрыялы толькі верхняга стратыграфічнага пласта. Аднак у дадзенай працы аўтар падае увесь

матэрыял з Гарадца дзеля таго, каб чытач атрымаў агульнае ўяўленне пра гэты археалагічны помнік.

Стратыграфія помніка нескладаная. Пад дзірваном пачынаўся слой магутнасцю да 1,1 м светла-шэрай афарбоўкі, шчыльнай кансістэнцыі, даволі аднародны, у якім сустракаўся як ляпны, так і ганчарны посуд.

Першы (верхні) стратыграфічны слой аддзяляецца ад ніжняга праслойкай пажарышча магутнасцю 0,07 — 0,1 м, якая выразна прасочваецца толькі ў прылеглых да вала месцах. Пад ёю адразу ж пачынаўся другі стратыграфічны слой. Ён больш цёмнай афарбоўкі — амаль чорны. Яго магутнасць вагаецца ад 0,2 м у цэнтры пляцоўкі гарадзішча да 0,95 м каля вала.

Трэці стратыграфічны слой цёмна-карычневага колеру, аднародны, без якіх-небудзь дамешкаў, мае магутнасць ад 0,6 да 0,9 м. У прылеглай да абарончага вала частцы, на вышыні прыкладна 0,1—0,2 м ад мацерыка, гэты пласт падзяляецца праслойкай пажарышча магутнасцю да 5 см.

У перадмацерыковым пласту знойдзены фрагменты ляпнога гаршка (мал. 5:1 — 3), якія адносяцца да сярэднедняпроўскай культуры ранняга перыяду бронзавага веку. Гэта дазваляе меркаваць аб існаванні ў гэты час на беразе рэчкі Крычаўкі пэўнага пасялення ці стаянкі.

Але асноўная маса матэрыялаў з ніжняга стратыграфічнага слоя адносіцца да эпохі ранняга жалезнага веку. Яны прадстаўлены, перш за ўсё, фрагментамі ляпных слабапрафіляваных гаршкоў, якія адлюстроўваюць тры стадыі ў тэхніцы вытворчасці посуду.

1-я стадыя — найбольш старажытная, прадстаўлена так званай бугрыстай керамікай. Яна атрымала сваю назву (тыпалогія Я. А. Шмідта) з-за зярнятак жарствы, якія выступалі на паверхню посуду. Пакрываліся яны тонкім слоем гліны, што робіць бугаркі знешне глiністымі. Колер керамікі вагаецца ад цёмна-шэрага да чорнага. У працэнтных лічбах бугрыстая кераміка складае 17,6% ад агульнай колькасці керамікі ніжняга стратыграфічнага слоя.

2-я стадыя таксама прадстаўлена керамікай цёмна-шэрага ці чорнага колеру, але ў адрозненне ад керамікі 1-й стадыі жарства зараз не выступае на паверхню гаршкоў. Само тулава гаршка было абліта вадкай глінай, ад якой захаваліся падцёкі. У працэнтных лічбах кераміка гэтага тыпу складае 16,4%.

На 3-й стадыі выраблялiся гаршкі, у якіх у гліну дамешвалася больш дробная жарства, з-за якіх гаршкі стал і мецъ гладкую паверхню. Сярод знаходак гэтага перыяду — гліняны по-




Мал. 6. Гарадзішча Гарадзец. Кераміка з ніжняга стратыграфічнага слоя

суд карычневата-чырвонага колеру, зроблены з добра прамешанай чырванаватай гліны, у якую ў якасці аташчальніка дададзены кварцавы пясок. Выступаючы на паверхню, ён робіць яе шурпатай. Кераміка падобнай фактуры складае найбольшую колькасць ад усей керамікі ніжняга стратыграфічнага пласта — 58,4%. Да гэтай жа трупы керамікі адносяцца фрагменты гаршкоў, тулава якіх пакрыта лёгкай штрыхоўкай, атрыманай ў выніiку загладжвання паверхні гаршка пучком травы. Фрагменты падобных гаршкоў нешматлікія. Яны складаюць усяго 6,9% ад агульнай колькасці керамікі.

Па прафілёўцы ўся кераміка з ніжняга стратыграфічнага слоя можа быць аднесена да двух аддзелаў: непрафіляваныя (баначныя) і слабапрафіляваныя. Сярод непрафіляваных сасудаў вылучаецца некалькі тыпаў.

Першы тып прадстаўлены гаршкамі баначных формаў з прамым вертыкальным альбо трошісі загнутым унутр краем венца (мал. 6:1) без якой-небудзь шыйкі.

Другі тып — тэта гаршкі, зробленыя у выглядзе ўсечанага ўверх аснавання конуса; найбольшае пашырэнне іх тулава прыпадае на трэцюю чвэрць вышыні. Ёсць два варыянты

гаршкоў гэтага тыпу, якія адрозніваюцца толькі круцізной загібу венца (мал. 7:2, 3). Сустракаюцца асобныя экземпляры гаршкоў, у якіх край венца крыху загнуты ўверх (мал. 6:4) і якія з'яўляюцца, верагодна, пачатковай формай пераходу да слабапрафіляваных гаршкоў. Дыяметр дна гэтых гаршкоў меншы за дыяметр горла.

**Т а б л і ц а 1. Размеркаванне тыпаў гаршкоў у ніжнім стратыграфічным слоі**

| Тып гаршкоў | 1-шы пласт | 2-гі пласт | 3-ці пласт | 4-ты пласт | 5-ты пласт |
|---|---|---|---|---|---|
| Гаршкі баначнай формы з вертыкальным венцам | 7 — 17,9% | 10 — 38,4% | 12 — 36,3% | 8 — 34,7% | |
| Гаршкі баначнай формы з загнутым унутр краем | 8 — 20,5% | 5 — 19,2% | 3 – 9% | 7 — 30,4% | 3 — 18,75% |
| Гаршкі з акруглым тулавам і вертыкальным венцам | | | | 3 – 13% | 5 — 31,25% |
| Гаршкі баначнай формы з трошкі выражаным венцам | | | | 2 — 8,6% | 4 – 25% |
| Слабапрафіляваныя гаршкі з акруглым тулавам і адагнутым венцам | 17 — 43,5% | 11 — 42,3% | 18 — 54,5% | 3 – 13% | 4 – 25% |
| Слабапрафіляваныя гаршкі цюльпанападобнай формы | 4 — 10,2% | | | | |
| Усяго | 39 — 100% | 26 — 100% | 33 — 100% | 23 — 100% | 16 — 100% |

Акрамя таго, ёсць невялікая колькасць фрагментаў гаршкоў, якія маюць выпуклае тулава і прамое вертыкальнае венца (мал. 8:3, 4). Таксама сустракаюцца асобныя фрагменты банкападобных гаршкоў з венцам, якое толькі пачало афармляцца. Падобная кераміка сустракаецца ў ніжніх, найбольш ранніх пластах гарадзішча каля в. Новыя Батэкі на Смаленшчыне (Шмидт Е. А., 1963. С. 154. Рис. 8:25-27).

Па колькасці знойдзеных венцаў гаршкі гэтых тыпаў у ніжніх двух пластах ніжняга стратыграфічнага гарызонта складаюць асноўную колькасць керамікі (табл. 1).

Слабапрафіляваныя гаршкі прадстаўлены фрагментамі посуду, верхняя частка якіх мае адагнутае венца. Дыяметр горла гэтых гаршкоу звычайна на 2 — 5 см меней максімальнага пашырэння тулава, якое прыпадае на плечыка. Шыйка, як правіла, выражана слаба. У некаторых гаршкоў яна наогул адсутнічае. Гэты



Мал. 7. Гарадзішча Гарадзец. Кераміка з ніжняга стратыграфічнага слоя

тып слабапрафіляванай керамікі мае некалькі варыянтаў, якія адрозніваюцца як вышынёй венчыка, так і ступенню яго адагнутасці: першы з венчыкам вышынёй 1,5 — 2 см («на палец»), другі — вышынёй 0,5 — 0,7 см (у «паўпальца»). Усе гэтыя тыпы посуду маюць шматлікія аналогі сярод керамікі днепра-дзвінскай культуры (Шадыро В. И., 1985. Рис. 44 — 47; Шмидт Е. А., 1992. С. 198-200. Табл. 40-42).

У верхняй частцы ніжняга стратыграфічнага слоя сустракаюцца фрагменты прафіляванага посуду, у якіх найбольшае пашырэнне прыпадае на трэцюю чвэрць вышыні альбо на край венчыка (мал. 9:3, 8, 9). Гэтая кераміка ў адрозненне ад папярэдняй упрыгожана ногцевым арнаментам па краю венчыка і плечыку. Падобная кераміка мае аналогіі сярод керамікі сярэдняга слоя гарадзішча Тушамлі і сярод смаленскіх матэрыялаў позняга этапу днепра-дзвінскай культуры (Шмидт Е. А., 1992. С. 98. Рис. 18:1).

Кераміка з ніжняга стратыграфічнага слоя даволі рэдка упрыгожана арнаментам. Калі ён і сустракаецца, то тэта альбо розныя лініі, пракрэсленыя па плечыку (мал. 10: 7, 9), альбо наколы вострай палачкай (мал. 7: 1), альбо на-



Мал. 8. Гарадзішча Гарадзец. Кераміка з ніжняга стратыграфічнага слоя

Найбольш раннія пласты ніжняга стратыграфічнага слоя насычаны бугрыстай керамікай, вырабамі з косці. Тут цалкам адсутнічаюць метал ічныя рэчы. Касцяныя вырабы прадстаўлены падвескамі, праколкамі (мал. 14). Верагодна, да гэтага ж слоя можна аднесці і асобныя касцяныя вырабы, сабраныя Л. Д. Побалем на гарадзішчы, — плоскую праколку з рога, у верхняй частцы якой ёсць адтуліна для падвешвання, клык кабана з адтулінай і абточаны фрагмент косці (Поболь Л. Д., 1974. С. 234. Рис. 94:1, 2, 7).

У перадмацерыковым пласце знойдзены фрагмент наканечніка стралы з адным шыпом (мал. 14:7), які па сваіх формах і прапорцыях вельмі нагадвае наканечнікі стрэл з ніжняга слоя гарадзішча Дзякава. Апошні адклаўся ґалоўным чынам у V —III стст. да н. э. (Кренке Н. А., Сулержицкий Л. Д., 1988. С. 41, 42. Рис. 3:9—10) і, верагодна, гэтым жа часам можна датаваць знаходку з Гарадца.

Акрамя таго, на самім мацерыку знойдзена ўтулкавая рукаятка нажа (мал. 14:12), якая адносіцца да тыпу 5 паводле класіфікацыі К. А. Смірнова (Смирнов К. А., 1974. С. 34. Табл. III: 7). Аналагічная рукаятка нажа, зробленая з абструганага рога, на адным баку якога зроблена адтуліна для чаранка нажа, знойдзена на гарадзішчы каля в. Новыя Батэкі і



Мал. 9. Гарадзішча Гарадзец. Кераміка з ніжняга стратыграфічнага слоя

колы, зробленыя пастаўленай пад вуглом палачкай прамавугольнай формы (мал. 10:8). Апошні варыянт арнаментацыі керамікі асабліва распаўсюджаны на помніках юхнаўскай культуры ранняга жалезнага веку, размешчаных па р. Бесядзь, і, верагодна, з'яўляецца сведкай юхнаўскага уплыву на насельніцтва крычаўскага Гарадца. На донцы гаршкоў маецца характэрны выступ.

Разглядаючы форму, абпал, апрацоўку паверхні, колер днепра-дзвінскай керамікі, Я. А. Шмідт па матэрыялах Новабатэкаўскага гарадзішча прыйшоў да высновы, што развіццё керамікі ішло ад гаршкоў з бугрыстай паверхняй (V —III стст. да н. э.) да загладжана-пакрэсленай (II ст. да н. э. — I ст. н. э.) і далей да пясчанай (I —III стст. н. э.). Да падобнага храналагічнага падзелу днепра-дзвінскіх старажытнасцей на тэрыторыі Беларусі схіляецца і В. І. Шадыра (Шмидт Е. А., 1963. С. 155-156; Шадыро В. И., 1985. С. 78-79).

Датаваць ніжні стратыграфічны слой крычаўскага Гарадца дапамагаюць індывідуальныя знаходкі.



Мал. 10. Гарадзішча Гарадзец: 1—6 — арнаментацыя керамікі з сярэдняга стратыграфічнага слоя; 7 — 9 — арнаментацыя керамікі з ніжняга стратыграфічнага слоя

паходзіць з яго самага ніжняга культурнага слоя, які датуецца Е. А. Шмідтам VI — III стст. да н. э. (Шмидт Е. А., 1963. С. 160, 174).

Пад час пад'ёмных збораў на гарадзішчы Л. Д. Побалем быў знойдзены грузік «дзякаўскага тыпу». Па сваей форме ён прыплюснуты, вельмі нагадвае грузікі ранняга тыпу — 12а паводле класіфікацыі К. А. Смірнова, якія датуюцца VII —III стст. да н. э. Аналагічныя грузікі вядомы на гарадзішчах у ніжнім цячэнні Масква-ракі і сярэднім — Акі, а таксама на Шчарбінскім гарадзішчы (Поболь Л. Д., 1974. С. 234. Рис. 94:3; Смирнов К. А., 1971. С. 82. Рис. 1:16; С. 92, 97; Дубынин А. Ф., 1974. С. 272. Табл. XVIII: 18).

У сярэдзіне ніжняга стратыграфічнага слоя (глыбіня 0,4 — 0,8 м) знойдзены чатыры грузікі дзякаўскага тыпу, якія згодна з класіфікацыяй К. А. Смірнова адносяцца да грузікаў двух тыпаў: тып 5а — маюць цыліндрычныя бакавыя паверхні і плоскі верх (мал. 15:2,4) і тып 7 — з бакавой паверхняй цыліндрычнай формы, якая плаўна пераходзіць ў аснову (мал. 15: 1, 3). Падобныя грузікі на дзякаўскіх помніках датуюцца I ст. да н. э. — III ст. н. э. (Смирнов К. А., 1971. С. 82. Рис. 1:5, 9. С. 96).

У падсыпцы вала, якая адносіцца да часоў сярэдняга стратыграфічнага слоя, была знойдзена бронзавая посахападобная шпілька з каплепадобнай верхняй часткай і з завіткам у два абароты (мал. 16:3). Падобныя шпількі былі даволі распаўсюджаныя сярод смаленскага арэала днепра-дзвінскай керамікі (Медведев А. М., 1996. С. 180), і, верагодна, у сярэднім стратыграфічным слоі яны апынуліся ў выніку перакопаў. Аналагічныя шпількі вядомы на гарадзішчы каля в. Новый Батэкі, дзе яны сустракаюцца ў слаях «В» і «Г», якія датуюцца VI —III стст. да н. э. Акрамя таго, падобныя булаўкі вядомы на гарадзішчы каля в. Блізнакі (Шмидт Е. А., 1963. С. 164. Рис. 12:9. С. 166, 174; Шмидт Е. А., 1992. С. 172. Табл. 14:1).

У сярэдзіне ніжняга стратыграфічнага слоя знойдзены і тры нажы з гарбатай спінкай (мал. 17:5 — 7). Па характары мацавання да рукаяткі яны адносяцца да нажоў з плоскім



Мал. 11. Гарадзішча Гарадзец. Кераміка з сярэдняга стратыграфічнага слоя

чарашком, які мае уступ толькі з ніжняга боку пры пераходзе да ляза. Нож серпавіднай формы з закругленым абушком (мал. 17:5), на думку К. А. Смірнова, адносіцца да тыпу найбольш ранніх і датуецца перыядам да нашай эры (Смирнов К. А., 1974. С. 32).

У верхний частцы ніжняга стратыграфічнага слоя (глыбіня 0,0 — 0,4 м) знойдзена бронзавая посахападобная шпілька, якая мае закручаную ў два абароты галоўку (мал. 16:8). Шпількі падобнай формы, але зробленыя з жалеза, знойдзены на гарадзішчы каля в. Новыя Батэкі ў слаях «В», «Г» і «Б». Слой «Б» гарадзішча Новыя Батэкі датуецца апошнімі стагоддзямі да н. э. — першымі стагоддзямі н. э. (Шмидт Е. А., 1963. С. 174-175. Рис. 14:20); гэтым жа часам, верагодна, можна датаваць і крычаўскую знаходку.

Тут жа знойдзены серпападобны нож (мал. 17:2), які мае аналогію сярод знаходак з гарадзішча каля в. Самсонцы. На думку Я. А. Шмідта, такія серпападобныя нажы з'яўляюцца ў днепра-дзвінскім асяроддзі пасля рубяжа н. э., што не супярэчыць і стратыграфіі знаходкі серпападобнага нажа на Гарадцы (Шмидт Е. А., 1992. С. 56, 183. Табл. 25:1, 7).

На гэтым жа стратыграфічным узроўні выяўлены двушыпны трохкутны наканечнік стралы з рамбічным сячэннем пяра паводле класіфікацыі Х. І. Крыса (Крис Х. И., 1970. С. 151 — 152). Шыпы наканечніка падкрэслены выемкамі ў ніжняй частцы пяра (мал. 14:6). Яго агульная даўжыня складае 113 мм; даўжыня пяра — 58 мм. Чаранок стралы даволі доўгі — 48 мм, на канцы звужаецца. Блізкі па форме наканечнік стралы знойдзены на Дзямідаўскім гарадзішчы і гарадзішчы Буракова (Шадыро В. И., 1985. С. 48. Рис. 28:2; Шмидт Е. А., 1992. С. 159. Табл. 1-9). К. А. Смірноў адносіць час бытавання падобных наканечнікаў стрэл да часоў раней рубяжа н. э. (Смирнов К. А., 1974. С. 32, 80. Рис. 1:25). Побач знойдзена нарыхтоўка касцяной ромбападобнай стралы трохвугольнага сячэння (мал. 14:5).

У верхняй жа частцы ніжняга стратыграфічнага слоя знойдзена трапецападобная касцяная падвеска з адтулінай для падвешвання (мал. 14:1), якая мае блізкія аналогіі сярод старажытнасцей ніжняга слоя Макрадзінскага гарадзішча вярхоўяў Сожа (Третьяков П. Н., 1963. С. 88. Рис. 44:35). Адсюль жа паходзіць і другая касцяная глянцаваная падвеска з вушкам, зробленая ў выглядзе стылізаванай рыбкі (мал. 14:4), якая мае даволі блізкія аналогіі сярод найбольш ранніх старажытнасцей з гарадзішча Новыя Батэкі (Шмидт Е. А., 1963. С. 161. Рис. 10:13; Шмидт Е. А., 1992. С. 165. Табл. 7:17).



Мал. 12. Гарадзішча Гарадзец. Кераміка з сярэдняга стратыграфічнага слоя

Акрамя таго, знойдзена касцяная муфтачка, альбо пранізка (мал. 14:3), даўжынёй 45 мм, дыяметрам 13 мм, з дыяметрам унутранага канала 8 мм. Другая муфтачка мае даўжыню 30 мм, дыяметр 11 мм, дыяметр унутранага канала 5 — 7 мм. Падобныя пранізкі вядомы з раскопак Е. А. Шмідта ў ніжнім слоі гарадзішчаў Тушамля і Царковішча (Шмидт Е. А., 1992. С. 166. Табл. 8, 21-22).

У ніжнім стратыграфічным слоі прасочаны рэшткі наземных пабудоў. Тэта найперш сляды рамонтаў глінабітных падлог, якія перакрывалі адна адну (мал. 18, 19). Пабудовы размяшчаліся па цэнтры пляцоўкі гарадзішча, пакідаючы свабоднымі ад забудовы краі пляцоўкі паселішча. Дакладныя памеры ўдалося высветліць толькі для двух, цалкам даследаваных, пабудоў. Самая ранняя падлога (пабудова-2) уяўляла сабою гліняную вымастку таўшчынёй 3 — 5 см і мела памеры 3х2,5 м (мал. 19).

Падлогу пабудовы-2 перакрывала праслойка культурнага пласта магутнасцю 12 — 15 см, пасля якога ішлі два ярусы падлогі пабудовы-1, аддзеленыя друг ад друга праслойкай культурнага слоя магутнасцю 5 — 8 см.

Даволі магутны культурны слой, што адзяляе падлогу пабудовы-2 ад больш позніх падлог, дазваляе меркаваць, што гэта падлогі дзвюх розначасовых пабудоў. Гліняныя ж пад-



Мал. 13. Гарадзішча Гарадзец. Арнаментацыя керамікі з сярэдняга стратыграфічнага слоя

логі, аддзеленыя праслойкай культурнага пласта магутнасцю 5—8 см, з'яўляюцца сведкамі рамонтаў падлог адной пабудовы. Гэтую думку пацвярджае і розніца ў памерах падлог пабудовы-1 і пабудовы-2. Памеры абедзвюх падлог пабудовы-1 былі некалькі меншыя — 2,6x2,6 м. Дакладна вызначыць канструкцыйныя асаблівасці знойдзеных пабудоў немагчыма, бо акрамя падлог няма ніякіх сведчанняў аб іх канструкцыйных асаблівасцях. Ніякіх слядоў слупавых ям у культурным пласце і на мацерыку ў непасрэднай блізкасці ад вымастак не было зафіксавана, як і слядоў ацяпляльных канструкцый на даследаваных фрагментах.

Акрамя гэтых пабудоў на даследаванай пляцоўцы гарадзішча былі выяўлены фрагменты яшчэ трох пабудоў, якія трапілі ў раскопы толькі часткова.

Пабудова-3 размяшчалася ў 220 см на усход ад падлог пабудовы-1 і пабудовы-2. Як і першыя пабудовы, яна зафіксавана лінзай глінянай падлогі таўшчынёй 2 — 5 см, памерамі 2x1,4 м. На глінянай вымастцы падлогі быў знойдзены фрагмент меднага круглага дроту дыяметрам 4 мм (мал. 16:2).

Пабудова-4 размяшчалася непасрэдна пад пабудовай-3, мела тыя ж самыя памеры і была аддзелена ад апошняй праслойкай культурнага пласта магутнасцю 10 см. На глінянай вымастцы падлогі таўшчынёй 5 см знойдзена посахападобная шпілька з круглай верхняй часткай і адным завітком (мал. 16:1). Аналагі шпілек падобнай формы вядомы на гарадзішчы каля в. Кублічы (Шмидт Е. А., 1992. С. 190. Рис. 32:5). На адным узроўні з пабудовай-4 былі знойдзены грузікі дзякаўскага тыпу, пра іх гаворка ішла вышэй (мал. 16:1, 2, 4). На дзякаўскіх помніках яны датуюцца I ст. да н. э. — III ст. н. э. (Смирнов К. А., 1971. С. 82. Рис. 1:5, 9. С. 96).

Пад пабудовай-4 залягала гліняная вымастка падлогі пабудовы-5, аддзеленая культурным слоем магутнасцю 10 — 26 см. Яна мела тыя ж самыя памеры, што і папярэднія пабудовы, і таўшчыню 4 — 10 см. Канструкцыйныя асаблівасці гэтых пабудоў не прасочваліся. Толькі з заходняга боку вымасткі падлогі пабудовы-5 быў прасочаны ланцужок ям ад



Мал. 14. Гарадзішча Гарадзец. Касцяныя вырабы: 1, 2, 4 — падвескі; 3 — муфтачка; 5, 7 — нарыхтоўкі стрэл; 6 — страда; 8—10 — праколкі; 11 — апрацаваная косць; 12 — рукаятка нажа

слупоў дыяметрам ад 18 да 30 см і глыбінёй ад 10 да 34 см. Але з паўднёвага і ўсходняга боку мацерыковыя ямы ўздоўж падлогі не прасочваліся.

Рэшткі пабудовы-6 былі выяўлены ў 1 м на паўночны захад ад пабудовы-2. Ад яе захаваліся 7 вымастак рамонтаў падлогі, якія залягалі непасрэдна адна над адной і былі аддзелены паміж сабой праслойкамі культурнага слоя магутнасцю 3 — 7 см. Глінабітныя вымасткі мелі памеры 2,5 — 2,6х4 м. Часткова яны хаваліся ў паўночнай сцяне раскопу, таму дакладныя памеры падлогі вызначыць не ўдалося. На даследаваных вымастках ніякіх слядоў ацяпляльных канструкцый не выяўлена. На мацерыку вакол іх не было зафіксавана ніякіх слядоў сталбавых ям. Гэта дазваляе сцвярджаць, што пабудова-6 хутчэй за ўсё мела зрубную канструкцыю.

Уздоўж усходняй сцяны раскопу 1999 г. былі зафіксаваны рэшткі падлогі яшчэ адной пабудовы — 7. Яна размяшчалася паралельна пабудове-6 на адлегласці 1 м. Ад яе захаваліся рэшткі двух рамонтаў падлогі. Яе прасочаная даўжыня складае 4 м, але большая частка пабудовы засталася па-за межамі раскопу.

Даследаваная плошча помніка дазваляе зрабіць пэўную рэканструкцыю забудовы пляцоўкі паселішча. Пабудовы размяшчалася бліжэй да цэнтра гарадзішча, пакідаючы свабоднай ад забудовы прылеглую да абарончых збудаванняў тэрыторыю (мал. 20). Падобная забудова пляцоўкі гарадзішча і наяўнасць слядоў рамонтаў гліняных падлог — вельмі характэрная рыса для домабудаўнічай традыцыі юхнаўскіх плямёнаў жалезнага веку. Улічваючы той факт, што памежжа паміж юхнаўскімі і днепрадзвінскімі плямёнамі праходзіла ў міжрэччы Сожа і Бесядзі (Шадыра В. І., 1998. С. 89. Мал. 1), трэба прызнаць, што на крычаўскім паселішчы Гарадзец мы бачым пранікненне юхнаўскай домабудаўнічай традыцыі ў днепра-дзвінскае асяроддзе.

Такім чынам, аналіз матэрыялаў з ніжняга стратыграфічнага слоя гарадзішча Гарадзец дазваляе зрабіць выснову, што ён пачаў адкладвацца ў V —III стст. да н. э. і існаваў, верагодна, да І ст. н. э. Насельніцтвам Гарадца былі прадстаўнікі днепра-дзвінскай археалагічнай культуры, якія знаходзіліся пад значным уплывам юхнаўскіх плямёнаў, што прасочваецца як па домабудаўнічай традыцыі, так і ў першапачатковых традыцыях вырабу керамікі.

Другі (сярэдні) стратыграфічны слой амаль чорны па сваёй каларыстычнай гаме і мае магутнасць ад 0,2 да 0,95 м. Масавы матэрыял з сярэдняга стратыграфічнага слоя — таксама




Мал. 15. Гарадзішча Гарадзец. Гліняныя грузікі

ляпная кераміка. Як і ў ніжнім стратыграфічным слоі, тут шырока распаўсюджаны тыпы гаршкоў, якія існавалі ў папярэднія часы. Іх наибольшая колькасць прыпадае на ніжнія пласты, але з часам пачынаюць з'яўляцца іншыя тыпы, якія паступова становяцца панавальнымі. Размеркаванне тыпаў венцаў гаршкоў з другога стратыграфічнага слоя добра відаць у табл. 2. Акрамя таго, у другім стратыграфічным слоі ўпершыню трапіліся фрагменты міскападобных гаршкоў і місак (мал. 11:4, 5). У адрозненне ад гаршкоў яны маюць больш прыземістае тулава, дыяметр венца заўсёды перавышае дыяметр тулава. Прапорцыі паміж вышынёй і дыяметрам венца вагаюцца — 1:5 і 1:2. Дыяметр венцаў місак і міскападобных гаршкоў вагаецца ад 13,5 да 20 см.

Новыя тыпы гаршкоў, што з цягам часу сталі панавальнымі, у другім стратыграфічным слоі прадстаўлены ў асноўным фрагментам! гаршкоў, у якіх найбольшае пашырэнне прыпадае на трэцюю чвэрць вышыні альбо на край венчыка (мал. 11:1—3; мал. 12:1 — 2). Кераміка з вертыкальным горлам наогул прадстаўлена аднолькавымі экземплярамі (мал. 12:3). Гаршкі гэтых тыпаў маюць даволі тоўстыя сценкі —

**Т а б л і ц а 2. Размеркаванне тыпаў гаршкоў у сярэднім стратыграфічным слоі**

| Тып/пласт | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| Банкападобныя гаршкі з вертыкальным венцам | 1 – 4,1% | 5 – 17,2% | 4 – 11,1% | 7 – 31,8% | 5 – 41,6% |
| Банкападобныя гаршкі з загнутым унутр венцам | | 6 – 20,6% | 2 – 5,55% | 7 – 31,8% | 2 – 16,6% |
| Слабапрафіляваныя гаршкі з акруглым тулавам і адагнутым венцам | 4 – 16,6% | | 5 – 13,8% | 1 – 4,5% | 3 – 25% |
| Слабапрафіляваныя гаршкі цюльпанападобнай формы з вертыкальным венцам | 1 – 4,1% | 1 – 3,4% | | | |
| Слабапрафіляваныя гаршкі цюльпанападобнай формы, у якіх дыяметр горла меншы за дыяметр тулава | | | 4 – 11,1% | 3 – 13,6% | |
| Слабапрафіляваныя гаршкі цюльпанападобнай формы, у якіх дыяметр горла большы за дыяметр тулава | 15 – 62,5% | 15 – 51,7% | 18 – 50% | 4 – 18,1% | 2 – 16,6% |
| Глянцаваны посуд | 3 – 12,5% | 2 – 6,8% | 3 – 8,3% | | |
| Усяго | 24 – 100% | 29 – 100% | 36 – 100% | 22 – 100% | 12 – 100% |


Мал. 16. Гарадзішча Гарадзец: 1—8 — вырабы з каляровага метаду — 1, 3, 6, 8 — булаўкі, 2 — фрагмент меднага дроту, 4 — падвеска, 5 — кольца, 7 — дужка ад фібулы ; 9 — фрагмент каменнай булавы

0,6 — 0,8 см. Цеста гаршкоў грубае, насычанае фрагментамі жарствы. Кераміка ўпрыгожана ногцевым арнаментам па краі венчыка і плечыку (мал. 10:1—6; мал. 13). Па сваёй прафілёўцы гаршкі новых тыпаў з другога стратыграфічнага слоя гарадзішча Гарадзец маюць аналогі сярод старажытнасцей позняга этапу днепра-дзвінскай культуры і культуры тыпу сярэдняга слоя гарадзішча Тушамля (Шмидт Е. А., 1992. С. 98. Рис. 18:1) - II-IV стст. н. э.

Верхні пласт ніжняга стратыграфічнага слоя гарадзішча Гарадзец добра супадае храналагічна і добра сумяшчаецца з ніжняй датай керамікі з ніжняга пласта сярэдняга стратыграфічнага слоя I —II ст. н. э. Гэта сведчыць пра тое, што паселішча на Гарадцы існавала бесперапынна.

З гэтай ніжняй датай — II ст. н. э. — супадае і датаванне найбольш ранніх індывідуальных знаходак з сярэдняга стратыграфічнага слоя. Так, спружынныя ножніцы, якія былі знойдзены ў ніжняй частцы другога стратыграфічнага слоя (мал. 17:3), маюць агульную даўжыню 230 мм, даўжыню ляза 80 мм. Спружына, якая каля ляза мае квадратнае сячэнне памерам 5х5 мм, паступова пашыраецца і прымае пласцінападобную форму шырынёй 23 мм і таўшчынёй 3 мм. Кола спружыны без пашырэння, роўнае. Па сваёй форме нажніцы з крычаўскага Гарадца маюць бліжэйшыя аналогіі з нажніцамі з паселішча II —V стст. каля в. Абідня, з паселішча I —V стст. каля в. Мыслі Капыльскага раёна і з пахаванняў у курганных могільніках Шурпілы, Швайцарыя і Жывая Вада III — першай паловы IV ст. паўночна-усходняй Польшчы (Очерки.., 1970. С. 177. Рис. 61:5; Zurowski T., 1961. Tabl. XVIII: 10; Antoniewicz J., 1961. Tabl. V:8; Ziemlicska-Odojowa W., 1961. Tabl. XII: 10; Гурин М. Ф., 2000. С. 32. Рис. 10:1).

На гэтым жа ўзроўні знойдзена медная падвеска (мал. 16:4). У яе аснове ляжыць плоскае кольца дыяметрам 26 мм і таўшчынёй 1,5 мм. Па знешнім контуры кольца зроблены псеўдаспіралі, а ў ніжняй частцы кольца побач размешчаны дзве падобныя псеўдаспіралі. Дакладных аналогій гэтай падвескі няма. Даволі блізкія па стыл і падвескі, упрыгожаныя па баках псеўдаспіралямі, вядомыя на днепра-дзвінскіх




Мал. 17. Гарадзішча Гарадзец. Вырабы з чорнага металу: 1 — 2 — сярпы; 3 — нажніцы; 4 —7 — нажы

гарадзішчах Буракова, Баронікі, Новыя Батэкі, Холмец (Шадыро В. И., 1985. С. 69. Рис. 42:1,2; Шмидт Е. А., 1992. С. 173. Табл. 15:9). Сярод дзякаўскіх старажытнасцей найбольш блізкая аналогія па стылі выканання — кольцападобная медная зашпілька з валютападобнымі завіткам! — знойдзена на шчарбінскім гарадзішчы ў пласце, які датуецца III —V стст. н. э. (Дубынин А. Ф., 1974. С. 235, 274. Табл. XX: 10).

На адным стратыграфічным узроўні з меднай падвескай на Гарадцы знойдзена і медная посахападобная шпілька з петлепадобнай верхняй часткай (мал. 16:6).

У сярэдзіне другога стратыграфічнага слоя знойдзены серп-касар (мал. 17:1). Ён мае выгнутую пад прамым вуглом спінку, што потым пераходзіць у больш тупы вугал. Шырыня ляза дасягае 3 см. Падобныя сярпы выкарыстоўваліся не толькі для жніва, але і для ачысткі палёў ад дробных кустарнікаў. Тут жа знойдзена бронзавае браслетападобнае кольца, завязанае ў паўтара абарота (мал. 16:5). Такія кольцы з'яўляюцца ў лясной паласе Усходняй Еўропы ў познерымскі час — II — IV стст. н. э. Згодна з паведамленнямі В. В. Сядова, найбольшая колькасць такіх кольцаў сустракаецца ва Ўсходняй Літве, а сам! кольцы некаторыя даследчыкі спрабуюць разглядаць у якасці лета-літоўскага уплыву (Казанский М. М., 1999. С. 406-407). На помніках тыпу сярэдняга слоя Тушамлі падобныя кольцы вядомыя на паселішчы Каменная Лава, Заазер'е (Лопатин Н. А., Фурасьев А. Г., 1994. С. 136-142. Рис. 2:1; Лопатин Н. А., 1991).

У верхніх трох пластах сярэдняга стратыграфічнага слоя сустракаліся фрагменты (9 экз.) глянцаванага посуду. Акрамя таго, яшчэ тры фрагменты былі знойдзены ў самым ніжнім пласце верхняга стратыграфічнага слоя. Усяго на Гарадцы знойдзена 12 фрагментаў глянцаванага посуду, што складае 0,5% ад агульнай колькасці ляпнога посуду.

Глянцаваны посуд з крычаўскага Гарадца прадстаўлены фрагментамі місак і гаршкоў. Ён выраблены з добра вымешанай гліны, з дамешкам пяску. Паверхня посуду мае чорны альбо жоўты ці карычневы колер. Глянцаванне посуду звычайна добрай якасці, часам даведзена да бляску, двухбаковае. Уся калекцыя знаходак неарнаментавана.

Глянцаваныя міскі падзяляюцца на два тыпы. Першы тып прадстаўлены рабрыстым посудам чорнага колеру, у якога верхняя частка мае форму пашыранага раструба (мал. 21:4 — 6). Дыяметр горла гэтых місак дасягае 18 см. Падобны тып місак добра вядомы на помніках мошчынскай культуры II—V стст.




Мал. 18—19. Гарадзішча Гарадзец. Профілі раскопаў са слядамі падлог пабудоў: А — падлогі пабудовы № 1 і 2; Б — падлогі пабудовы № 6




Мал. 20. Гарадзішча Гарадзец. План размяшчэння пабудоў

У другога тыпу місак адсутнічае рабро, а тулава мае цюльпанападобную форму (мал. 21:3). Дыяметр дасягае 18 см. Глянцаваныя міскі падобнай формы сустракаюцца сярод керамікі Троіцкага гарадзішча (Розенфельдт И. Г., 1971. Рис. 10:10).

Глянцаваныя гаршкі маюць акруглае тулава, высокую вертикальную альбо трошкі адагнутую ў вонкавы бок шыйку і адцягнуты край венца (мал. 21:1, 2). Гаршкі карычневага колеру, глянцаванне бляклае.

Датаваць час з'яўлення глянцаванага посуду на крычаўскім Гарадцы, а таксама і верхнюю дату сярэдняга стратыграфічнага слоя дазваляюць назіранні за распаўсюджваннем падобнага посуду на навакольных тэрыторыях. Акрамя таго, тэта дапамагае зрабіць аналіз іншых датавальных матэрыялаў з Гарадца.

Чорны глянцаваны посуд характэрны для мошчынскай культуры, што з'яўляецца на Верхний Ацэ не раней II ст. н. э. (Массалитина Г. А., 1993. С. 49). Пранікненне мошчынскіх старажытнасцей з вярхоўяў Вугры ва ўсходняе Падняпроўе адзначаў яшчэ Я. А. Шмідт (Шмидт Е. А., 1968. С. 42). Іншыя тыпы керамікі з верхняй часткі сярэдняга стратыграфічнага слоя адносяцца да керамікі сярэдняга слоя гарадзішча Тушамля, верхняя мяжа якога не выходзіць за III —IV стст. Сярод іншых датавальных матэрыялаў з верхніх часткі сярэдняга стратыграфічнага слоя крычаўскага Гарадца трэба адзначыць знаходку дужкі бронзавай фібулы (мал. 16:7). Згодна з тыпалогіяй Я. Л. Гарахоўскага яна адносіцца да серыі «Б» другога варыянта, прадстаўленай фібуламі з каваных і літых 4-гранных брускоў таўшчынёй 4 мм квадратнага сячэння. Храналагічна падобныя фібулы бытавалі ў другой — трэцяй чвэрці IV ст. (330 — 380 гг. н. э.) і зрэдку падымаліся да самага канца IV ст. (350 — 400 гг. н. э.) (Гороховский Е. Л., 1988. С. 35, 44). Такім чынам, датавальныя знаходкі з другога храналагічнага слоя гарадзішча Гарадзец у г. Крычаве не выходзяць за рамкі IV ст. н. э.

Асноўная маса керамічнага матэрыялу з сярэдняга стратыграфічнага слоя мае аналогіі сярод старажытнасцей сярэдняга слоя гарадзішча Тушамля, якія датуюцца II —III стст. н. э. Індывідуальныя знаходкі таксама не выходзяць за межы V ст. н. э., што, верагодна, дазваляе датаваць верхнюю дату сярэдняга стратыграфічнага слоя III —IV стст. н. э.

Сярэдні стратыграфічны слой быў аддзелены ад верхняга магутнай (да 0,2 м) праслой-




Мал. 21. Гарадзішча Гарадзец. Глянцаваны посуд з сярэдняга стратыграфічнага слоя

кай пажарышча. Дадзеныя радыевугляроднага аналізу па С-14, праведзенага ў лабараторыі літагідрагеахіміі Інстытута геалагічных навук НАН Беларуси, вызначылі дату гэтага пажара: 885 год ± 50 гадоў. Гэтая дата нават паспела трапіць у навуковы ўжытак (Мяцельскі А. А., 2000. С. 81), але, як паказаў аналіз археалагічнага матэрыялу, яна выклікае сумніў.

Верхні стратыграфічны слой магутнасцю да 1,2 м мае светла-шэрую афарбоўку, шчыльную кансістэнцыю. Ён даволі аднародны, без якіх-небудзь дамешкаў, у ім сустракаецца як ляпны, так і ганчарны посуд. Падобная карціна звязана з тым, што яшчэ ў XVII — пачатку XX ст. каля Гарадца знаходзілася Успенская царква, а каля яе былі могілкі, якія займалі Гарадзец. Менавіта пахаванні і выклікалі парушэнне верхняга стратыграфічнага слоя. Яшчэ ў канцы XIX ст., калі на Гарадцы праводзілі даследаванні М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі, яны адзначалі, што «по всем направлениям виднеются торчащие человеческие кости в большом количестве» (Фурсов М. В., Чоловский С. Ю., 1892. С. 35).

Аднак акрамя тых тыпаў ляпнога посуду, якія сустракаліся ў першых двух ніжніх стратыграфічных слаях і якія трапілі сюды ў выніку перакопаў, над слоем пажарышча знойдзены фрагменты ляпнога посуду (40 фрагментаў) зусім іншага тыпу.




Мал. 22. Гарадзішча Гарадзец. Кераміка трэцяй чвэрці I тыс. н. э.

Яны маюць цюльпанападобную форму, найбольшае пашырэнне тулава прыпадае на сярэдзіну яго вышыні. Венцы гаршкоу адцягнуты вонкі і завостраны альбо іх край зрэзаны пад прамым вуглом. Асобныя фрагменты маюць банкападобную форму з загнутым унутр венцам (мал. 22:1—3). Уся кераміка зроблена з чырвонай гліны, з дамешкам буйных фрагментаў белага кварцыта. Таўшчыня сценак вагаецца ад 0,4 да 0,8 см. Донцы гаршкоу маюць характэрны выступ для ўстойлівасці (мал. 22:4).

Па сваей прафілёўцы чырвонагліняная ляпная кераміка мае аналогі сярод керамікі верхняга слоя гарадзішчаў Тушамля і Дзямідаўка (Третьяков П. Н., 1963. С. 69. Рис. 29:1, 5, 9; Седов В. В., 1982. С. 77. Табл. X1:1, 8), якія адносяцца да трэцяй чвэрці I тыс. н. э. Наяўнасць керамікі гэтага часу на крычаўскім Гарадцы адзначаў яшчэ Г. В. Штыхаў (Очерки.., 1972. С. 127). Магчыма, да гэтага ж часу адносіцца знойдзенае Л. Д. Побалем глінянае біканічнае праселка (Поболь Л. Д., 1974. С. 234. Рис. 94:4).

Наяўнасць на гарадзішчы Гарадзец матэрыялаў трэцяй чвэрці I тыс. н. э., якія сустракаюцца выключна над слоем пажарышча, дазваляе сцвярджаць аб больш раннім яго датаванні. Верагодна, пажар здарыўся ў V —VI стст.: пасля чаго на гарадзішчы адбылася змена насельніцтва. І хоць жыццё на помніку ў V — VII стст. працягвалася, але яго інтэнсіўнасць у параўнанні з папярэднім перыядам рэзка падае.

Асноўны матэрыял з верхняга стратыграфічнага слоя — фрагменты ганчарнага посуду. Згодна з паведамленнем Г. В. Штыхава на гарадзішчы сустракаецца кераміка, падпраўленая на ганчарным коле (Очерки.., 1972. С. 127). Пад час даследаванняў, праведзеных аўтарам у 1995, 1997 — 2000 гг., было знойдзена толькі 7 фрагментаў посуду, падпраўленага на ганчарным коле (мал. 23). Таксама не было адзначана ніводнага фрагмента раннеганчарнага посуду. Гэта дазваляе выказаць сумненне ў існаванні паселішча ў IX —X стст. на Гарадцы і выказаць меркаванне, што ў апошняй чвэрці I тыс. н. э. гарадзішча Гарадзец было пакінута і жыццё на ім не існавала.

Вялікая колькасць раннеганчарнай керамікі, характэрнай для X — пачатку XI ст., у бліжэйшым наваколлі Гарадца была знойдзена толькі на паселішчы, размешчаным на дзюне ў пойме левага берага Сожа, насупраць гарадскога мікрараёна «Сож», прыкладна ў 1,5 км на паўночны ўсход ад гарадзішча. Тут на рэштках дзюны, пашкоджанай кар'ерам, на плошчы




Мал. 23. Гарадзішча Гарадзец. Кераміка, падпраўленая на ганчарным кругу

прыкладна 120x150 м намі былі зафіксаваны рэшткі культурнага слоя магутнасцю да 0,3 м. У культурным пласце і ў раздувах дзюны сустракаліся фрагменты раннеганчарнай керамікі X —XI стст., у тым ліку і ўпрыгожанай вяровачным штампам, наматаным на палачку (мал. 5:4 — 6). Акрамя таго, знойдзены нож, пацеркі. Паводле звестак мясцовых краязнаўцаў распрацоўка кар'ера вялася прыкладна ў канцы 60-х гадоў XX ст. і тады яны назіралі ў культурным слоі рэшткі заглыбленых у мацярык пабудоў, а магутнасць самага культурнага слоя на паселішчы дасягала 0,4—1 м.

Новы этап у жыцці на Гарадцы, мяркуючы па знаходках, пачаўся недзе на пачатку XII ст. Найбольш раннія знаходкі, якія маюць дачыненне да пачатку II тыс. н. э., — гэта фрагменты ганчарнага посуду, сланцавыя праселкі, фрагменты шкляных бранзалетаў.

Ганчарны посуд з гарадзішча Гарадзец прадстаўлены фрагментамі гаршкоў і місак. Па форме афармлення венцаў (найбольш ўстойлівай рысе) гаршкі падзяляюцца на некалькі відаў. Па мадыфікацыі венца, вышыні шыйкі і форме плечыка вылучаюцца тыпы і варыянты.

Гаршкі **першага віду** маюць простае адагнутае вонкі венца з акруглым альбо зрэзаным краем. Па прафілёўцы яны нагадваюць лацінскую літару «S». У гэтым відзе вылучаюцца наступныя тыпы.

*Першы тып* характарызуецца гаршкамі са слаба выяўленай шыйкай і адагнутым венцам. Варыянт 1 гэтага тыпу мае коса абрэзаны край венца. Кераміка ўпрыгожана лінейным і хвалістым арнаментам. Шырыня ліній арнаменту дасягае 5 мм. Падобныя гаршкі вядомы сярод полацкіх старажытнасцей X —XI стст. Такая кераміка таксама знойдзена ў слаях другой паловы X — пачатку XI ст., у Заслаўі і Навагрудку ў закрытых комплексах X ст. (Штыхов Г. В., 1975. С. 81. Рис. 42:1; Заяц Ю. А., 1993. С. 113. Рис. 33; Малевская М. В., 1965. С. 87. Рис. 34:1). На крычаўскіх паселішчах дакладная аналогія полацкім, заслаўскім і навагрудскім гаршкам вядома на паселішчы ў пойме Сожа.

У адрозненне ад іх ў цесце гаршкоў з Гарадца адсутнічае буйная жарства. У якасці аташчальніка выкарыстоўваўся дробны пясок, самі гаршкі раўнамерна і якасна абпалены. Яны прадстаўлены адзінкавымі экземплярам! і, безумоўна, з'яўляюцца больш познімі і датаваць іх трэба канцом XI — пачаткам XII ст. (мал. 24:1).

Варыянт 2 прадстаўлены фрагментамі гаршкоў, у якіх больш доўгае, чым у гаршкоў варыянта 1, рэзка адагнутае вонкі венца (мал. 24:2; мал. 26:6, 7). Гаршкі раўнамерна і добра абпалены, па шыйцы ўпрыгожаны хвалістым арнаментам. Кераміка падобнай формы была шырока распаўсюджана ў XII —XIII стст.; вядома




Мал. 24. Гарадзішча Гарадзец. Ганчарны посуд

яна ў Ваўкавыску, Смаленску (Зверуго Я. Г., 1975. С. 70. Рис. 22, тип VIII; Каменецкая Е. Е., 1976. С. 44, 54, тип 4).

*Другі тып* керамікі з адагнутым вонкі венцам дадаткова характарызуецца наяўнасцю рэбра ў месцы пераходу тулава ў шыйку. Гаршкі таксама могут быць падзелены на некалькі варыянтаў.

Да варыянта 1 адносяцца гаршкі з развітай шыйкай сярэдняй велічыні і рэзка адагнутым вонкі венцам, якое прыняло амаль гарызантальнае становішча (мал. 25:1).

Варыянт 2 гаршкоў гэтага тыпу мае нахіленае, адагнутае венца, край якога завернуты ўнутр у выглядзе валіка і ўтварае канаўку пад накрыўку. Часам знешні край венца коса зрэзаны (мал. 25:2, 4; мал. 27:4). Падобныя гаршкі сустракаюцца на помніках канца XII —XIII ст. Сярэдняга Падняпроўя. У Верхнім Падняпроўі падобная кераміка вядома на Горскім і Аршанскім гарадзішчах, на гарадзішчы каля в. Вусце Аршанскага раёна, у Мазыры ў пластах XIII —XIV стст. (Виногородьска Л. И., Петрашенко В. О., 1993. С. 50, 57. Ріс. 2:65, ріс. 3, група 4; Левко О. Н., 1992; Трусаў А. А., Здановіч Н. І., 1993. С. 28. Рыс. 13, тып X). Некаторыя з іх маюць скразныя адтуліны ў шыйцы (мал. 27:6).

Далейшым развіццём гэтага варыянта з'яўляюцца гаршкі, у якіх край венца проста адагнуты вонкі (мал. 27:5, 7).



Мал. 25. Гарадзішча Гарадзец. Ганчарны посуд



Мал. 26. Гарадзішча Гарадзец. Ганчарны посуд

Але больш распаўсюджаны **тып** гаршкоў, які не мае рабра ў месцы пераходу тулава ў шыйку (мал. 25:3; мал. 26:1, 8, 15, 16). Падобны варыянт гаршкоў таксама быў шырока распаўсюджаны ў XII —XIII стст. і вядомы як у Смаленску, так і на іншых паселішчах XII — XIII стст. (Каменецкая Е. Е., 1976. С. 42, 54. Рис. 1, тип 1).

Наступным тыпам крычаўскага посуду з Гарадца з'яўляюцца гаршкі з цыліндрычнай альбо амаль цыліндрычнай шыйкай з сярэдневыпуклым плечыкам і патоўшчаным альбо трошкі адцягнутым краем венца. Падобны посуд сустракаецца ў пластах XIII —XIV стст. на тэрыторыі сучаснай Украіны. У Шклове, Мсціславе яны сустракаюцца з другой паловы XIII да XV ст. (Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1985. С. 195-196).

Другой разнавіднасцю гаршкоў гэтага тыпу з'яўляюцца гаршкі з невысокай шыйкай, рэзка адагнутым венцам, край якога выцягнуты ўверх (мал. 25:7). Іх, верагодна, трэба датаваць часам не раней канца XIII ст.

У невялікай колькасці сустракаюцца гаршкі, якія маюць невысокую шыйку, нахіленае венца, край якога адцягнуты ўверх (мал. 26:11 — 13). Падобная кераміка мае аналогі сярод старажытнасцей XIV —XV стст. Віцебска, Шклова, Горскага гарадзішча (Левко О. Н., 1992).

Міскі прадстаўлены толькі трыма фрагментамі посуду, які мае дыяметр горла ад 10 да 12 см і прапорцыі дыяметра горла да вышыні тулава 2:1 (мал. 27:1—3). У месцы пераходу плечыка ў шыйку назіраецца рабро. Крычаўскія міскі маюць аналогі сярод смаленскіх старажытнасцей XII —XIII стст. (Каменецкая Е. Е., 1976. С. 54. Рис. 4). Акрамя місак і гаршкоў знойдзены фрагменты накрыўкі (мал. 26:14).

Вывучэнне працэнтных суадносін ганчарнай керамікі розных тыпаў з гарадзішча Гарадзец паказвае, што кераміка канца XI ст. складае ўсяго каля 5% ад агульнай колькасці ганчарнай керамікі. Большая частка ганчарнай керамікі адносіцца да тыпаў, якія был і характэрныя для XII — мяжы XIII —XIV стст. Таму аналіз керамічнага матэрыялу дазваляе сцвярджаць, што новы этап жыцця на Гарадцы распачаўся на мяжы XI —XII стст. і працягваўся да пачатку XIV ст.

Індывідуальныя знаходкі з верхняга стратыграфічнага слоя прадстаўлены нажамі, шыфернымі праселкамі, шклянымі бранзалетамі, суліцай, стругам для ачысткі бярвенняў ад кары, плоскім чаранковым наканечнікам стралы рамбічнай формы з упорам для дрэўка і перахватам у ніжняй частцы пяра (мал. 28:1—4, 6, 7; мал. 29:1 — 5), ювелірным пінцэтам (Очерки.., 1972. С. 128). Акрамя таго, знойдзены трайны віты пярсцёнак з канцамі, якія заходзяць адзін за адзін (мал. 28:9). У Ноўгарадзе такія пярсцёнкі сустракаюцца паміж 70-мі гадамі XII - 30-мі гадамі XIII ст. (Седова М. В., 1981. С. 125. Рис. 45:13).

Як і керамічны матэрыял, індывідуальныя знаходкі з верхняга стратыграфічнага слоя Гарадца ўкладываюцца ў межы XII — першай паловы XIV ст., і тэта пацвярджае выснову аб тым, што жыццё на паселішчы існавала да сярэдзіны XIV ст.

Асобныя знаходкі позднесярэднявечнага часу на Гарадцы адносяцца да гарадскога могільніка, які існаваў тут у XVII —XVIII стст., і будут разгледжаны пры яго апісанні.

Аналіз археалагічнага матэрыялу з верхняга стратыграфічнага слоя гарадзішча Гарадзец у сукупнасці з археалагічным матэрыялам з яго наваколляў дазваляе асвятліць гісторыю ўзнікнення сярэднявечнага паселішча на тэрыторыі Крычава.

Узнікненне новага паселішча ў X —XI стст. замест даўно асвоенага Гарадца на дзюне ў пойме Сожа, верагодна, тлумачыцца зменай гідрарэжыма Верхняга Падняпроўя, які адбываўся ў канцы I тыс. н. э.

Даследчыкі адзначаюць, што ў VIII —XIII стст. у Еўропе назіраўся цёплы кліматычны оптымум, пад час якога быў сухі перыяд з невялікай колькасцю ападкаў і даволі нізкім ўзроўнем вады ў рэках. Падобная карціна прасочваецца ў розных месцах Еўропы — ад Балтыкі да Каспійскага мора (Климанов В. А., Никифорова Л. Д., 1982. С. 164-167; Климанов В. А., Кофф Т. А., Куннинг Я. М., 1985. С. 95-96; Борисенков Е. П., Пасецкий В. М., 1988. С. 62). Менавіта гэтым, верагодна, можна растлумачыць узнікненне шматлікіх паселішчаў IX — XI стст. на Пасожжы на абалоне Сожа, бліжэй да вады. Улічваючы размяшчэнне вялікага паселішча X —XI стст. на абалоне ракі і тое, што на крычаўскім гарадзішчы Гарадзец сустракаюцца асобныя нешматлікія фрагменты ляпной керамікі, падпраўленай на ганчарным коле, верагодна, ёсць рацыя разглядаць гарадзішча гэтага часу як свяцілішча.

Ускосным пацверджаннем гэтага, хутчэй за ўсё, можа служыць захаванае да канца XIX ст. паданне аб існаваўшым тут капішчы. Акрамя таго, у гэтай сувязі цікавым з'яўляецца той факт, што па сваей фактуры кераміка, падпраўленая на ганчарным коле, з Гарадца і раннеганчарная кераміка з абалоні Сожа адрозніваюцца.

У другой палове XI ст., напэўна, пачынаецца новы пад'ём воднага рэжыму Верхняга Падняпроўя. З гэтага часу адзначаецца заняпад паселішчаў у абалоне Сожа і іх пераход на правы, карэнны, высокі бераг ракі. Недзе ў канцы XI — пачатку XII ст. насельніцтва вяртаецца на старое паселішча на Гарадцы, жыццё на якім працягвалася да пачатку XIV ст.

Нешматлікасць знаходак з верхняга стратыграфічнага слоя і малая захаваная плошча помніка не дазваляюць вызначыць яго сацыяльную тыпалогію ў XII —XIII стст. Верагодна, паселішча на Гарадцы ў тэты час было невялікім пасёлкам. Але ўлічваючы той факт, што яно размяшчалася недалёка ад ўпадзення ў Сож р. Асцёр і фактычна кантралявала шлях па ім, што яно было адным з нешматлікіх умацаваных паселішчаў у сярэднім Пасожжы, паселішча на Гарадцы, відаць, выконвала функцыю адміністрацыйнага цэнтра сельскай акругі, якая тады фарміравалася.

***Абарончыя збудаванні*** гарадзішча Гарадзец складаюцца з абарончага рова глыбінёй 1,5 м і шырынёй 16 м, які з паўночнага боку аддзяляў паселішча ад плато, і аплыўшага вала, што прасочваецца на ўсходняй частцы пляцоўкі гарадзішча. Ён двойчы вывучаўся даследчыкамі. Першы раз прарэзку схілу помніка ў паўднёвай частцы гарадзішча правёў у 1973 г. М. А. Ткачоў. На яго думку, першапачаткова паселішча на рагу не мела абарончых збуда-




Мал. 27. Гарадзішча Гарадзец. Ганчарны посуд

ванняў, пра што сведчыць наяўнасць культурнага слоя пад валам (мал. 30). Праз некаторы час паселішча было ўмацавана невялікім абарончым валам з пяску, суглінку і часткова гумусу (у верхняй частцы) вышынёй каля 1,5 м. На яго вяршыні стаяў сасновы вастракол, які згарэў, а яго рэшткі ўпалі на ўнутраны схіл вала. Шырыня вала каля падэшвы дасягала 5 м.

Другі этап будаўніцтва фартыфікацыйных збудаванняў, на думку М. А. Ткачова, адносіцца да зарубінецкага часу (так М. А. Ткачоў вызначыў этнакультурную прыналежнасць другога стратыграфічнага слоя). У тэты час сістэма абарончых збудаванняў помніка двойчы падмацоўвалася і двойчы гарэлі яе навальныя канструкцыі. Гэта былі сцены з бярвенняў, укладзеныя паміж дзвюмя парамі вертыкальных слупоў. Знешні схіл гарадзішча быў вымашчаны каменнем. Адносна абарончых збудаванняў апошняга этапу жыцця паселішча — X — XIII стст. — М. А. Ткачоў сцвярджае, што яны загінулі ў полымі пажару, сведчаннем чаго з'яўляюцца абпаленыя бярвенні, выяўленыя на вяршыні і знешнім схіле вала (Ткачев М. А., 1974. С. 23-25).

Археалагічнае даследаванне абарончых збудаванняў помніка, праведзенае аўтарам на поўнач ад прарэзкі М. А. Ткачова, выявіла некалькі іншую карціну. На мацерыку — чырвонай шчыльнай гліне, насычанай каменнямі (на месцы раскопаў 1995, 1997 гг., часткова 2000 г.), ляжала тонкая (0,5 см) вугальная праслойка, якая аддзяляла мацярык ад культурнага слоя. Вугальная праслойка, верагодна, мае дачыненне да першапачатковага ачышчэння агнём пляцоўкі будучага паселішча. Існаванне традыцыі ачышчэння агнём пляцоўкі будучага паселішча прасочваецца на гарадзішчах Хлепень на Смаленшчыне і на гарадзішчы Замэчак у Заслаўі (Смирнов К. А., 1977. С. 289; Заяц Ю. А., 1995. С. 15).

У адрозненне ад прарэзкі вала, зробленай М. А. Ткачовым, у траншэі 1997 г. выразна прасочвалася, што першапачатковымі абарончымі збудаваннямі гарадзішча служылі крутыя схілы мыса на беразе рэчкі Крычаўкі і драўляныя ўмацаванні ў выглядзе вастракола, што стаялі па краю пляцоўкі. Ад вастракола на мацерыку захаваўся ланцужок ям дыяметрам 0,2-0,25 м і глыбінёй 0,4-0,7 м (мал. 31).

У некаторых месцах бачныя сляды рамонту ўмацаванняў. Так, у раскопе 2000 г. ланцужок ям ператвараўся ў суцэльную лінію шырынёй да 0,4 м, запоўненую па краях чырвонай глінай і каменнем. У цэнтры гэтай канструкцыі прасочваліся захаваныя ў выглядзе




Мал. 28. Гарадзішча Гарадзец. Індывідуальныя знаходкі з верхняга стратыграфічнага слоя: 1 — суліца; 2 — наканечнік стралы; 3 — спражка; 4 — струг; 5, 9 — пярсцёнкі; 6 — 7 — нажы; 8 — замок




Мал. 29. Гарадзішча Гарадзец. Індывідуальныя знаходкі з верхняга стратыграфічнага слоя: 1,5 — брускі; 2 — 3 — сланцавыя праселкі; 4 — нож; 6 — крыж; 7 — падкоўка пад абцас; 8 — ключ

тлену фрагменты вастракола. Акрамя таго, высветлілася, што першапачатковая пляцоўка гарадзішча была значна меншая за сённяшнюю. Лінія вастракола ішла прыблізна ў 4 — 5 м на захад ад цяперашняга краю схілу гарадзішча. Адразу за лініяй слядоў вастракола адзначаецца рэзкае падзенне мацерыка (на адлегласці 1 м перапад вышынь дасягае 1,2 м), што сведчыць пра тое, што тут праходзіў першапачатковы край пляцоўкі паселішча.

Праз некаторы час на гарадзішчы адбыўся пажар, верагодна, звязаны з ваенным нападам. Ад яго захавалася вугальная праслойка магутнасцю да 5 см, якая хаваецца пад першапачатковым валам. Менавіта пасля гэтага пажару на паселішчы был і пабудаваны штучныя земляныя ўмацаванні.

Улічваючы стратыграфію помніка, будаўніцтва вала прыпадае прыкладна на сярэднюю частку ніжняга стратыграфічнага слоя, якую можна датаваць прыкладна II ст. да н. э. — I ст. н. э.

Паколькі плошча паселішча была невялікай, фартыфікацыйныя збудаванні ўзводзіліся не на самой пляцоўцы, а на яго схілах і такім чынам захоўвалі жылую плошчу паселішча.

Першапачатковы абарончы вал быў насыпаны з глініста-пясчанага суглінку жоўтага колеру, меў вышыню каля 1 м пры шырыне ў падножжа каля 3,5 м. У насыпу вала ніякія датавальныя матэрыялы не былі знойдзены, але сам вал перакрываецца ніжнім стратыграфічным слоем, што дазваляе яго агульна датаваць днепрадзвінскім часам. Па знешнім схіле вал быў пакрыты дзірваном, які не даваў апаўзаць насыпу.

Пра тое, што абарончы вал на паселішчы быў насыпаны пасля таго, як тут пасяліліся людзі, сведчаць і іншыя назіранні. Так, на паўночна-заходнім баку абарончага вала, з яго знешняга боку, была абследавана «скарбашукальніцкая» яма. У яме было выразна відаць, што абарончы вал вышынёй да 5 м абапіраецца на культурны слой магутнасцю 0,6 м.

Новае насельніцтва (стратыграфічны слой 2), якое адносіцца да культуры тыпу сярэдняга слоя Тушамлі, дадаткова ўмацавала фартыфікацыйныя збудаванні паселішча. Абарончы вал быў падняты на 0,7 м. Пры гэтым на вале з унутранага боку была зроблена спецыяльная пляцоўка для абаронцаў шырынёй 2 м. Пад час жыцця на гарадзішчы носьбітаў культуры тыпу сярэдняга слоя Тушамлі фартыфікацыйныя збудаванні Гарадца ўмацоўваліся пяць разоў, пра што сведчаць шматлікія гумусаваныя праслойкі, стратыграфічна звязаныя з сярэднім слоем. Для ўмацавання вала ён з унутранага боку быу выбрукаваны камянямі дыяметрам 0,1 — 0,15 м.

Пасля носьбітаў культуры тыпу сярэдняга слоя Тушамлі гарадзішча засяліла новае насельніцтва, якое дадаткова ўмацавала абарончыя збудаванні паселішча: абарончы вал з глініста-пясчанай супесі быў яшчэ раз падсыпаны на вышыню 1 м.

Рэшткі абарончых збудаванняў больш позняга часу (XI —XIII стст.), у адрозненне ад даследаванняў М. А. Ткачова, не прасочаны. У той жа час нельга выключыць, што па верее абарончых валоў, пабудаваных у эпоху жалезнага веку, у XII —XIII стст. стаялі сцены зрубнай канструкцыі, ад якіх не захавалася ніякіх слядоў. Верагодна, абарончыя сцены складаліся з дзвюх частак: ніжняй апорнай і забаролаў — верхняй баявой пляцоўкі з драўляным брустверам. У той жа час невялікая вышыня вала, адсутнасць у ім драўляных канструкцый, якія б умацоўвалі яго, сведчаць, што апорная частка абарончай сцяны была невысокай.

Фартыфікацыйныя якасці паселішча значна ўзмацнялі стромкія схілы гарадзішча. Абарончыя збудаванні Гарадца XII —XIII стст. з'яўляліся аптымальнымі для існуючай на той час тактыкі авалодання ўмацаваннямі, калі ўмацаваныя паселішчы спрабавалі захапіць асадай

альбо раптоўным нападам і толькі ў апошнюю чаргу штурмам.

Такім чынам, археалагічныя даследаванні паказалі, што паселішча на Гарадцы існавала з III ст. да н. э. да IV ст. н. э. Потым у жыцці на Гарадцы назіраецца перапынак. Новае паселішча ўзнікае на ім у канцы XI ст. і працягвалася да мяжы XIII —XIV стст.

## § 3. Замкавая гара

***Стратыграфія і храналогія культурнага слоя.*** Сённяшняя дзённая паверхня гарадзішча Замкавая гара даволі неаднародная. У паўночна-заходняй частцы помнік мае роўную паверхню. Прыкладна з сярэдзіны пляцоўкі гарадзішча ва ўсходнім накірунку пачынаецца павольнае паніжэнне рэльефу. Паніжэнне, але ў адрозненне ад усходняга накірунку даволі рэзкае, адзначаецца і ў паўднёвай частцы пляцоўкі. Тут, у сярэдзіне Замкавай гары, назіраецца стромкі уступ вышынёй каля 1 м (мал. 32).

У паўночна-заходняй частцы гарадзішча культурныя напластаванні магутнасцю да 2,8 м маюць добрую захаванасць. Як і дзённая паверхня помніка, мацярык у гэтай частцы гарадзішча таксама роўны, без якога-небудзь нахілу. Стратыграфія шурфа № 5 не парушана (мал. 33), таму ён узяты намі ў якасці эталона.

На мацерыку — шчыльным белым пяску залягае слой цёмна-карычневага колеру (мал. 32) магутнасцю да 0,3 м, у якім сустракаюцца фрагменты керамікі, характэрнай для аддзела 2, тып 4, варыянт 1 (канец XII —XIII —XV стст.) (Виногродська Л. I., Петрашенко В. О., 1993. С. 58. Ріс. 3; Заяц Ю. А., 1993. С. 115, отдел 4, тип 3). Акрамя таго, у гэтым слоі знойдзены фрагменты ранняй керамікі аддзела 1, тып 1, якія датуюцца канцом XII —XIII ст. (Штыхов Г. В., 1975. С. 54. Рис. 42:32). Частай знаходкай тут з'яўляецца кераміка аддзела 2, тып 4, варыянт 2, якая была шырока распаўсюджана ў другой палове XIII —XIV ст. (Виногродская Л. И., 1990. С. 97. Рис. 1:1, 2). У XIV ст. упершыню з'яўляецца кераміка з патоўшчаным венцам у выглядзе казырка; яна таксама сустракаецца тут (тып 1-4-1). У верхняй частцы гэтага слоя знойдзены фрагменты двух шкляных бранзалетаў. Улічваючы ўвесь комплекс матэрыялаў, можна меркаваць, што гэты ніжні слой цёмна-карычневага колеру адклаўся ў канцы XII — першай палове XIV ст.

Слой цёмна-карычневага колеру быў перакрыты тонкай (да 3 см) праслойкай пажарышча, вышэй яе сустракаецца кераміка XIV —XV стст. Гэта, на наш погляд, дазваляе датаваць пажарышча пачаткам — сярэдзінай XIV ст. У Мсціславе, які знаходзіцца недалёка ад Крычава, у тэты час былі два буйныя пажары. Першы з іх датуецца часам паміж 1297 і 1307 гг., а другі звязаны з паходам Альгерда 1358 г. на Пасожжа, пад час якога быў захоплены Мсціслаў. Нельга выключаць, што і ў нашым выпадку пажар у Крычаве адлюстроўвае якія-небудзь падзеі, што адбываліся на Пасожжы ў гэтыя гады.




Мал. 30. Гарадзішча Гарадзец. Прарэзка вала паводле М. А. Ткачова




Мал. 31. Гарадзішча Гарадзец. Прарэзка вала паводле А. А. Мяцельскага

Над пажарышчам працягваецца слой цёмна-карычневага колеру таўшчынёй 10—15 см. У ім сустракаюцца фрагменты гаршкоў, якія маюць трохкутны ў разрэзе венчык і невысокую шыйку. Кераміка, як правіла, чырвонагліняная. Падобная кераміка добра вядома ў слаях XIV — пачатку XVI ст. (Здановіч Н. І., Краўцевіч А. К., Трусаў А. А., 1994. С. 42. Мал. 34, група 1, тып 1-В; Ганецкая І., Здановіч Н., 1996. С. 113, тып 4).

На гэтым стратыграфічным узроўні пачынае сустракацца кераміка тыпу 2-3-1, 2-3-1 А, працягваюць сустракацца гаршкі тыпу 1-2-1, 2-2-4. Ніякіх датавальных знаходак у гэтым слоі не адшукана. Верагодна, на падставе керамікі яго можна датаваць другой паловай XIV —XV ст.

Затым культурны слой цёмна-карычневага колеру перакрывае праслойка белага пяску таўшчынёй да 10 см без якіх-небудзь знаходак.

Над ею залягае культурны слой чорнага колеру, у якім таксама трапляецца кераміка тыпу 1-2-1, 2-2-4, 2-3-1. Фрагменты гаршкоў маюць трохкутны ў разрэзе венчык і невысокую шыйку. На донцах керамікі з гэтага слоя апошні раз сустракаюцца клеймы, што дазваляе датаваць кераміку не пазней XV ст. Індывідуальных знаходак у гэтым слоі не знойдзена і таму ён датуецца выключна на падставе керамікі XV — пачаткам XVI ст.

Культурны слой чорнага колеру перакрывае слой пажару магутнасцю да 5 см. Улічваючы, што верхняя дата знойдзеных матэрыялаў выводзіць нас на першую палову XVI ст., ёсць сэнс ідэнтыфікаваць гэтае пажарышча з пагромам Крычава маскоўскімі войскамі ў студзені 1535 г.

Слой пажару перакрыты пластом абпаленай чырвонай гліны таўшчынёй 5 см. Пласт гліны перакрывае праслойка культурнага слоя магутнасцю 5 — 20 см чорнага колеру, у якой сустракаецца кераміка тыпу 1-1-4 і 2-4-2. Значная частка керамікі была паўторна абпаленая — пабывала ў моцным агні. Тэты слой чорнага колеру ізноў перакрывала праслойка пажарышча магутнасцю да 7 см, які, верагодна, трэба ідэнтыфікаваць з летнім паходам маскоўскіх войскаў 1564 г. на землі ВКЛ, калі яны «...воевали Мстиславские места и Кричевские и Радомльские и Могилевские ...» (ПСРЛ, 1965. С. 385).

Як і ў папярэднім выпадку, слой пажарышча быў перакрыты глінянай праслойкай магутнасцю 5—10 см. Над глінай ляжала супясчаная праслойка культурнага слоя магутнасцю да 15 — 18 см з вялікай колькасцю дробных камянёў, якая ўяўляе сабою амаль жвір. Знойдзеная ў гэтым пласце кераміка таксама паўторна абпаленая. Яна адносіцца да тыпаў 1-1-4а і 1-3-2а.

Слой жвіра ізноў перакрываў пласт яшчэ аднаго пажарышча магутнасцю да 15 см. У слоі цёмна-шэрага колеру, які перакрываў гэтае пажарышча (з буйнымі лінзамі пяску), яшчэ сустракаюцца фрагменты гаршковай кафлі з квадрыфольным вусцем і дыяметрам донца да 9 см, кераміка тыпу 1-1-4а і 1-3-2а, б, в, г, таўстасценныя (да 1 см) макотры. Улічваючы, што чарговы моцны пагром Крычава маскоў-



Мал. 32. Гарадзішча Замкавая гара. План размяшчэння раскопаў

скімі войскамі адносіцца да 1633 г., можна меркаваць, што перад намі сляды менавіта гэтай падзеі, а слой, які перакрывае пажарышча, датуецца другой чвэрцю XVII ст.

Культурны слой цёмна-шэрага колеру перакрывала праслойка чырвонай гліны магутнасцю 3 — 5 см, над якой ішоў культурны слой цёмна-карычневага колеру магутнасцю да 45 см. У яго ніжнім запаўненні сустракаюцца асобныя фрагменты міскападобнай кафлі. Адначасова тут пачынае упершыню сустракацца румпа ад каробкавай кафлі. Кераміка ніжняга запаўнення адносіцца да тыпаў гаршкоў 1-1-46, 1-3-16, 1-3-2д, 1-3-3в. Упершыню пачынае сустракацца кераміка тыпу 1-1-2, акрамя таго, тут упершыню сустракаецца кераміка, пакрытая цёмна-зялёнай палівай. У сваёй ніжняй частцы тэты слой рассечаны тонкай (1 — 2 см) праслойкай пажарышча.

У верхнім запаўненні аднaчасова з асобнымі экземплярамі міскападобнай кафлі і гаршкападобнай кафлі з квадрыфольным вусцем панавальнае становішча займае каробкавая як тэракотавая, так і зялёнапаліваная кафля. Кераміка галоўным чынам прадстаўлена гаршкамі тыпу 1-1-1, 1-1-2, 1-1-4е.

Слой цёмна-карычневага колеру перакрывала чарговая праслойка пажарышча магутнасцю 5 — 7 см. Улічваючы стратыграфічнае размяшчэнне гэтага пажару і знаходкі са слоя, які яго перакрывае, сляды вогненнай стыхіі, верагодна, трэба адносіць да штурмаў Крычава маскоўскімі войскамі ў жніўні-верасні 1654 г. альбо да пажару, што адбыўся ў крычаўскім замку летам 1655 г.

Пажарышча сярэдзіны XVII ст. перакрыта магутнай глінянай падушкай (30 — 35 см) з дробнымі фрагментамі цэглы-пальчаткі, каробкавай зялёнапаліванай і тэракотавай кафлі, гарэлага дрэва. Паверх гэтай глінянай падушкі ідзе культурны слой светла-карычневага колеру магутнасцю 60 см, у якім сустракаецца у асноўным кераміка тыпу 1-1-2, 1-1-4е, соліды Яна Казіміра, манеты Расіі другой паловы XVII — першай паловы XVIII ст.

Такім чынам, стратыграфія шурфа № 5 даволі дакладна адлюстроўвае гісторыю горада і ў пэўным сэнсе яна з'яўляецца эталоннай для Крычава.

Блізкая стратыграфічная карціна назіралася і ў паўднёвай частцы раскопу 6, а таксама у раскопах 1 (мал. 34) і 2, размешчаных у паўднёвай частцы гарадзішча. Паўночная частка раскопу 6 мела іншую стратыграфію, што выклікана перапланіроўкамі гарадзішча.

У паўднёвай частцы раскопу 6 магутнасць культурнага слоя вагаецца ад 1,7 да 2,15 м. У сваю чаргу ён членіцца на тры вялікія стратыграфічныя гарызонты. Найбольш ранні гарызонт — слой светла-карычневага колеру, магутнасцю да 0,4 м, у якім сустракалася кераміка, характэрная для канца XIII —XIV ст. Зрэдку тут сустракаліся шкляныя бранзалеты, асобныя фрагменты керамікі XII —XIII стст. Прычым найбольш раннія матэрыялы былі знойдзены пераважна ў паўднёва-ўсходняй частцы раскопу, ў калодзежнай яме.

Над слоем светла-карычневага колеру ў асобных месцах раскопаў ляжала праслойка вапны ад 0,1 да 1 м, у якой не было ніякіх знаходак. Яе перакрываў сухі, рыхлы слой шэравата-бурага колеру магутнасцю 0,4— 1 м, над якім ляжаў торфападобны слой магутнасцю ад 0,4 да 0,6 м. Абодва гэтыя слаі датуюцца на падставе знаходак XIV—XVI стст.: гаршкападобная кафля з квадрыфольным вусцем, кераміка XIV — пачатку XVI ст. Тут жа быў знойдзены крыж-энкалпіён, які па сваіх стылістычных асаблівасцях датуецца XV ст. Тэты слой уключаў сляды двух буйных пажарышчаў. На падставе знойдзенай у іх керамікі яны датуюцца XVI ст. (1535, 1564 гг.).

Верхні стратыграфічны слой магутнасцю 1—1,3 м шэравата-карычневага колеру, насычаны шматлікімі праслойкамі пажарышчаў, лінзамі гліны, пяску. У ім сустракаліся фрагменты керамікі XVII —XVIII стст., каробчатай паліванай і тэракотавай кафлі, манеты Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі XVII —XVIII стст.






Мал. 33. Гарадзішча Замкавая гара. Развёрстка профіля сцен шурфа № 5

Стратыграфія ў раскопах і шурфах, размешчаных у цэнтральнай і паўночна-ўсходняй частцы гарадзішча, паказвае некалькі іншую карціну.

Пачынаючы прыкладна ад цэнтра пляцоўкі замка, ва ўсходнім накірунку, там, дзе назіраецца паніжэнне рэльефу пляцоўкі, культурныя напластаванні маюць невялікую магутнасць — да 1,2 м. Тут залягае культурны слой цёмна-шэрага колеру, з невялікімі, але даволі шматлікімі лінзамі пяску, гліны, пажарышчаў. На мацерыку і ў шматлікіх бессістэмных мацерыковых ямах рознага памеру сустракаюцца асобныя матэрыялы X —XIII стст.: зялёны рублены бісер X —XI стст. (Колчин Б. А., 1982. С. 167), шыракарогая луніца з псеўдарыфлёным арнаментам (мал. 49:2). Акрамя гэтых асобных знаходак да X —XI стст. адносяцца тры фрагменты раннеганчарнага посуду.

На мацерыку і ў мацерыковых ямах знойдзены фрагменты шкляных бранзалетаў, шыферныя праселкі, ключы ад замкоў тыпу «В-І» другой паловы XII — пачатку XV ст. (Колчин Б. А., 1982. С. 162), хоць асноўная масса знаходак адносіцца да XV—XVII стст. Падобная карціна назіралася ў раскопах 3—5, якія ішлі амаль па адной лініі ад цэнтра гарадзішча да яго ўсходняга краю. Супастаўленне стратыграфіі раскопаў l, 2 і 6, размешчаных у паўднёвай і паўднёва-ўсходняй частцы помніка, са стратыграфіяй раскопаў 3 і 4 у цэнтры гарадзішча сведчыць аб наяўнасці ў старажытнасці павольнага паніжэння мацерыка ў паўднёва-ўсходнім накірунку — у бок р. Сож. Узровень дзённай паверхні ў раскопах 3, 4, 6 прыкладна аднолькавы. У раскопах 1 і 2 дзённая паверхня размешчана крыху вышэй. Магутнасць культурнага слоя вагаецца ад 2,8 м у шурфе № 5 у пауночна-заходняй частцы гарадзішча да 1 — 1,2 м у раскопах 3, 4 і ў паўночнай частцы раскопу 6 і да 2,8 — 3,5 м у паўднёвай частцы раскопаў 1, 2 і 6. Улічваючы, што ўзровень дзённай паверхні ў паўднёвай частцы раскопаў 1 , 2 і 6 размешчаны прыкладна на 1 — 1,5 м ніжэй за дзірван на шурфе № 5, а магутнасць культурных адкладанняў прыкладна аднолькавая, можна меркаваць, што перапад вышынь на першапачатковым дзядзінцу быў невялікім. Ён не пе-

равышаў 1,5 — 2 м вышыні на 70 — 80 м у даўжыню. Пляцоўка гарадзішча першапачаткова мела нахіл у паўночным і ўсходніх накірунках, але ён паступова выраўніваўся.

Назіранні за тыпалогіяй масавага матэрыялу з гарадзішча Замкавая гара — керамікі — паказвае, што акрамя асобных фрагментаў ранneганчарнай керамікі X —XI стст. іншыя раннія тыпы керамікі прадстаўлены гаршкамі з невысокай шыйкай, нахіленым адагнутым венцам, край якога завернуты ўнутр у выглядзе валіка і ўтварае канаўку пад накрыўку (мал. 26:15, 16). Падобная кераміка сустракаецца на помніках XII —XIII стст. Але яна нешматлікая.

У большай колькасці ў ніжніх слаях сустракаюцца гаршкі з цыліндрычнай альбо амаль цыліндрычнай шыйкай з сярэдневыпуклым плечыкам і патоўшчаным альбо трошкі адцягнутым краем венчыка. Падобны посуд знойдзены ў слаях XIII —XIV стст. на тэрыторыі сучаснай Украіны. У Шклове, Мсціславе яны сустракаюцца з другой паловы XIII да XV ст. (Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1985. С. 195-196; Левко О. Н., 1992).

Таму, улічваючы знаходкі на Замкавай гары асобных матэрыялаў X —XI стст., можна выказаць меркаванне, што нейкае невялікае паселішча (плошчай 0,5 га) на месцы будучага гарадзішча Замкавая гара існавала ўжо ў гэты час. Але пачатак больш актыўнага жыцця на тэрыторыі Замкавай гары адносіцца да другой паловы XII —XIII ст.

## § 4. Селішчы, гарадскія пасады

У адрозненне ад умацаваных паселішчаў селішчы і гарадскія пасады не мелі штучных абарончых збудаванняў — валоў і равоў, якія б абмяжоўвалі іх тэрыторыю, таму ў іх была большая прастора для свайго тэрытарыяльнага развіцця. Археалагічнае даследаванне тэрыторыі Крычава дазваляе вызначыць памеры селішчаў і гарадскіх пасадаў на розных этапах яго развіцця.




Мал. 34. Гарадзішча Замкавая гара. Профілі раскопу 1976 г. паводле М. А. Ткачова: 1 — паўночная сцяна; 2 — заходняя сцяна; 3 — усходняя сцяна; 4 — паўднёвая сцяна

На поўнач ад гарадзішча Гарадзец, за яго абарончым ровам, размешчана селішча, на месцы якога зараз знаходзяцца сядзібы і агароды гараджан. Культурны слой селішча магутнасцю ад 0,2 да 0,7 м мае аднародную кансістэнцыю, чорны колер. У ім зрэдку трапляюцца шыферныя праселкі, фрагменты шкляных бранзалетаў, кераміка, характэрная для Х —XIII стст. Але асноўная маса керамікі, знойдзенай у шурфах, адносіцца да XVII —XVIII стст. Матэрыялы Х —XIII стст. сустракаюцца ў шурфах, размешчаных паміж вуліцамі імя Каінава і Камсамольскай, на плошчы прыкладна 50—100х70 м, што адпавядае паселішчу плошчай каля 0,5 — 0,7 га. Улічваючы, што асноўная колькасць знаходак з селішча датуецца часам пазней за Х —XIII стст., можна сцвярджаць, што інтэнсіўнасць жыцця на прылеглым да гарадзішча селішчы не была вялікай, і паселішча на Гарадцы толькі пачынала выходзіць за межы ўмацаванняў.

Межы гарадскіх пасадаў XIII —XVIII стст. супадаюць з тэрыторыяй распаўсюджвання культурнага слоя у гістарычнай частцы горада. Шурфоўка пасадаў, праведзеная М. А. Ткачовым (1975 г.) і аўтарам (1988, 1995, 2000 гг.), паказала, што культурны слой на пасадах мае магутнасць ад 0,2 да 1,3 м. На многіх участках ён у значнай частцы пашкоджаны перакопамі.

На падставе абагульнення дадзеных шурфовак культурнага слоя і назіранняў за земляным! працамі намі складзены план распаўсюджвання культурнага слоя на тэрыторыі пасадаў, а на падставе знойдзенага ў ім керамічнага матэрыялу распрацавана храналогія засялення асобных раёнаў горада, пра што гаворка будзе ісці ніжэй.

*Раздзел* 2

# ПЛАНІРОЎКА І ЗАБУДОВА КРЫЧАВА

## § 1. Фартыфікацыйныя збудаванні

Кожны сярэднявечны горад пачынаўся з умацаванняў. Гарады адрозніваліся сваімі памерамі, станам развіцця рамёстваў, колькасцю жыхароў, але ўсе яны мелі адну агульную рысу — кожны з іх меў умацаванні. Толькі пасля з'яўлення на паселішчы фартыфікацыйных збудаванняў яно пачынала выконваць адну з галоўнейшых функцый сярэднявечнага горада — абарончага цэнтра акругі.

Абарончы вал Замкавай гары ў Крычаве, як ужо адзначалася, апярэжвае яе з заходняга, паўночнага і паўднёвага бакоў. Прарэзка вала, зробленая ў 1974 г. М. А. Ткачовым з заходняга боку гарадзішча, паказала, што першапачатковы абарончы вал Замкавай тары быў насыпаны з жоўтай гліны, меў вышыню 1,5 м, шырыню падэшвы каля 8,5 м і круцізну знешняга схілу 40 — 45%. 3 унутранага боку вал меў ступенчаты профіль (мал. 35). На падставе керамікі, знойдзенай у ядры вала, М. А. Ткачоў датаваў час яго будаўніцтва XII ст.

Пад час прарэзкі ў ядры вала не былі зафіксаваныя ніякія драўляныя канструкцыі. У той жа час у раскопе 7, які дамыкаў да прарэзкі вала, але быў разбіты з такой ўмовай, што прарэзваў толькі першапачатковы вал, у профілі вала былі прасочаны рэшткі драўляных канструкцый, заглыбленых у вяршыню першапачатковага вала на 0,6 м (мал. 36). На жаль, іх канструкцыйныя асаблівасці не удалося прасачыць — не было магчымасці пашырыць раскоп, а ад прасочаных канструкцый захавалася толькі вугальная праслойка.

Шырыня збудавання, мяркуючы па памерах вугальнай праслойкі, дасягала 3,8 м. На верее вала, безумоўна, былі драўляныя сцены. Улічваючы, што плоская пляцоўка на верее вала дасягала амаль 3 м у шырыню, можна меркаваць, што там стаял і сцены зрубнай канструкцыі. Самі сцены, магчыма, складаліся з дзвюх частак: ніжняй — апорнай, якая, верагодна, складалася з чатырохсценных зрубаўклецяў, і верхняй — паўадкрытай баявой пляцоўкі з брустверам, крытым дахам, якія ў летапісах называюцца забароламі і шырока вядомыя на археалагічных помніках XII — XIII стст. (Рыбаков Б. А., 1982. С. 387; Даркевич В. П., Борисевич Г. В., 1995. Рис. 62; Заяц Ю. А., 1996. Рис. 24, 26). 3 мэтай спынення апаўзання вала яго знешні схіл быў абкладзены дзірваном, пра што сведчыць гумусаваная паверхня схілу.

Будаўніцтва першых фартыфікацыйных збудаванняў на Замкавай тары адбылося даволі хутка пасля пачатку жыцця на беразе Сожа. Пра тэта сведчыць слабагумусаваны культурны слой магутнасцю да 0,3 м, знойдзены




Мал. 35. Гарадзішча Замкавая тара. Прарэзка вала паводле М. А. Ткачова: 1 — дзірван; 2 — слой з матэрыяламі XII —XIII стст.; 3 — праслойкі культурнага слоя; 4 — пясок; 5 — бярвенні; 6 — гліна

пад валам. Пад час даследавання М. А. Ткачовым у гэтым слоі былі знойдзены толькі сценкі ганчарнага посуду, пакрытага частымі гарызантальнымі лініямі. М. А. Ткачоў адзначаў, што такі арнамент характэрны для X —XI стст., і, верагодна, менавіта гэта ў значнай ступені паслужыла для яго падставай датаваць час узвядзення вала на Замкавай тары XII ст.

Пад час нашага даследавання пад насыпам першапачатковага вала намі таксама была знойдзена ганчарная кераміка, упрыгожаная па тулаве частымі гарызантальнымі лініямі шырынёй да 0,5 см. Зроблена яна з добра перамешанай гліны без дабаўлення дробнай жарствы ці буйнога пяску, як тэта назіралася ў раннеганчарнай кераміцы X —XI стст. з паселішча ў пойме Сожа. Акрамя гэтага кераміка з Замкавай гары значна адрозніваецца ад раннеганчарнай керамікі з паселішча ў пойме Сожа і па профілю. Гаршкі з гарадзішча маюць невысокую шыйку і адцягнутае ў вонкавы бок венца, край якога завернуты ўнутр і такім чынам утварае канаўку пад накрыўку — аддзел 2, тып 1, варыянт 2 (мал. 50). Падобная кераміка даволі шырока вядомая на помніках XII — сярэдзіны XIII ст. Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя.

Улічваючы, што на Замкавай тары кераміка падобнага тыпу нешматлікая, а астатнія тыпы найбольш ранняй керамікі з гэтага паселішча вядуць нас у XIII ст., верагодна, ёсць рацыя аднесці час узвядзення фартыфікацыйных збудаванняў да канца XII — пачатку XIII ст.



Мал. 36. Гарадзішча Замкавая гара. Профіль сцяны ў раскопе 7 з рэшткамі збудаванняў

Першапачатковыя абарончыя збудаванні Крычава загінулі ў агні. Сведчанне таму — іх абгарэлыя рэшткі. Мяркуючы па кераміцы з першага насыпу ядра вала, дата заканчэння яго функцыяніравання, на думку М. А. Ткачова, не выходзіла за пачатак XIII ст.

Пасля пажару першапачатковы вал быў падняты на вышыню да 3,2 м і меў шырыню каля падэшвы прыблізна 12 м. Дзеля захавання памераў пляцоўкі гарадзішча вал пашыраўся ў бок берагавога плато. Гэтую рэканструкцыю М. А. Ткачоў датаваў XIII ст. — у падсыпцы ім была знойдзена кераміка, характэрная для гэтага часу. Новы вал быў насыпаны з буйназярністага пяску, а зверху ўмацаваны глінянай праслойкай магутнасцю да 0,3 м, якая, у сваю чаргу, была абкладзена дзірваном. Як і папярэдні, гэты вал з унутранага боку меў ступенчаты профіль, прычым шырыня ступенькі па памерах засталася амаль роўнай папярэдняй. Са знешняга боку вала была зроблена берма шырынёй 1 м.

Абарончыя збудаванні гэтага перыяду таксама згарэлі ў агні і іх канструцыйныя асаблівасці прасачыць не ўдалося. Толькі на ўнутраным схіле вала і на краі верхняй пляцоўкі са знешняга боку захаваліся рэшткі згарэлых бярвенняў, што ляжалі ўздоўж яго трасы адно над адным. Верагодна, тэта альбо рэшткі бярвенняў накатаў рашотчатай канструкцыі, альбо астанцы зрубаў.

У XIV ст. вал ізноў быў павялічаны. Ён быў падсыпаны пяском да вышыні 4,3 м. Што ўяўлялі з сябе наземныя фартыфікацыйныя збудаванні Крычаўскага замка таго часу, цяжка сказаць, бо рэшткі іх прасачыць не ўдалося.

У XV —XVI стст. абарончыя збудаванні Крычаўскага замка рэканструяваліся двойчы. Першы раз вал з гліны і пяску быў павелічаны да вышыні 5 м, а потым адбылося яшчэ адно павялічэнне яго памераў да вышыні 6 м (мал. 35). На гэты раз вал дасыпаўся з пяску і абодва разы ён са знешняга боку быў абкладзены дзірваном. Дакладных звестак пра гэтыя наземныя абарончыя збудаванні не захавалася, але трэба ўлічваць, што з XVI ст. на ўсходнеславянскіх землях стала распаўсюджанай з'явай забіваць абарончыя сцены крэпасцей зямлёй. Магчыма, менавіта да гэтага часу адносяцца звесткі А. Мейера, што калісьці, «до Радзивиллов» — да 70-х гадоў XVII ст., сцены замка былі запоўнены «дзікім» каменнем (Мейер А., 1901. С. 91).



Мал. 37. Гарадзішча Замкавая гара. Схема размяшчэння вежаў Крычаўскага замка

У XVII —XVIII стст. вал сярэднявечнага Крычава тройчы падсыпаўся, пры гэтым ён дасягнуў у вышыню 7 м і шырыню 15 м каля падэшвы. Трэба адзначыць, што найбольш магутны вал быў насыпаны з напольнага, найбольш небяспечнага, боку. Па меры набліжэння вала да Сожа яго памеры памяншаліся, а ўздоўж Сожа вал вонкава не прасочваецца. Археалагічныя даследаванні, праведзеныя на схіле Замкавай тары з боку Сожа, паказалі адсутнасць тут якіх-небудзь штучных земляных умацаванняў. Верагодна, надзейнай абаронай замка з усходу служылі яго стромкія схілы і рака.

Нарэшце, у другой палове XVII ст. з'яўляюцца пісьмовыя крыніцы, якія даюць магчымасць асвятліць стан і сістэму абарончых збудаванняў познесярэднявечнага Крычава.

Адпаведна інвентарным апісанням Крычаўскага замка 1673, 1679, 1682 гг. ён быў умацаваны парканам, накрытым драніцамі. Канструкцыйна паркан уяўляў сабою сцены з гарызантальных бярвенняў, канцы якіх заганяліся ў вертыкальныя стаякі. У бярвеннях праразаліся вокны-байніцы, з якіх вялі агонь па аблožнікам. З горада ў замак вёў высокі мост на ізбіцах. Перад уязной вежай-брамай ён меў пад'ёмнае звяно на жалезных ланцугах. Інвентары 1679 і 1682 гг. сведчаць, што частка паркана была новай, а другая палова патрабавала рамонту (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1923, арк. 3; адз. зах. 1925, арк. 1; адз. зах. 1926, арк. 3).

Інвентар горада 1694 г. паведамляе, што замак меў 5 вежаў — вежу над брамай і 4 іншыя, якія ішлі па перыметры гары. Уязная вежа-брама была двухпавярховай, мела падвоеныя дубовыя вароты на «бегунах» — драўлянай восі, з зашчэпкамі, прабоямі і замком «прывесістым». Унізе ў браме стаяла «шмыгаўніца», 2 бронзавыя палявыя гарматы. На другім паверсе мелася пашкоджаная гармата, 6 мушкетаў і 6 бердышаў. Уваход на другі паверх быў зроблены з боку замкавага двара — «усхода с ганком, накрытым драніцамі».

Улічваючы інвентарнае апісанне замка 1694 г. і сітуацыйны план Замкавай тары Крычава, можна прыблізна лакалізаваць месцазнаходжанне замкавых вежаў (мал. 37).

Замкавая вежа-брама знаходзілася прыблізна на тым месцы, дзе і зараз знаходзіцца ўваход на Замкавую гару. Пра гэта сведчыць той факт, што толькі тут прасочваецца разрыў у абарончым вале. Злева ад брамы ў бок Сожа ішлі сцены з «вывадамі» — бастыёнамі, за якімі наглядалі гараджане. Інвентар горада 1694 г. адзначае, што «кватэра меская новая... драніцамі пакрыта, а трэба, штобы была глінаю абмуравана аж да бакшты Рогавай к Сожу». Ад сучаснага ўваходу на гарадзішча да кута, на якім стаяла Рагавая вежа, прыблізна 35 — 40 м. Гэты кавалак замка, верагодна, і абаранялі мяшчане Крычава — тут знаходзілася «кватэра меская».

Далей уздоўж Сожа знаходзіліся два адрэзкі «кватэры волостной», якая ўключала ў сябе сцены і 2 вежы — Сярэднюю і яшчэ адну Рагавую. Першая была зроблена ў 2 бярвенні і мела дах з драніц. У другой размяшчаўся «патаемнік», адкуль вёў ход да Сожа. Сцены і вежы замка з боку Сожа былі ў добрым стане, але патаемнік быў разбураны і патрабаваў рамонту. Гэты кавалак абароны даглядалі валасці Палявая і Зарэцкая, што зафіксавана ў інвентарах горада і валасці яшчэ ў першай палове XVIII ст.

Як ужо адзначалася, уздоўж Сожа на гарадзішчы абарончыя валы не прасочваюцца. Верагодна, на канцавых кропках захаваных валоў, якія сапраўды размешчаны на кутавых кропках замка, і трэба лакалізоўваць Рагавыя вежы. А паміж імі стаяла Сярэдняя вежа. Улічваючы, што прыблізная адлегласць паміж дзвюма Рагавымі вежамі дасягае 70 — 80 м, можна меркаваць, што Палявая і Зарэцкая валасці даглядалі прыкладна каля 35 — 40 м абароны замкавых сцен, што адпавядае памерам абароны замка мяшчанамі.

Ад Рагавой вежы з патаемнікам да трэцяй Рагавой вежы ішла «кватэра валасці Кашанс-

кай», якая ў тэты час «внівеч зруйнавалася», хоць кутняя вежа з боку горада, рубленая ў 2 бярвенні, была цэлая, крытая драніцамі. Месцазнаходжанне трэцяй Рагавой вежы, на наш погляд, трэба шукаць у тым месцы на замкавым вале, дзе і сёння мы бачым даволі рэзкае яго пашырэнне і дзе пачынаюць супрацьстаяць адзін аднаму Замкавая гара і плато, на якім размяшчаліся гарадскія пасады. Кавалак абароны Кашанскай воласці цягнуўся прыкладна на 40 — 45 м.

Ад трэцяй Рагавой вежы і да брамы-вежы ішла «кватэра шляхецкая», якая абараняла замак з самага небяспечнага боку. Яна была ў дрэнным стане, «пагніла», а «насупраць самога места ужо паруйнавалася». Інвентар адзначае, што шляхцічы разбуранае будаваць не жадаюць, а з прычыны гэтага і астатнія ўмацаванні «за нішто застаюцца» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 1 — 2). Крычаўская шляхта таксама была павінна абараняць прыблізна 40 — 45 м сцен замка. Такім чынам, можна меркаваць, што тэрыторыя замка была пароўну падзелена паміж шляхцічамі, мяшчанамі і сялянамі крычаўскіх валасцей і ім выпадала даглядаць і абараняць прыкладна па 40 — 45 м сцен замка.

З 1694 па 1709 г. у інвентарах Крычава назіраецца перапынак, што тлумачыцца падзеямі Паўночнай вайны і спусташэннем горада. Інвентары 1709, 1720, 1723, 1727 гг. паказваюць спустошаны, разрабаваны горад, у якім пустых дамоў болей, чым жылых. У занядбалым стане быў і замак: «башты і ізбіцы напалову разбураны» — 1709 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1929, арк. 3); «брама старая, з падворка глінай аблеплена» — 1720 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 3).

Але ўжо ў інвентары 1723 г. у замку адзначаецца «брама новабудаваная, на адным баку якой размешчана кардэгардыя з печчу і комінам, а на другім баку турма». Жылыя памяшканні размяшчаліся на другім паверсе. Праўда, у гэтым жа інвентары згадваецца і вежа, што стаяла на вале і была без догляду — «ападла і пагніла на ніц не згодна» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1933/2, арк. 1 — 2). У 1727 г. адзначаецца «на валу бакшта старая, якая нахілілася, абвальваецца і развальваецца, ...ізбіцы, інакш абламы — на валу ад месца стаячыя, старыя і цалкам зруйнаваныя і ад зямлі рэстаўрацыі патрабуюць» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 15).

Даволі дрэнны стан замка вымусіў Радзівілаў даць інструкцыю адміністратару Крычаўскага староства «замак Крычаўскі, паколькі ён абсыпаецца,... із расходов прызначаных... нанава зрабіць, прычым не са скарба панскага, а прыгонам» — сіламі мяшчан і жыхароў воласці.

Верагодна, распараджэнні камісара былі выкананы. Ва ўсялякім выпадку пад час Крычаўскага паўстання 1744 г. паўстанцы не змаглі ўзяць штурмам замак, адкуль вёўся па ім агонь з гармат і іншай агнястрэльнай зброі. Пасля гэтых падзей замкавыя ўмацаванні былі яшчэ болей ўзмоцнены.

Апошні інвентар Крычаўскага замка, які датуецца 1747 г., дае нам апісанне даволі моцнага комплексу абарончых збудаванняў. Усе, хто ехаў сюды з горада, пападалі на новы мост. На яго пачатку стаяла будка фельдвахты, меўся шлагбаум. На сярэдзіне маста быў «узвод» — пад'ёмны мост на 4 жалезных ланцугах і 2 вялікіх завесах на круках. Далей ішла сістэма з 2 «фортак» — невялікіх брам, зробленых паміж поручняў. Толькі пасля гэтага можна было трапіць у замкавую браму. Пабудаваная з брусу, яна мела падвоеную браму, злева размяшчалася кардэгардыя, справа — турма. Верхні паверх займала зала. Над гонтавым дахам брамы, на жалезным стрыжні, узвышаўся бляшаны флюгер у выглядзе радзівілаўскага арла. Інвентар 1747 г. паведамляе яшчэ пра адну цікавую рэч у фартыфікацыйных збудаваннях Замкавай гары. З боку Забялышчынскага пасада ў сістэме крапасных сцен была «форта» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 1-3).

Акрамя замка гарадскія ўмацаванні ўключалі ў свой склад і фартыфікацыйныя збудаванні пасадаў. Іх наяўнасць пацвярджаюць некаторыя крыніцы, што захоўваюцца ў фондзе Літоўскай Метрыкі, шматлікія летапісныя паведамленні пра штурмы горада, інвентарныя апісанні горада XVI — пачатку XVIII ст.

Пра тое, што ў горадзе мелася другая лінія ўмацаванняў, згадваецца ўжо ў дазволе караля Жыгімонта Старога на будаўніцтва дома крычаўскаму ротмістру Левіцкаму «в паркане» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 236) — вакольным горадзе. Пра тэта ж сведчаць данясенні цару маскоўскіх стральцоў, якія бралі ўдзел у штурме горада ў 1633 г.

У іх яны адзначаюць, што стральцы і казакі «въ Кричеве городъ большой взяли ... а остальные де литовские люди въ маломъ городке отсиделись» (АМГ, 1890. С. 445-446, 476, 481). Малы горад у паведамленнях 1633 г. — тэта, безумоўна, Замкавая гара, якую маскоўскія войскі так і не змаглі ўзяць. А «большой город» — другая ўмацаваная частка Крычава — размяшчаўся на захад ад Замкавай гары, на берагавым плато, абмежаваным прыроднымі ўмацаваннямі — Забялышчынскім ярам з поўд-

ня і поймай рэчкі Крычаўкі з поўначы. Верагодна, гэтыя натуральный ўмацаванні былі звязаныя земляным валам, і такім чынам утваралі замкнёную сістэму ўмацаванняў — вакольны, альбо «большой», горад. З усходняга боку надзейнай абаронай гораду служыў Сож.

Пра існаванне другой лініі гарадскіх умацаванняў сведчаць і інвентары горада другой паловы XVII ст., якія згадваюць наяўнасць на пасадзе «астрога» і дадатковага нейкага «астражэння».

Звесткі пра астрог, у якім размяшчалася 30 гарадскіх пляцаў і тры царквы — Уваскрасенская, Пятніцкая і Раства Багародзіцы, знаходзім у інвентары Крычава 1671 г. На Астрожнай вуліцы, якая знаходзілася побач, у тэты год было 9 дымаў. Тыя ж самыя звесткі падае нам пра гарадскі астрог і размешчанае побач «астражэнне» і інвентар горада 1673 г. У «астражэнні», адзначае інвентар, у тэты час існавала царква Святога Юрыя (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 2669/1, арк. 169 адв. — 170; адз. зах. 1923, арк. 9-10).

Аднак ужо праз 6 гадоў сітуацыя з гарадскімі ўмацаваннямі мяняецца. Інвентар горада 1682 г. называв ўжо толькі невялікі астрог з 14 пляцамі і замкавым агародам. Тая ж тэрыторыя, якая, верагодна, раней аб'ядноўвалася пад назван «астражэнне», зараз называецца «Ратуш». На такую думку наводзіць размяшчэнне ў гэтым раёне царквы Святога Юрыя (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 10).

Больш познія інвентары горада XVII — XVIII стст. ужо не згадваюць ў Крычаве іншых умацаванняў, акрамя замка. Верагодна, паступова з развіццём артылерыі яны страцілі сваю ролю, а паколькі не рамантаваліся, то прыйшлі ў заняпад. Ва ўсялякім выпадку, у інвентары Крычава 1747 г. ужо адзначаецца, што новая вуліца Юр'еўскі перакоп была так названа таму, што пад час «давней масковскай войны тут быў заложаны шанец» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 33.). Гэтае ўдакладненне аб шанцы таксама сведчыць пра тое, што калісьці на пасадзе была самастойная лінія ўмацаванняў.

Такім чынам, з упэўненасцю можна сцвярджаць: другая лінія гарадскіх умацаванняў у Крычаве існавала да апошняй чвэрці XVII ст. Магчыма, яны былі канчаткова знішчаныя пад час Паўночнай вайны са Швецыяй (1700 — 1721 гг.) і болей не ўзнаўляліся.

## § 2. Планіроўка і забудова

### 2.1. Замак

Пісьмовыя звесткі пра планіроўку і забудову дзядзінца Крычава XII — пачатку XVII ст. адсутнічаюць. Толькі пад час археалагічных даследаванняў 1974 і 1976 гг. М. А. Ткачоў зафіксаваў у слаях XII —XIII стст. у паўднёвай частцы Замкавай гары рэшткі пабудоў. У справаздачы ён адзначае, што яны размяшчаліся ўздоўж трасы вала, аднак самі планы асобных пабудоў і агульнай сістэмы забудовы адсутнічаюць (Ткачев М., 1974. С. 28), таму ўяўленне аб іх можна атрымаць толькі на падставе апісання справаздачы.

Пад час даследаванняў было зафіксавана 6 пабудоў зрубнай канструкцыі: тры з якіх, найбольш старажытныя, былі паглыбленыя ў мацярык. Памеры дзвюх — 4,2х4 м і 4х2,5 м. У кутах абедзвюх пабудоў былі рэшткі печаўкаменак. Рэшткі яшчэ адной пабудовы трапілі ў раскоп часткова, таму яе памеры не высветленыя.

Наступныя тры пабудовы адносяцца да другога будаўнічага яруса. Першая з іх мела памеры 4,3х3,8 м. Ад яе захаваліся два абгарэлыя вянцы. Пабудова была зрубленая з бярвенняў дыяметрам 25 см. Ніжні вянец, у тым ліку і «падваліны», быў зрублены з дубовых бярвенняў дыяметрам 50 см. Пабудова мела падлогу з сасновых плах, што ляжалі на лагах-пераводзінах дыяметрам 15 см, прапушчаных паміж першым і другім вянцамі.

У паўночна-заходнім куце пабудовы была печ-каменка. Яна стаяла на драўляным апечку зрубнай канструкцыі памерамі 1,4х1 м, канструкцыйна звязаным са сценамі дома. Апечак быў зрублены з сасновых бярвенняў і запоўнены пяском з глінай (Ткачев М., 1973. С. 25).

Астатнія дзве пабудовы даследаваны фрагментарна. Абедзве мелі зрубную канструкцыю. Паміж пабудовамі захаваліся рэшткі сасновых плах, якія, верагодна, з'яўляюцца рэшткамі вымасткі двара. Абедзве пабудовы былі аддзеленыя ад астатняй тэрыторыі парнымі ямамі са слядамі спарахнелага дрэва (Ткачев М. А., 1974. С. 28). Верагодна, гэтыя дзве пабудовы адносіліся да аднаго комплекса-сядзібы. Такім чынам, зыходзячы з гэтых сціплых паведамленняў, забудова Замкавай тары Крычава мела сядзібны характар.

Інфармацыя пра забудову Замкавай тары XIV — пачатку XVI ст. адсутнічае. Толькі пачынаючы з другой паловы XVII ст. дзякуючы інвентарным апісанням Крычава мы маем пра яе пэўнае ўяўленне.

Першы захаваны інвентар Крычава, які дае нам уяўленне пра забудову замка, датуецца 1673 г. Замак у тэты час быў заняты жылымі і гаспадарчымі пабудовамі.

З правага боку ад увахода на замак стаяў двухпавярховы будынак — дом на «ізбіцах». Яго першы наверх — «падізбіцы» — быў заняты стайняй для коней. У будынак вёў ганак, крыты драніцамі і абшыты «цясніцамі». Праз двайныя дзверы, якія был і на завесах і мелі крукі і кручкі для замыкания, уваходзілі ў сені. З сяней у правы бок вял і дзверы, якія таксама былі «на завесах», мелі прабоі, клямку; за імі размяшчалася «ізба сталова». У гэтай «ізбе» было пяць вокнаў, шкло якіх устаўлена ў алавяны пераплёт. Інвентар таксама адзначае наяўнасць у гэтай ізбе печы «белай з кафлі старай» з мураваным комінам. З «ізбы сталовай» выходзілі дзве каморы. У адну з іх вялі дзверы на завесах, а у другую — «на бегунах» — дзверы абапіралася на драўляную вось.

З другой каморы дзверы на «завесах жалезных, з клямкай, коблам, крукам» вялі ў пакойчык, у якім стаяла печ з зялёных паліваных кафляў. У гэтым пакойчыку былі двое вокнаў, што складаліся з чатырох «кватэр» — створак на завесах, якія мелі кручкі для замыкання. Падлога гэтага «пакоіка» была вымашчана цясніцамі. Адсюль вялі дзверы ў другі «пакоік». У ім, як і ў папярэднім, таксама была печ *з* зялёнай кафлі і з мураваным комінам, акно, устаўленае ў алавяную раму. З гэтага «пакоіка» можна было трапіць у «ізбу вялікую». У ей было двое шкляных вокнаў па чатыры «кватэры», устаўленыя ў алавяную раму. «Кватэры» вокнаў былі на завесах, мелі зашчапкі для замыкания. У ізбе была печ з зялёнапаліванай кафлі і з мураваным комінам. Інвентар адзначае, што з гэтай ізбы дзверы выводзіла ў туалет. Падлога «вялікай ізбы» была вымашчаная цясніцамі. З яе дзверы выводзілі ў сені (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1923, арк. 3).

Акрамя гэтага двухпавярховага будынка на Замкавай гары размяшчалася яшчэ некалькі жылых і гаспадарчых пабудоў. Побач з «вялікім будынкам» знаходзіўся склеп-піўнічка. З левага боку ад двухпавярховага будынка стаяла двухкамерная «ізба белая», якая складалася з сяней і ізбы. Інвентар адзначае, што гэты будынак крыты драніцамі, частка дзвярэй у ім была на «бегунах», частка на завесах. Печ была складзеная са старых кафляў. Адзначаюцца два акны — «смаляныя».

У адну лінію з гэтым будынкам стаяў другі, які інвентар адзначае як «стары, ападлы». Ён, як і двухпавярховы будынак, меў складаную планіроўку. З ганку, драніцамі крытага, праз дзверы на жалезных завесах траплялі ў сені. У правым баку ад сяней месцілася «ізба бела». Яна мела двое шкляных вокнаў, шыбы якіх былі ўстаўленыя ў драўляную раму. Тут жа стаяла печ, складзеная са старой кафлі, але інвентар адзначае, што яна была без коміна.

З левага боку ад сяней месцілася яшчэ адна «ізба бела» з двума шклянымі вокнамі, устаўленымі ў алавяную раму. Печ з комінам была складзена са старой кафлі. З гэтай ізбы меўся выхад у дзве каморы. Вокны ў каморах былі ўстаўленыя як у алавяныя так і ў драўляныя рамы.

За гэтым будынкам стаяў невялікі свіранак з засекамі для збожжа. За ім знаходзіўся вялікі свіран, у якім таксама былі засекі для збожжа. Каля свірнаў стаяла невялікая стайня, разлічаная на двух коней (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1923, арк. 3 — 4).

Першае, што фіксуе на замку інвентар горада 1682 г., — гэта царква Св. Міколы, размешчаная злева ад увахода. За ёю называецца зруб на касцёл з круглага дрэва. І толькі за зрубам на касцёл інвентар адзначае двухпавярховы будынак. Як відаць з інвентару, за мінулыя дзесяць гадоў у ім адбылася невялікая перапланіроўка: з'явілася яшчэ адна каморка — трэцяя.

Інвентар адзначае і новыя будынкі, што з'явіліся на замку. Каля двухпавярховага будынка, як і раней, была піўніца, а з левага боку ад яе — гаспадарчая пабудова, у якой спалучаліся пякарня, кухня і істопка. У пякарні інвентар адзначае печ «чорную» для пячэння хлеба. Побач з гаспадарчай пабудовай адзначаецца другая «ізба белая», якая за дзесяць год не змяніла сваей планіроўкі. За гэтым будынкам, «пад парканам», як і раней, інвентар адзначае стаенку на двух коней. Яшчэ адна навіна, адзначаная інвентаром 1682 г.: наяўнасць на замкавым двару цэйхгауза, які быў абмазаны глінаю (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 3 — 5).

Інвентар Крычава 1694 г. адразу каля ўязной брамы, з левага боку ад яе, адзначае ізбу «для жаўнераў», у якой ёсць «печ гаспадарская» — для прыгатавання ежы. Адзначаецца наяўнасць царквы Св. Міколы са званіцай, за якой у два рады стаялі сем свірнаў для захоўвання збожжа, і «шопа», дзе стаялі вазы. За гэтымі свірнамі стаяў замкавы цэйхгауз, будынак якога, як і раней, быў абмазаны глінаю. Інвентар таксама зафіксаваў наяўнасць на замкавым двары старой, засыпанай зямлёй студні.

Яе рэшткі былі зафіксаваныя пад час археалагічных даследаванняў 1988 г. у паўднё-

вай частцы Замкавай гары. Ад яе захавалася заплыўшая мацерыковая яма глыбінёй 3 м, па цэнтры якой былі прасочаны захаваныя ў выглядзе драўлянага тлена рэшткі зруба студні памерамі 1,2х1,2 м. У запаўненні калодзежа былі знойдзены фрагменты шкляных бранзалетаў і рознaчасовай керамікі. Найбольш ранняя кераміка адносіцца да аддзела 1, тыпу 1, віду 2, які датуецца другой паловай XIII — XIV ст. (мал. 51).

З правага боку ад уязной брамы размяшчалася турма. Недалёка ад турмы інвентар адзначае дом «урадніцкі», планіроўка якога ў параўнанні з 1682 г. не змянілася. Як і раней, за гэтым домам адзначаецца піўніца і старая стаенка для коней. Далей — дом «стары з каморай без печы і вакон». За гэтым домам размяшчалася новая трохкамерная кухня, якая складалася з уласна кухні, істопкі «белай» дзе была «печ простых кафлоў», і пякарні, дзе стаяла печ «гаспадарча» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 2 — 6).

Паўночная вайна нанесла вялікія разбурэнні Крычаву і яго замку. Асабліва горад і валасць пацярпелі пад час кампаніі 1708— 1709 гг., калі ўсходнія землі Рэчы Паспалітай былі зонай дзеяння рускіх і шведскіх войскаў. Інвентар 1709 г. адзначае толькі наяўнасць на замку ў больш-менш добрым стане царквы Св. Міколы са званіцай і турмы. Астатнія пабудовы — дзве ізбы, спіжаранка, піўніца, кухня — стаялі разбураныя, без вокнаў, дзвярэй і печаў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1929, арк. 3).

Інвентар горада 1720 г. паказвае, што замак пачынае адраджацца і яго забудова працягвае ранейшыя традыцыі. Адзначаецца наяўнасць на замку царквы, цэйхгауза, двух старых будынкаў, якія патрабавалі аднаўлення. Адначасова тут зафіксаваны новыя будынкі. Згадваецца новая кухня, якая складалася з дзвюх ізб. У адной з іх была пякарня, дзе стаяла печ для выпечкі хлеба, а ў другой была кафляная печ для абагрэву. Каля абаронча́га вала пабудавана новая істопка з кафлянай печчу. На замкавым двары інвентар адзначае дзве новыя стайні, вазоўню. У той жа час каля вала — старая стаенка і каморка (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 3). Нічога не змянілася ў планіроўцы замка і праз тры гады — у 1723 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1933/2, арк. 1-2).

Перамены, што адбыліся на замкавым падворку, добра відаць з інвентару горада 1727 г. З правага боку ад уязной брамы стаяў стары трохкамерны будынак, які складаўся з сяней і дзвюх ізб з каморамі, размешчаных з абодвух бакоў сяней. Побач стаяў новы вялікі двухпавярховы будынак. На першы наверх вялі «всходы надруйнаваныя», але сам ганак быў у добрым стане. Уваход у памяшканне пачынаўся з сяней, у правым баку ад якіх была «ізба добра дужа». У пакоі стаяла вялікая печ з комінам, складзеная з зялёнапаліванай кафлі. Асвятляла ізбу адно акно, шыбы якога былі ўстаўленыя ў драўляную раму. Тэты першы пакой быў прахадны. З яго можна было трапіць у другі пакой, дзе не было печы, а асвятляўся ён таксама адным акном. З першага пакоя ў левы бок вялі яшчэ адны дзверы ў невялікі пакойчык, у якім стаяла круглая кафляная печ з комінам. Гэты пакойчык таксама быў прахадны. З яго можна было трапіць у сені і ў новы пакойчык.

У левым баку ад сяней была вялікая «ізба сталовая». У ей стаяла новая кафляная печ, але комін, як адзначаецца, быў стары — «даўні». Усе вокны ўстаўленыя ў драўляныя рамы. У гэтай жа ізбе была невялікая камора, «алькоў» — спальня. Справа ад гэтага вялікага пакоя размяшчаўся малы «пакоік», у якім стаяла печ з комінам. З яго можна было трапіць яшчэ ў адзін «пакоік», які пакуль не быў закончаны — адсутнічала падлога. Хоць у пачатку інвентару адзначаецца, што гэты будынак быў новы, у канцы апісання будынка гаворыцца, што ён знізу падгніў і патрабуе рэстаўрацыі.

На другі паверх вяла з замкавага падворка асобная лесвіца — «всходы», але яны былі ў дрэнным стане — «надруйнаваныя». Па лесвіцы траплялі ў невялікія сені, адтуль у «залу парадную», у якой стаяла вялікая печ з зялёнай кафлі і «ўнутраным камінам». Асвятляўся пакой чатырма вокнамі, устаўленымі ў драўляныя рамы. Гэты паверх меў вонкавую галерэю, якая патрабавала рамонту і на якой было два «гардэробы» для «захавання рэчаў». Тут жа, на другім паверсе, быў і «ламунк» — лямус, памяшканне для захоўвання рэчаў.

Каля гэтага будынка размяшчаліся піўніца і кухня, якія складаліся з дзвюх «ізб». У першай ізбе з каморай стаяла печ «пякарная» — для пячэння хлеба. У другой — ацяпляльная печ, складзеная са старой кафлі. Вокны ў кухні таксама былі ўстаўленыя ў драўляныя рамы. Каля кухні размяшчаліся тры спіжарні. Побач з імі стаяў вялікі амбар для розных тавараў. Пры ім былі меншыя амбары з засекамі для захоўвання збожжа. Гэтыя амбары былі выведзены на вал. Злева ад амбараў стаялі дзве вялікія стайні з каморкамі для сена і іншых рэчаў. Пры стайнях былі і вазоўні.

Інвентар адзначае на замкавым падворку і новы лямус — двухпавярховае памяшканне з

галерэяй для захоўвання збожжа, адзення і іншых рэчаў. Даволі часта другі паверх лямуса выкарыстоўваўся як жылы, але ў крычаўскім, мяркуючы па апісанні, не жылі. Акрамя таго, на замкавым падворку былі два свірны і царква Св. Мікалая (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 13—15).

Дэталёвую карціну забудовы Крычаўскага замка дае нам і інвентар 1747 г. З левага боку ад уязной брамы месціўся будынак, які, як і ўсе жылыя будынкі, пачынаўся з сяней. Дзверы справа вялі ў ізбу з дашчатымі падлогамі і столлю. Печ была складзена з «шэрых кафляў» — непаліванай кафлі. Асвятлялі «ізбу» два акны, у якія былі ўстаўлены круглыя шыбкі — «вокна шкла акруглага». Адна з іх мела зашчапку — верагодна, была зроблена ў выглядзе форткі. З ізбы дзверы на завесах вялі ў камору, дзе падлога і столь, як і ў ізбе, была з дошак. Асвятлялася камора таксама праз акно з акруглымі шыбамі. З вонкавага боку яно было ўмацавана стаўнямі на жалезных завесах — «аканіцай». У сенцах была кухня, з левага боку ад якой стаяла спіжаранка.

З правага боку ад гэтага будынка знаходзілася новая «істопка для афіцэраў» — складское памяшканне, якое зрэдку мела і печы (Молчанова Л. А., 1981. С. 30). Крычаўская істопка мела печ з непаліванай кафлі і цагляны комін. Падлога і столь былі з дошак. Асвятлялі яе чатыры вакны, але толькі ў адным былі шкляныя шыбы. Астатнія тры былі забітыя дошкамі.

З левага боку ад істопкі стаялі два «свіранкі», адзін з якіх, як адзначае інвентар, быў стары. Недалёка ад іх стаялі тры невялікія стайні, напалову разваліўшыяся. Далей размяшчалася новая вазоўня. Побач з вазоўняй месціўся адрамантаваны «шпіхлер» — цэйхгауз, які замыкаўся на чатыры замкі.

За цэйхгаузам знаходзілася кухня, якая мела тры памяшканні. У першым, у сянях, была «кухня», зробленая з дрэва і абсыпаная пяском. Ідучы з сяней у левы бок, траплялі ў «ізбу недаканчоную». З правага боку ад сяней размяшчалася «пякарня», у якой стаяла «печ гаспадарча». Падлога ў пякарні гліняная, столь падшытая дошкамі. Дзверы ў пякарню на «бегуне» — драўлянай восі. Асвятляўся ўвесь будынак вокнамі з «акруглага шкла».

У 1747 г. рэзідэнцыя губернатара — дзяржаўцы і лентвойта Крычава — была ўжо аднапавярховай. Як і раней, будынак пачынаўся з ганка, які меў поручні, быў абшыты дошкамі, меў падлогу з дошак. Інвентар адзначае у ім чатыры лаўкі. Праз сені траплялі ў бакавы пакой. Там была камбінаваная печ — ацяпляльная з непаліванай кафлі, да яе прымыкала гаспадарчая печ. Падлога і столь у гэтым пакоі таксама былі з дошак, асвятляўся ён адным акном з акруглага шкла, якое было ўстаўлена ў драўляную раму і зачынялася стаўнямі.

Акрамя гэтых будынкаў інвентар адзначае на замкавым падворку новыя свіранак, лядоўню, цэйхгауз, пабудаваны ў выглядзе васьмікутніка, піўніцу. Як бачым, забудова дзядзінца Крычава ў сярэдзіне XVIII ст. фактычна паўтарала забудову больш ранняга часу. Замкавая гара мела выключна тыя пабудовы, якія былі неабходныя для функцыяніравання крэпасці і жылля адміністрацыі староства.

Астатнія інвентары Крычава, выяўленыя ў дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, не паведамляюць пра якія-небудзь значныя перамены на Крычаўскім замку. Толькі інвентар горада 1756 г. фіксуе тут новую стайню, якая была перанесена сюды з горада (ДГАЛ, ф. 459, воп. 1, адз. зах. 2306, арк. 1 адв.).

### 2.2. Гарадскія пасады

Комплекснае вывучэнне пісьмовых крыніц, рэтраспектыўны аналіз плана Крычава 1778 г. з далучэннем археалагічных дадзеных дазваляе ў агульных рысах прасачыць развіццё планіровачнай структуры горада на працягу XII — XVIII стст.

Ландшафтныя асаблівасці мясцовасці, у якой узнік Крычаў — акрэсленай з трох бакоў гідраграфічнай сеткай, абумовілі яго складаную структурна-планіровачную тапаграфію. Горад узнік і развіваўся на працягу доўгага часу як горад паўкруглага тыпу, які размяшчаўся ўздоўж Сожа, меў крэпасць і пасады, месцаразмяшчэнне якіх было вызначана абарончымі магчымасцямі мясцовасці (Мокеев Г. Я., 1976. С. 8).

Крычаў ад самага пачатку сваей гісторыі фарміраваўся па прынцыпах развіцця ўсходнеславянскага горада, які звычайна складаўся з дзядзінца (ядра горада) — Замкавай гары, гандлёвай плошчы і пасадаў.

Цэнтрам гарадской кампазіцыі з'яўляўся дзядзінец, вакол якога фарміраваліся пасады. Улічваючы, што Крычаў адносіцца да тыпу паўкруглых гарадоў і размяшчаўся ўздоўж Сожа, можна меркаваць, што на першапачатковым этапе развіццё яго пасада ішло ў накірунку выцягвання забудовы ўздоўж берага ракі. Такі накірунак першапачатковага развіцця быў даволі характэрны для ўсходнеславянскіх гарадоў — так развіваліся, напрыклад, Мурам, Пуціўль,




Мал. 38. Зона распаўсюджвання культурнага слоя XII —XIII стст.: 1 — гарадзішча Гарадзец; 2 — гарадзішча Замкавая гара; 3 — Спаская гара

Масква (Мокеев Г. Я., 1976. С. 4). Размяшчэнне паселішча ўздоўж Сожа пацвярджаюць і назіранні за распаўсюджваннем культурнага слоя.

Археалагічныя даследаванні, праведзеныя М. А. Ткачовым на плато, якое прылягае да Замкавай гары, паказалі, што найбольш ранні культурны слой магутнасцю ад 0,4 да 1,2 м сустракаецца на Спаскай гары, размешчанай на поўдзень ад замка.

Спаская тара пачала прыцягваць увагу людзей яшчэ ў эпоху жалезнага веку. Тут знойдзена ляпная кераміка, аналагічная кераміцы з другога стратыграфічнага слоя гарадзішча Гарадзец, якая адносіцца да эпохі II — IV стст. н. э.

Найбольш ранняя сярэднявечныя матэрыялы, знойдзеныя тут, прадстаўлены асобнымі фрагментамі шкляных бранзалетаў, керамікай. Кераміка адносіцца пераважна да аддзела 1-1-4 (XIV-XV стст.), 1-2-2 (XV- першая палова XVI ст.), 1-3 (другая палова XIII-XIV ст.), 2-3-2 (XV —XVI стст.). Зрэдку сустракаюцца фрагменты керамікі аддзела 1-1-1 і 1-1-2, якія датуюцца другой паловай XII — канцом XIII ст. Можна меркаваць, што фарміраванне пасада пачалося тут недзе ў другой палове XII — пачатку XIII ст., але больш інтэнсіўна ён пачаў развівацца з XIV ст.

Мяркуючы па распаўсюджванню керамікі, пасад на Спаскай гары цягнуўся даволі вузкай паласой (шырынёй да 30 м) уздоўж цячэння Сожа на 70 — 100 м. Такім чынам, першапачаткова, у канцы XII — пачатку XIV ст., ён займаў плошчу каля 0,2 — 0,3 га.

Акрамя таго, у гэты час яшчэ працягвала функцыяніраваць паселішча на Гарадцы, якое займала каля 0,7 га. Такім чынам, агульная плошча паселішчаў у Крычаве ў канцы XIII ст., верагодна, складала каля 1,5 га (мал. 37).

Пачаўшы фарміравацца на мяжы XII — XIII стст., пасад на Спаскай гары, вядомы па больш позніх пісьмовых крыніцах як Забялышчынскі пасад, атрымаў свае далейшае развіццё ў XIV —XVI стст. Мяркуючы па распаўсюджванню керамікі XIV — пачатку XVI ст., Забялышчынскі пасад развіваўся цяпер уздоўж Забялышчынскага яра і ў меншай ступені ўздоўж Сожа. Кераміка, характерная для XIV — пачатку XVI ст., знойдзена ў двары ваенкамата над Забялышчынскім ярам у шурфах 3 1 4. Падобная кераміка сабраная ў абрыве берага Сожа прыкладна ў 70 м на поўдзень ад ўпадзення Забялышчынскага ручая ў Сож. Агульная плошча знойдзенай керамікі займае прыкладна 60x120 м. Гэта сведчыць пра тое, што Забялышчынскі пасад на пачатку XVI ст. займаў плошчу каля 0,8 га.

У XVI —XVIII стст. пасад значна павялічыў сваю тэрыторыю. Ён паступова асвойваў тэрыторыю, размешчаную паміж Сожам і Забялышчынскім ярам. Распаўсюджванне керамікі

дазваляе сцвярджаць, што ў XVII —XVIII стст. Забялышчынскі пасад займаў тэрыторыю прыкладна 100 — 150x200 м, што адпавядае 2-2,5 га.

Тэрыторыя берагавога плато, размешчанага на захад ад Замкавай гары і абмежаванага гідраграфічнай сеткай ручаёў Крычаўца і Забялышчынскага, прыцягвала ўвагу насельнікаў Крычава пачынаючы з XIV ст. Праведзеная тут шурфоўка паказала, што культурны слой чорнага колеру ў гэтым раёне дасягае магутнасці 1,2 м. Верхняя яго частка (да 0,3 м) значна пашкоджана познімі перакопамі, насычана сучасным смеццем. Але ў ніжнім запаўненні слоя, які па сваёй кансістэнцыі аднародны, сустракаюцца шматлікія тонкія лінзы пажарышчаў.

Назіранні за распаўсюджваннем керамікі ў міжрэччы Забялышчынскага ручая і рэчкі Крычаўкі сведчаць, што найбольш раннія матэрыялы, знойдзеныя тут, адносяцца да XIV ст. Кераміка XIV — пачатку XVI ст. выяўлена толькі ў прылеглых да замка дварах вуліц Гіндзінай, Студэнцкай, Пралятарскай. Зона распаўсюджвання культурнага слоя з керамікай XIV — пачатку XVI ст. цягнецца ўздоўж берагавога плато на працягу 300 м пры шырыні не болей 50 м. Плошча гэтага пасад а у XIV — пачатку XVI ст. не перавышала 1,5 — 2 га, а агульная плошча горада складала каля 3,5—4 га (мал. 39).

Значныя перамены адбыліся ў развіцці Крычава ў сярэдзіне XVI — XVII ст. У гэты час адбываецца пэўны скачок ў развіцці горада. Кераміка, характэрная для гэтага часу, выяўлена на значна большай тэрыторыі, чым матэрыялы XIV —XV стст. Горад паступова ахоплівае ўсю тэрыторыю паміж Забялышчынскім ручаём і рэчкай Крычаўкай. На захадзе мяжа горада ў канцы XVI ст., пэўна, праходзіла ў раёне сучасных вуліц Ленінская і Камсамольская.

Як вынікае са знаходак керамікі, плошча пасада Крычава ў міжрэччы рэчкі Крычаўкі і Забялышчынскага ручая ў канцы XVI ст. дасягнула 10 га, а уся плошча горада складала каля 15 га (мал. 39).

У XVII —XVIII стст. горад, нягледзячы на шматлікія беды, што абрушваліся на яго, пашырыў сваю тэрыторыю. Акрамя далейшага развіцця Забялышчынскага пасада і пасада, які знаходзіўся паміж Забялышчынскім ручаём і рэчкай Крычаўкай, пачаў фарміравацца новы пасад, размешчаны на поўнач ад рэчкі Крычаўкі.

Забялышчынскі пасад у канцы XVIII ст. ахапіў плошчу каля 3 — 3,5 га, цэнтральны пасад асвоіў тэрыторыю на захад ад сучасных вуліц Ленінскай і Камсамольскай. Кераміка, характэрная для XVII —XVIII стст., знойдзена ў зачыстцы сценак будаўнічага катлавана пад сховішча агародніны ў двары СШ № 1, у шурфе, размешчаным у двары дома № 2 па вуліцы імя Луначарскага. Магутнасць культурнага слоя ў гэтым раёне не перавышае 0,3 — 0,4 м.

Самы заходні раён горада, дзе пад час назіранняў за землянымі працамі быў зафіксаваны культурны слой, — раён вуліц імя Губеніна і К. Маркса. Тут знойдзены асобныя фрагменты керамікі, характэрнай для канца XVII — XVIII ст. Такім чынам, агульная плошча цэнтральнага пасада Крычава ў тэты час складала каля 30 га.

Пасад горада, размешчаны за ручаём Крычаўцам, мяркуючы па зборах пад'ёмнага матэрыялу і нешматлікіх шурфах, пачаў засяляцца не раней пачатку XVII ст., бо яшчэ ў канцы XVI ст. тут знаходзіліся гарадскія агароды (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 77, арк. 412 адв. — 413 адв). Культурны слой магутнасцю ад 0,2 да 0,7 м, выяўлены ў гэтым раёне горада, цягнецца ад гарадзішча Гарадзец уздоўж цячэння Крычаўца ў накірунку Сожа. Асноўны матэрыял, што сустракаецца ў культурным слоі, — кераміка, фрагменты аконнага шкла і шклянога посуду, зрэдку трапляюцца соліды Яна Казіміра і манеты Расійскай імперыі XVIII ст.

Шырыня распаўсюджвання культурнага слоя не перавышае 70 м. Ён прасочваецца на працягу 250 — 300 м. Такім чынам, агульная плошча пасада, размешчанага за ручаём Крычаўцам, згодна з археалагічнымі дадзенымі, не перавышае 1,5 га. У той жа час на плане горада 1774 г. паказана, што тут была заселена толькі тэрыторыя блізу Гарадца.

Назіранні за распаўсюджаннем культурнага слоя з матэрыяламі XVII —XVIII стст. сведчаць, што горад у канцы XVIII ст. складаўся з дзядзінца плошчай каля 0,6 га, Забялышчынскага пасада плошчай 3 — 3,5 га, цэнтральнага пасада плошчай 30 га і пасада за рэчкай Крычаўкай — 1,5 га. Агульная плошча горада ў апошняй трэці XVIII ст. складала каля 36 га (мал. 39).

Прыкладна з сярэдзіны XVII ст. яшчэ больш цікавую інфармацыю па гісторыі фарміравання планіровачнай структуры горада пачынаюць даваць і пісьмовыя крыніцы.

Безумоўна, цэнтрам гарадской планіроўкі, як і раней, з'яўляўся замак, ад якога адыходзілі вуліцы. Пісьмовыя крыніцы паведамляюць пра існаванне ў горадзе ў XVI ст. вуліцы Пачэпскай (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 38 — 39), якая, верагодна, выводзіла на поўдзень, на дарогу, што вяла ў бок горада Пачэп. Хутчэй за ўсё, яна размяшчалася на




Мал. 39. Рост тэрыторыі Крычава ў XIV —XVIII стст. (паводле археалагічных дадзеных): 1 — гарадзішча Гарадзец; 2 — гарадзішча Замкавая гара; 3 — Спаская гара

Забялышчынскім пасадзе; ніжэй знаходзіўся Алучыцкі перавоз праз Сож. Адсюль пачынаўся Алучыцкі шлях, што вёў у паўднёвыя раёны воласці горада.

На Забялышчыне ўжо ў тэты час існавала вуліца Спаская, згадваемая ў 1579 г. (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 74, арк. 419-420; НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 49 — 50).

На пачатку XVII ст. (1609 г.) у астроге — вакольным горадзе — была вуліца Вялікая (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 86, арк. 738 адв.). У бок вёскі Касцюшкавічы ў 1653 г. вяла вуліца Шумлівая (НГАБ, ф. 694, воп: 4, адз. зах. 1155, арк. 47).

Безумоўна, падзеі 1633 г. і вайны 1654 — 1667 гг. нанеслі вялікую шкоду гораду, і, мяркуючы па стратах Крычаўскага староства ў сярэдзіне XVII ст. у цэлым, можна лічыць, што горад таксама моцна пацярпеў. Пра гэта сведчыць і той факт, што ў другой палове XVII ст. мы не сустракаем у інвентарах горада назваў былых вуліц — Пачэпскай, Вялікай, Шумлівай. На гарадской карце з'яўляюцца зусім новыя назвы. На наш погляд, такія кардынальныя змены ў гарадской тапаніміцы маглі адбыцца толькі пры з'яўленні значнай колькасці новага насельніцтва і кардынальнай перапланіроўцы горада. Таму першыя пасляваенныя звесткі пра планіроўку Крычава нельга атаясамліваць з яго сістэмай планіроўкі і забудовы даваеннага перыяду.

Пэўныя ўяўленні аб'планіроўцы і забудове горада прыносяць пісьмовыя крыніцы пачынаючы з другой паловы XVII ст. Так, адзін з першых пасляваенных інвентароў горада (1671 г.) паказвае нам горад, у якім было 375 дамоў, з якіх 184 было на «замкавым прысудзе», 133 гаспадары карысталіся магдэбургскім правам і 58 размяшчаліся на шляхецкіх пляцах. Гэтакая ж колькасць дамоў захоўвалася ў горадзе да 1679 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 2669/1, арк. 168—171 адв.; адз. зах. 1923, арк. 6—15; адз. зах. 1925, арк. 18).

Мяркуючы па інвентары 1671 г., ужо ў тэты час горад складаўся з трох раёнаў. Цэнтральная частка горада размяшчалася паміж Забялышчынскім ручаём і рэчкай Крычаўкай. Другі гарадскі раён — Крычавец — знаходзіўся за рэчкай Крычаўкай, каля гарадзішча Гарадзец. Трэцім раёнам горада, які згадваецца ў інвентары, быў Забялышчын.

Самым маладым раёнам горада, верагодна, быў Крычавец, дзе яшчэ не было вулічнай планіроўкі. Інвентар толькі фіксуе тут наяўнасць 28 дамоў і дзвюх цэркваў — Св. Іллі і Св. Прачыстай дзевы Марыі.

Раён Забялышчын размяшчаўся на поўдзень ад Забялышчынскага ручая. Тут інвентар адзначае толькі адну вуліцу — Забялышчынскую, верагодна, былую Спаскую, якая ішла сюды з рынку. На Забялышчыне ў 1671 г. стаяла 45 дамоў, на самым пачатку вуліцы з левага боку знаходзілася царква Св. Спаса.

Большая частка горада месцілася паміж Забялышчынскім ручаём і рэчкай Крычаўкай.

Кампазіцыйнай асновай гэтай часткі Крычава быў замак і «астрог» — вакольны горад, у якім размяшчаліся цэрквы Пятніцкая, Уваскрасенская, Раства Багародзіцы і 30 дамоў мяшчан. 3 яго выходзіла Астрогавая вуліца, на якой было 9 дамоў. У бок вёскі Касцюшкавічы, верагодна, вяла Пагаранская вуліца — сучасная вуліца Савецкая, на якой у той час было 52 дамы.

Інвентар адзначае існаванне ў горадзе слабады Латынь, якая, мяркуючы па назве, верагодна, была заснавана каталікамі. Тэты раён размяшчаўся, відаць, над Забялышчынскім ручаём, у раёне сучасных вуліц К. Маркса, Наімава. Ён і сёння сярод мясцовага насельніцтва вядомы над назвай «Латынь». У гэтай слабадзе была Латынская вуліца, якая налічвала 39 дамоў.

У гэтым жа баку, над Забялышчынскім ярам размяшчаўся і гарадскі рынак. На той час ён быў забудаваны толькі 9 жылымі дамамі. Звычайна ў XVI —XVII стст. рынак станавіўся новым цэнтрам горада, які сцягваў да сябе большую частку вуліц і з'яўляўся другім, пасля замка, кампазіцыйным цэнтрам горада. Аднак у выпадку з Крычавам тэты працэс у другой палове XVII ст., верагодна, яшчэ набіраў рух, бо інвентар адзначае толькі, што з яго выходзіла дзве вуліцы: адна вяла у бок замка, а другая — на Забялышчын. Размяшчэнне гарадскога рынка Крычава ў другой палове XVII ст. каля замка, на нашу думку, сведчыць пра захаванне традыцый, якія сягаюць у больш раннія часы, калі «торг» размяшчаўся паміж пасадам і ядром горада — «градам» (Мокеев Г. Я., 1975. С. 6).

Недзе ў гэтай частцы горада інвентар адзначае існаванне і гарадскога калодзежа, ад якога вяла ў невядомым накірунку невялікая безыменная вуліца — «вуліца ад калодзежа». Над Сожам у бок Крычаўца ішла Падбярэжная вуліца, на якой было 29 дымаў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 2669/1, арк. 168—171 адв.). Астатнія вуліцы Крычава 1671 г. не паддаюцца лакалізацыі. У дадатак да гэтай інфармацыі інвентар горада 1673 г. паведамляе, што на «астражэнні» стаяла царква Св. Юрыя (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1923, арк. 10).

Улічваючы нешматлікасць паведамленняў аб забудове і планіроўке горада, можна меркаваць, што планіроўка Крычава канца XVII ст. была радыяльнай. Яе вызначалі дарогі, якія разыходзіліся ў розныя бакі ад цэнтра горада. Гэта ў цэлым адпавядала традыцыям сістэмы забудовы ўсходнеславянскага горада (Мокеев Г. Я., 1976. С. 5).

Згодна з інвентаром горада 1679 г., на гарадскім рынку акрамя дамоў мяшчан размяшчаўся «шпіталь». На Галкавай вуліцы размяшчалася «жыдоўская школа» — сінагога, пры якой жыў гарадскі рабін. Наяўнасць у горадзе сінагогі пацвярджае і «Прывілей жыдам крычаўскім», выдадзены каралём Янам Казімірам у 1664 г. Прывілей быў пацвярджальны і быў выдадзены замест загінуўшага пад час акупацыі горада рускімі войскамі ў 1654 — 1661 гг. 3 яго вынікае, што сінагога ў горадзе існавала яшчэ ў даваенныя часы і дазвол на яе заснаванне даў папярэднік Яна Казіміра — кароль Уладзіслаў IV (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 9-11).

Інвентар 1673 г. ужо не згадвае абарончыя ўмацаванні пасадаў і адзначае, што храм Раства Багародзіцы і Уваскрасенская царква, што калісьці размяшчаліся ў астрозе, зараз стаяць на Галкавай вуліцы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1925, арк. 5 — 18).

Праз тры гады ў інвентары горада 1682 г. адзначаецца, што ў Крычаве на той час было 439 дамоў. Крыніца фіксуе некаторыя змяненні ў гарадской планіровачнай структуры. Так, начала фармавацца сістэмная забудова на Крычаўцы і далейшае развіццё атрымлівае вулічная сетка на Забялышчыне. За рэчкай Крычаўкай інвентар адзначае вуліцу Падгорацкую. Адначасова з гэтым на Крычаўцы спыняе сваю дзейнасць Прачысценская царква. Інвентар паведамляе толькі аб наяўнасці пляца Прачысценскага, на якім жылі «ўбогіе». На Забялышчыне інвентар акрамя галоўнай Спаскай вуліцы, на якой стаяла царква Св. Спаса, згадвае яшчэ адну безыменную вуліцу, што вяла «да Сожа».

Значна большыя перамены адбыліся ў цэнтральнай частцы горада. Інвентар 1682 г. называв нам новыя вуліцы: Габрылава, Карпачова, Лычова, Зорава. Астатняя, магчыма, вяла ў бок Чэрыкава — праз вёску Зоры. Верагодна, паміж 1679 і 1682 гг. у Крычаве адбылася значная перапланіроўка горада, бо згаданыя зараз храмы размешчаны на іншых вуліцах, чым у папярэдніх інвентарах. Царква Раства Багародзіцы, што раней была на Галкавай вуліцы, зараз знаходзіцца на Пагаранскай вуліцы. Пятніцкая царква апынулася на Габрылавай, Уваскрасенская — на Бочкавай вуліцы, царква Св. Юрыя, што раней была на Астрожскай вуліцы, зараз апынулася каля ратушы.

Інвентар 1682 г. паведамляе пра існаванне на Бочкавай вуліцы каля Уваскрасенскай царквы «школы рускай», а на ратушы, каля царквы Св. Юрыя, «школы жыдоўскай» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 6—12).

Больш познія інвентары Крычава канца XVII ст. нічога новага пра планіроўку горада




Мал. 40. Рэканструкцыя Крычава паводле інвентару 1747 г.: 1 — храм Св. Міколы; 2 — Спаская царква; 3 — царква Св. Юрыя; 4 — царква Св. Параскевы Пятніцы; 5 — царква Уваскрасення Хрыстова; 6 — царква Раства Багародзіцы; 7 — царква Прачыстай Багародзіцы; 8 — царква Св. Іллі Прарока; 9—10 — касцёлы; 11 — сінагога

нам не даюць. Горад паступова адраджаўся. Інвентар 1694 г. паведамляе, што колькасць праваслаўных храмаў дасягала 8. На замку стаяў храм Св. Міколы, на Забялышчыне — царква Св. Спаса, у самім горадзе — храмы Св. Юрыя, Св. Параскевы Пятніцы, Уваскрасенская царква, царква Раства Багародзіцы, Вазнясенская царква і царква Св. Іллі. Пры апошняй, «з даўніх часоў», існаваў невялікі манастыр, які меў шпіталь (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 31 — 32).

Наступная крыніца, якая дазваляе нам зрабіць пэўныя высновы наконт планіроўкі горада, — «Інфармацыя і генеральная дыспазіцыя Крычаўскага староства 1727 года». У ёй адзначаецца, што горад забудаваны бессістэмна. Нават месца, вызначанае на рынку для ратушы, было захоплена (НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3981, арк. 4). Рэвізоры раілі намесніку дзяржаўцы староства не дазваляць забудоўваць горад без сістэмы. Адначасова яны аддалі загад на пабудову новага будынка ратушы, прычым на яго будаўніцтва дрэва павінны былі дастаўляць жыхары воласці, а ўзвядзенне самога будынка і ўсё ўнутранае абсталяванне — вокны і дзверы — павінны былі сваім коштам зрабіць мяшчане. Таксама рэвізоры раілі намесніку дзяржаўцы староства прывесці ў добры стан рынкавую плошчу, забудаваную бессістэмна. Рэкамендавалася зрабіць яе новую перапланіроўку, каб дамы на ёй былі пабудаваныя ў адну лінію, а не выходзілі адзін наперад другога (НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3981, арк. 4-5).

Захады, зробленыя Радзівіламі, далі свой плён. Інвентар Крычава 1747 г. — адзіны, які дае пэўнае ўяўленне пра планіроўку горада, — малюе нам горад з развітой планіровачнай сістэмай.

Крычаў сярэдзіны XVIII ст. меў тры раёны. Цэнтр горада, як і раней, размяшчаўся паміж Забялышчынскім ручаём і рэчкай Крычаўкай. У гэтай частцы знаходзіўся замак, які заставаўся ваенным цэнтрам горада. Ад замка вялі дзве вуліцы — Замкавая і Чэрыкаўская. Замкавая вуліца выводзіла на рынак. На ей акрамя жылых дамоў, у значнай частцы якіх размяшчаліся шынкі, з правага боку находзіліся 8 крамаў. Шырыня вуліцы дасягала 5 прэнтаў (24,35 м). Тэта было выклікана тым, што вуліца мела трохрадавую забудову. Акрамя звычайнай забудовы з двух бакоў вуліца Замкавая мела яшчэ адну лінію, якая ішла паміж яе правым і левым бокам. Яна выконвала ролю своеасаблівага склада, бо на ёй у тры рады месціліся 28 амбараў і крамаў, адзін жылы дом і некалькі пустых пляцаў. Акрамя гэтага, на Замкавай вуліцы знаходзілася і замкавая вазоўня (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 19-20).

Чэрыкаўская вуліца, мяркуючы па назве, вяла ў бок горада Чэрыкава. Яна, верагодна, ішла ўздоўж рова, па якім працякаў Забялышчынскі ручай, і ў канцы злучалася са Слабадской вуліцай. На плане горада 1778 г. у гэтым месцы паказаны мост праз стаў на Забялышчынскім яры. Акрамя Слабадской на Чэрыкаўскую вуліцу выходзіла Латынская вуліца; тры невялікія завулкі выводзілі з Чэрыкаўскай вуліцы ў бок Забялышчынскага яра.

Згодна з інвентаром у горадзе ў тэты час сфарміраваўся і другі цэнтр, які стаў не толькі яго новым адміністрацыйным, але і другім планіровачным ядром. У яго ролі выступала рынкавая плошча памерамі 12х13 прэнтаў — 63,3х58,4 м — 3696 кв. м (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 21 — 22). Менавіта яна становіцца тым ядром, ад якога адыходзяць у розныя бакі шматлікія вуліцы (мал. 40).

На плане Крычава 1778 г. рынак размешчаны па-над Сожам, на паўночны захад ад Замкавай тары, у раёне сучасных вуліц імя Леніна, Пралетарскай, Кааператыўнай. Улічваючы адсутнасць якіх-небудзь значных падзей у гісторыі горада паміж 1744 і 1778 гг., якія б маглі прывесці да перапланіроўкі Крычава, верагодна, гэты раён трэба разглядаць і як цэнтр горада ў сярэдзіне XVIII ст.

Сама рынкавая плошча была свабоднай ад забудовы і складалася з чатырох частак (кватэр). Заходнюю «кватэру» рынка, згодна з інвентаром горада, займаў комплекс царквы Св. Параскевы Пятніцы з могілкамі і шпіталем. Знаходжанне на рынку царквы Св. Параскевы Пятніцы было даволі распаўсюджанай з'явай, бо менавіта гэтая святая і Св. Мікола Мірлікійскі лічыліся заступнікамі гандлёвай справы і апекунамі купцоў і вандроўнікаў (Мокеев Г. Я., 1975. С. 9; Бубенько Т. С., 1996. С. 45). На паўночным баку рынка інвентар адзначае недабудаваную карчму і 6 дамоў. З астатніх бакоў рынка стаялі толькі жылыя дамы. Амаль ва ўсіх былі шынкі.

Акрамя Замкавай ад рынка адыходзілі яшчэ 7 вуліц: Броварная, Бочкава, Пятніцкая, Рыжкова, Дрыбінская, Юр'еўскі Паракоп, Жыдоўская.

Адной з галоўных планіровачных ліній горада, якая вяла ад рынка за межы горада і ад якой адыходзілі ў розныя бакі другія вуліцы, была Дрыбінская вуліца. Інвентар горада 1747 г. інфармуе, што яна адыходзіла ад паўночнай «кватэры» рынка. Але ў дадзеным выпадку мы сустракаемся з памылкай складальніка інвентару, бо калі б Дрыбінская вуліца вяла на поўнач, то яна даволі хутка вывела б нас да Сожа. У інвентары ж гаворыцца, што Дрыбінская вуліца заканчваецца пры гарадскіх палях. Таму, на наш погляд, Дрыбінскую вуліцу трэба шукаць на захад ад рынка. Яна павінна была выводзіць на захад ад горада і ісці ў накірунку Дрыбіна. Гэтую думку пацвярджае і «Рэвізія трактаў ваяводства Мсціслаўскага» 1765 г., згодна з якой дарога з Крычава ў Дрыбін ішла праз вёскі Дарлівая, Камароўка (ДГА Літвы, ф. ДА, воп. 1, адз. зах. 3810, арк. 76).

Як паведамляе інвентар 1747 г., з правага боку ад Дрыбінскай вуліцы адыходзіла Шахраева вуліца, а з левага — яшчэ дзве вуліцы: Грынёва і Гуменная. Адносна таго, дзе заканчваецца Шахраева вуліца, у інвентары, верагодна, таксама блытаніна: у ім адзначаецца, што правы бок вуліцы заканчваецца над Забялышчынскім ярам, а левы — над «рэчкай Крычаўкай, насупраць гарадзішча старога» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 23 — 24). Мажа, у дадзеным выпадку складальнік інвентару дае апісанне вуліц, якія адыходзяць ад Дрыбінскай вуліцы не ад рынка, а з боку гарадскіх ускраін. Тады інвентарнае апісанне горада супадае з планам 1778 г.

На плане горада 1778 г. мы сапраўды бачым вуліцу, якая адыходзіць на захад ад рынка, — Дрыбінскую. З правага боку ад яе адыходзіць вуліца, якая вядзе ў бок рэчкі Крычаўкі, далей праз стаў на рэчцы, паўз гарадзішча Гарадзец выводзіць на мсціслаўскую дарогу. Гэтую вуліцу, верагодна, і трэба разглядаць як Тахраеву вуліцу.

З левага боку ад вуліцы, што вяла на захад (Дрыбінскай), адыходзяць дзве вуліцы ў бок Забялышчынскага яра — Грынёва і Гуменная. Апошняя, згодна з апісаннем інвентару, не забудаваная, на ей размяшчаліся пустыя пляцы месцічаў. Яна выводзіла на вуліцу, што ішла з «места». На плане горада 1778 г. мы таксама бачым, што самая заходняя вуліца горада каля Забялышчынскага яра спалучаецца з другой вуліцай. Такім чынам, верагодна, самую заходнюю вуліцу, адзначаную на плане Крычава 1778 г., можна атаясамліваць з Гуменнай вуліцай інвентару 1747 г. А аналіз інвентару і плана горада 1778 г. паказвае, што ў сваей аснове планіровачная структура Крычава, зафіксаваная на плане 1778 г., начала фарміравацца яшчэ ў першай палове стагоддзя (мал. 40), што ў сваю чаргу для рэканструкцыі забудовы Крычава сярэдзіны XVIII ст. дазваляе карыстацца планам горада 1778 г.

Паміж Чэрыкаўскай і Дрыбінскай вуліцамі з рынка ішоў яшчэ адзін радыус — вуліца Юр'еўскі Перакоп, якая атрымала такую назву з-за таго, што на ей размяшчаўся храм

Св. Юрыя і «пад час апошняй вайны маскоўскай (1654 — 1667 гг.) тут быў закладзены шанец» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 33). Каля храма Св. Юрыя быў дом свяшчэнніка Юр'еўскага са школай. Дзе заканчвалася вуліца, дакладна невядома, але вядома, што да яе прымыкала Грынёва вуліца.

З рынка ў бок Чэрыкаўскай ішла Жыдоўская вуліца, на якой была «школа жыдоўская» — сінагога. У бок рэчкі Крычаўкі з рынка вяла Рыжкова вуліца. З рынкавай плошчы ў накірунку замка выходзіла Броварная вуліца, якая ішла над замкавым ровам. З рынка выводзіла і Бочкава вуліца. Яна вяла на выган, што месціўся пад замчышчам на беразе Сожа. На пачатку Бочкавай вуліцы стаяла Уваскрасенская царква са званіцай.

Найбольшыя цяжкасці сустракаюцца пры спробе лакалізацыі Пятніцкай вуліцы. Яна выходзіла з рынка і заканчвалася пры млыне на рэчцы Крычаўцы. Вуліца атрымала сваю назву ад Пятніцкай царквы, што стаяла, згодна з інвентарным апісаннем горада, на заходнім баку рынка. Аднак аналіз інвентару горада дазваляе меркаваць, што Пятніцкая царква знаходзілася на ўсходнім баку рынка, бо Пятніцкая вуліца адыходзіла ад Бочкавай, якая вяла на выган пад замкам — на паўднёвы ўсход. Яна, верагодна, ішла над Падбярэжнай вуліцай, прыкладна па трасе сучаснай Пралетарскай вуліцы. Злева ад яе ў накірунку рынка адыходзіла вуліца Раства, на пачатку якой стаяла аднайменная царква. З правага боку Пятніцкай вуліцы інвентар 1747 г. адзначае новапабудаваны фарны касцёл. Далей вуліца ішла, верагодна, уздоўж рэчкі Крычаўкі і заканчвалася каля млына.

У Крычаве было яшчэ некалькі вуліц, якія немагчыма зараз дакладна лакалізаваць: Лычова, што пярасякала Пятніцкую і вяла да Сожа, Парасятнікаў, Сіманаўская, Ганчарная. Інвентар згадвае таксама некалькі безыменных завулкаў і папярэчных вуліц.

Па-над Сожам, пад рынкам, ад замка ў накірунку рэчкі Крычаўкі ішла Падбярэжная вуліца. Гэты раён горада яшчэ у XVII ст. быў вядомы пад назвай «падол».

У цэнтральнай частцы Крычава ў 1747 г. размяшчаўся 501 пляц, з якіх 319 былі забудаваныя. Астатнія стаялі пустымі альбо былі занятыя агародамі. Акрамя таго, звесткі пра характар выкарыстання некаторых пляцаў адсутнічаюць.

Уяўленне пра планіроўку цэнтральнай часткі Крычава ў канцы XVIII ст. дае план Крычава 1778 г. Калі раней у горадзе былі два кампазіцыйныя цэнтры, вакол якіх і фарміравалася планіровачная структура горада — замак і рынкавая плошча, то зараз на плане Крычава выразна вылучаецца яшчэ адзін цэнтр — плошча, а на ёй «школа жыдоўская». Яна размяшчалася прыкладна ў раёне перасячэння сучасных вуліц імя Леніна і Студэнцкай. Крыху на ўсход ад яе знаходзілася царква Св. Георгія (Юр'еўская). Але галоўным цэнтрам горада ў гэты час быў рынак і прылеглая да яго з поўначы плошча. На рынку размяшчаліся ратуша і гандлёвыя рады. На плошчы знаходзіліся праваслаўныя храмы Параскевы Пятніцы і Уваскрасенская; вуніяцкая Раства Багародзіцы і каталіцкі касцёл. Менавіта гэты раён горада канчаткова становіцца цэнтрам, да якога цягнуцца ўсе гарадскія вуліцы.

Другой значнай часткай горада быў Забялышчын. У сярэдзіне XVIII ст. гэта быў ужо даволі вялікі раён Крычава, у якім пачала фарміравацца свая планіровачная структура.

Планіровачная аснова раёна — Спаская вуліца (сучасная вуліца імя Сірацініна альбо паралельная ёй), якая ішла праз увесь раён. У пачатку яе з левага боку размяшчаліся могілкі. На плане горада 1778 г. бачна, што своеасаблівым планіровачным цэнтрам Забялышчынскага пасада была Спаская царква, якая стаяла на левым баку вуліцы, прыкладна ў 80 м ад яе пачатку. Ад яе ў розныя бакі разыходзіліся вуліцы.

Галінаабразная планіроўка, прасочваемая на плане, верагодна, існавала ўжо ў сярэдзіне XVIII ст. Ва ўсялякім выпадку, менавіта такая планіровачная структура Забялышчынскага пасада пададзена ў інвентары горада 1747 г. У бок Сожа ад Спаскай вуліцы адыходзілі чатыры невялікія безыменныя завулкі, у правы бок — таксама два безыменных завулка і дзве вуліцы — Росіна і Карэцкага. Усяго ў 1747 г. на Забялышчыне было 154 пляца, з якіх 89 — забудаваны (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 36 — 40). Як адзначана на плане Крычава 1778 г., на Забялышчыне было 7 вуліц і завулкаў.

Трэці гарадскі раён — Загарадзішча — размяшчаўся за рэчкай Крычаўкай, на тары з левага боку ад уезду з боку Мсціслава — раён сучасных вуліц Камсамольскай, Каінава. Яго планіровачная структура лінейная. Тут мелася 69 пляцаў (21 быў забудаваны дамамі), падзеленых на тры лініі. Першая, разам з царквой Прачыстай Багародзіцы, размяшчалася каля гарадзішча Гарадзец. Другая лінія разам з царквой Св. Іллі ішла ад става на р. Крычаўцы. Трэцяя цягнулася ад млына на р. Крычаўцы ў бок Сожа (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 40 — 42). На плане горада 1778 г. у гэтым раёне Крычава выразна відаць адна вялікая

вуліца, якая ішла прыблізна па трасе сучаснай вуліцы Каінава. На астатняй частцы гэтага раёна сістэма забудовы не прасочваецца. Як і раней, тут функцыянiравалі дзве царквы — уніяцкая Св. Іллі, якая стаяла над Сожам, і праваслаўная Прачыстай Багародзіцы каля Гарадца.

Такім чынам, у сярэдзіне XVIII ст. у Крычаве было 724 пляцы (429 былі забудаваныя). Фактычна горад нават на тэты час не дасягнуу той колькасці жылых дымаў, якія ён меў напярэдадні Паўночнай вайны 1700—1721 гг. Больш познія інвентары Крычаўскага староства не ўтрымліваюць ніякіх звестак пра планіроўку Крычава, і таму немагчыма вызначыць, якія змены адбываліся ў тапаграфічнай структуры горада ў другой палове XVIII ст.

Вывучэнне планавай кампазіцыі цэнтральнай часткі Крычава сярэдзіны XVIII ст. паказвае, што планіроўка горада у гэты час была галінападобнай. Ад двух апорных цэнтраў — замка і рынка — адыходзілі ў розныя бакі вуліцы-радыусы. Складванню радыяльнай сістэмы планіроўкІ горада садзейнічала патрэбнасць захавання ў межах горада дарог, якія адыходзілі ў розныя бакі з яго цэнтраў. У той жа час інвентар 1747 г. сведчыць, што планавая структура горада ўжо вырасла за рамкі проста радыяльнай. У горадзе ўсё больш актыўна пачынае фарміравацца галінападобная структура забудовы, узнікненню якой садзейнІчала функцыянальная патрэбнасць прайсці кароткім шляхам з ваколіц горада да гандлёвай плошчы і адміністрацыйнага цэнтра (Мокеев Г. А., 1976. С. 5). Галінападобную планіроўку пачалі атрымліваць і другія гарадскія раёны — Забялышчын і Загарадзішча.

## § 3. Культавыя пабудовы

Сярэднявечча нельга ўявіць сабе без рэлігійнага жыцця. Яно з'яўлялася арганічнай часткай паўсядзённай дзейнасці чалавека. Цэрквы, касцёлы, сінагогі былі своеасаблівай візітоўнай карткай гэтай эпохі, якая застаецца амаль недаследаванай галіной культурнай спадчыны. Рэлігія ў сярэднявеччы прасяквала ўсе сферы жыцця чалавека, і апасрэдавана мела вялікі ўплыў на ўзаемадачыненні і жыццё ўнутры горада.

Першыя звесткі аб распаўсюджванні хрысціянства ў наваколлях Крычава мы атрымліваем з курганных пахаванняў. Радзіміцкія курганныя могільнікі з пахаваннямі па абрадзе трупаспалення, якія, верагодна, можна аднесці да канца X — пачатку XI ст., сустракаюцца каля паселішча X —XI стст., размешчанага ў пойме Сожа, у наваколлях г. Клімавічы (Раскопки.., 1910. С. 239 — 243). Аднак яшчэ да сярэдзіны XII ст. перажыткі паганства прасочваюцца ў курганах радзімічаў. Пра гэта сведчаць захаваныя рытуальныя вогнішчы ў курганах, багаты інвентар пахаванняў, знойдзеныя паганскія амулеты-падвескі. У той жа час у радзіміцкіх пахаваннях амаль адсутнічаюць крыжыкі.



Мал. 41. Гарадзішча Замкавая гара. Энкалпіён

Да перажыткаў язычніцтва можна аднесці і наяўнасць адначасова «нармальнай» вышыні (ад 100 см і вышэй) кургана з пахаваннямі на гарызонце ў нешырокіх і неглыбокіх падкурганных ямах. На думку Е. А. Шынакова, у глыбінных раёнах зямлі радзімічаў пераход да хрысцыянскіх бескурганных могільнікаў адбываўся даволі хутка (Шинаков Е. А., 1992. С. 47-48).

Верагодна, больш актыўнае распаўсюджванне хрысціянства ў зямлі радзімічаў у другой палове XII —XIII ст. было звязана з уключэннем гэтых зямель у склад Смаленскага княства і арганізацыяй у апошняй самастойнай епархіі. Ужо ў Статуце 1136 г. Расціслава Мсціславіча гаворыцца, што Кречют, у якім даследчыкі бачаць сучасны Крычаў, плаціў на карысць епіскапіі даніну памерам у адну грыўню (Древнерусские.., 1976. С. 143).

Праз некалькІ дзесяцігоддзяў, у другой палове XII — пачатку XIII ст. (Алексеев Л. В., 1980. С. 25; Янин В. Л., 1994. С. 118) побач з Крычавам, у Мсціславе, ужо служыў епіскап, пра што сведчыць згадванне Мсціслава ў гра-

маце «Аб пагароддзі і пачэсціі». Безумоўна, служба епіскапа ў горадзе прадугледжвала наяўнасць хрысцІянІзаванага насельніцтва не толькі ў ім самім, але і ў яго наваколлях.

Безумоўна, на паселішчы, пабудаваным з дапамогай княскай улады, павінен быць хрысціянскі храм. Таму, Мікольская царква, якая існуе сёння і згадвалася ў крыніцах XVII — XVIII стст. на Замкавай гары, верагодна, бярэ свой' пачатак з часоў пабудовы ўмацаванага паселішча і з'яўляецца першым крычаўскім храмам.

Першыя бясспрэчныя сведчанні хрысціянізацыі насельнйцтва Крычава адносяцца толькі да XIV —XV стст. У культурным слоі дзядзінца разам з керамікай XV ст. і гаршковападобнай кафляй з квадрыфольным вусцем быў знойдзены крыж-энкалпіён (мал. 41). Ён мае памеры 6,5х5,5 см і, верагодна, з'яўляецца паўторнай адліўкай у глінянай форме, адціснутай, у сваю чаргу, з гатовага крыжа. Пра тэта сведчыць той факт, што выявы святых і распяцце на вонкавай паверхні недастаткова выразныя. Адваротны бок крыжа моцна пашкоджаны карозіяй, таму ідэнтыфікаваць яе немагчыма. Па сваей форме і сюжэту вонкавай паверхні крычаўскі крыж-энкалпіён вельмі падобны на крыжы з надпісамі, шырока распаўсюджаныя з 40-х гадоў XIII ст. (Алексеев Л. В., 1974. С. 212. Рис. 2:4, 5).

Другім артэфактам, які пацвярджае факт распаўсюджання хрысціянства сярод жыхароў Крычава, з'яўляецца фрагмент меднага двухбаковага крыжа з абламанымі верхняй і ніжняй часткамі (мал. 42). На пярэдняй частцы крыжа, у сярэдзіне, — распяцце Хрыста, на баках выявы Маці Боскай з надпісам (Мр), Іаана Багаслова (Iwa) і, магчыма, Марыі Магдалены I Логіна-сотніка. На адваротным баку ў сярэдзіне — прарок Ілля, а на канцах — па двое святых з неразборлівымі надпісамі. Крычаўскі крыж вельмі падобны на крыж, апублІкаваны Б. І. і В. І. Ханенка, і на энкалпіён з Княжай гары (Ханенко Б. И., Ханенко В. И., 1899. Табл. XII, 140; Археология. Древняя Русь, 1997. Табл. 104:19). М. А. Ткачоу стратыграфічна датаваў крыж XII —XIII стст., аднак В. Р. Пуцко лічыць, што крыж, мяркуючы па стылістыцы выканання, датуецца XIV — XV стст.

Прыкладна ад гэтага часу — пачатку XV ст. — з'яўляюцца на старонках пісьмовых крыніц і крычаўскія храмы. Магчыма, у горадзе, у першую чаргу на яго замку, існавала драўляная царква, але звесткі пра яе не захаваліся, а археалагічна яе рэшткі таксама не прасочваюцца.



Мал. 42. Гарадзішча Замкавая гара. Крыж

На сённяшні дзень існуе агульнапрынятая думка, што найбольш ранняй крычаўскай царквой з'яўляецца Іллінская. Бытуе паданне, што яе будаўніцтва звязана з цудоўным выратаваннем ад тапельства вялікай княгіні Алены. Гэта адбылося на дзень Св. Іллі і таму вялікі князь Казімір Ягелончык загадаў пабудаваць па берагах розных рэк у Вялікім княстве Літоўскім шэсць цэркваў у гонар Св. Іллі. Адну з іх узвялі ў Крычаве. Традыцыйна гэтую падзею адносяць да 1447 г. (Записки.., 1867. С. 2).

Аднак у гэтае паданне ўкраліся храналагічная і гістарычная памылкі. Вялікая княгіня Алена Іванаўна была жонкай вялікага князя Аляксандра (1495—1506 гг.), а не Казіміра Ягелончыка. Таму і Іллінская царква была пабудавана не раней за гэтыя гады.

Іллінская царква праз увесь час атрымлівала падтрымку з боку крычаўскіх дзяржаўцаў. Так, Канстанцін Шалуха, дзяржаўца Крычаўскі і Лучыцкі, надаў святарам гэтай царквы бортныя землі, названыя «Окуловщизна» і «Козаковшизна». Таксама ім былі падараваны Іллінскай царкве два перавозы праз Сож; адзін размешчаны непасрэдна каля царквы, а другі знаходзіўся на Алучыцкай дарозе. Акрамя таго, ад яго ж Іллінская царква атрымала сенажаці і месцы для рыбнай лоўлі.

I ў далейшым вялікія князі і крычаўскія дзяржаўцы таксама час ад часу давалі Іллінскай царкве розныя наданні. Так, у 1569 г. Стэфан Баторы надаў царкве «отчыну» Караба-

невскую, два возеры і пацвердзіў правы на два перавозы. Усе гэта было пацверджана каралём і вялікім князем Жыгімонтам Вазам у 1628 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 14).

Найбольш ранняя вядомая крычаўская царква — Спаская. Згадваецца яна ў крыніцах XVI — XVIII стст. на Забялышчынскім пасадзе. У прывілеі, дадзеным 6 лютага 1587 г. Раману Стратановічу, гаворыцца, што крычаўская царква Св. Спаса была пабудавана дзякуючы кіеўскаму мітрапаліту Ісідору (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 72, арк. 15 — 16). Мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі Ісідор вядомы ў сярэдзіне XV ст. (1437-1441 гг.) і знаходзіўся ў ВКЛ, толькі на працягу шасці месяцаў, са жніўня 1440 г. (Галенчанка Г. Я., 1996. С. 504-505). Таму дату ўзвядзення Спаскай царквы ў Крычаве можна абмежаваць другой паловай 1440 — пачаткам 1441 г.

Пасля гэтага інфармацыя пра Спаскую царкву на доўгі час знікае. Толькі ў сярэдзіне 60-х гадоў XVI ст. у Крычаве згадваецца «спаскі поп Сиваконъ Длатовичъ» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 37, арк. 524—525). Потым царква ўпамінаецца 3 лютага 1576 г., калі згодна з прывілеем караля Стэфана Баторыя ў ёй служыў Раман Стратановіч. Тады ж ён атрымаў пацвярджэнне на зямлю пры сяле Міхеевічы, якая здаўна належала царкве Св. Спаса, і на царкоўны пляц у горадзе (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 74, арк. 56 адв. — 57). Акрамя таго, прывілеем ад 6 лютага 1587 г. Стэфан Баторы надаў пацвярджэнне на царкоўную пустаўшчыну Ляскоўшчыну пры Міхеевічах, пажалаваў на Спаскую царкву склад воску і кожны год на свята Св. Спаса 12 пудоў мёду (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 72, арк. 15—16).

Наяўнасць на процілеглых канцах Крычава сярэдзіны XV — пачатку XVI ст. — на Забялышчыне і каля Гарадца — дзвюх цэркваў дазваляе сцвярджаць, што існавалі храмы і ў цэнтральнай частцы горада. Як мінімум, у гэты час была царква на дзядзінцы — Замкавай тары і 1 — 2 царквы — на пасадзе, размешчаным паміж Забялышчынскім ручаём і Крычаўцам. Верагодна, на пачатку XVI ст. у горадзе было 5 — 6 цэркваў.

У сярэдзіне 60-х гадоў XVI ст. у Крычаве згадваецца царква Св. Юрыя. Захаваўся ліст вялікага князя да крычаўскага дзяржаўцы А. Б. Шалухі аб выдзяленні «на выхованне» папу царквы Св. Юрыя ў Крычаве Саве Кандратовічу 2 валок зямлі. Сава Кандратовіч адначасова служыў у двух крычаўскіх храмах — Юр'еўскім і Іллінскім (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 37, арк. 524 — 525). Іллінскую царкву С. Кандратовіч, верагодна, атрымаў у 1568 г. Ва ўсялякім выпадку, 10 лістапада 1568 г. вялікі князь Жыгімонт-Аўгуст пагадзіўся даць па просьбе крычаўскага дзяржаўцы К. А. Шалухі нейкаму крычаўскаму папу Саве Іллінскую царкву, якая «в пусте стоит» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 49, арк. 39 адв.). На пачатку 1587 г. С. Кандратовіч звярнуўся да караля і вялікага князя Стэфана Баторыя з лістом, у якім паведамляў, што з-за старасці не можа больш служыць службу, і таму прасіў, каб вялікі князь аддаў тыя цэрквы ягонаму сыну Нікіфару. Стэфан Баторы задаволіў просьбу Савы Кандратовіча і аддаў абедзве царквы Нікіфару Кандратовічу «до живота, со всими кгрунтами» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 72, арк. 24).

У другой палове XVI ст. у горадзе ўжо была і царква Св. Параскевы Пятніцы, на якую даніны давалі яшчэ крычаўскія дзяржаўцы Мікалай Служка і Багдан Саламарэцкі (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 15). У тэты ж час існавала і царква Раства Хрыстова, на якую ў 1566 г. давалі фундуш Дзядзеркі-Тураўскія. Святаром у ей на той час служыў Васіль Сямёнавіч Цітовіч (ИЮМ, 1900. С. 123-126).

У маі 1577 г. кароль Жыгімонт Ваза падараваў крычаўскім мяшчанам права на «две склада мёду» па дзесяць пудоў у год. Адну «складь» дазвалялася «разсыціць» на Раство Хрыстова, а другую — на свята Св. Міхаіла. Грошы, атрыманыя ад продажу «разсычанага» мёду, павінны былі ісці на аздабленне крычаўскіх цэркваў, воск з мёду на царкоўныя патрэбы (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 74, арк. 277 адв.). Гэтыя ж правы пацвярджаліся каралём Жыгімонтам Вазам у 1588 і ў 1592 гг. (АЗР, 1851. С. 56-57, № 39).

У канцы XVII ст. (1694 г.) горад меў 8 цэркваў — Св. Мікалая ў замку, Св. Спаса на Забялышчыне, Св. Іллі, Св. Юрыя, Св. Параскевы Пятніцы, Раства Хрыстова, Уваскрасенская царква і Узнясення дзевы Марыі (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 31—32).

З пералічаных цэркваў прыцягвае ўвагу найперш назва апошняй — Узнясення дзевы Марыі. Царкоўны дагмат аб узнясенні дзевы Марыі існуе толькі ў каталіцкай царкве. Таму перад намі альбо уніяцкая царква, альбо, што найбольш верагодна, касцёл. Але пра гэта гаворка будзе ісці ніжэй.

Асобныя інвентары паведамляюць пра існаванне «рускіх школ» пры праваслаўных храмах. Так, у 1682 г. яна была на Бочкавай вуліцы пры Уваскрасенскай царкве, у 1747 г. ' — пры царкве Св. Юрыя (НГАБ, кмф-5, воп. 1,

адз. зах. 1926, арк. 6; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 33).

Да канца XVIII ст. большасць цэркваў у Крычаве заставаліся ў лоне праваслаўя і толькі адзінкавыя храмы перайшлі ў унію.

У 1596 г. была падпісана Брэсцкая царкоўная унія. Кароль Жыгімонт Ваза, прыхільнік каталіцызму, актыўна садзейнічаў распаўсюджванню уніі на землях ВКЛ. Крыніцы неаднаразова фіксуюць факты прымусовага пераводу праваслаўных храмаў у падпарадкаванне іерархаў, якія прынялі унію. Не абмінуў гэты працэс і Крычаў, дзе частка цэркваў перайшла да уніяцтва.

Так, у 1602 г. кароль Жыгімонт III пацвердзіў прывілей крычаўскага і лучыцкага старасты Багдана Саламарэцкага крычаўскаму папу Сцяпану Бенядзіктовічу на царкву Св. Спаса на Забялышчыне, на якую ён быў уведзены мітрапалітам кіеўскім Міхаілам Рагозам (з 1596 г. уніяцкі мітрапаліт) (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 85, арк. 194 адв.). У 1604 г. за рэчкаю Крычаўкай каля гарадзішча Гарадзец згадваецца царква «Светой Пречистой» — Багародзіцы. Права на вядзенне ў ёй службы прасіў у караля святар крычаўскі Навум Лук'янавіч. Ён спасылаўся на тое, што раней у гэтай царкве служыў ягоны бацька Лук'ян. Кароль Жыгімонт Ваза дазволіў яму служыць у царкве «да жывата» — пажыццёва і браць на сябе даходы з царквы. Дазваляючы служыць службу ў царкве «водлуг веры руское», кароль загадваў Навуму Лук'янавічу падпарадкавацца тым царкоўным іерархам, якія «во единоцтве с костолом католицкимъ под звирхностию столицы найвызшое апостолское рымское были» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 88, арк. 97 адв.).

На пачатку 1605 г. уніяцкай была ўжо і царква Св. Мікалая, што стаяла ў замку. У ёй служыў Іона Бенядзіктовіч, пастаўлены на службу Іпаціем Пацеем — архіепіскапам, мітрапалітам кіеўскім, галіцкім і «всея Руси». Кароль Жыгімонт Ваза пацвердзіў яму права на службу ў гэтым храме, пры ўмове знаходжання «в единстве з кастёлом Рымским» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 176, арк. 863 — 864). У 1609 г. Бенядзіктовіч прасіў караля дазволіць перадаць права на службу свайму сыну Васілю. Кароль пагадзіўся задаволіць яго просьбу пры ўмове, што Васіль будзе знаходзіцца «под послушенством велебного митрополита киевского, пастыря своего» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 86, арк. 738 адв.).

У 1610 г. крычаўскай Уваскрасенскай царквой апекаваўся Полацкі (уніяцкі) мітрапаліт (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 176, арк. 870). У 1623 г. згадваюцца як уніяцкія крычаўскія цэрквы Узнясення Хрыстова і Святой Прачыстай. У першай было два прыдзелы: адзін у гонар Св. Кузьмы і Дзям'яна, а другі — у гонар Св. Афанасія. Прывілей на гэтыя цэрквы быў атрыманы Мікітам Андрэевічам Стратаповічам ад мітрапаліта Галіцкага і ўсяе Русі І. Руцкога (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 100, арк. 8 адв. — 9 адв.).

Улічваючы, што нават у Магілёве на пачатку XVII ст. былі зачынены ўсе праваслаўныя цэрквы (Записки игумена.., 1862. С. VII), нельга выключыць, што і астатнія крычаўскія цэрквы не абмінулі прымусовага пераводу ў унію.

Пасля смерці Жыгімонта Вазы новы кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV пачаў праводзіць больш памяркоўную палітыку ў дачыненні да праваслаўных. Так, у 1636 г. Полацкая уніяцкая епархія была падзелена паміж двума іерархамі. Уніяцкія іерархі сядзелі ў Полацку, а для праваслаўных была нанова арганізавана епархія ў Магілёве — іменавалася Магілёўская, Мсціслаўская і Аршанская.

З узнаўленнем праваслаўнай епархіі пачаўся выхад цэркваў з падпарадкавання уніяцкім іерархам. Магчыма, тады і крычаўскія цэрквы вярнуліся ў праваслаўную епархію. Ва ўсялякім выпадку, пад час пераходу Крычава пад уладу Рускага царства (1654 г.), прысягу на вернасць цару Аляксею Міхайлавічу прымала праваслаўнае і каталіцкае насельніцтва горада, а пра прыхільнікаў уніі нічога не згадваецца (Белоруссия в эпоху.., 1960. С. 96 — 97).

Пасля вайны 1654 — 1667 гг. доўгі час адсутнічаюць звесткі аб наяўнасці ў горадзе уніяцкіх храмаў. З канца XVII — пачатку XVIII ст. крыніцы фіксуюць новыя спробы актыўнага распаўсюджвання уніі на ўсходзе Рэчы Паспалітай. Прычым гэты працэс набіраў моц і насіў гвалтоўны характар. Так, ужо на пачатку 40-х гадоў XVIII ст. большасць праваслаўных цэркваў Мсціслаўскай пратапопіі была пераведзена ў унію. Такі ж працэс ішоў і ў Крычаўскай пратапопіі.

У 20-я гады XVIII ст. крыніцы змяшчаюць факты прымусовага пераводу крычаўскіх цэркваў у унію. Так, у 1725—1727 гг. у Крычаўскага (Вохарскага) манастыра сілаю адабралі цэрквы. За тое, што праваслаўныя святары адмаўляліся пераходзіць у унію, іх збівалі, саджалі ў турмы (Бантыш-Каменский Н. Н., 1805. С. 426-427, 430).

Асабліва гэты працэс узмацніўся ў 40-я гады XVIII ст. Так, святар крычаўскай царквы Св. Параскевы Пятніцы Аляксандр Цітовіч, які

першапачаткова падтрымаў паўстанне пад кіраўніцтвам Вашчылы, жадаючы пазбегнуць пакарання, паехаў да смаленскага уніяцкага епіскапа і там прыняў унію. Вярнуўшыся ў Крычаў, пачаў прымушаць сваю паству да пераходу ў унію. Яго намаганням садзейнічаў упраўляючы староства, які прымушаў прыхаджан наведваць богаслужэнне ў уніяцкім храме. Арандатар Крычаўскага замка забраў з Мікольскай праваслаўнай царквы царкоўнае начынне (Мараш Я. Н., 1974. С. 227-228; НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3713, арк. 33). Акрамя таго, актыўны ўдзел у пераводзе крычаўскіх цэркваў пад кіраўніцтва уніяцкага епіскапа прымаў і крычаўскі ксёндз Іллініч.

У 1745 г. крычаўскія цэрквы Раства Хрыстова і Іллінская былі пераведзены ў унію (Бантыш-Каменскйй Н. Н., 1805. С. 440), але заставаліся пад юрысдыкцыяй уніяцкіх святароў нядоўга. Пратэст, з якім звярнуўся да карали магілёўскі праваслаўны архіепіскап І. Ваўчанскі, верагодна, меў свой уплыў, і крычаўскі дзяржаўца Іеранім Фларыян Радзівіл быў вымушаны спецыяльным лістом забараніць упраўляючаму староствам гвалтоўна пераводзіць людзей у унію.

Верагодна, забарона Радзівіла (ИЮМ, 1888. С. 370—371) дазволіла адстаяць гэтыя цэрквы — Св. Параскевы Пятніцы, Раства Хрыстова і Іллінскую. Ва ўсялякім выпадку, царква Св. Параскевы Пятніцы адзначана як праваслаўная на плане горада 1778 г., а цэрквы Раства Хрыстова і Іллінская былі пераведзены ў унію толькі ў другой палове XVIII ст.

Новы этап пераводу крычаўскіх праваслаўных храмаў у унію пачаўся на пачатку 50-х гадоў XVIII ст. і зноў быў звязаны з дзейнасцю крычаўскага ксяндза Іллініча. Як піша М. М. Бантыш-Каменскі, у верасні 1751 г. ён звярнуўся з лістом да караля, у якім тэндэнцыйна падаў канфесійную сітуацыю ў Крычаўскім старостве. У выніку гэтага кароль выдаў прывілей, якім перадаваў у унію ўсе крычаўскія праваслаўныя храмы і астатнія 20 праваслаўных храмаў, якія на тот час заставаліся ў старостве (Бантыш-Каменский Н. Н., 1805. С. 321). Але, верагодна, гэтыя падзеі адбыліся некалькі раней, бо ўжо ў маі 1751 г. кароль Аўгуст III пацвердзіў усе наданні крычаўскім цэрквам, якія яны атрымалі на працягу XVI —XVIII стст., пры ўмове, што яны будуць знаходзіцца пад старшынствам полацкага уніяцкага мітрапаліта і Рымскага касцёла (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 176, № 665, 666, арк. 862-872).

Тэты гвалтоўны акт выклікаў вялікі міжнародны скандал. У абарону крычаўскіх праваслаўных вернікаў выступіў рускі пасол у Варшаве Кейзерлінг, у выніку чаго кароль даручыў разбірацца з гэтай справай падканцлеру ВКЛ князю Чартарыйскаму (Бантыш-Каменский Н. Н., 1805. С. 321-323).

Верагодна, і на тэты раз справа была вырашана на карысць праваслаўных, бо царква Раства Хрыстова была абернута ў унію толькі ў 1762 г. У яе прыход уваходзіў не толькі горад, але і мястэчка Гронаў (Геранімаў), вёскі Міхеевічы, Вепрын, Вушакі, Вахор, Сакольнічы, Хацілавічы, Рэчыца, Макаўё, Цыганава, Дарлівае, Гарбатка, Свіная, Глушкава, Зуі, слабодкі Прохараўка, Лешчынка, Гарадная і Ахорскі мужчынскі манастыр (ИЮМ, 1888. С. 146 — 149). Пад юрысдыкцыяй уніяцкага мітрапаліта яна заставалася да 1781 г., потым зноў стала праваслаўнай (Материалы для истории.., 1903. №1-2. С. 3).

Уніяцкай у другой палове XVIII ст. стала і царква Св. Іллі Прарока. Спроба перавесці яе ў унію ў 1751 г. закончылася няўдала, і толькі ў 1763 г. яна была падпарадкавана уніяцкім мітрапалітам (Мейер А., 1901. С. 103). На плане горада 1778 г. яна адзначана яшчэ як уніяцкая.

Адносна часу будаўніцтва каталіцкага храма ў Крычаве адсутнічаюць дакладныя звесткі. Звычайна сустракаецца інфармацыя, што першы касцёл тут быў пабудаваны паводле распараджэння каралевы Боны ў 1620 г. (Slownik geograficzny.., 1883. S. 793 — 794; Nasze koscioly, 1913. S. 94-96). Толькі ў А. С. Дэмбавецкага ёсць звесткі, што касцёл у Крычаве пабудаваны каралевай Бонай ў 1628 г. (Опыт описания.., 1884. С. 144). Але ж каралева Бона жыла ў першую палову XVI ст. і таму гэтая інфармацыя выклікае пэўны недавер, тым болей што візіты крычаўскага касцёла за 1805, 1841, 1842 гг. вядуць гісторыю гарадской каталіцкай святыні толькі ад 1745 г. (НГАБ, ф. 1781, воп. 26, адз. зах. 1387, арк. 92).

Між тым некаторыя назіранні сведчаць пра магчымасць узвядзення касцёла менавіта ў першай палове XVII ст. Падвязка будаўніцтва крычаўскага касцёла пад дзейнасць каралевы Боны, як адзначалася, не мае ніякіх падстаў. Саму ж дату будаўніцтва каталіцкага храма — 1620—1628 гг., на наш погляд, можна прыняць — тэта пацвярджаюць шматлікія ўскосныя дадзеныя.

Па-першае — тэта дазвол крычаўскім мяшчанам на дзве ярмаркі ў год, на якіх яны мелі права сычэння мёду. Згодна з каралеўскім прывілеям аб наданні гораду магдэбургскага права (1633 г.), воск, атрыманы пры сычэнні мёду, павінны былі дзяліць напалам. Адна палавіна ішла на карысць касцёла, а другая — на карысць царквы (ИЮМ, 1879. С. 309.). Тэта першы факт, які ўскосна сведчыць, што ў горадзе на той час ужо існавала каталіцкая святыня.

Далей. Пры пераходзе Крычава пад уладу рускага цара ў 1654 г. цар Аляксей Міхайлавіч загадаў прывесці да прысягі на вернасць усіх жыхароў горада — як праваслаўных, так і каталікоў (Белоруссия в эпоху.., 1960. С. 96—97), што яшчэ раз падкрэслівае наяўнасць у Крычаве ў першай палове XVII ст. жыхароў каталіцкага веравызнання, якія павінны былі мець сваю культавую святыню.

Але звесткі пра крычаўскі касцёл адсутнічаюць у сінодзе біскупа Сапегі 1669 г. (Biskupstwo Wilenskie.., 1912. S. 129-130, 467-469), хоць нельга выключыць, што ён быў знішчаны пад час захопу горада маскоўскімі войскамі ў сярэдзіне XVII ст. і да 1669 г. яшчэ не быў адроджаны.

У другой палове XVII ст. каталіцкі храм у Крычаве ўпершыню згадваецца ў інвентары горада 1682 г.: на замку, за царквой Св. Мікалая стаіць «зруб на касцёл» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 3). Што потым стала з гэтым зрубам, невядома. У інвентары 1694 г. ніякіх звестак няма ні пра сам касцёл, ні пра зруб для яго, а наступны больш-менш дакладны інвентар горада адносіцца толькі да 1747 г.

Аднак, як мы казалі вышэй, магчыма, менавіта касцёл хаваецца пад назвай царквы Узнясення дзевы Марыі ў інвентары горада 1694 г. І падставай для такіх думак з'яўляецца той факт, што ў рэестры касцёлаў Віленскай дыяцэзіі, паводле сінода біскупа Зенькевіча 1744 г., крычаўскі касцёл названы ў ліку іншых катал іцкіх храмаў Аршанскага дэканата (Biskupstwo Wilenskie.., 1912. S. 181).

Верагодна, месца касцёла было не зусім спрыяльнае і таму ў сярэдзіне XVIII ст. у горадзе пачалося будаўніцтва новага каталіцкага храма. Менавіта гэтая падзея адлюстравалася ў захаваных да нашых дзён візітах крычаўскага касцёла.

Першыя дакладныя пісьмовыя звесткі аб арганізацыі і будаўніцтве касцёла ў Крычаве адносяцца да 1745 г. 20 ліпеня гэтага года крычаўскі стараста Іеранім Радзівіл аддаў загад упраўляючаму крычаўскім староствам Паулу Цялецкаму выдзяліць пляцы пад будаўніцтва фарнага касцёла і плябані. Прычым Іеранім Радзівіл падкрэсліваў, што «земельный участок должен быть однакожъ не в близком положении от замка, чтобы, в случае, сохрани Бог, возникновения бунтов не было еще большей измены от костёла. Притом строго предупреждаю, чтобы самый участок никак не находился на которой либо горе, тем более на такой, которая образует другой угол Замковой горы» (ИЮМ, 1888. С. 391). Гэты загад быў выканаӧны ўжо да 26 жніўня. Пад фарны касцёл крычаўскаму ксяндзу Рэгінальду Іллінічу былі выдзелены 5 пляцаў агульным памерам 28,5 прэнта (ИЮМ, 1888. С. 392).

18 верасня 1745 г. у працэс арганізацыі крычаўскага касцёла актыўна ўключылася і каралева Марыя Юзэфа — магчыма, адсюль і ідзе блытаніна з удзелам у арганізацыі касцёла каралевы Боны. Каралева Марыя Юзэфа асобым фундушам для забеспячэння каталіцкага касцёла і плябані ў Крычаве наклала ў Дрэздэнскі банк 4000 талераў з дазволам штогод 8 снежня на свята «непарочнага зачацця дзевы Марыі», у гонар якой і быў узведзены крычаўскі касцёл, браць з гэтай сумы 1000 талераў.

Наданні на касцёл князя Радзівіла і каралевы Марьи Юзэфы былі пацверджаны каралём Аўгустам III, які, акрамя таго, у верасні 1746 г. дазволіў крычаўскаму плябану выбіраць з сялян Магілёўскай эканоміі добраахвотныя ахвяраванні на касцёл хлебам і воскам (ИЮМ, 1888. С. 358). Прычым ва ўсіх прывілеях падкрэсліваецца, што пажалаванні даюцца на «нанова» заснаваную плябанію і касцёл.

Усе тэта яшчэ раз падкрэслівае, што каталіцкая святыня ў Крычаве не была навіной. Прывілеі князя Радзівіла і каралевы Марыі Юзэфы толькі аднавілі духоўнае жыццё горада і яго наваколляў каталіцкага веравызнання.

Ва ўсялякім выпадку, у інвентары 1747 г. у Крычаве згадваецца касцёл, размешчаны ў канцы Пятніцкай вуліцы. Касцёл і яго плябань займалі пляц зямлі ў 9 прэнтаў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 24). Верагодна, тэта і быў касцёл, пазначаны ў сінодзе біскупа Зянькевіча 1744 г.

Адначасова ў інвентары адзначаецца, што на рагу рынка і вуліцы «Ражэственскай» у 1747 г. будуецца новы фарны касцёл. Пад касцёл і плябань адводзіліся 5 гарадскіх пляцаў агульным памерам 23 прэнта (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 24, 27). Гэта, верагодна, і ёсць тая самая каталіцкая святыня, на якую далі фундушы каралеўская сям'я і князь Іеранім Радзівіл. Касцёл быў пабудаваны з дрэва, стаяў на каменным падмурку, меў дзве вежы і дах, крыты гонтам (НГАБ, ф. 1781, воп. 26, адз. зах. 1387, арк. 94).

Што потым стала са старым касцёлам, крыніцы не паведамляюць. Магчыма, ён быў разабраны. Ва ўсялякім выпадку, на плане Крычава 1778 г. паказаны толькі адзін каталіцкі храм.

Калі ў Крычаве ўпершыню з'явіліся яўрэі, дакладна невядома. Пісьмовыя крыніцы бясспрэчна сведчаць пра іх жыццё ў горадзе толькі

пачынаючы з канца XV ст., але значна больш крыніц пра іх захавалася з пачатку XVII ст.

Яўрэі згадваюцца ў прывілеі 1634 г., які пашыраў магдэбургскае права горада (ИЮМ, 1879. С. 312). Паводле прывілея, дадзенага крычаўскім яўрэям каралём Янам Казімірам у 1664 г. і пацверджанага ў 1682 г. каралём Міхалам Сабескім, яны мелі ад папярэднікаў Яна Казіміра розныя прывілеі на пляцы, агароды, грунты, правы на будаўніцтва сінагогі (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 10). Гэта сведчыць пра тое, што сінагога ў Крычаве існавала яшчэ да 1648 г., калі на каралеўскі стол сеў Ян Казімір.

Агульная колькасць яўрэяў, што пражывалі ў Крычаве ў XVII —XVIII стст., невялікая. Так, у 1682 г. іх у горадзе ўсяго было 48 (ДГАЛ, ф. 1280, воп. 2, адз. зах. 533, арк. 8 адв. — 9). Не нашмат павялічылася іх колькасць і ў больш позні час. Так, у інвентарах Крычава за 1720 і 1723 гг. адзначаюцца 24 «жыдоўскія» дымы. У інвентары горада за 1727 г. адзначаецца наяўнасць 30 «жыдоўскіх» дымаў, акрамя тых, якія жылі на шляхецкіх юрыдыках (усяго 40 «жыдоўскіх» дымаў) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 12; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1933/2, арк. 18; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 42).

Для такой невялікай колькасці яўрэяў дастаткова было адной сінагогі, і яна, альбо, як яе яшчэ называлі, «школа жыдоўская», згадваецца ў інвентарах Крычава другой паловы XVII-XVIII ст. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1925, арк. 11; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 10; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 34). Так, у 1679 г. яна была на Галкавай вуліцы, а ў 1747 г. — на Жыдоўскай вуліцы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1925, арк. 11; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 34).

## § 4. Гарадскія могільнікі

У структуру кожнага населенага паселішча ўваходзяць і некропалі — месца пахавання жыхароў. У X—XIII стст. гэта былі курганныя могільнікі, а ў болып позні час — бескурганныя хрысціянскія могілкі. Курганныя могільнікі раннесярэднявечнага Крычава, якія звычайна знаходзіліся па-за межамі паселішча, да нашых дзён не захаваліся. Звестак пра іх няма ні ў апісаннях археалагічных помнікаў мінулых стагоддзяў, не згадваюцца яны і ў шматлікіх інвентарах староства і горада другой паловы XVII —XVIII ст.

Верагодна, яны былі знішчаны даволі рана. Сведчаннем гэтаму, магчыма, можа служыць прывілей 1563 г. вялікага князя Жыгімонта-Аўгуста Сафрону Абухаву на «селищо Тризненское в месте нашом Крычовском» (ИЮМ, 1900. С. 116).

Прывілей ускосна паведамляе, што месца, на якім рабілі трызну па нябожчыку (адсюль назва селішча) і, безумоўна, размешчанае каля былога могільніка, ужо ў XVI ст. было ўключана ў межы горада.

Хрысціянскія могілкі больш позняга часу размяшчаліся як у горадзе, так і за яго межамі, што паўплывала на развіццё тапаграфіі горада. Рэшткі гарадскога могільніка былі адкрыты пад час даследаванняў гарадзішча Гарадзец. Яго існаванне на гэтым месцы адзначалі яшчэ ў мінулым стагоддзі М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі (Дневник.., 1892. С. 33). Апісваючы даследаванні на Гарадцы, яны паведамляюць, што імі былі зафіксаваныя шматлікія пахаванні, размешчаныя адно каля аднаго. Як адзначаецца у іх справаздачы, «при последовательной послойной съёмке земли обнаружено, что курган (гарадзішча. — *А. М.)* представляет древнее кладбище в два яруса». Нябожчыкі ляжалі адзін над адным, прычым назіраліся адрозненні ў форме пахаванняў у ярусах. Так, у нябожчыкаў з ніжняга яруса рукі выцягнуты ўздоўж тулава. У нябожчыкаў з верхняга яруса рукі складзены на грудзях ці жываце (Фурсов М. В., Чоловский С. Ю., 1893а. С. LXX-LXXI).

Невядома, што прынялі даследчыкі за двух'ярусныя могілкі. Хутчэй за ўсё, такое ўражанне ў ніх склалася ў выніку таго, што яны даследавалі помнік гарызантальнымі пластамі, не ўлічваючы, што пляцоўка гарадзішча мае нахіл. Пад час даследавання Гарадца ў 1995, 1997 — 2000 гг. падобная карціна двух'ярусных пахаванняў намі не была зафіксавана. Пахаванні сустракаюцца ўжо ў першым стратыграфічным гарызонце. Глыбіня магільных ям ад сённяшняй дзённай паверхні вагаецца ад 0,7 да 1,5 м, і усе яны зроблены ў культурным слоі гарадзішча. Памеры іх — ад 1,6 да 1,8 м у даужыню і 0,7 — 0,9 м у шырыню. Форма пахавальных ям прамавугольная. Усе нябожчыкі ляжалі на спіне, галавой арыентаваныя на захад. Рукі у нябожчыкау былі складзены на грудзях ці на жываце. Усе пахаванні зробленыя у трупах з дошак, што прасочваецца па астатках драулянага тлену і знаходках цвікоу.

Датаваць час функцыяніравання могільніка дапамагаюць асобныя знаходкі з верхняга стратыграфічнага слоя Гарадца, якія не маюць

ніякага дачынення ні да эпохі жалезнага веку, ні да эпохі ранняга сярэднявечча.

Так, М. В. Фурсавым і С. Ю. Чалоўскім былі знойдзены «польские и шведские монеты XVI-XVII века» (Дневник.., 1892. С. 33. Табл. XVI). Пад час нашых даследаванняў у нагах аднаго з нябожчыкаў быў знойдзены вісячы замок трохвугольнай формы, які мае аналогіі ў старажытнасцях XVI —XVIII стст. (Марзалюк І., 1988. Мал. 54:9), і ключык ад замка. У гэтым жа слоі знойдзены невысокія, шырынёй 1 см, падкоўкі над абцас, якія мацаваліся з дапамогай шыпоў (мал. 28:8; мал. 29:7,8). Падкоўкі падобнай формы — невысокія, з шырокай падэшвай і шыповым мацаваннем — былі шырока распаўсюджаны ў XVII-XVIII стст. (Краўцэвіч А. К., 1991. С. 130).

Цікавай знаходкай, якая мае дачыненне да пахаванняў, з'яўляецца срэбраны пярсцёнак, зроблены ў выглядзе купала храма з квадратнай асновай памерамі 14x14 мм. Верх і вуглы купала ўпрыгожаны невялікімі «вежамі», зробленымі са спаяных шарыкаў (мал. 28:5).

З пахаваннямі звязана і знаходка меднага нацельнага крыжыка памерамі 46x35 мм. У яго цэнтры размешчана выява васьміканечнага крыжа на Галгофе. Па цэнтры галгофскага крыжа размешчаны вянок. Канцы галгофскага крыжа падвойваюцца ўнізе і загнутыя ўверх, чым пазначаюць расцвіўшы крыж (мал. 29:6). Блізкая аналогія крычаўскаму крыжу знойдзена ў паўзямлянцы, дзе захоўваліся непахаваныя абаронцы Албазінскага астрога, што загінулі пад час маньчжурскай асады 1686—1687 гг. Вялікая колькасць падобных крыжоў вядома з напластаванняў XVII ст. Масквы (Артемьев А. Р., 1996. С. 196. Рис. 9:11; Винокурова Э. П., 1999. С. 326-360).

Акрамя таго, у верхнім стратыграфічным слоі сустракаюцца асобныя фрагменты ганчарнага посуду, пакрытага зялёнай палівай, якая пачала распаўсюджвацца з канца XVI ст. Усе тэта дазваляе сцвярджаць, што могільнік на Гарадцы пачаў існаваць не раней другой паловы XVI — пачатку XVII ст.

Могілкі дзейнічалі яшчэ ў сярэдзіне XVIII ст. Так, у інвентары горада 1747 г. на Загарадзішчы згадваецца царква Прачыстай Багародзіцы з могілкамі, размешчанымі каля гарадзішча (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 40). Пра тое, што могільнік займаў не толькі гарадзішча, але і прылеглую да яго тэрыторыю, сведчаць чалавечыя рэшткі, якія даволі часта знаходзяць на сваіх агародах мясцовыя жыхары.

У канцы XVII — XVIII ст. у горадзе было некалькі адначасовых могільнікаў, што абумоўлівалася наяўнасцю некалькіх хрысціянскіх канфесій і яўрэяў. Большая частка іх фіксуецца па пісьмовых крыніцах, а некаторыя працягваюць сваё існаванне да сёння.

На Загарадзішчы размяшчаліся яшчэ адны могілкі — каля царквы Св. Іллі недалёка ад берага Сожа, прыкладна на месцы сучасных могілак па вуліцы Чэхава.

Свае могілкі былі і на Забялышчыне. Яны знаходзіліся на пачатку Спаскай вуліцы, пры царкве Св. Спаса. Іх тэрыторыя зараз занятая сядзібай і агародам на пачатку вуліцы імя Юрчанкі і, па сведчанню гаспадароў сядзібы, чалавечыя косці час ад часу выворваюцца пры сельскагаспадарчых працах.

Могілкі былі і ў цэнтры горада, на пачатку вуліцы Бочкавай, пры Уваскрасенскай царкве. Яшчэ адны могілкі размяшчаліся на вуліцы Юр'еўскі Перакоп, каля храма Св. Юрыя (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 23, 33, 36). Але ў цэнтры горада, верагодна, былі невялікія могілкі, якія даволі хутка перасталі дзейнічаць, бо на плане горада 1778 г. зафіксаваныя толькі могілкі каля Спаскай царквы.

Асобныя могілкі ў сярэдзіне XVIII ст. мелі яўрэі і каталіцкае насельніцтва горада. Каталіцкія могілкі размяшчаліся каля касцёла ў канцы вуліцы Пятніцкай (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 24). Могілкі яўрэяў у канцы XVII ст. размяшчаліся па-за межамі горада — «могілкі жыдоўскія за местам». Але інвентар 1747 г. адзначае, што горад ужо ўключыў іх у свае межы: яны знаходзіліся ў канцы вуліцы Дрыбінскай (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 8; адз. зах. 1936, арк. 30).

## § 5. Дэмаграфія Крычава ў X—XVIII стст.

Пісьмовыя крыніцы XV —XVI стст. не даюць ніякіх звестак, колькі жыхароў было ў Крычаве, а больш раннія пісьмовыя крыніцы па яго гісторыі ўвогуле адсутнічаюць. Таму нашы разважанні пра магчымую колькасць жыхароў у X — першай палове XVII ст. у большай ступені носяць гіпатэтычны характар.

Паводле вызначэнняў Г. В. Штыхава, шчыльнасць насельніцтва на дзядзінцах населеных пунктаў XII —XIII стст. дасягала 200 чалавек на 1 га, а на пасадах вагалася паміж 80-100 жыхарамі (Штыхов Г. В., 1978. С. 124).

Улічваючы, што агульная плошча паселішчаў на тэрыторыі сучаснага Крычава (на дзюне ў пойме Сожа) у X —XI стст. складала кры-

ху больш за 1 га, то колькасць яго жыхароў не перавышала 80—120 чалавек.

У XII —XV стст. горад паступова развіваўся, але агульная плошча яго тэрыторыі на тэты час не перавышала 5 — 6 га. Таму, выкарыстоўваючы каэфіцыент, прапанаваны Г. В. Штыхавым, можна меркаваць, што ў Крычаве ў канцы XV ст. жыло не болей 400 — 600 чалавек.

На пачатку XVI ст. заходняя мяжа Вялікага Маскоўскага княства падышла да Крычава, у выніку чаго горад амаль на працягу двух стагоддзяў апынуўся на вастрыі маскоўскіх удараў. Летапісы і разрадныя кнігі да сярэдзіны 60-х гадоў XVI ст. неаднаразова фіксуюць напады маскоўскіх войскаў на горад і яго спальванне захопнікамі, што, безумоўна, прыводзіла да скарачэння колькасці насельніцтва. Ускосным сведчаннем вялікіх людскіх страт, якія несла у выніку гэтых войнаў воласць і, верагодна, горад, з'яўляюцца шматлікія скаргі да вялікага князя аб вызваленні воласці і горада ад падаткаў з-за скарачэння колькасці насельніцтва ў выніку войнаў.

Упершыню пэўную пісьмовую інфармацыю пра колькасць жыхароў Крычава мы атрымліваем з копіі «Агранічэння Крычаўскай воласці», складзенай у 1604 г. Але, як відаць з далейшай назвы крыніцы, само «агранічэнне» было складзена над час знаходжання староства ў дзяржанні Андрэя Багданавіча Шалухі (1544 — 1561 гг.) у гады гаспадарання Жыгімонта Аўгуста (1548—1572 гг.), што дазваляе датаваць час складання «агранічэння» 1548 — 1561 гг. Хутчэй за ўсё яно было складзенае ў 1560 г., калі ў воласці праводзілася аграрная рэформа (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 68-69 адв.; Любавский М. К., 1900. С. 452; Пичета В. И., 1958. С. 243).

Згодна з гэтай крыніцай, у Крычаве на той час было 20 старасцінскіх службаў. Улічваючы, што ў XVI ст. адна служба ў сярэднім складала 2 дымы, то старасцінскіх дымаў ў горадзе было як мінімум 40. Аднак насельніцтва горада складалі не толькі жыхары, якія падпарадкоўваліся дзяржаўцам. У горадзе жылі і вольныя рамеснікі і гандляры — мяшчане. Безумоўна, некаторую частку жыхароў горада складалі месцічы, якія жылі на шляхецкіх юрыдыках, на юрыдыках духоўных феадалаў. Але дакладная колькасць іх невядомая. Верагодна, Крычаў заставаўся невялікім горадам, цэнтрам воласці і крэпасцю на ўсходзе краіны.

Апошняя трэць XVI ст. і першая трэць XVII ст. былі ў гісторыі горада спакойным часам, калі склаліся ўмовы для росту яго тэрыторыі і насельніцтва. Аднак і тэты перыяд не мог змяніць яго сацыяльны статус. Нават на карце ВКЛ, складзенай Т. Макоўскім у 1613 г. для князя Мікалая Хрыстафора Радзівіла, Крычаў пазначаны значком, які адсутнічае ў легендзе. Аднак на значку выразна відаць вежа, якая ўзвышаецца над горадам, і тэта дазваляе трактаваць яго перадусім як крэпасць і невялікі горад.

У 1633 г. горад зноў панёс страты. Як страшэнная маланка, пракаціўся па горадзе сумесны паход ваяводы Івана Тарбеева і атаманаў Івана Балаша і Сямёна Пірага. Крыніцы паведамляюць, што Іван Тарбееў, «а с ним донские казаки и солдаты и охочие люди, Ивашка Балаш с товарищи, ходили за рубеж для Языков и пришли под Кричев ночью и большой острог взяли.., да из того же городу взяли полону мужескаго полу и жёнам с 2000 человек» (АМГ, 1890. С. 446, 476, 479, 481).

Безумоўна, пад час вайны ў горадзе знаходзіла прытулак і частка навакольнай шляхты. Але ўсё ж трэба прызнаць, што болыпасць ўзятых у палон у вялікім астрозе Крычава складалі гараджане. Крычаў на пачатку XVII ст. быў невялікім горадам. Дакладная колькасць яго жыхароў у тэты час невядома. Але ўлічваючы, што ў суседнім Магілёве ў 1604 г. пражывала каля 17 000, а у 1654 г. — каля 19 000 жыхароў (Марзалюк І., 1998. С. 163. Табл. 3), а тэта быў на той час адзін з буйнейшых гарадоў ВКЛ, можна меркаваць, што выведзеныя з Крычава 2000 чалавек складалі большую частку яго жыхароў. Горад пасля гэтай навалы цалкам абязлюдзеў, і менавіта дзеля хутчэйшага яго адраджэння кароль Уладзіслаў IV надаў Крычаву магдэбургскае права.

Мірнае жыццё, калі была магчымасць расці насельніцтву горада, працягвалася пятнаццаць гадоў. У 1648 г. горад уступіў у новую паласу войнаў, якія амаль бесперапынна апальвалі яго сцены да 1661 г. Наўрад ці ваенныя дзеянні садзейнічалі росту колькасці жыхароў горада, тым болей што колькасць дымаў у Мсціслаускім ваяводстве пад час гэтай вайны скарацілася на 70% (Morzy J., 1965. S. 107).

У 1667 г. у Крычаўскім старостве засталіся толькі 82 гарадскія дымы (Morzy J., 1965. S. 336). Улічваючы, што у старостве быў толькі адзін горад — Крычаў, гэтая лічба гаворыць пра колькасць наяўных дымау «на праве замковым». Аднак тут былі яшчэ магдэбургскія «дымы», пэўная колькасць шляхецкіх дымау. Безумоўна, іх было не менш чым дымау «старасцінскіх». Калі мы возьмем сярэдні каэфіцыент 2, то тады агульная колькасць дымау у горадзе на 1667 г. складала 160 — 170. І гэтай лічбе, на наш погляд, можна давяраць, бо у цэлым у Мсціслаўскім ваяводстве

пасля вайны 1654—1667 гг. захавалася 413 гарадскіх дымаў.

Асобныя крыніцы другой паловы XVII ст. дазваляюць дакладна вызначыць колькасць месцічаў Крычава, Так, у 1676 г. у горадзе пражывалі толькі 906 чалавек. З іх 363 жылі на праве магдэбургскім, 444 — на «прысудзе замковым», 14 былі «чаляднымі», 37 чалавек — сем'і пушкароў. У горадзе, акрамя таго, жылі 48 яўрэяў (ДГАЛ, ф. 1280, воп. 2, адз. зах. 533, арк, 19 адв.). Сярод 807 мяшчан, што жылі на магдэбургскім праве і на «прысудзе замкавым», было толькі 218 дзяцей. Улічваючы, што ў горадзе ў 1673, 1679 гг. было 375 дымаў (НГАБ, кмф-5, воп. 1. адз. зах. 2669/2, арк. 172; адз. зах. 1926, арк. 18), сярэдняя колькасць жыхароў у крычаўскай сям'і на той час складала прыкладна 2,5 чалавека. Таму сярэднепрынятая лічба колькасці членаў сям'і, прынятай для іншых гарадоў ВКЛ XVI—XVIII стст., якая вагаецца паміж 5 — 8 асобамі (Мелешко В. И., 1988. С. 20; Morzy J., 1965. S. 126), для Крычава непрымальная.

Рэзкае (у 2 разы) павелічэнне колькасці гарадскіх дымаў за 7 гадоў — 160—170 дымаў у 1667 г. і 375 — у 1673 г. магло адбыцца толькі за кошт прыезду ў горад новага насельніцтва. Гэтую тэзу пацвярджае таксама і выказаная вышэй думка, што каранная змена гарадской тапанімікі Крычава, якая прасочваецца у сярэдзіне XVII ст., — вынік з'яўлення ў горадзе новага насельніцтва.

Пацвярджэнне таго, што сярэдняя колькасць членаў сям'і ў Крычаве была значна меншая за агульнапрынятую, фіксуюць і крыніцы канца XVIII ст. У 1779 г. у горадзе налічвалася 470 дымаў, у якіх пражывала 1579 жыхароў (Бянько У., 1997. С. 279; Ён жа, 1999. С. 524). Такім чынам, і ў тэты час сярэдняя колькасць чалавек у сям'і не перавышала 3,3, што значна менш за сярэднепрынятыя лічбы.

Крыніцы другой паловы XVII ст. дазваляюць прыблізна прасачыць дынаміку росту насельніцтва горада. Так, крыніца, датаваная 1683 г., паведамляе, што ў горадзе ў тэты час пражывала 275 чалавек на праве магдэбургскім, 238 — пад замкавай юрысдыкцыяй. Акрамя таго, у горадзе пражывала 27 яўрэяў, сем'і пушкароў налічвалі 35 чалавек. Усяго ў горадзе ў тэты час, паводле крыніцы, пражывала толькі 575 чалавек. Тыя ж самыя лічбы адносна насельніцтва Крычава прыводзяць крыніцы за 1684 і 1685 гг. (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 153, 160, 164). Такім чынам, па нейкіх прычынах у Крычаве паміж 1676 і 1683—1685 гг. адбылося скарачэнне колькасці насельніцтва амаль у два разы.

У той жа час інвентар горада 1682 г. фіксуе павелічэнне колькасці гарадскіх дымаў да 456 (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 6—12). За тры гады, ад 1679 да 1682 г., колькасць дымаў у горадзе павялічылася на 81. Безумоўна, спакойнае жыццё ў міжваенны перыяд павінна было паспрыяць і павелічэнню сярэдняй лічбы колькасці членаў сям'і. Калі прыняць яе за 2,5 — 3 чалавекі на сям'ю, то насельніцтва горада ў сярэдзіне 80-х гадоў XVIII ст. складала прыкладна 1140 — 1370 чалавек.

Верагодна, у крыніцах 80-х гадоў XVIII ст., што дайшлі да нас, зафіксаванае не ўсё насельніцтва горада, а магчыма, толькі яго мужчынская частка. І сапраўды, калі мы возьмем толькі каэфіцыент 2 і памножым на яго колькасць яўрэяў, жыхароў, якія жылі на праве магдэбургскім і «прысудзе замковым» (колькасць жыхароў у пушкарскіх семьях дадзена дакладна), то атрымліваем 1115 жыхароў, што выводзіць нас на прапанаваную вышэй ніжнюю мяжу колькасці жыхароў Крычава.

Адраджэнне горада зноў спыніла вайна. На тэты раз тэта была чарговая вайна са Швецыяй (1700—1721 гг.), у якой Рэч Паспалітая выступала ў саюзе з Расіяй і Даніяй. Землі ўсходняй Беларусі ў 1708—1709 гг. сталі асноўным тэатрам баявых дзеянняў рускай і шведскай армій напярэдадні Палтаўскай бітвы. Праз усходнюю Беларусь праходзіў галоўны шлях Карла XII, корпуса Левенгаўпта і рускай арміі. Іх перамяшчэнні суправаждаліся масавымі грабяжамі і бясчынствамі над жыхарамі як з боку рускай, так і шведскай армій (Гісторыя сялянства .., 1997. С. 141). Гэтая навала адбілася і на стане горада.

Першы захаваны інвентар горада пачатку XVIII ст. (1709 г.) паказвае нам разбураны замак Крычава, але пра стан горада нічога не паведамляе. Аднак горад пад час вайны быў амаль цалкам разбураны (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1159, арк. 146), бо нават у 1720 г. інвентар адзначае, што сярод 477 дымаў у Крычаве 244 былі пустыя. Не змянілася сітуацыя і праз тры гады. Новы інвентар паведамляе тыя ж самыя лічбы: з 478 гарадскіх дымаў 244 — пустыя (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 21; адз. зах. 1933/2, арк. 18). Некалькі палепшылася сітуацыя толькі праз чатыры гады. Інвентар горада 1727 г. хоць і адзначае некаторае змяншэнне колькасці дымаў — 442, але зараз ужо толькі 156 з іх былі пустымі (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 42).

Інвентар 1747 г. адзначае ў Крычаве наяўнасць 724 пляцаў, з якіх 429 былі жылымі. У

сярэдзіне XVIII ст. адбылося новае пашырэнне тэрыторыі горада, у выніку чаго ён дасягнуў памераў, зафіксаваных на плане 1778 г.

Але культурны слой у новых раёнах горада мае невялікую магутнасць і слаба насычаны знаходкамі. Як відаць з інвентару горада 1747 г., многія пляцы заставаліся незаселенымі і занятымі агародамі. Такім чынам, тэрытарыяльны рост Крычава не быў вынікам росту колькасці насельніцтва. Горад у сярэдзіне XVIII ст. яшчэ нават не дасягнуў той колькасці дымаў, што была ў 80-х гадах XVII ст. - 456.

У 1779 г. у горадзе, як адзначалася вышэй, налічвалася толькі 470 дамоў, у якіх пражывала 1579 жыхароў, а сярэдняя лічба колькасці членаў у сям'і не перавышала 3,3. Тэты ж каэфіцыент, верагодна, можна выкарыстоўваць і пры падліках колькасці жыхароў у першай палове XVIII ст. Зыходзячы з прапанаванага каэфіцыента 3,3 чалавека на сям'ю, насельніцтва Крычава ў 1720 г. складала 769 чалавек. Да 1727 г. насельніцтва горада, магчыма, узрасло амаль на дзве сотні і дасягнула 945 чалавек. У 1747 г. у Крычаве, верагодна, пражывала 1415 чалавек.

А. М. Карпачоў у сваіх падліках насельніцтва гарадоў Беларусі другой паловы XVII — XVIII ст. зыходзіў з сярэдняга каэфіцыента 5,6 жыхара на адзін дым. Згодна з яго падлікамі ў Крычаве у канцы 70-х гадоў XVIII ст. пражывала 2820 чалавек, і горад па колькасці жыхароў у ВКЛ знаходзіўся на 17-м месцы (Карпачев А. М., 1970. С. 22, 32). Але гэтыя лічбы не пацвярджаюцца звесткамі пісьмовых крыніц.

Як бачым, з пачатку другой трэці XVII ст. колькасць насельніцтва Крычава фактычна не павялічвалася. Горад уступіў у амаль стогадовую паласу дэмаграфічнага крызісу, абумоўленага войнамі 1633-1634, 1648-1667 і 1700-1721 гг. У міжваенныя перыяды насельніцтва пачынала адраджацца, што адлюстроўваецца ў павелічэнні колькасці гарадскіх дымаў, але чарговая вайна зноў нішчыла парасткі новага жыцця. Нават праз чвэрць стагоддзя пасля заканчэння апошняй вайны (1747 г.) насельніцтва горада яшчэ не дасягнула сваёй колькасці, што была ў 80 —х гадах XVII ст. Горад да канца XVIII ст. не змог канчаткова адрадзіцца ад тых пагромаў, якія ён пацярпеў на працягу другой чвэрці XVII — першага дзесяцігоддзя XVIII ст. Фактычна гэтыя восемдзесят — дзевяноста гадоў сталі для яго ў пэўным сэнсе дэмаграфічнай катастрофай.

*Раздзел* 3

# МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА КРЫЧАВА. ТЫПАЛОГІЯ І ХРАНАЛОГІЯ АРХЕАЛАГІЧНЫХ ЗНАХОДАК. ГАСПАДАРЧАЕ ЖЫЦЦЁ

Жыццё сярэднявечнага горада было шматгранным. Штодзённая праца рамеснікаў і гандляроў стварала ўмовы для яго развіцця. Акрамя рамяства і гандлю многія гараджане былі вымушаны займацца яшчэ і сельскагаспадарчай вытворчасцю і рознымі промысламі, каб забяспечыць сябе неабходнымі вырабамі і прадуктамі харчавання. Жыццё таксама вымушала іх пад час ваенных падзей станавіцца на гарадскія сцены дзеля абароны свайго дома. Усе гэтыя аспекты гарадскога жыцця можна прасачыць толькі праз карпатлівае вывучэнне пісьмовых і археалагічных крыніц. Але калі палітычная гісторыя таго ці іншага феадальнага горада даследуецца па захаваных пісьмовых крыніцах, то у вывучэнні рамяства, гандлю, сельскагаспадарчай вытворчасці значную ролю іграе археалогія. Здабытыя пад час археалагічных даследаванняў рамесныя вырабы, прылады працы, зброя, палеазаалагічныя рэштکі, дзякуючы сённяшнім археалагічным метадам і метадам прыродазнаўчых навук, дапамагаюць нам не толькі канстатаваць наяўнасць таго ці іншага віду рамёстваў у горадзе, але і зрабіць пэўныя высновы пра стан яго развіцця і выкарыстаныя тэхналогіі на розных этапах гісторыі горада і г. д.

Рэчавы матэрыял, атрыманы пад час археалагічных даследаванняў Крычава, будзе прадстаўлены традыцыйна — па катэгорыях, відах, тыпах і варыянтах. У першую чаргу будуць разгледжаны прылады працы і стан развіцця таго ці іншага рамяства, а потым рэчы, якія характарызуюць іншыя бакі гаспадарчай і штодзённай дзейнасці месцічаў Крычава.

## § 1. Археалагічныя знаходкі. Тыпалогія і храналогія. Рамяство

У гаспадарчым жыцці горада вялікую ролю адыгрывала рамяство. Аднак знаходкі рэштак майстэрняў рамеснікаў — рэдкая ўдача для археолагаў. У першую чаргу тэта звязана з тым, што даволі часта пад спецыялізаваную майстэрню рамеснікі выкарыстоўвалі свае жытло. Па-другое, некаторыя вытворчыя збудаванні ў мэтах супрацьпажарнай бяспекі (кузні, гуты, домніцы) маглі быць вынесены за межы сядзіб. Таму асноўнай крыніцай для вызначэння наяўнасці ў горадзе таго ці іншага віда рамёстваў з'яўляюцца знаходкі спецыялізаваных прылад працы, паўфабрыкатаў, запасаў сыравіны, бракаванай прадукцыі, адыходаў вытворчасці, серый гатовай прадукцыі.

**Металургія і металаапрацоўка.** Гэтыя віды рамеснай дзейнасці былі вызначальнымі. Ад іх узроўню развіцця залежаў агульны стан развіцця рамеснай вытворчасці ў горадзе. Яны пастаўлялі прылады працы для іншых галін дзейнасці жыхароў горада і яго акругі, забяспечвалі неабходнай зброяй патрэбы месцічаў памежнай фартэцыі.

Крычаў размешчаны ў раёне шырокага распаўсюджвання балотных жалезных руд. Нават у канцы XVIII ст. у Крычаўскім старостве балотныя жалезныя руды шырока выкарыстоўваліся сялянамі для вырабу прылад працы (Мейер А., 1901. С. 112; Гурин М. Ф., 1982. С. 20). Таму з упэўненасцю можна сцвярджаць, што і ў больш раннія часы балотныя руды служылі сыравіннай базай для мясцовых металургаў і кавалёў.

Вывучэнне інвентароў горада канца XVII — XVIII ст. паказвае, што у Крычаве даволі шырока развіваліся кавальскае рамяство і металаапрацоўка. Дарэчы, сярод жыхароў горада найбольш распаўсюджаным было прозвішча Каваль. Магчыма, яго ўзнікненне было непасрэдна звязана з занятками яго ўладальнікаў кавальскім рамяством. Два крычаўскія месцічы з такім прозвішчам згадваюцца ў інвентары горада 1679 г., адзін у інвентары 1676 г., шесць у 1682 г., чатыры ў 1694 г., тры ў інвентары горада 1720 г. Нарэшце, інвентар горада 1747 г. наўпрост гаворыць аб прафесійных занятках



Мал. 43. Гарадзішча Замкавая гара. Сопла горна

месцічаў Крычава. З яго мы даведваемся, што кавальскай справай у горадзе займаліся Мікіта Зянкевіч і Іван Бяловік, што жылі на Рыжковай вуліцы, Ларко Коваль з Шахраевай вуліцы. На Дрыбінскай вуліцы жыў каваль Кірэй Зянковіч (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 28, 29).

У інвентары горада 1682 г. згадваецца і прозвішча БулатнІк, якое, магчыма, сведчыць, што яго ўладальнік спецыялізаваўся на вытворчасці спецыяльных гатункаў сталі. Прозвішчы Булатнік, Булатнікаў мы сустракаем і ў інвентарах 1694 і 1720 гг. Пляц "па Самусю Булатніку» згадваецца у Інвентары горада 1747 г. (НГАБ, кмф-5, вон. 1, адз. зах. 1936, арк. 28).

Верагодна, першапачатковая выплаўка жалеза з руды у горадзе не праводзІлася з-за высокай пажарнай небяспекі гэтай вытворчасці. У інвентарах горада другой паловы XVII — XVIII ст. адсутнічаюць сведчанні аб існаванні рудняў непасрэдна ў горадзе. Рудні па выплаўцы металу засноўваюцца даволі далека ад яго межаў. Так, напрыклад, у 1694 г. упершыню згадваецца рудня ў Лабжанскім войтаўстве на р. Лабжанцы (НГАБ, кмф-5, воп.1, адз. зах. 1928, арк. 83) — сучасная в. Рудня Клімавіцкага раёна. Пад час Паўночнай вайны яна была спалена, але ўжо ў інвентары Крычаўскага староства 1713 г. зноў адзначана як дзейная (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1929, арк. 43; адз. зах. 1936, арк. 43,66). У інвентары 1723 г. адзначаецца, што на р. Лабжанцы было ўжо 2 рудні (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1933/2, арк. 18). Абедзве яны размяшчаліся прыкладна ў 8 —10 км ад горада. У той жа час нельга выключаць, што такі падзел працы паміж горадам І сельскімі паселішчамі адбыўся толькі ў познім сярэднявеччы — у XVI ст., аў больш ранні час пэўнага падзелу не было (Гурин М. Ф., 1987. С. 16).

Археалагічныя дадзеныя таксама сведчаць, што месцічы Крычава займаліся кавальскай справай. На тэрыторыі Замкавай гары ва ўсходняй яе частцы, у напластаваннях XVI ст. знойдзены два цэлыя соплы і шматлікія іх фрагменты, верагодна, ад кавальскага горна. Даўжыня цэлых соплаў вагаецца ад 30 да 34 см (мал. 43). Дыяметр адтуліны для ўцягвання паветра адпавядае 6 см, а дыяметр сопла, якое было ў горне, — ад 2,5 да 3,5 см. Аднак у інвентарах горада другой паловы XVII — першай паловы XVIII ст. звесткі пра наяўнасць на замку кузні адсутнічаюць. Верагодна, калі яна і была тут раней, то была перанесена ў іншае месца, бо на замку ў тэты час знаходзіўся парахавы цэйхгауз.

Металаапрацоўчы інструмент з Замкавай гары Крычава прадстаўлены зубіламі, знойдзенымі ў слаях XIII —XVII стст., напільнікам і прабойнікам са слоя XVII ст. Даўжыня зубіл вагаецца ад 110 да 120 мм, шырыня ляза амаль аднолькавая — 30 — 35 мм. Абодва зубілы маюць адтуліну для мацавання стрыжня, якім яно накіроўвалася на кавалак металу. Розніца толькі ў іх формах. Зубіла са слоя XIII —




Мал. 44. Гарадзішча Замкавая гара. Інструментарый: 1 — 2 — зубіла; 3 — кавадла; 4, 7 — кузнечныя абцугі; 5 — прабойнік; 6 — пілка; 8 — малаток; 9 — нож; 10 — пінцет




Мал. 45. Гарадзішча Замкавая гара. Вырабы з металу: 1, 2 — нажы; 3, 4 — спражкі; 5 — 7 — падкоўкі пад абцас; 8, 10 — удзіла; 9, 11 — падковы

XIV стст. мае адтуліну квадратнай формы памерам! 10 х 10 мм, а са слоя першай паловы XVII ст. — круглую адтуліну дыяметрам 16 мм (мал. 44:1, 2). Напільнік мае прамавугольнае ў сячэнні палатно — 150 х 10 мм, таўшчынёй 4 мм.

Яшчэ адной прыладай працы, якая сведчыць пра заняткі месцічаў Крычава кавальскай справай, з'яўляецца знаходка невялікай кавадлы ў слоі XVI ст. Яно мае выгляд клінападобнага вырабу вышынёй 90 мм з плошчай працоўнай паверхні 9 кв. см (мал. 44:3). Улічваючы яе невялікія памеры, можна сцвярджаць, што кавадла магло адносіцца не столькі да прылад працы каваля, як да інструментарыя ювеліра (Колчин Б. А., 1959. С. 20).

Вырабы кавалёў прадстаўлены рознымі прыладамі працы. Універсальнымі і найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца нажы, знойдзеныя ва ўсіх частках горада ў слаях XII — XVIII стст. Іх можна падзяліць на два тыпы.

Да першага тыпу адносяцца нажы з прамой спінкай і кароткім чаранком, вось якога супадае з воссю клінка (мал. 28:7; 29:4). Яны сустракаюцца ў слаях XII —XV стст. на Замкавай гары і гарадскіх пасадах, а таксама ў верхнім стратыграфічным слоі гарадзішча Гарадзец. У тэты ж час бытавалі нажы, якія ў адрозненне ад папярэдняга тыпу мелі крыху выгнутую спінку (мал. 28:6). У XVI —XVIII стст. былі шырока распаўсюджаныя нажы трэцяга тыпу: з рукаяткай з плоскай металічнай асновай, да якой мацаваліся касцяныя альбо драўляныя пласціны (мал. 45:1,2; мал. 78:5, 6, 8, 9).

Крэсівы прадстаўлены 8 экземплярамі. Па форме яны падзяляюцца на тры тыпы. Да першага тыпу адносяцца калачападобныш крэсівы з язычком — адзін цэлы экземпляр і адно захавалася фрагментарна. Цэлае крэсіва мае вышыню і даўжыню, якія суадносяцца як 1:2 — шырыня 30 мм, даўжыня 60 мм. Крэсіва, што захавалася фрагментарна, першапачаткова мела даўжыню каля 90 мм, а вышыню 30 мм (мал. 46:7, 8). Цэлае крэсіва знойдзена ў слоі XIV — пачатку XVI ст., а фрагмент — у слоі XVI ст. У адрозненне ад калачападобных крэсіваў, распаўсюджаных у X —XII стст., крычаўскія знаходкі маюць болын груба выкананы язычок.

Другі тып — цэлае калачападобнае крэсіва мае шырыню 30 мм і даўжыню 60 мм — суадносіны шырыні і даўжыні 1:2. У адрозненне ад калачападобных крэсіваў першага тыпу ў гэтага язычок ледзь прасочваецца (мал. 46:10). Як і папярэднія крэсівы, яно таксама было знойдзена ў слоі XIV — пачатку XVI ст.

Трэці тып прадстаўлены трыма крэсівамі з двума лёзамі авальна-падоўжанай формы. Даў-




Мал. 46. Гарадзішча Замкавая гара. Вырабы з металу: 1—4 — нажніцы; 5—12 — крэсіва; 13 — шыла; 14 — відэлец

жыня іх ад 110 да 120 мм пры шырыні ад 18 да 25 мм. Два з іх маюць адтуліну для падвешвання (мал. 46:11,12). Яны знойдзены ў слоі XV-XVI стст.

Восьмае крэсіва — з Замкавай тары, мае індывідуальную форму. Яно выканана ў выглядзе роўнай металічнай пласціны, якая зверху ўпрыгожана завіткамі (мал. 46:6). Крэсіва падобнай формы знойдзена ў Слаўгарадзе і Ноўгарадзе. Слаўгарадскае крэсіва — тэта пад'ёмны матэрыял, а наўгародскае знойдзена ў слоі XV ст. (Колчин Б. А., 1959. Рис. 87:4; Штыхов Г. В., 1969. С. 73. Рис. 5:1). Крычаўскае крэсіва вядзе паходжанне са слоя пачатку XVI ст.

У горадзе існавала і пэўная спецыялізацыя па металаапрацоўцы, пра што сведчаць пісьмовыя крыніцы. Так, у адпісцы рускаму цару Аляксею Міхайлавічу смаленскага ваяводы І. Б. Рэпніна ад 17 ліпеня 1668 г. гаворыцца пра затрыманне ў Раслаўлі крычаўскага жыхара Яўфрэмкі Фёдарава — майстра па вырабе катлоў, які ішоў з Пачэпа ў Крычаў (Русско-белорусские связи.., 1972. С. 50). Катляр Аляксей Варона згадваецца ў інвентары горада 1747 г. Ён жыў на Шахраевай вуліцы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 28). Дэталі прадукцыі майстроў па вырабе катлоў — металічныя вушкі ад катлоў — неаднаразова знаходзілі як на Замкавай тары, так і на пасадах.

Акрамя катляроў у горадзе былі і майстры па вырабе больш складаных рэчаў з жалеза. У інвентары горада 1682 г. згадваецца Павел Порхаў, побач з прозвішчам якога ёсць дапіска «слосар» — слесар. У інвентары горада 1747 г. згадваецца «слесар» Була, што жыў на Бочкавай вуліцы. Слясарным рамяством у той жа год займаліся Якаў Шчарбак з Пятніцкай, Сенка Хадот з Рыжковай, Іван Барона з Грынёвай вуліц (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 22,26,28,31).

Адным з прадуктаў рамесніцкай дзейнасці слесараў былі ключы, замкі, запоры, што выкарыстоўваліся для замыкания жылля і гаспадарчых пабудоў, скрыняў і г. д. Нельга сцвярджаць, што ўсе знойдзеныя ў Крычаве замкі былі выраблены мясцовымі рамеснікамі. Верагодна, на першапачатковым этапе развіцця горада такая складаная ў тэхнічных адносінах прадукцыя прывозілася з больш буйных цэнтраў. Але потым іх вытворчасцю маглі займацца і крычаўскія рамеснікі — «слосары».

Замкі і ключы, знойдзеныя на дзядзінцы і пасадах Крычава, падзяляюцца на нерухомыя (накладныя, нутраныя) і з'ёмныя (навясныя). Нерухомыя замкі канструкцыйна прадстаўлены знаходкамі лічыны ад накладнога замка (мал. 46:9), што была знойдзена ў слоі XVI — XVII стст. Навясныя замкі прадстаўлены як самімі замкамі, так і ключамі да іх. Усе навясныя замкі, у залежнасці ад іх канструкцыйных асаблівасцей, падзяляюцца на некалькі тыпаў. Першы тып — пружынны замок з ключом, які сціскае пружыны; другі тып — замок з утулкавым ключом, трэці тып — вінтавыя замкі.

Найбольш старажытны ключ з дзядзінца Крычава адносіцца да цыліндрычнага замка з папярэчнай шчылінай для ключа, размешчанай у ніжняй частцы цыліндра корпуса (мал. 47:1). Такія замкі (тып Б) у Ноўгарадзе з'явіліся ў пачатку XII ст. і бытавалі да сярэдзіны XIV ст. З другой паловы XII ст. пачалі распаўсюджвацца замкі з больш складаным ключавым механізмам (тып В). Замкі гэтага тыпу бытавалі ў Ноўгарадзе да сярэдзіны XV ст. (Колчин Б. А., 1982. С. 160). У Крычаве знойдзены 4 ключы гэтага тыпу ў слоі XIII — XIV стст. (мал. 47:2 — 5) і 6 — у слоі XV ст. (мал. 47:6—10, 12). На Замкавай гары ў слоі XV ст. знойдзена і дужка са спружынамі ад навяснога цыліндрычнага замка (мал. 48:1). Яе верх зроблены ў выглядзе конскай грывы і зверху пакрыты меддзю.

У напластаваннях Замкавай гары другой паловы XV —XVII ст. даволі часта сустракаюцца ключы ад навясных пружынных замкоў з фігурнай лабірынтападобнай шчылінай і карпусы ад іх (мал. 47:13—17, 20; мал. 48:2). Паводле наўгародскай храналогіі падобныя замкі адносяцца да тыпу Е і былі ў карыстанні ў XIV-XVI стст. (Колчин Б. А., 1982. С. 160). Аналагі крычаўскім ключам сярод матэрыялаў Беларусі вядомыя на феадальнай сядзібе Мачуліна XVI-XVIII стст. (Шаблюк В. В., 1993. С. 38. Ріс. 16, 4).

Акрамя таго, у Крычаве ў слоі другой паловы XVI — сярэдзіны XVII ст. былі знойдзены і іншыя тыпы ключоў, якія не маюць прамых паралеляў (мал. 47:13 — 17,20).

На тэрыторыі Замкавай тары, гарадскога пасада ў слаях XVI —XVII стст. і гарадскога могільніка XVII ст. знойдзены навясныя замкі з трохвугольным корпусам (мал. 48:3, 6, 10), аналагі якім вядомы на Беларусі, у Польшчы і Прыбалтыцы (Левко О. Н., 1984. С. 47. Мал. 29; Haisig M., 1962. Tabl. 26:2; Сагановіч Г. М., 1993. С. 94. Мал. 30:13; Заяц Ю. А., 1995. Рис. 36:8). Да гэтага ж часу адносяцца і знаходкі навясных замкоў з паўкруглай дужкай і корпусам у выглядзе шара і конуса (мал. 48:4, 6), шматлікія аналогіі якім таксама шырока вядомы як у Беларусі, так і на прылеглых землях




Мал. 47. Гарадзішча Замкавая гара. Ключы

(Никитин А. В., 1971. С. 71. Табл. 8:7-12; Snore E., Zarina A., 1980. 77 att: 8; 81 att: 17, 18, 20;116 att.: 57, 58; Сергина Т. В., 1983. С. 94; Краўцэвіч А. К., 1991. С. 125. Мал. 35:13; Трусаў А. А., Собаль В. Е., Здановіч Н. І., 1993. Мал. 56:14). У слоі XVI-XVII стст. на Замкавай тары і на пасадзе знойдзены шматлікія прабоі, кручкі, жыкавіна ад дзвярэй (мал. 48:5,8,11-13; мал. 49:1-3,6,11,13).

Магчыма, у горадзе ў другой палове XVII — першай палове XVIII ст. жылі і майстры па вытворчасці зброі. У 1676 г. на слабадзе Латынь згадваецца «пляц Шабельнікоўскі», які, нельга выключыць, сведчыць, што яго ўладальнік займаўся вытворчасцю шабель. Інвентар 1747 г. паведамляе, што на Спаскай вуліцы, на Забялышчыне, жыў мечнік Міхалко Онучонек (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 9; адз. зах. 1924, арк. 13; адз. зах. 1936, арк. 36).

Металаграфічны аналіз кавальскіх вырабаў з Крычава, які правёў М. Ф. Гурын, дазволіў прасачыць развіццё метадаў апрацоўкі жалеза, тэхналагічных схем і прыёмаў. Вынікі даследаванняў паказалі, што пры вытворчасці прылад працы выкарыстоўвалася камбінаванне жалеза і сталі. На раннім этапе (X —XIII стст.) даволі часта ўжывалася трохпалосная схема, калі да сярэдняй пласціны прываріваліся бакавыя жалезныя пласціны. Стальная пласціна выходзіла на рэжучую кромку. З XII ст. пачала шырока ўжывацца схема наваркі стальной працоўнай часткі на жалезную аснову ляза. Па такой схеме выкананы сякера і чатыры нажы са слоя XII —XIII стст. Аднак у сякеры зварное шво было зроблена не зусім якасна, таму, верагодна, з-за неаднаразовых націскаў, накіраваных на выгіб ляза, адбылося яго расслаенне. Да таго ж і навараная працоўная частка характарызуецца даволі нізкай якасцю: нераўнамернае размеркаванне вугляроду, адсутнасць у сувязі з гэтым структур загартоўкі, што не забяспечвала высокіх эксплуатацыйных якасцей дадзенай прылады працы.

Лязо яшчэ адной сякеры і два нажы зроблены з загатовак, апрацаваных спосабам пакетавання пачатковага прадукта. Пры гэтым спосабе чаргаваліся аперацыі коўкі, складання і зваркі, якія час ад часу паўтараліся, што прыводзіла да ўтварэння шматслойнай структуры ў цэлым аднароднага металу.

Тры нажы зроблены са сталі. Адзін з іх прайшоў тэрмаапрацоўку і мае структуру загартоўкі. У калекцыі ёсць і два цэльнаметалічныя нажы. Магчыма, яны мелі наварныя стальныя працоўныя часткі ляза, якія з часам зніклі ў выніку інтэнсіўнай эксплуатацыі і шматразовай заточкі.

**Апрацоўка каляровых** металаў у Крычаве таксама вылучылася ў самастойнае рамяство, аднак наўрад ці тэта адбылося раней XVI — XVIII стст. Ва ўсялякім выпадку, у слоі XV — XVI стст. знойдзена толькі адна рэч, якую можна аднесці да інструментарыя ювеліра. Гэта пінцэт з Г-падобнымі вуснамі (мал. 44:10). Акрамя таго, знойдзены два ювелірныя абцугі. Адны з іх амаль цэлыя. Яны маюць агульную даўжыню 180 мм, завершаны вуснамі шырынёй 30 і даўжынёй 25 мм (мал. 44:7). Ад другіх абцугоў захавалася толькі палавінка. Даўжыня іх 160 мм, і ў адрозненне ад першых яны былі завершаны больш доўгімі (35 мм) і менш вузкімі (12 мм) вуснамі (мал. 44:4). Акрамя таго, ювелірным магло быць і кавадла, пра якое размова ішла пры апісанні інструментарыя кавалёў.

У адрозненне ад чорных металаў каляровыя металы ішлі ў асноўным на ўпрыгожванні. Але, улічваючы адзінкавыя знаходкі ўпрыгожванняў у Крычаве, цяжка характарызаваць гэтую вытворчасць. Ювелірныя знаходкі прадстаўлены літой шыракарогай лунніцай, упрыгожаннай падманнай зернью (мал. 50:2). Падобныя ўпрыгожванні бытавалі з канца X і да



Мал. 48. Гарадзішча Замкавая гара: 1 — дужка ад замка; 2-4, 6, 7, 10 - замкі; 5, 8, 11, 12, 13 - прабоі; 9 - лічына ад замка



Мал. 49. Гарадзішча Замкавая гара. Рэчы побыту: 1—3, 6, 10, 11 — прабоі і клямкі ад дзвярэй; 4 — дужкі меднага катла; 5 — выраб з жалеза; 7, 8 — спражкі; 9, 12 — папружныя кольцы

сярэдзіны XII ст. (Успенская А. В., 1959. С. 102, 103). Другой ювелірнай знаходкай з'яўляецца фрагмент меднага пласцінкавага бранзалета, упрыгожанага кропкавым арнаментам (мал. 50:3). Крычаўскі бранзалет мае аналога ў наўгародскіх старажытнасцях XII —XIII стст. Знойдзены ён у мацерыковай яме з керамікай XIII —XIV стст. (Седова М. В., 1981. Рис. 40:5).

Знаходкі ювелірных вырабаў у познесярэднявечных слаях горада адсутнічаюць, але тэта не гаворыць пра адсутнасць ювелірнага рамяства ў Крычаве. Адзін-два майстры-ювеліры, альбо, як яны называліся ў XVI —XVIII стст., «злотнікі», увесь час згадваюцца ў інвентарах горада. У 1682 г. Косця Злотнік пражываў на Казловай вуліцы. У 1694 г. два Іваны Злотнікі жылі на шляхецкіх юрыдыках. У 1747 г. злотнік Лукаш Лукьянаў жыў на юрыдыцы пана Гайко на Замкавай вуліцы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 6 — 7; адз. зах. 1928, арк. 44; адз. зах. 1936, арк. 19).

**Кравецкае рамяство.** Само жыццё вымушала людзей займацца ткацтвам і вырабам вопраткі. Гарадская хатняя вытворчасць была адной з крыніц атрымання тканін. Сыравінай для прадзення і ткацтва служылі лён, каноплі і воўна. Пра заняткі крычаўскіх месцічаў ткацтвам сведчаць знаходкі шыферных праселкаў, знойдзеных у слаях канца XII —XIII ст. Другая прылада працы, якая мае не толькі універсальнае прызначэнне, але і з'яўляецца спецыялізаваным інструментам краўца, — гэта нажніцы. Нажніцы, знойдзеныя ў Крычаве, адносяцца да двух тыпаў. Тып 1 прадстаўлены спружыннымі нажніцамі (мал. 46:1,2). Яны маюць рэжучыя палотны падоўжана-трохвугольнай формы, якія пераходяць у тонкія доўгія стрыжні, што завяршаюцца спружыністым кальцом ці дугою. Усяго знойдзена двое спружынных нажніц. Першыя, знойдзеныя на пасадзе сярод матэрыялаў XII —XIII стст., маюць агульную даўжыню 118 мм, даўжыню рэжучай кромкі 60 мм (мал. 46:2). Другія — з Замкавай тары, са слоя XIII —XIV стст. (мал. 46:1). Іх агульная даўжыня 235 мм, даўжыня рэжучай кромкі — 110 мм. Шарнірныя нажніцы (тып 2) складаюцца з дзвюх злучаных шаршрам нажападобных пласцін. У крычаўскай калекцыі яны прастаўлены двума цэлымі экземплярамі і адным фрагментарным. Найбольш старажытныя знойдзены на Замкавай тары ў слоі XII —XIII стст. Іх петлепадобныя ручкі не звараны са стрыжнем (мал. 46:3). Фрагмент вялікіх, верагодна, кравецкіх нажніц са слоя XVII ст. таксама мае петлепадобныя ручкі. У слоі XVII ст. знойдзены нажніцы, стрыжні якіх завяршаюцца круглымі кольцамі (мал. 46:4). Даўжыня цэлых нажніц са слоя XII — XIII стст. — 140 мм, са слоя XVII ст. — 133 мм.



Мал. 50. Гарадзішча Замкавая гара: 1, 4 — гліняныя цацкі; 2 — луніца; 3 — бранзалет; 5, 6 — сланцавыя праселкі; 7 — падсвечнік

Калі першапачаткова занятак ткацтвам і кравецтвам не выходзіў за межы хатняга промыслу, то ў эпоху позняга сярэднявечча кравецтва становіцца спецыялізаваным відам рамяства. Так, у інвентары горада 1682 г. згадваецца Сенька Кравец, што жыў на Казловой вуліцы, прозвішча якога, верагодна, указвае на прафесійны занятак (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 7). Інвентар 1747 г. называе ўжо 22 месціча, насупраць прозвішчаў якіх адзначаны іх прафесійны занятак — кравец. Акрамя таго, інвентар паведамляе, што паміж рамеснікамі, якія апрацоўвалі сукно, існавала пэўная спецыялізацыя.

Насупраць прозвішча крычаўскага месціча Андрэя Казла пазначана — фарбавальнчык. Даволі распаўсюджаным сярод крычаўскіх месцічаў было прозвішча Пастрыгач, якое, безумоўна, першапачаткова было звязана з прафесійным заняткам — пастрыжкай сукна. Марцін Шапавал апраўдваў сваё прозвішча — ён займаўся вырабам шапак (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 25, 32).

Гарбарства, кушнерства і шавецкае рамяство. Археалагічна гэтыя віды рамёстваў у Крычаве не прасочваюцца. Але пісьмовыя крыніцы другой паловы XVII —XVIII ст. адзначаюць, што развівалася даволі шырока гарбарства і кушнерства у тагачасным Крычаве. Інвентары горада ўвесь час згадваюць рамеснікаў гэтых прафесій.

Усе крычаўскія гарбары (7), вядомыя з інвентару 1747 г., кампактна жылі на Забялішчынскім пасадзе — бліжэй да Сожа, што было абумоўлена прафесійнай неабходнасцю. Сваю прадукцыю — апрацаваныя скуры — яны прадавалі іншым рамеснікам, якія займаліся ўжо вырабам рэчаў са скуры. Сярод рамесных спецыяльнасцей, якія выкарыстоўвалі прадукцыю гарбароў, крычаўскія інвентары называюць кушняроў і шаўцоў.

Частка крычаўскіх кушняроў (4) жыла разам з гарбарамі — на Забялышчынскім пасадзе. Астатнія (3) жылі ў цэнтральнай частцы горада. Сярод спецыяльнасцей кушняроў інвентары горада вылучаюць у асобую катэгорыю толькі шаўцоў. Інвентары другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. увесь час згадваюць прафесійных шаўцоў, колькасць якіх паступова ўзрастала. Так, інвентар 1747 г. называв нам прозвішчы 28 крычаўцаў, якія займаліся шавецкім рамяством. Прычым крыніца адзначае, што сярод іх існавала і пэўная спецыялізацыя. Так, насупраць прозвішча Пятра Табара пазначана, што гэта «швец белай работы», а Яська Яськовіч быў «швец простай работы» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 33).

Заняткі месцічаў Крычава шавецкім рамяством археалагічна амаль не фіксуюцца з-за дрэннай захаванасці арганічных матэрыялаў. Адзінай знаходкай, якую па аналогіі з наўгародскімі матэрыяламі (Колчин Б. А., 1959. С. 55. Рис. 43: Б) можна аднесці да інструментарыя шаўца, з'яўляецца нож, знойдзены ў слоі XVII ст. (мал. 44:9). Але безумоўна, што шавецтва, як і ткацтва з кравецтвам, прайшло шлях ад хатняга промыслу да спецыялізаванага рамяства.

Ганчарства. Бытавы посуд і вырабы дробнай керамічнай вытворчасці. Найбольш масавым матэрыялам у Крычаве, як і ў іншых гарадах, з'яўляецца кераміка. За ўсе гады даследаванняў на Замкавай тары і пасадах горада знойдзена каля 12 тысяч фрагментаў бытавога посуду і 22 начынні поўнага профілю.

Па форме верхний часткі гаршкі падзяляюцца на 3 аддзелы (мал. 51).

Аддзел 1. Гаршкі характарызуюцца адагнутым вонкі венцам з акруглым альбо зрэзаным краем. Сярод іх вылучаюцца наступныя тыпы.

Тып 1. У гаршкоў гэтага тыпу невыразная шыйка альбо яна зусім адсутнічае. Варыянт А характарызуецца невялікім рэзка адагнутым венцам, край якога зрэзаны. Шыйка амаль адсутнічае. Гаршкі гэтага тыпу сустракаюцца ў невялікай колькасці ў другой палове XVI — XVII ст.

Варыянт Б складаюць гаршкі з прыземленым акруглым тулавам і кароткім плауна адагнутым венцам. Далейшым развіццём гэтага варыянта з'яўляюцца гаршкі, у якіх край венца патоўшчаны. Гаршкі гэтага варыянта распаўсюджаныя ў верхніх пластах і сустракаюцца разам з каробкавай кафляй, гаршкамі, пакрытымі зялёнай палівай. Усе тэта дазваляе датаваць варыянт А — Б першай паловай XVII ст. Аналагі ім вядомыя сярод старажытнасцей Мірскага замка (тып IV-А), Мсціслава (тып VIII-В) (Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1985. С. 107-108; Здановіч Н. І., Краўцэвіч А. К., Трусаў А. А., 1994. С. 43).

Варыянт В. Гаршкі гэтага варыянта маюць вялікае, адцягнутае венца, у Крычаве не шматлікія. Стратыграфічна яны сустракаліся ў слаях канца XVI — першай паловы XVII ст.

Тып 2. Прадстаўлены гаршкамі з выразнай шыйкай.

Варыянт А характарызуецца наяўнасцю выразнай шыйкі і адагнутага у вонкавы бок пашыранага краю венца. Гаршкі гэтага варыянта сустракаліся у напластаваннях XV — пачатку XVI ст.

Варыянт Б характарызуецца наяунасцю выразнай шыйкі і адагнутага у вонкавы бок, без

Мал. 51. Гарадзішча Замкавая гара. Тыпалогія керамікі XII —XVIII стст.

пашырэння краю венца. Такія гаршкі з'явіліся яшчэ ў XIII ст. і існавалі да канца XVI ст.

Тып 3. Характарызуецца наяўнасцю рабра ў месцы пераходу тулава ў плячук. Унутры тыпу вылучаюцца некалькі варыянтаў.

Варыянт А. Да яго належаць гаршкі з шыйкай сярэдняга памеру, з моцна адхіленым, амаль гарызантальным венцам. Па верее венца тонкай лініяй стылізавана абазначана месца, адкуль павінен быў пачынацца валік для накрыўкі. Край венца закруглены. У месцы пераходу тулава ў шыйку прасочваецца рабро, па якім нанесены арнамент у выглядзе насечак. Падобная кераміка — найбольш позняя на гарадзішчы Гарадзец у Крычаве. Блізкія па прафілёўцы гаршкі вядомыя ў Мазыры (тып VIII), Тураве, дзе яны сустракаюцца ў слаях не раней сярэдзіны XIII ст. (Трусаў А. А., Здановіч Н. І., 1993. С. 27). У Крычаве тэты варыянт керамікі з'ўляецца апошнім, разам з якім сустракаюцца фрагменты шкляных бранзалетаў і сланцавыя праселкі. Таму стратыграфічна яго можна датаваць другой паловай XIII — пачаткам XIV ст.

Варыянт Б. Начынні гэтага варыянта больш таўстасценныя і маюць больш шырокае тулава. Шыйка гаршкоў нахілена, венца кароткае, коса зрэзанае. Стратыграфічна гаршкі гэтага тыпу сустракаюцца ў слаях XVI ст. Аналоги ім вядомыя ў Заслаўі (аддзел 1, тып III-Б), дзе яны пачынаюць сустракацца ў XIV ст. і існуюць да другой паловы XVI ст. (Заяц Ю. А., 1993. С. 113-114).

Варыянт В. Гаршкі маюць даволі тоўстыя сценкі, шырокія плечукі і кароткае, адцягнутае ў вонкавы бок, амаль прамакутнае ў разрэзе венца. Падобныя гаршкі сустракаюцца ў Крычаве яшчэ да з'яўлення паліванага посуду і кафлі — сярод напластаванняў пачатку XVI ст. У Мірскім замку даволі блізкая по профілі кераміка, але ўжо з ледзь прыкметным рабром, сустракаецца сярод матэрыялаў XVII ст. (Здановіч Н. І., Краўцэвіч А. К., 1994. С. 41. Тып. VII).

Варыянт Г. Гаршкі падобныя па сваёй прафілёўцы на гаршкі тыпу 1-Б. Яны маюць шырокае тулава. У месцы яго перахода ў плечук назіраецца рабро. Плячук выразны, з невялікім прагібам уніз. Шыйка сярэдняй вышыні, завершана адагнутым вонкі венцам. Стратыграфічна гаршкі гэтага тыпу пачынаюць сустракацца разам з паліванай керамікай і кафляй, што дазваляе датаваць яе канцом XVI — пачаткам XVII ст. У заслаўскіх матэрыялах яны маюць аналогіі сярод керамікі аддзела 1, тып III-В, якая існавала ў апошняй трэці XVI — першых дзесяцігоддзях XVII ст. (Заяц Ю. А., 1993. С. 114). У Мсціславе падобная кераміка сустракаецца ў слаях XVII ст. (Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1985. С. 197. Тып VIII).

Аддзел 2. Уключае гаршкі з адагнутым венцам. Край у іх завернуты ўнутр і ўтварае валік альбо лажбінку пад накрыўку. Існуе некалькі тыпаў гаршкоў гэтага аддзела.

Тып 1, варыянт А. Гаршкі гэтага варыянта маюць выразную шыйку, адагнутае ў вонкавы



Мал. 52. Гарадзішча Замкавая гара. Кераміка з ніжняга запаўнення калодзежа

бок венца, край якога загнуты ў валік для накрыўкі. Яны вельмі нагадваюць гаршкі аддзела 1, тып 3, варыянт 1, маюць адзінае паходжанне і сустракаюцца разам. Адзінае адрозненне — адсутнасць рабра пры пераходзе плечука ў тулава (мал. 52:1,2). Сустракаюцца ў слаях канца XIII — пачатку XIV ст.

Варыянт Б. Гаршкі прадстаўлены фрагментамі аналагічных гаршкоў, але ў адрозненне ад папярэдняга варыянта валік пад накрыўку тут значка большы. Акрамя таго, гаршкі маюць больш адагнутае венца і больш пакатыя плечукі. Кераміка такога тыпу нешматлікая, сустракаецца на мацерыку і зрэдку ўпрыгожана па тулаве лінейным арнаментам. На стратыграфічна непашкоджаных участках Замкавай гары гэта найбольш ранні тып керамікі. Аналагі гэтай керамікі вядомыя на помніках XII — першай паловы XIII ст.

Тып 2. Гаршкі, як правіла, зроблены з чырвонай гліны, даволі таўстасценныя (да 0,7 см) і маюць невялікую шыйку, адагнутае венца, край якога мае невялікую лажбінку пад накрыўку. Кераміка гэтага тыпу папярэднічала слою, у якім пачынае сустракацца каробкавая кафля, што дазваляе датаваць яе не пазней першай паловы XVI ст. Аналагі ім сустракаюцца ў Мінску, Лідскім замку, Слоніме ў слаях XVI ст. (Ганецкая І., Здановіч Н., 1996. С. 113. Тып V).

Тып 3 мае цыліндрычную, сярэдняй вышыні шыйку, якая нахілена ўнутр. Край венца завернуты ўнутр і ўтварае лажбінку пад накрыўку. Існуе некалькі варыянтаў керамікі гэтага тыпу, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго вышынёй і нахілам шыйкі.

Варыянт А мае невялікую, нахіленую ўнутр шыйку, завернуты ўнутр край венца, які ўтварае жалабок пад накрыўку. Гаршкі гэтага варыянта сустракаліся ў слаях канца XVI — пачатку XVII ст. Аналагі крычаўскай керамікі вядомыя ў Магілёве сярод матэрыялаў XVI — XVIII стст. У Мсціславе такая кераміка датуецца першай паловай XVII ст. (тып VIII-Б) (Здановіч Н., Трусаў І., 1986. С. 197-198; Марзалюк І., 1998. Мал. 23: 1,2).

Варыянт Б мае значна больш высокую шыйку — да 3 см — і ледзь бачны плячук. Край венца гарызантальна адагнуты, падняты ўверх і такім чынам утварае лажбінку пад накрыўку. Стратыграфічна гаршкі гэтага варыянта сустракаліся разам з гаршковай кафляй, якая мае квадрыфольнае вусце горла, што дазваляе датаваць кераміку XV — пачаткам



Мал. 53. Гарадзішча Замкавая гара: 1—3 — ганчарныя клеймы; 4—6 — накрыўкі




Мал. 54. Гарадзішча Замкавая гара: 1 — рынка; 2 — патэльня

XVI ст. Аналагічная кераміка вядома ў слаях XIV —XVI стст. Слоніма, Віцебска, Шклова (Ганецкая І., Здановіч Н., 1996. Тып IV; Левко О. Н., 1992).

У гаршкоў тыпу 4 аддзела 2 амаль адсутнічае шыйка і ёсць кароткае, слаба адагнутае венца з валікам пад накрыўку. Гаршкі гэтага тыпу ў Крычаве сустракаюцца ў слаях XVI — першай паловы XVII ст. Аналагі ім ёсць у Заслаўі, дзе яны датуюцца гэтым жа часам (Заяц Ю. А., 1995. С. 78. Аддзел 4, тып 5).

Гаршкі тыпу 5 аддзела 2 вельмі падобныя на кераміку папярэдняга тыпу. Але ў адрозненне ад іх яны маюць больш выразную шыйку, нешырокія плечукі і слаба адагнутае невысокае венца. У шурфе № 5 гэтыя гаршкі кампактна размяшчаліся ў слаях паміж другім (1535 г.) і трэцім (1564 г.) пажарышчамі, што дазваляе датаваць іх сярэдзінай XVI ст.

Аддзел 3. У яго ўваходзяць гаршкі з пры-зямістым акруглым тулавам і кароткім патоўшчаным каплепадобным венцам, якое прылягае да тулава. Тэта адзін з самых распаўсюджаных тыпаў гаршкоў у верхніх пластах. Ён быў даволі шырока распаўсюджаны ў XVII — XVIII стст. і сустракаецца ў Магілёве, Мсціславе, Слоніме, Мірскім замку (Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1985. С. 197-109; Ганецкая І., Здановіч Н., 1996. С. 113; Марзалюк І., 1998. С. 207. Мал. 23:17).

Аддзел 4 аб'ядноўвае гаршкі з вертыкальным ці трошкі нахіленым горлам. Унутры аддзела вылучаюцца наступныя тыпы:

Тып 1 прадстаўлены гаршкамі, якія маюць вертыкальнае горла і адцягнуты край венца. Край венца альбо вертыкальна зрэзаны, альбо закруглены. Унутры гэтага тыпу вылучаюцца некалькі варыянтаў, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго вышынёй шыйкі.

Варыянт А. Начынні гэтага варыянта характарызуюцца наяўнасцю цыліндрычнай, высокай шыйкі і пакатымі плечукамі. Венца невялікае, яго край адагнуты і коса зрэзаны альбо закруглены. Гаршкі гэтага тыпу існавалі на працягу даволі доўгага перыяду. Упершыню яны пачынаюць сустракацца ў слаях XIV ст. і існавалі да XVIII ст.

Найбольш раннія гаршкі гэтага варыянта XIV —XV стст. мелі прамую цыліндрычную шыйку. Аналагі падобнай керамікі вядомыя ў Шклове, Віцебску (Левко О. Н., 1992). На поўдні — на Украіне кераміка падобнага варыянта пачынае сустракацца ў другой палове XIII ст. і вядома на селішчах Азарычы і Камарыўка (Беляева С. Е., Кубышев А. І., 1995. Мал. 36; 61-64).

Далейшае развіццё гаршкоў варыянта «А» ішло па шляху скарачэння вышыні шыйкі. Гаршкі варыянта «Б» маюць значка менш выражаны плячук. Венца гарызантальна адагнутае і закруглена. Стратыграфічна гаршкі падобнага тыпу сустракаліся ў слаях, дзе знойдзена гаршковая кафля з квадрыфольным вусцем горла, што дазваляе датаваць іх XV —XVI стст. Аналагічная кераміка вядома ў слаях XIV — XVI стст. Слоніма, Віцебска, Шклова (Ганец-




Мал. 55. Гарадзішча Замкавая гара. Макотры

кая І., Здановіч Н., 1996. Тып IV; Левко О. Н., 1992).

У канцы XVI — пачатку XVII ст. гэты варыянт керамікі атрымаў далейшае развіццё. З'яўляюцца гаршкі варыянта «В». У іх ідзе памяншэнне вышыні шыйкі, яна даволі часта атрымлівае нахіл ва ўнутраны бок. Гаршкі зноў становяцца акруглымі і маюць добра выяўлены плячук. Край венца альбо проста адхілены вонкі і коса абрэзаны, альбо загладжаны са знешняга боку. Гаршкі гэтага тыпу сустракаліся ў слаях канца XVI — пачатку XVIII ст. Аналагі крычаўскай керамікі вядомы ў Магілёве сярод матэрыялаў XVI —XVIII стст. У Мсціславе такая кераміка датуецца першай паловай XVII ст. (тып VIII-Б) (Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1985. С. 197-198; Марзалюк І., 1998. Мал. 23:1, 2).

У XVII ст. быў распаўсюджаны і варыянт Г гэтага тыпу гаршкоў, які меў адцягнуты ўніз край венца.

Тып 2 аддзела 4 характарызуецца гаршкамі, якія маюць нахіленае ўнутр горла. Гаршкі гэтага тыпу ў Крычаве былі распаўсюджаны ў XV — пачатку XVII ст. З XVII ст. пачынае распаўсюджвацца варыянт, які меў акруглабокае тулава, добра акрэслены плячук, кароткае нахіленае ўнутр горла і трошкі адцягнуты ўверх край венца.

Тып 3 аддзела 4 прадстаўлены гаршкамі, якія маюць нахіленае ўнутр горла, невялікія плечукі і рабро ў месцы пераходу тулава ў плячук. Варыянты афармлення венцаў маглі быць розныя — проста адцягнутае, закругленыя альбо коса зрэзаны знешні край. Гаршкі гэтага тыпу ў шурфе № 5 сустракаліся пераважна ў слаях паміж другім (1535 г.) і чацвёртым пажарышчам (1633 г.). У іншых раскопах яны таксама размяшчаліся ў слаях XVI — пачатку XVII ст.

Донцы гаршкоў звычайна без закраіны. За усе гады раскопак знойдзена 7 фрагментаў донцаў з клеймамі (мал. 53:1 — 3). Клеимы ўяўляюць сабою круг, кола са спіцамі. Хаіналагічна донца з клеймамі знойдзены ў слаях, якія адносяцца да перыяду не пазней за XV ст.

Паліваны посуд у Крычаве нешматлікі. Яго тыпалогія на матэрыялах даследаванняў М. А. Ткачова распрацавана Н. І. Здановіч і А. А. Трусавым. Як паказаў аналіз паліванага посуду з усходняга рэгіёна сучаснай Беларусі, у XVI ст. тут ужываюцца паліваныя гаршкі двух тыпаў: з круглымі плечукамі, моцна адагнутым вонкі венцам, па ўнутраным краі якога праходзіць раўчук з амаль прамой шыйкай і знешне асіметрычным патаўшчэннем венца, аформленым у выглядзе карнізіка. Звычайны арнамент



Мал. 56. Гарадзішча Замкавая гара. Тыпалогія місак

на гэтых гаршках — шматраднае рыфленне, зробленае грабеньчыкам, прычым паліва наносілася на ўнутраную паверхню начыння.

Сярод матэрыялаў канца XVI — пачатку XVII ст. у нязначнай колькасці прысутнічаюць гаршкі з цыліндрычным горлам, што з некаторымі варыянтамі пераважаюць сярод матэрыялаў Мсціслава. Большасць гаршкоў з Крычава XVII ст. уяўляюць сабой варыянты з цыліндрычнай шыйкай вышынёй да 3 см (Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1993. С. 31).

Класічным відам посуду для смажання і пражання страў была рынка — піялападобны посуд з акруглым дном, які абапіраўся на тры ножкі. Фрагменты паліваных рынак сустракаюцца ў Крычаве пераважна з матэрыяламі XVII ст. Толькі асобныя фрагменты можна стратыграфічна аднесці да канца XVI ст.

Амаль усе рынкі мелі піялападобнае тулава. Па форме венца яны падзяляюцца на пяць тыпаў: а) са зрэзаным унутр краем; б) са знеш-


Мал. 57. Гарадзішча Замкавая гара. Кераміка: 1 — 3 — міскі; 4 — талерка

неасіметрычным патаўшчэннем; в) край венца адагнуты вонкі ў выглядзе нешырокага борціка; г) з коса зрэзаным венцам; д) з гарызантальна зрэзаным венцам.

Дыяметр венца пераважна 18 — 20 см. Глыбіня начынняў не перавышае 5,5 см. Ручка з рэльефным валікам на канцы крыху прыузнятая над краем венца. Вышыня ножак не перавышае 6 см.

Акрамя рынак з піялападобным тулавам сустракаюцца начынні з выразна пляскатым донцам дыяметрам 6,5—10 см, вертикальным борцікам вышынёй 3 — 4 см і гарызантальным, коса зрэзаным альбо закругленым краем венца. Форма і пасадка ручкі аналагічная папярэднім, дыяметр венца пераважна 14—19 см. Вышыня ножак не перавышае 4,5 — 6 см (Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1993. С. 34) (мал. 54:1).

Для смажання выкарыстоўваліся і простыя патэльні. Знойдзеная ў Крычаве патэльня па форме нагадвае сучасныя металічныя. Яна мае дыяметр 18 см, глыбіню каля 5 см, утулку для чапялы даўжынёю 4,5 см з дыяметрам унутранага канала 1,5 см. Па знешнім краі патэльня ўпрыгожана хвалістым арнаментам (мал. 54:2). Знойдзена яна ў слоі разам з гаршкаподрбнай кафляй, якая мела квадрыфольнае вусце, і керамікай, характэрнай для XV — пачатку XVI ст. Тэта дазваляе датаваць яе часам не раней чым пачатак XVI ст.

Сярод керамічнага матэрыялу значную колькасць складаюць фрагменты макотраў — посуду для расцірання прадуктаў — маку, жаўткоў яек і інш. Першыя макотры ў Крычаве пачынаюць сустракацца ў слоі XVI ст. і з'яўляюцца распаўсюджаным тыпам посуду у XVII — XVIII стст. Па форме тулава макотры з Крычава даволі аднастайныя. Яны падзяляюцца на два тыпы.

У макотраў першага тыпу сценкі дугападобныя (мал. 55:1). Макотры другога тыпу маюць нахіленыя ўнутр сценкі (мал. 55:2). Венчык у іх аформлены ў выглядзе падвоеных валікаў, карнізіка, адцягнуты ў вонкавы бок. Знойдзеныя ў Крычаве макотры выключна тэракотавыя, паліваныя адсутнічаюць.

Яшчэ адзін від ганчарнага посуду, які даволі часта сустракаецца на Замкавай гары Крычава ў слаях XVI —XVIII стст., міскі. Па форме тулава яны дзеляцца на 4 тыпы (мал. 56).

Да першага тыпу адносяцца міскі, якія маюць дугападобныя сценкі і загнутае ўнутр коса зрэзанае венца (мал. 56:7,8).

Другі тып місак, найбольш распаўсюджаны, характарызуецца сценкамі, якія плауна пашыраюцца. Край венца мае featureрознае афармлен-


Мал. 58. Гарадзішча Замкавая гара. Кераміка: 1—3 — фрагменты кумганаў; 4 — горла біклажкі; 5 — горла сасуда; 6 — фрагмент керамічнай трубкі (носік-зліў ?); 7 — збан




Мал. 59. Гарадзішча Замкавая гара. Біклажка

не. Існуюць варыянты з роўна зрэзаным, з адагнутым вонкі і з загнутым унутр краем венца. Абодва тыпы місак сустракаюцца ў слаях XVI-XVIII стст. (мал. 56:2-4,6; 57:1-3).

Міскі тыпу III — рабрыстыя сасуды з рабром у верхняй трэці. Значная частка іх пакрытая зялёнай палівай. Міскі гэтага тыпу сустракаюцца ў слаях XVII —XVIII стст. (мал. 56:1, 5).

Чацвёрты тып прадстаўлены адным фрагментам міскі, у якой верхняя частка тулава ўсечана-канічная, а ніжняя набліжаецца да дугападобнай. Пераход з ніжняй часткі ў верхнюю павольны, рабро не назіраецца. Фрагмент гэтай міскі знойдзены ў слоі другой паловы XVI — першай паловы XVII ст. (мал. 56:9).

Яшчэ адным тыпам сталовага посуду, які выкарыстоўваўся на замку Крычава, былі талеркі. Знойдзены ў слоі сярэдзіны XVII ст. фрагмент талеркі, пакрыты зялёнай палівай, па сваей форме нагадвае сучасныя глыбокія (мал. 57:4). Унутраная паверхня талеркі ўпрыгожана хвалістым арнаментам.

Для захоўвання віна, воцату і іншых вадкіх прадуктаў выкарыстоўваліся кумганы — посуд у выглядзе збана з вузкім горлам і доўгім носікам, які меў накрыўку і ручку. Крычаўскія кумганы прадстаўлены фрагментамі носікаў, знойдзены ў слоі XVII ст. Адзін з іх быў пакрыты зялёнай палівай (мал. 58:3), другі — чорнаглянцавы (мал. 58:1), трэці таксама — чорнаглянцавы, але носік выкананы ў форме шматгранніка (мал. 58:2). Для Беларусі кумганы — даволі рэдкая знаходка. Акрамя Крычава яны вядомы з раскопак у Мінску (зялёнапаліваны кумган) і Віцебску (чорнаглянцавы) (Энцыклапедыя.., 1993. С. 356; Здановіч Н. І., Трусаў А. А., 1993. С. 137. Мал. 66). Кумганы найбольш характэрныя для ўсходніх зямель. Так, у Маскве і Смаленску, дзе знойдзены бліжэйшыя аналогі крычаўскім знаходкам, кумганы сустракаюцца ў слаях апошняй чвэрці XV — пачатку XVIII ст. (Розенфельдт Р. Л., 1968. Табл. 6:27; 10: 8, 9, И, 12; Юркина Т. В., 1976. С. 62. Табл. IV, 7; Сергина Т.В., 1981. С. 243).

Акрамя кумганаў для перавозкі і захоўвання віна і іншых вадкіх прадуктаў выкарыстоўваліся біклажкі і збаны. У Крычаве ў слоі другой паловы XVI ст. знойдзена цэлая біклажка дыскападобнай формы дыяметрам 16 см і шырынёй 6,5 см. Ёмістасць яе прыкладна 1,5 літра. 3 абодвух бакоў біклажка ўпрыгожана стужкавым арнаментам. Для мацавання з бакоў мела вушкі. Па цэнтры дыска біклажкі зроблена канаўка для рамня, на які яна падвешвалася (мал. 59). Акрамя таго, у Крычаве ў слаях XVII ст. знойдзены і асобныя фрагменты біклажак (мал. 58:4).

Акрамя кумганаў і біклажак для захоўвання віна і іншых вадкіх прадуктаў выкарыстоўваліся збаны і іншы посуд з вузкім і высокім горлам (мал. 58:5, 7). Тэты посуд знойдзены ў слоі XVII ст. і звычайна пакрыты зялёнай палівай.

Частыя знаходкі ў слаях другой паловы XVI —XVIII ст. на Замкавай гары Крычава — гліняныя начынні для пітва. Яны ў асноўным прадстаўлены фрагментамі і цэлымі бакаламі рознага аб'ёму (мал. 60:1, 3 — 5, 7). Акрамя таго, час ад часу сустракаюцца і рознага памеру зялёнапаліваныя куфлі (мал. 60:2, 7). Аб'ём бакалаў вагаўся ад 75 да 500 г, а куфляў — ад 100 да 500 г.

Посуд для спецый прадстаўлены як прыземістымі гаршкамі невялікіх памераў з шырока адкрытым горлам (мал. 61:1, 3, 4), так і спецыялізаваным посудам цыбулепадобнай формы, які мае на верхняй частцы чатыры адтуліны для дазіравання (мал. 61:6). Прыземісты невялікі посуд, верагодна, выкарыстоў-

ваўся ў якасці салонак. Сустракаецца ён у слаях XVI— XVII стст. Цыбулепадобны посуд пакрыты зялёнай палівай як з вонкавага, так і са знешняга боку і, хутчэй за ўсё, выкарыстоўваўся для захавання вострых прыпраў.

Асобную групу керамікі складае вялікапамерны посуд, які маглі выкарыстоўваць для захавання прадуктаў. Яна прадстаўлена фрагментамі сценак гаршкоў, зробленых з добра вымешанай цёмна-карычневай гліны, якія па таўшчыні сценак (10 мм) набліжаюцца да карчаг. Знойдзены яны ў слоі XV —пачатку XVI ст.

Накрыўкі для посуду падзяляюцца на некалькі тыпаў. Да першага тыпу адносяцца конусападобныя накрыўкі з петлепадобнымі ручкамі (мал. 53:5 — 6). Другі тып накрывак адрозніваецца формай ручкі. Яна аформлена ў выглядзе чашы (мал. 53:4). Абодва тыпы накрывак былі распаўсюджаны ў XV —XVII стст. У калекцыі крычаўскага посуду, у слаях з керамікай канца XIII —XIV ст. сустракаюцца некалькі фрагментаў гаршкоў, якія мелі па баках петлі для падвешвання (мал. 52:3).

Акрамя посуду ў культурным слоі Крычава XVII —XVIII стст. знойдзены ў вялікай колькасці курыльныя люлькі, цацкі, падсвечнікі.

Курыльныя люлькі з'яўляюцца частай знаходкай на Крычаўскім замку — 15 штук. З улікам тэхналогіі вытворчасці ўсе люлькі можна падзяліць на некалькі груп — белагліняныя, чырвонагліняныя і паліваныя.

Белагліняныя люлькі, як правіла, зроблены ў гладкай форме (мал. 64:1,2,5). Зрэдку чашачка для тытуню падзяляецца на дзве часткі (мал. 64:4).

Насельніцтва Крычаўскага замка карысталася як бела-, так і чырвонаглінянымі непаліванымі і паліванымі люлькамі, частка якіх была ўпрыгожана арнаментам. Дэкор люлек даволі разнастайны — у выглядзе ялінак, кветак ці кольцаў. Часта люлькі XVII ст. пакрываліся зялёнай палівай, хоць у асноўным пераважваюць нефарбаваныя.

У слоі сярэдзіны XVII ст. знойдзены цэлы падсвечнік (мал. 65), пакрыты зялёнай палівай, фрагмент падсвечніка знойдзены ў слоі XIV ст. (мал. 50:7).

Другі від вырабаў дробнай пластыкі, знойдзеных на Замкавай гары, — разнастайныя па форме і памерах цацкі і свістулькі ў выглядзе птушак і звяроў (мал. 50:1,4; 66). Выявы іх даволі рэалістычныя, ёсць як паліваныя, так і непаліваныя. Знойдзены фрагменты двух конікаў, на тулаве аднаго з іх захаваліся невялікія плямы палівы зялёнага колеру (мал. 66:1). Цікавай з'яўляецца цацка, выкананая ў выглядзе чалавека (мал. 50:4; 66:5). Усе гэтыя знаходкі саслоя XVII-XVIII стст.

Безумоўна, што частка насельніцтва горада займалася ганчарнай справай. Аднак інвентарныя апісанні Крычава другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. нічога пра гэта не паведамляюць. Толькі інвентар Крычава 1747 г. адзначае, што ў горадзе на той час жыло 35 ганчароў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 19-42).

**Архітэктурна-дэкаратыўная кераміка** Крычава прадстаўлена выключна кафляй. Яна падзяляецца на два віды — гаршкападобную і каробкавую.

Найбольш ранняя кафля гаршкападобная. На землях Вялікага княства Літоўскага яна з'яўляецца ў першай палове XIV ст. Гаршкападобная кафля на Замкавай гары знойдзена пераважна ў слаях XV — пачатку XVI ст., аднак асобныя фрагменты сустракаюцца і ў напластаваннях пачатку XVII ст. Па форме вусця і прапорцыях тулава крычаўская гаршкападобная кафля падзяляецца на два тыпы. Да першага адносіцца кафля з амаль квадратным вусцем памерамі 113 х 123 мм, круглым дном (дыяметр 70—75 мм) і высокім тулавам — да 195 мм (мал. 67:1). Другі тып гаршкападобнай кафлі мае квадрыфольнае вусце памерамі 130 х 135 мм, вышыню да 200 мм і круглае дно дыяметрам 75 мм (мал. 67:2). Кафля падобнай формы была шырока распаўсюджана на землях Беларусі ў XIV —XVI стст. і вядома па даследаваннях у Лідскім замку, Заслаўі, Крэўскім замку (Трусов О. А., 1988. Рис. 74, 77; Заяц Ю. А., 1995. С. 82).

Міскападобная кафля на Крычаўскім замку нешматлікая. Толькі ў пластах першай паловы XVII ст. знойдзена некалькі фрагментаў тэракотавай кафлі такога тыпу.

З XVI ст. на землях Вялікага княства Літоўскага даволі хутка пачынае распаўсюджвацца каробкавая кафля. Гэта было выклікана тым, што дзякуючы сваей форме каробкавыя кафлі максімальна павялічвалі канвенцыйную паверхню печы, утвараючы суцэльнае цеплавое люстэрка. Калекцыя каробкавай кафлі з Крычаўскага замка прадстаўлена як паліванай, так і тэракотавай кафляй.

Найбольш ранняя каробкавая тэракотавая кафля з Крычаўскага замка — гэта кафля з вонкавай пласцінай памерамі 21 х 19,5 см, з прафіляванай невысокай (0,5 см) рамкай і шырынёю да 0,8—1 см. Вышыня румпы — 8,5 см. У цэнтральнай частцы пласціна арнаментавана выявай букета кветак у вазе (мал. 68:1). Найбольш ранняя крычаўская кафля з выявай букета кветак у вазе знойдзена разам з керамікай



Мал. 60. Гарадзішча Замкавая гара. Посуд для пітва: 1 — 5, 7 — чаркі; 6 — куфаль

XVI стст., што дазваляе гэтым жа часам датаваць і саму кафлю. Падобнае датаванне кафлі пацвярджаюць і памеры вазы. Ваза даволі масіўная, займае прыкладна 2/5 вышыні вонкавай пласціны, што адпавядае раннім варыянтам кафлі з такім сюжэтам. Наогул падобны сюжэтны матыў быў даволі распаўсюджаны ў сярэдзіне — другой палове XVI ст. на землях ВКЛ. Такая ж кафля вядома ў Заслаўі, Лідскім замку, Лагойску, Магілёве (Трусов О. А., 1988. Рис. 88; Заяц Ю., 1990. С. 13. Рыс. 5:2. С. 27; Марзалюк І., 1998. Мал. 40:2).

Лякала з гэтым самым сюжэтам выкарыстоўвалася і ў XVII ст. Пра тэта сведчыць фрагмент кутняй кафлі, знойдзены ў напластаваннях XVII ст. (мал. 69:6). Такі тэхналагічны прыём, калі для вырабу кутняй кафлі браўся фрагмент сюжэта сценнай кафлі, шырока ўжываўся менавіта ў XVII ст. (Заяц Ю., 1990. С. 44-45).

Кафля з сюжэтнай кампазіцыяй «букет у вазе» была шырока распаўсюджана на землях ВКЛ і ў больш позні час — у XVII ст. Не абмінуў гэты працэс і Крычаў, дзе кафля з такім сюжэтам сустракаецца даволі часта.

Тэракотавая кафля XVII ст. з сюжэтам «букет у вазе» мае вонкавую пласціну памерамі 19 х 17,5 см з невысокай рамкай. У цэнтры пласціны, у васьмікутнай рэльефнай рамцы, размешчана ваза з кветкамі. Са знешніх бакоў сегментападобнае паглыбленне ўпрыгожана разеткамі ў выглядзе кветак. Куты кафлі ўпрыгожаны раслінным арнаментам (мал. 68:2). Даволі блізкая па кампазіцыйным сюжэце кафля са слоя XVII ст. вядома ў Лепелі, Мсціславе (Трусов О. А., 1988. Рис. 90:17; Беларуская кафля, 1989. № НО).

Гэтым жа часам датуецца і другі варыянт кафлі з выявай букета кветак у вазе. Вонкавая пласціна зялёнапаліванай кафлі памерамі 19,5 х17,5 см упрыгожана раслінным арнаментам, які выкананы на арцы. У цэнтры аркі выява кветкі ў вазе, па баках яе — птушкі з распасцёртымі крыламі (мал. 68:3). Са знешняга краю пласціна кафлі ўпрыгожана рамкай шырынёй 0,7 см і вышынёй да 0,4 см. Блізкая па сюжэце і храналогіі кафля сустракалася ў Іказні, Мінску, Мсціславе (Трусов О. А., 1988. Рис. 90:18; Беларуская кафля, 1989. № 109, 112).

Другой паловай XVII — пачаткам XVIII ст. датуецца яшчэ адзін варыянт кафлі з выявай букета кветак у вазе. Вонкавая пласціна кафлі мае памеры 20,5 х 17 см, абведзена рамкай. У цэнтры пласціны размешчана васьмівугольная рэльефная рамка, у якой знаходзіцца стылізаваная ваза з кветкамі (мал. 68:6). Вышыня румпы ад вонкавай пласціны — 7,5 см. Бліз-



Мал. 61. Гарадзішча Замкавая гара. Ганчарны посуд XVI-XVIII стст.



Мал. 62. Гарадзішча Замкавая гара. Ганчарны посуд

кая па сюжэце кафля знойдзена ў Мсціславе ў слаях другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. (Трусов О. А., 1988. Рис. 90:15).

У канцы XVI — першай палове XVII ст. шырокае распаўсюджванне атрымала кафля з раслінным арнаментам (мал. 68:4). На Крычаўскім замку знойдзены шматлікія фрагменты кафлі з вонкавай пласцінай памерамі 20 х 19,5 см.

У гэты ж час бытавала даволі блізкая па кампазіцыйным афармленні кафля з арнаментам у стылі каванага металу (мал. 68:5; 69:5). Аналогі вышэйпералічаных тыпаў кафлі даволі часта сустракаюцца на беларускіх землях у канцы XVI — першай палове XVII ст. (Марзалюк І., 1998. Мал. 38:2, 3).

Акрамя сценавых у печах шырока ўжываліся і іншыя віды кафляў, якія і вызначалі архітэктуру печы. Складаныя па архітэктуры печы з двух і болей ярусаў выклікалі з'яўленне паясной кафлі, што раздзяляла асобныя ярусы. З'яўляюцца карнізы, якія завяршаюць верхні ярус печы, разнастайныя каронкі, медальёны. Некаторыя тыпы печаў мелі купалападобнае скляпенне, пакрытае спецыяльнай лусковай кафляй, якая нагадвала па форме дахоўку.

Сярод крычаўскай кафлі разнастайнымі сюжэтамі прадстаўлена карнізная кафля са слоя другой паловы XVI —XVIII ст.

У канцы XVI — пачатку XVII ст. у крычаўскіх печах выкарыстоўвалася карнізная кафля з рознымі анімалістычнымі сюжэтамі. Вядома пяць кафляў з Крычава, на якіх ёсць выявы львоў. Першая кафля мае вонкавую паверхню памерамі 20 х 16 см, абведзеную рэльефнай рамкай. Акрамя таго, рамка ўпрыгожана паўкруглымі дугамі. У цэнтры ўвагнутай унутр пласціны — стылізаваная выява льва, павернутага галавой на ўсход. Хвост льва праходзіць паміж заднімі лапамі і высока падняты ў гару. Леў разявіў пашчу, у якой відаць язык (мал. 69:2).

Другая кафля мае памеры вонкавай пласціны 21 х 17,5 см. У адрозненне ад першай яна не мае рамкі па краях, леў навернуты галавою на захад. У яго прыўзнятыя ў гару пярэднія лапы, хвост, праходзячы паміж заднімі лапамі, таксама высока падняты. Ва ўсходняй частцы вонкавай пласціны размешчана кветка, вышынёй амаль роўная льву (мал. 69:1).

Пад час даследаванняў М. А. Ткачова ў слоі XVII ст. былі знойдзены яшчэ чатыры кафлі, на якіх ёсць выява льва. Сярод іх дзве карнізныя, пакрытыя зялёна-карычневай палівай, і дзве тэракотавыю, якія складалі вонкавую паверхню печы (Беларуская кафля, 1989. № 93—95).

Фрагмент карнізнай тэракотавай кафлі, упрыгожанай выявамі львоў, навернутых адзін да аднаго і падзеленых разеткай з вонкавай паверхні печы, якая вельмі падобна на выяву з тэракотавай карнізнай кафлі XVII ст. (Беларуская кафля, 1989. № 95), знойдзены ў слоі канца XVI ст. (мал. 69:4). Падобны сюжэт мае і зялёнапаліваная карнізная кафля са слоя XVII ст. (мал. 69:3).

Анімалістычны сюжэт на вонкавай паверхні кафлі, асабліва выявы птушак, быў распаўсюджаны на крычаўскай кафлі і ў першай



Мал. 63. Гарадзішча Замкавая гара. Ганчарны посуд



Мал. 64. Гарадзішча Замкавая гара. Люлькі XVII — XVIII стст.

палове XVII ст. Існуюць два варыянты гэтага сюжэта. Першы адносіцца да кафлі з выявай двухгаловай птушкі, што, верагодна, з'яўляецца своеасаблівай інтэрпрэтацыяй расійскага дзяржаўнага герба. Крычаў знаходзіўся на памежжы з Расіяй, і, відаць, некаторая частка яго рамеснікаў у сваей працы арыентавалася на замежжа. Адсюль і наяўнасць невялікай колькасці кафлі з выявай дзяржаўнага герба суседняй дзяржавы.

Памеры вонкавай пласціны кафлі вар'іруюць ад 17,4 x 22,5 см да 19,5 x 23 см. Сюжэт акаймаваны альбо невысокай рамкай (да 0,3 см), альбо больш глыбокай (да 0,5 см) двайной рамкай (мал. 70: 1,2).

Яшчэ адна кафля з падобным сюжэтам адрозніваецца тым, што ў ёй двухгаловая птушка, абведзеная кругам, займае ніжнія 2/3 вонкавай пласціны кафлі. А яе верхняя частка ўпрыгожана стылізаванай каронай (Беларуская кафля, 1989. № 146).

Другі варыянт прадстаўлены кафляй, на якой у крузе дыяметрам каля 12,5 см стылізавана паказаны дзве птушкі, галовы якіх глядзяць у розныя бакі. Вонкавая пласціна кафлі мае памеры 18 x 21,5 см. Па краях яна абведзена рамкай шырынёй да 1 см і вышынёй 0,3 см. Захаваная вышыня прамавугольнай румпы роўная 8 см (мал. 70:3).

Абодва гэтыя варыянты сустракаюцца ў Крычаве сярод матэрыялаў XVII ст. Кафля другога варыянта мае аналогіі сярод магілёўскіх старажытнасцей XVII ст. (Марзалюк І., 1998. Мал. 44:3).

За гады даследаванняў на Крычаўскім замку знойдзены рэшткі адной кафлянай печы. Яна мела под памерамі 1,1 x 0,8 м, складзены з фрагментаў цэглы, і падушку з пяску. Печ у асноўным складалася з каробкавай зялёнапаліванай кафлі памерамі 20 x 22 см, якая пасамі шырынёй 1 см была падзелена на чатыры квадраты, у сваю чаргу ўпрыгожаныя геаметрычным арнаментам. Падобная кафля сустракалася сярод матэрыялаў Лідскага, Гарадзенскага і Мірскага замкаў канца XVI — пачатку XVII ст. (Трусов О. А., 1988. С. 131. Рис. 74. № 10; Беларуская кафля, 1989. № 33; Здановіч Н. І., Краўцэвіч А. К., Трусаў А. А., 1994. Мал. 88:1,5; Трусаў А. А., Собаль В. Е., Здановіч Н. І., 1993. Мал. 82:2; Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., 1994. С. 229. Мал. 121), сярод заслаўскай кафлі XVI ст. (Заяц Ю. А., 1990. С. 16. Рыс. 6:1), сярод мінскай кафлі першай паловы XVII ст. (Беларуская кафля, 1989. № 79).

У значна меншай колькасці ў гэтым развале сустракаліся фрагменты зялёнапаліванай кафлі, таксама ўпрыгожанай геаметрычным арнаментам, але другой формы. Яна мае паглыблены квадрат на вонкавай пласціне, па цэнтры якога зроблены выступаючы наперад шышак. Падобная кафля і раней сустракалася



Мал. 65. Гарадзішча Замкавая гара. Падсвечнік XVII ст.



Мал. 66. Гарадзішча Замкавая гара. Гліняныя цацкі XVII ст.

ў Крычаве сярод матэрыялаў XVII ст. (Беларуская кафля, 1989. № 34). Крычаўская печ, мяркуючы па комплексу знаходак у яе развале (фрагменты жалезных ядраў, кераміка, стрэмя, соліды Яна Казіміра), верагодна, была знішчана ў выніку ваенных дзеянняў сярэдзіны XVII ст. і ў цэлым яе можна датаваць першай паловай — сярэдзінай XVII ст.

У сцяну гэтай печы ўключаліся і вялікапамерныя плоскія медальёны, рэшткі якіх даволі часта сустракаліся ў развале. Яны мелі як лусковы, так і раслінны арнамент (мал. 71:1,2). Мяркуючы па кавалках, якія захаваліся, некаторыя медальёны мелі паўкруглую форму. Верх печаў быў упрыгожаны зялёнапаліванымі каронкамі — яны з'яўляюцца частай заходкай у слаях канца XVI —XVII ст. (мал. 72:2-6).

Вырабам кафлі займаліся ганчары. Але інвентар горада 1747 г. паведамляе, што ў Крычаве толькі адзін ганчар спецыялізаваўся на вырабе кафлі — «кафляр Грышка Прохарав». Ён жыў на Сіманаўскай вуліцы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 27).

Інвентарныя апісанні будынкаў Крычаўскага замка другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. даюць агульныя ўяўленні пра печы, што стаялі ў іх. Інвентары згадваюць тры тыпы печаў. У жылых памяшканнях — печы «паліваныя з кафляў зялёных», зрэдку згадваюць кафлі «шэрыі» непаліваныя. Звычайна крыніцы адзначаюць добры стан печаў. Толькі інвентары 1673 і 1682 гг. фіксуюць асобныя печы, зробленыя са старых «патлушчоных» кафляў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1923, арк. 4; адз. зах. 1926, арк. 3). Большая частка іх мела квадратную альбо прамавугольную форму. Але інвентары адзначаюць наяўнасць у Крычаўскім замку і печаў круглай формы, таксама зробленых з кафляў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1933/2, арк. 1). Печы адрозніваліся адна ад адной і памерамі: згадваюцца печы «малыя» і «дужыя». З печаў выходзіў комін, які звычайна бялілі. Як сведчаць пісьмовыя крыніцы, печы рабіліся на гліняным падмурку.

У гаспадарчых пабудовах былі глінабітныя печы. У іх гатавалі ежу, пяклі хлеб, таму яны называліся «пякарскімі», «хлебовымі», «гаспадарчымі» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 3; адз. зах. 1933/2, арк. 1).

**Будаўнічая кераміка.** Прадстаўлена яна выключна цэглай. Цэлая цэгла і яе фрагменты неаднаразова сустракалася пад час даследаванняў замка. Гэта цэгла-пальчатка памерамі 34 х 14 х 6-7,5 і 27,5-28 х 14 х 7,5 см. Улічваючы, што на Крычаўскім замку адсутнічалі мураваныя пабудовы, знойдзеная цэгла выкарыстоўвалася, верагодна, пад час будаўніцтва фундаментаў печаў.

У сярэдзіне XVIII ст. у горадзе існавала цагельня, якая размяшчалася на ўскрайку Забялышчынскага пасада, у канцы вуліцы Чэрыкаўскай, на пляцы святара Мікольскай царквы



Мал. 67. Гарадзішча Замкавая гара. Гаршкападобная кафля




Мал. 68. Гарадзішча Замкавая гара. Кафля XVI —XVII стст.

айца Хведара. Належала яна скарбу (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 40).

**Дрэваапрацоўка.** Існаванне яе ў горадзе пацвярджаецца знаходкамі спецыялізаванага інструмента — амаль усімі яго відамі. Найбольш распаўсюджаным інструментам дрэваапрацоўкі была сякера. У Крычаве на Замкавай гары ў слаях XIII —XVII стст. знойдзены тры цэлыя сякеры і чатыры фрагменты сякер рознай велічыні.

Сякера са слоя XIII —XIV стст. мае сіметрычнае лязо і круглы абух (мал. 74:8). Падобныя сякеры ў Ноўгарадзе з'явіліся ў XIII ст. і ўжываліся да пачатку XV ст. (Колчин Б. А., 1959. С. 26. Рис. 10:7). Другая сякера са слоя XII —XIII стст. захавалася фрагментарна (мал. 74:9). У яе абламанае лязо, таму пра яе тыпалогію што-небудзь казаць цяжка.

Сякеры, што стратыграфічна датуюцца XVII ст., некалькі адрозніваюцца ад знаходак папярэдняга часу. Яны маюць пляскаты абух і высокае, адцягнутае ў бок тапарышча лязо (мал. 74:5; 75:6). Блізкія па форме і часе бытавання сякеры вядомы па даследаваннях у Магілёве, Міры (Здановіч Н. І., Краўцэвіч А. К., Трусаў А. А., 1994. Мал. 106:11; Марзалюк І., 1998. Мал. 50:2 — 3). Астатнія сякеры, што стратыграфічна датуюцца XVII —XVIII стст., пададзены фрагментарна (мал. 75:1).

На замку ў слоі XII —XIII стст. знойдзены лажкар (мал. 74:4), які выкарыстоўваўся для вырабу драўлянага посуду. Ён мае рукаятку даўжынёй 130 мм, завершаную выгнутым разцом шырынёй 7 мм. У слоі XIV — пачатку XVI ст. знойдзены дзве універсальныя прылады для дрэваапрацоўкі. З аднаго боку тэта невялікае цясло, якое выкарыстоўвалася для прабівання пазоў і жалабоў, а другі бок гэтай прылады працы выкарыстоўваўся ў якасці прыстасавання для выцягвання цвікоў (мал. 75:4, 5). Яны выкананы ў выглядзе металічнага стрыжня квадратнага сячэння даўжынёй 120 мм, якія на канцы падвойваліся. Адзін бок быў зроблены ў выглядзе цясла з разцом шырынёй 23 мм.

У слоі XVI —XVII стст. знойдзены два фрагменты спіралепадобных свярдзёлкаў (мал. 75: 2,3). Яны зроблены з круглага стрыжня дыяметрам 8 і 10 мм з папярэчнай адтулінай на канцы. Захаваная даўжыня свярдзёлкаў 150 і 160 мм.

Акрамя таго, у Крычаве знойдзены 4 долаты: адно — у слоі XIV — пачатку XVI ст., а тры — у слоі другой паловы XVI —XVII ст. Усе яны выкананы ў выглядзе масіўнага стрыжня прамавугольнага сячэння з ударнай пляцоўкай на адным канцы і рэжучым лязом на другім. Шырыня долатаў вагаецца ад 10 да 20 мм, даўжыня іх стрыжняў — ад 180 да 270 мм (мал. 74:1-3).

У слоі XVI —XVII стст. знойдзены два фрагменты стругаў — прыстасаванняў для ачысткі дрэва ад кары (мал. 74:6,7). Шырыня ляза першага — 30 мм, другога — 21 мм. Даўжыня чаранка вагаецца ад 75 да 150 мм.

Безумоўна, у горадзе меліся цесляры, што ўзводзілі дамы і драўляныя храмы, рамантавалі ўмацаванні замка. Былі ў Крычаве і майстры, якія займаліся вырабам драўлянага посуду — бочак, кадак і інш. У інвентары горада 1679 г. згадваюцца Павел Бондар з Падбярэжнай вуліцы і Андрэй Бондар, што жыў на Бочкавай вуліцы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1925, арк. 5 — 6,8). Нельга выключыць, што іх прозвішчы адлюстроўвалі прафесійны занятак уладальнікаў.

Значна больш багаты на падобную інфармацыю інвентар горада 1747 г. Ён згадвае не толькі трох гарадскіх цесляроў, але і чатырох дзежнікаў — майстроў па вырабе драўлянага посуду.

Частка жыхароў горада, верагодна, здаўна займалася смалакурэннем, гонкай дзёгця, выпальваннем драўлянага вугалю, вытворчасцю паташу, чаму садзейнічала размяшчэнне Крычава ў лясістай мясцовасці. Пацверджаннем гэтаму з'яўляецца, як відаць з інвентароў, даволі шырокае распаўсюджванне ў горадзе ў другой палове XVII — сярэдзіне XVIII ст. прозвішча Буднік.

**Вырабы са шкла.** Шкло і вырабы з яго на працягу ўсёй гісторыі Крычава былі тым таварам, які прывозілі ў горад. Толькі ў 1779 г. князь Р. Пацёмкін заклаў тут шкларобны завод, а да гэтага часу архіўныя звесткі пра шкларобства ў горадзе адсутнічаюць.

На пачатковым этапе развіцця горада асноўнай катэгорыяй шкляных вырабаў, якія наступалі ў Крычаў, былі бранзалеты. Акрамя іх на Замкавай гары знойдзены толькі зялёны рублены бісер, які датуецца VIII—XI стст. (Рябинин Е. А., 1982. С. 188). Колеравая гама шкляных бранзалетаў з Крычава не мае прамых паралеляў з іншымі гарадамі. Тут дамінуюць бранзалеты зялёнага колеру, за імі ідуць фіялетавыя (табл. 1).

Т а б л і ц а 1

**Каларыстычная гама бранзалетаў з Замкавай гары Крычава**

| Колер | Круглы | Круглы з перавіццём | Кручаныя | Кручаныя з перавіццём | Невызначаны | Усяго | % ад агульнай колькасці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бірузовы | 2 | | 2 | 1 | | 5 | 8,2 |
| Зялёны | 8 | 4 | 16 | 2 | 2 | 32 | 57,6 |
| Блакітны | 1 | | 2 | 1 | | 4 | 7,2 |
| Фіялетавы | 7 | 2 | 2 | 1 | | 12 | 21,6 |
| Жоўты | | | 2 | | | 2 | 3,6 |
| Карычневы | 1 | | | | | 1 | 1,8 |
| Усяго | 19 | 6 | 24 | 5 | 2 | 56 | 100 |

Такую колеравую гаму крычаўскіх бранзалетаў, верагодна, можна растлумачыць знаходжаннем горада на гандлёвай артэрыі — Сожы, па якім пастаўляліся шкляныя ўпры-




Мал. 69. Гарадзішча Замкавая гара. Кафля XVI —XVII стст.

гожванні з паўднёварускіх цэнтраў шкларобства, магчыма, Гомеля, і з цэнтраў, размешчаных у Смаленскай зямлі, — Смаленска, Царковішча. Нельга выключыць, што шклаpoбчы цэнтр XII —XIII стст. існаваў і побач з Крычавам, у Мсціславе, які быў адным з буйнейшых гарадскіх цэнтраў Смаленскай зямлі.

Значна папаўняецца колькасць шкляных вырабаў у гарадскіх слаях XVI —XVIII стст. Тэта было звязана перш за ўсё з тым, што з XVII ст. усход Беларусі становіцца галоўным вытворцам шкляных вырабаў на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага (Сташкевіч А., 1996. С. 89) і вырабы са шкла сталі звычайнымі рэчамі ў хатнім побыце месцічаў Крычава. Гэтаму садзейнічала і наяўнасць у наваколлях горада некалькіх цэнтраў шкларобства, адкуль вырабы са шкла прывозіліся ў горад.

Адзін з іх у XVII ст. размяшчаўся ў Мсціславе, а ў 1694 г. першая шкляная гута

была адчынена ў Крычаўскім старостве — «на р. Абароўцы, на старым Алучыцкім гасцінцы, на «грунце» Лабжанскім» (Сташкевіч А., 1996. С. 94-101; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 11, 86). Яна размяшчалася на тэрыторыі сучаснай в. Гута Клімавіцкага раёна. У 1723 г. у Крычаўскім старостве была пабудавана другая гута, на грунтах в. Хоцімск Вялікі — у сучаснай в. Горня Хоцімскага раёна (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1933/2, арк. 63).

Але яшчэ да ўзнікнення гут у старостве ў самім горадзе існавалі рамеснікі, якія мелі справу з апрацоўкай шкла. Так, у інвентары Крычава 1694 г. згадваюцца Іван і Радзько Шклаўцы, што жылі на Латынскай слабадзе. Прозвішча іх, верагодна, сведчыць, што яны займаліся апрацоўкай шкла. Радзько і Грэсь Шклаўцы, таксама з Латынскай вуліцы, згадваюцца і ў інвентары горада 1727 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 23; адз. зах. 1932, арк. 25). Магчыма, і іх заняткам было шкленне. Але ўжо ў інвентары горада 1747 г. мы не сустракаем імёнаў рамеснікаў, што займаліся гутным промыслам. Гэта, верагодна, было звязана з іх перасяленнем на гуты, размешчаныя ў старостве.

У залежнасці ад функцыянальнага прызначэння ўсе шкляныя вырабы, знойдзеныя ў Крычаве пад час археалагічных даследаванняў, падзяляюцца на дзве групы: аконнае шкло і посуд.

Інвентары горада фіксуюць даволі шырокае распаўсюджванне шкляных вокнаў прамавугольнай і круглай форм у замкавых пабудовах. Пад час археалагічных раскопак у розных раёнах горада знойдзены фрагменты аконнага шкла таўшчынёй 2 — 3 мм як прамавугольнай, так і круглай формы. Шкло было жоўтага ці жоўта-зялёнага колеру. Дыяметр круглых вокнаў дасягаў 12 — 15 см. Інвентары Крычаўскага замка другой паловы XVII — XVIII ст. таксама фіксуюць наяўнасць у пабудовах шкляных вокнаў. Па форме яны былі як круглыя, так і прамавугольныя. Як паведамляюць інвентары, шкляныя шыбы ўстаўляліся і ў драўляную, і ў алавяную раму.

Для захавання вадкасці ўжываліся бутэлькі. Іх фрагменты — даволі частая знаходка ў слаях XVII —XVIII стст. Крычаўскага замка. Бутэлькі мелі цыліндрычнае ці шарападобнае тулава з доўгімі канічнымі альбо цыліндрычнымі горламі. Донцы глыбока ўвагнутыя ўнутр з дапамогаю шаблона ці понціі. Зроблены бутэлькі з зялёнага шкла цёмных адценняў.

Другім тыпам посуду для захавання вадкасцей былі кварты і банкі. Яны маюць чатырохгранную форму тулава і адрозніваюцца толькі канструкцыяй горла. У банак яно шырокае (5 — 7 см у дыяметры) на кароткай шыйцы, якая павольна пераходзіць у пукатыя плечукі. У квартаў шыйка больш вузкая і звычайна ўпрыгожана наляпным валікам. Памеры донцаў ад 6 х 6 см да 10 х 11 см.

Даволі распаўсюджаныя ў Крычаве фрагменты шлягаў — сасудаў са сплюснутым эліпсападобным тулавам з невялікім горлам, якое мае адагнутае вусце. Выдзімаліся яны з бірузовага і жоўта-зялёнага шкла (мал. 76:1). Посуд падобнай формы вядомы па раскопках Мсціслава (Яніцкая М. М., Сташкевіч А. К., 1985. С. 86. Рыс. 2).

Пэўную цікавасць уяўляе шкляны гляк. Тэта сасуд з невысокай вузкай шыйкай на шырокім грушападобным тулаве, выдзьмуты адвольна з жаўтавата-зялёнага шкла. Месца пераходу аднаго аб'ёму ў другі пазначана трыма налепленымі жгутамі, упрыгожанымі рэльефнымі зашчыпамі. Завяршае кампазіцыю масіўная трохрэльефная ручка. Аналогія з мясцовымі керамічнымі формамі відавочная (Сташкевіч А., 1996. С. 102).

Шкляны посуд для піцця — гэта пераважна стопкі і шклянкі. Яны зроблены са светлазялёнага шкла, па форме як канічныя, так і цыліндрычныя. Канструкцыйна вылучаюцца два тыпы: з увагнутым унутр і з плоскім донцамі. Дыяметр донцаў вагаецца ад 3,7 да 6 см.

Іншы від шклянога посуду для піцця, які даволі шырока ўжываўся ў Крычаве, — гэта танкасценныя ціліндрычныя шкляніцы. Выкарыстоўваліся яны яшчэ як аптэчны посуд. Донцы ў гэтай групы шкляных вырабаў даволі часта ўвагнутыя ўнутр, упрыгожаныя хвалiста пакладзеным жгутом, які адначасова быў і падстаўкай. Адначасова сустракаюцца і шкляніцы з кольцавымі паддонамі. Некаторыя з іх упрыгожаныя наляпнымі палоскамі, якія ў сваю чаргу дадаткова аздобленыя штампаваным дэкорам. Вышыня некаторых шкляніц з Крычава дасягала 11,5 см, а дыяметр донцаў — 5 см (Сташкевіч А., 1993. С. 15) (мал. 77:1). Посуд такой формы шырока сустракаецца ў гарадскіх слаях XVII ст. (Яніцкая М. М., Сташкевіч А. К., 1985. С. 90. Рыс. 6; Бубенько Т. С., 1988. С. 126. Рис. 1-4; Краўцэвіч А. К., 1991. С. 138. Рыс. 37:1-4).

Сярод шклянога посуду з Крычава асабліва прывабнымі з'яўляюцца збанкападобныя куфлі. Пластычнасць ліній іх тулава падкрэсліваецца паднятай уверх ручкай у выглядзе тонкай пятлі-. Фрагменты ручак з крычаўскіх раскопак даюць уяўленне пра сасуды даволі спецыфічных форм. Адна з іх мае пляскатую авальную канструкцыю і знешнім выглядам


1


2


3



Мал. 70. Гарадзішча Замкавая гара. Кафля XVI —XVII стст.




Мал. 71. Гарадзішча Замкавая гара. Архітэктурна-дэкаратыўная кераміка XVI —XVII стст.

нагадвае лісток дрэва, пакрыты рэльефнымі пражылкамі. Другая падобная на звычайны расплюшчаны жгут даўжынёй 8 см і шырынёй 2 см. Вугал спалучэння ручак са сценкамі, а таксама лінія напрамку апошніх утвараюць шырокую адкрытую чашу накшталт глыбокай міскі (Сташкевіч А., 1996. С. 102).

**Косць.** Сярод археалагічных знаходак з Замкавай гары Крычава ёсць невялікая калекцыя касцяных вырабаў. Гэта абкладкі ручак нажоў, фрагменты грэбняў і розныя арнаментаваныя абкладкі. Фрагменты двухбаковых прамавугольных грабянёў (мал. 78:2, 7) знойдзены ў слоі XV — пачатку XVI ст.

Найболып цікавымі з гэтай катэгорыі знаходак з'яўляюцца арнаментаваныя касцяныя пласціны (мал. 78:3, 11) з адтулінамі для мацавання і круглая (30 мм) касцяная пласціна з выявай мужчыны (мал. 79:10), знойдзеныя ў слоі XVI —XVII стст. Аднак ніякіх іншых матэрыялаў, якія б сведчылі, што месцічы Крычава займаліся касцярэзным рамяством, ні на тэрыторыі замка, ні на тэрыторыі горада не знойдзена.

Інвентары Крычава другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. называюць яшчэ некалькі прафесій, якія былі ў Крычаве. Крыніцы сярэдзіны XVI —XVII ст. згадваюць, што Іллінскі манастыр валодаў перавозам праз Сож, які абслугоўвалі перавозчыкі. Верагодна, менавіта на ім у сярэдзіне XVIII ст. працаваў перавозчык Парфён Бочка, які жыў на Падбярэжнай вуліцы. Іллінскія святары мелі і другі перавоз на Сожы, размешчаны на поўдзень ад Забялышчына — на «дароге Олучицкой». Яго абслугоўвалі два перавозчыкі, што жылі на Забялышчыне (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 14; адз. зах. 1936, арк. 24, 37).

Інвентар горада 1747 г. адзначае наяўнасць у Крычаве і такіх рэдкіх прафесій, як музыкант — Есіп Ядкоўскі, які жыў на Падбярэжнай вуліцы, і цырульнікі — Лейба і Енкель, што жылі на Замкавай вуліцы. Магчыма, аб прафесійных занятках музыканцкай справай сведчыць і прозвішча Міхалкі Трубача, што згадваецца ў інвентары горада 1682 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 9; адз. зах. 1936, арк. 20, 24).

Пісьмовыя крыніцы не фіксуюць у Крычаве цэхавай арганізацыі рамеснікаў. Верагодна, тэта было выклікана іх адносна невялікай колькасцю.




Мал. 72. Гарадзішча Замкавая гара. Кафля XVI—XVII стст.

## § 2. Сельская гаспадарка

Сярэднявечны горад, з'яўляючыся цэнтрам рамяства і гандлю, адначасова быў цесна звязаны з сельскагаспадарчай вытворчасцю. Пра тэта сведчаць як пісьмовыя, так і археалагічныя крыніцы. Для ўсіх жыхароў горада сельскагаспадарчая вытворчасць з'яўлялася значным дапаможным промыслам, а для некаторых месцічаў Крычава земляробства заставалася асноўным відам гаспадарчай дзейнасці. Так, сярод 357 гарадскіх гаспадарак інвентар 1747 г. адзначае, што ў 28 з іх гаспадары былі «пахарамі». Тэта значыць, што нават у сярэдзіне XVIII ст. для 7,8% гарадскіх гаспадарак земляробства было асноўным заняткам.

Характарызуючы сельскагаспадарчыя заняткі жыхароў Крычава XII— XV стст., мы ў першую чаргу абапіраемся на археалагічныя крыніцы. Пісьмовыя ж матэрыялы пачынаюць асвятляць гэтае пытанне толькі ад пачатку XVI ст.

**Земляробства.** Пра заняткі насельніцтва Крычава земляробствам сведчаць перш за ўсё пісьмовыя крыніцы. Гэта выклікана тым, што археалагічныя даследаванні праводзіліся ў асноўным на дзядзінцы горада, які быў у першую чаргу ваеннай крэпасцю, і сельскагаспадарчая прадукцыя пастаўлялася сюды з навакольных вёсак.

Сваю сельскагаспадарчую дзейнасць крычаўскія месцічы ажыццяўлялі на землях, якія належалі гораду. На першапачатковым этапе гарадскія палеткі, хутчэй за ўсё, размяшчаліся непадалёк ад крэпасці, але ў больш позні час землі месцічаў былі раскіданы на значнай адлегласці ад яе.

На пачатку XVIII ст. зямельныя ўладанні горада на правабярэжжы Сожа межавалі з уладаннямі вёсак Варанёва і Бель. На левым баку ракі землі гараджан ішлі ўверх па р. Асцёр і межавалі з землямі в. Дзягавічы. Адтуль уздоўж рэчкі Струбкі яны ішлі ў бок в. Міхеевічы і далей уздоўж рэчкі Чарніцы выходзілі на Сож. На поўдзень ад горада апорнай кропкай у пошуках мяжы гарадскіх уладанняў з'яўляецца рэчка Задабрасць. Уздоўж яе гарадскія землі падымаліся ўверх і межавалі з землямі вёсак Сакольнічы, Касцюшкавічы, Залесавічы, Дарлівая і зноў выходзілі на межы в. Варанёва (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 4 — 5; адз. зах. 1932, арк. 17 — 18). Межы гарадской зямлі праходзілі прыкладна ў 3 — 6 км ад граніцы горада і займалі плошчу ад 25 да 30 кв. км.

Нам вядома, колькі валок апрацоўвалі месцічы ў XVIII ст. У інвентары горада 1723 г. адзначаецца, што гораду належыць 67,11 валокі зямлі, з якіх толькі 27,29 валокі апрацоўвалася. Акрамя таго, за гараджанамі лічылася 1468,3 морга «палявых», а апрацоувалася з іх толькі 803,06 морга (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1933/2, арк. 19). Такім чынам, агульная колькасць апрацоўваемых крычаўскімі месцічамі валок дасягала 54.


Мал. 73. Гарадзішча Замкавая гара. Кафля XVI —XVII стст.

Праз дваццаць гадоў колькасць апрацоўваемых валок павялічылася. Інвентар горада 1747 г. сведчыць, што ворныя валокі гараджан кампактна размяшчаліся на правабярэжжы Сожа, на поўнач і поўдзень ад горада. Два абрубы зямлі па 82 валокі размяшчаліся на мяжы з зямельнымі ўладаннямі в. Варанёва, а трэці абруб, таксама памерам 82 валокі, — Забялышчынскі, размяшчаўся на поўдзень ад Забялышчынскага пасада. Наяўнасць трох абрубаў зямлі непасрэдна сведчыць, што тут вялася трохпольная сістэма земляробства. Акрамя таго, інвентар адзначае, і што гараджанам належалі моргі і «палявыя» і «сенажатныя», раскіданыя невялікімі лапікамі ў гарадскіх наваколлях.

Пра тое, якія культуры вырошчваліся ў горадзе і яго наваколлях, сведчаць знойдзеныя на замку ў слоі XIII ст. зярняты жыта, пшаніцы, ячменю, аўса, проса, гароху і грэчкі (Коробушкйна Т. Н., 1979. С. 95). Галоўнай збожжавай культурай у тэты час было жыта. У дзвюх пробах, узятых на аналіз, яго доля складала 59 і 74% адпаведна (Кирьянова Н. А., 1979. С. 78). Пры вывучэнні збожжа выяўлена некалькі відаў пустазелляў. Іх прысутнасць гаворыць пра тое, што збожжавыя вырошчваліся на стараворных землях. Сярод пустазелля знойдзены каласоўнік ржаны і бязвосты — пустазелле азімага жыта, якое мае з ім аднолькавы цыкл развіцця. Знаходкі гэтага пустазелля пацвярджаюць выкарыстанне азімай культуры жыта. Ва ўмовах стараворнай глебы азімыя маглі сеяцца толькі пры наяўнасці Глебы пад парам. Гэта сведчыць, што жыхары Крычава ўжо ў XII —XIII стст. ужывалі папарную сістэму земляробства (Коробушкина Т. Н., 1979. С. 83, 85).

Пераапрацоўка сельскагаспадарчай прадукцыі. Жыта праз увесь час заставалася галоўнай збожжавай культурай, што тлумачыцца яго большай ураджайнасцю, марозаўстойлівасцю і меншай патрабавальнасцю да глебы. Менавіта яно ўвесь час фігуруе ў крыніцах XVII — XVIII стст. у якасці аднаго з відаў «дзякла».

З сельскагаспадарчых прылад працы ў Крычаве (у слоі XV —XVI стст.) пакуль знойдзены толькі адзін цэлы серп і два ў фрагментах (мал. 79:8-10).

Для перапрацоўкі прадукцыі земляробства выкарыстоўваліся каменныя жорны, высечаныя з валуноў, якія з'яўляюцца даволі частай знаходкай у слаях XIV —XVII стст. Яны маюць дыяметр 35 — 50 см, таўшчыню 11 — 15 см. Акрамя таго, знойдзены дзве жалезныя порхліцы ад ручных жорнаў (мал. 79:11, 12).

Для перапрацоўкі збожжа на муку ці крупы ў горадзе меліся млыны. Так, у сярэдзіне XVII ст. згадваюцца два гарадскія млыны за Сожам на р. Духобычы (Гісторыя Беларусі.., 1936. С. 501). Пасля вайны 1654-1667 гг. захаваўся толькі адзін — Зарэцкі, які згадваецца ў 1682, 1694 гг. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1923, арк.4; адз. зах. 1926, арк. 5; адз. зах. 1928, арк. 9). Але ўжо ў інвентары 1709 г. ён называецца інакш — млын «называемы Прудок на 1 коле, за замкам» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1929, арк. 43). У інвентары горада 1720 г. зноў згадваюцца млын Зарэцкі, нанава адбудаваны «пад замкам», і яшчэ адзін новы за межамі горада (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 22). Інвентар 1753 г. адзначае, што гараджане паставілі новы млын



Мал. 74. Гарадзішча Замкавая гара. Дрэваапрацоўчы інструмент: 1—3 — долаты; 4 — лажкар; 5, 8, 9 — сякеры; 6, 7 — стругі

«на 2 колы» на рацэ Задабрасці (ДГАЛ, ф. 459, воп. 1, адз. зах. 2308, арк. 1 адв.). У канцы XVIII ст. у горадзе, як і раней, існавалі 2 млыны (Мейер А., 1901. С. 115).

Частка сельскагаспадарчай прадукцыі перапрацоўвалася на піва і гарэлку на броварах. Наяўнасць бровара, размешчанага каля замка, адзначаюць інвентары Крычава 1682 і 1694 гг. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 7; адз. зах. 1928, арк. 7). Інвентар 1682 г. падкрэслівае, што ён належыць замку — «скарбовы». Бровар у фальварку Крычаўскім, размешчаным у замкавым рове, адзначаецца ў інвентары горада 1747 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 4). На гэтым жа месцы паказаны вінакурны завод на плане Крычава 1778 г.

Інвентар 1747 г. сведчыць пра наяўнасць у Крычаве і некалькіх прыватных бровараў, якія кампактна размяшчаліся ў розных раёнах горада. Частка бровараў канцэнтравалася каля замка, дзе нават існавала вуліца Броварная, якая ішла «ад рынка над ровам замковым». Тут размяшчаліся бровары Ёселя Саламановіча і Іфшэра. На бровары апошняга жыў Васка Півавар, які, як сведчыць інвентар, меў адпа-

ведную свайму прозвішчу прафесію. Крыніца адзначае, што на Броварнай вуліцы жыў яшчэ адзін півавар — Сяргей Куфар (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 22). Акрамя гэтых бровараў інвентар 1747 г. згадвае бровар Хаіма на Бочкавай вуліцы, які размяшчаўся ў замкавым рове (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 23).

У сярэдзіне XVIII ст. у Крычаве існаваў і другі раён, дзе стаялі бровары, — уздоўж става на р. Крычаўцы, на вуліцы Шахраевай. Тут згадваецца пляц Васкі Тарбуша, які раней належаў Мацюшку Піўвару. У рове над р. Крычаўкай, каля крынічкі, размяшчаўся броварны пляц нейкага Глухога. На левым баку р. Крычаўкі, таксама ў рове, быў броварны пляц Гіршы Зайца (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 28-30).

Нельга выключыць, што гэта былі вінакураныя бровары, бо ў 1786 г., прыблізна на гэтым месцы, існаваў бровар, які размяшчаўся на правым беразе ручая Крычавец, насупраць гарадзішча Гарадзец, меў 12 казаноў і даваў у дзень 110 вёдзер віна (Мейер А., 1901. С. 114).

Акрамя пераапрацоўкі збожжа крычаўскія месцічы актыўна займаліся вытворчасцю алею. Інвентары неаднаразова сярод жыхароў горада называюць «алейнікаў». Асаблівае развіццё вытворчасць алею атрымала ў XVIII ст. Так, калі інвентар 1682 г. называе нам толькі двух месцічаў, якія займаліся гэтай справай, то у інвентары 1747 г. алейнікамі названы ужо 5 жыхароў, і дадаткова згадваецца адзін пляц, дзе раней жыў алейнік. На алей пераапрацоўвалі перш за ўсё каноплі і льняное семя.

**Жывёлагадоўля** з'яўлялася неад'емнай ад земляробства галіной сельскай гаспадаркі і ў значнай ступені вызначала развіццё апошняй. Хатнюю жывёлу разводзілі для атрымання мяса, скуры, воўны. Быкі і коні выкарыстоўваліся ў якасці цяглай сілы ў гаспадарках, звязаных з сельскагаспадарчай вытворчасцю. Крычаўскія месцічы, што неслі вайсковую службу, мелі і верхавых коней.

Асноўнай крыніцай, якая дазваляе вызначыць ролю жывёлагадоўлі ў жыцці горада, з'яўляецца астэалагічны матэрыял. Табл. 2 адлюстроўвае колькасныя і працэнтныя дачыненні паміж рознымі відамі хатняй жывёлы, атрыманымі пад час даследаванняў 1974 — 1976 гг., доля якой у мясным рацыёне жыхароў Замкавай гары ўвесь час узрастала. Так, калі ў XII —XIII стст. доля жывёлагадоўлі ў мясным рацыёне складала 86,4%, то ў XIV —XVI стст. яна ўжо дасягала 95%. Прыкладна такі ж працэнт захоўваўся і ў XVII —XVIII стст. — 93,4.



Мал. 75. Гарадзішча Замкавая гара. Дрэваапрацоўчы інструмент: 1 — фрагмент ляза сякеры; 2, 3 — свердзелы; 4, 5 — цёслы; 6 — сякера

У працэнтных дачыненнях паміж відамі хатняй жывёлы на першым месцы знаходзіцца буйная рагатая жывёла, якая ва ўсіх храналагічных групах вагалася ў межах 49 — 51%. Другое месца ва ўсіх трупах стала займаў астэалагічны матэрыял свінні — ад 21,5 да 27%. На трэцім месцы стаяць астэалагічныя матэрыялы дробнай рагатай жывёлы. Аднак разам працэнтныя дачыненні колькасці свінні і дробнай рагатай жывёлы (скараспелых) складаюць амаль 44%. Даволі высокі працэнт мае колькасць асобін коней.

Табліца 2

**Дачыненні паміж астэалагічнымі матэрыяламі хатняй і дзікай жывёлы з Замкавай гары**

| Жывёла | % ад агульнай колькасці асобін у слаях XII—XIII стст. | % ад агульнай колькасці асобін у слаях XIV—XVI стст. | % ад агульнай колькасці асобін у слаях XVII—XVIII стст. |
|---|---|---|---|
| Буйная рагатая жывёла | 49,4 | 49,7 | 50,56 |
| Дробная рагатая жывёла | 17,6 | 15,3 | 17,9 |
| Свіння | 22,3 | 21,5 | 26,9 |
| Лошадь | 10,5 | 13,8 | 4,4 |
| Усяго асобін | 85 | 65 | 89 |




Мал. 76. Гарадзішча Замкавая гара. Шкляныя вырабы XVII-XVIII стст.

Аналагічныя працэнтныя паказальнікі атрыманы і пад час апрацоўкі матэрыялаў з раскопак 1987 — 1988 гг. Астэалагічны матэрыял з раскопак гэтых гадоў, апрацаваны і па ўзроставым прызнаку, паказаў, што месцічы Крычава ў асноўным ужывалі ў ежу мяса жывёлы, якая дасягнула рэпрадукцыйнага ўзросту. Доля маладых жывёл не перавышала 33% у свіней, 16% — быкоў і 18% — авечак. У той жа час астэалагічны матэрыял старых жывёл пададзены адзінкавымі экземплярамі.

Летам статак пасвіўся на выганах, якіх у межах горада было некалькі. Адзін з іх, невялікі (1,5 морга = 1,08 га), знаходзіўся ў канцы вуліцы Бачковай, над Сожам, пры замкавым фальварку. Два другія выганы размяшчаліся таксама каля Сожа, у канцы вуліцы Падбярэжнай, якая ішла ўздоўж ракі. Статак пасвіў спецыяльна наняты пастух. У 1747 г. ім быў Кузма, што жыў па Сіманаўскай вуліцы. Свайго пастуха, Сцепку Елкіна, меў і Забялышчынскі пасад. У 1754 г. пасвіў жывёлу Верамей Даніленак, які жыў на Пабярэжнай вуліцы. Падпаскам у яго быў сын Ігнат (НГАБ, ф. 1812, воп. 1, адз. зах. 5, арк. 12, 13).

Для ўтрымання жывёлы ў зімовы перыяд летам неабходна было назапашваць сена. Для гэтага ў гараджан існавалі спецыяльна выдзеленыя «моргі сенажатныя». У 1723 г. яны былі раскіданы ў наваколлях горада і займалі плошчу 593,15 морга, што адпавядае 421,13 га. З заняпадам горада пасля падзей Паўночнай вайны толькі 328,25 морга (233 га) апрацоўвалася, а на астатніх не было каму касіць сена (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1933/2, арк. 19). Інвентар горада 1747 г. згадвае наяўнасць 616,24 морга сенажатных, што адпавядае 431,35 га (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 53-57).

Непасрэдна з жывёлагадоўлей была звязана і прафесія мясніка, альбо, як яна называлася ў сярэднявеччы, рэзніка. Людзей, якія прафесійна займаліся гэтай справай, у Крычаве было няшмат. Так, інвентар горада 1747 г. толькі аднойчы згадвае месціча гэтай прафесіі.

Займаліся жыхары горада і развядзеннем хатняй птушкі. Аднак арніталагічны матэрыял у калекцыі з горада адсутнічае, што не дазваляе асвятліць гэтае пытанне больш падрабязна. Тым не менш, інвентар горада 1747 г. свед-




Мал. 77. Гарадзішча Замкавая гара. Шкляныя вырабы: 1 , 2 — фрагменты шкляніц; 3 — ручка шклянога куфля; 4 —10 — фрагменты шклянога посуду



Мал. 78. Гарадзішча Замкавая гара. Касцяныя вырабы: 1, 4 — муфты; 2, 7 — грабеньчыкі; 5, 6, 8, 9 — абкладкі рукаятак нажей; 3, 11 — абкладкі; 10 — медальён

чыць, што ў крычаўскім фальварку быў «хлявок для птаства дворнага», а абавязак пастаўкі кур у якасці «дзякла» зафіксаваны ў некаторых інвентарах Крычаўскага староства пачатку XVIII ст. Пра відавы склад статка хатняй птушкі сярэдзіны XVIII ст. можна меркаваць па рэестры хатняй жывёлы і птушак Хоцімскага фальварка 1753 г., адкуль пастаўлялі курэй, гусей, качак, індыкоў (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1163, арк. 68 — 68 адв.).

Агародніцтва і садаводства былі даволі распаўсюджанымі заняткамі жыхароў сярэднявечных гарадоў Беларусі. Пад агароды адводзіліся часткі сядзіб, вольныя ад забудовы гарадскія пляцы і землі, размешчаныя непасрэдна каля горада. Замкавыя агароды згадваюцца у інвентары Крычава 1694 г. Адзін з іх знаходзіўся ў замкавым рове, каля моста з замка ў горад, і быў агароджаны тынам з жэрдак. Другі размяшчаўся за горадам і быў агароджаны тынам, у якім мелася брама з драніц. Замкавыя агароды згадваюцца і ў інвентары горада 1709 г. Першы з іх, як і раней, размяшчаўся каля моста з замка, а другі — за горадам каля «могілак жыдоўскіх» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1929, арк. 40). Паводле даўняга звычаю, замкавыя агароды павінны былі апрацоўваць крычаўскія месцічы, што жылі на манастырскіх пляцах (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 8, 43).

Інвентар горада 1747 г. таксама адзначае наяўнасць замкавага агарода ў замкавым рове. Ён быў абнесены штакетнікам і цягнуўся да самага Сожа. З левага боку моста размяшчаўся агарод крычаўскага фальварка. Тры замкавыя агароды знаходзіліся адразу за ровам з левага боку Замкавай вуліцы. Яны былі агароджаны новым парканам і, верагодна, увесь час прыцягвалі ўвагу мяшчан, бо інвентар адзначае, што з прычыны блізкасці да замка якое-небудзь будаўніцтва на іх забараняецца. Пяты замкавы агарод у 1747 г. размяшчаўся, як і раней, «пры могілках жыдоўскіх», у канцы вуліцы Дрыбінскай. Ён быў засеяны аўсом для замкавых патрэб, і пры ім жыў стораж Лявон Кутага (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 19,29). Акрамя таго, пад замкавы агарод быў канфіскаваны пляц Іллі Карпача, што размяшчаўся на Чэрыкаўскай вуліцы.

Акрамя замкавых агародаў у горадзе былі агароды месцічаў. Бессістэмна раскіданыя па ўсёй цэнтральнай частцы горада, яны амаль адсутнічалі на Забялышчыне і на Загарадзішчы. Апошняе, верагодна, было абумоўлена наяўнасцю каля гэтых раёнаў зямельных надзелаў месцічаў, якія і выкарыстоўваліся пад агароды.

Першыя звесткі пра агароды, размешчаныя каля горада, мы сустракаем у крыніцы канца XVI ст. (1592 г.). Вялікі князь Жыгімонт III пацвердзіў зямяніну Марціну Юр'евічу Кгімбургу «да живота» права на сяло «Волчасы»,



Мал. 79. Гарадзішча Замкавая гара. Сельскагаспадарчыя прылады працы і прадметы рыбалоўнага промыслу: 1, 2, 6 — восці; 3 — 5 — грузілы сетак; 7 — кручок; 8 — 10 — сярпы; 11, 12 — порхліцы

пляц у горадзе і на агарод над ручаём Крычаўцам пад Гарадзішчам (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 77, арк. 412 адв.— 413 адв.).

Памеры агародаў гараджан былі розныя і вагаліся ад 1,4 да 22 прэнтаў, а ў сярэднім адпавядалі 5,5 прэнта. Праўда, былі і выключэнні. Замкавы агарод і сад на Дрыбінскай вуліцы, напрыклад, дасягаў 55 прэнтаў, а агарод Іллінскай царквы меў 19,25 прэнта. Памеры астатніх замкавых агародаў вагаліся ад 7,5 да 10 прэнтаў.

Садаводства як спецыялізаваная галіна сельскагаспадарчай вытворчасці таксама было знаёмае гараджанам. У інвентары 1694 г. адзначаецца, што замак меў свой сад, які размяшчаўся каля «магіл жыдоўскіх за местам». Ён, як і замкавы агарод, быў агароджаны тынам, у якім былі вароты з драніц. Крыніца падкрэслівае, што сад у 1694 г. быў ужо стары «ні на што не варты», у ім касілі сена для патрэб замка (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 8).

I праз паўстагоддзя становішча з замкавым садам не палепшылася. У 1747 г. сад і адзін з замкавых агародаў знаходзіліся, як і раней, каля «могілак жыдоўскіх», але ўжо ў межах горада, у канцы вуліцы Дрыбінскай. Але і зараз інвентар адзначаў, што «сад вымер» і губернатар прапануе засадзіць новы сад і развесці тут пасеку (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 30). Магчыма, што да прапаноў губернатара прыслухаліся і ў Крычаве быў засаджаны новы сад. Ва ўсялякім выпадку, на плане Крычава 1778 г. ён наказаны за горадам, над левым берагам Забялышчынскага ручая.

Значка менш звестак у нас пра сады крычаўскіх месцічаў. Толькі ў інвентары 1747 г. сустракаюцца звесткі аб наяўнасці садоў у Ваські Баравіка, Навеха Ідэсавіча і Гапона Шамры (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 21, 35). У той жа час нельга выключаць, што па некалькі пладовых дрэваў мог мець кожны гараджанін на сваіх пляцах і агародах.

## § 3. Промыслы

**Паляванне.** Адным з найгалоўных відаў здабываючых промыслаў было паляванне, якое давала не толькі значны дадатак да ежы, але і служыла крыніцай здабывання сыравіны для шэрага рамёстваў. Паляванне давала скуры дзікіх жывёл, футру, рогі. Для палявання на вялікую жывёлу — лася, зубра, аленя, мядзведзя выкарыстоўвалі коп'я, суліцы, стрэлы з шырокімі наканечнікамі, а таксама арбалет з масіўнымі стрэламі. На пушнога звера (вавёрку, куніцу, собаля) палявалі з дапамогай касцяных наканечнікаў стрэл (мал. 83:7, 12). Табл. 3 адлюстроўвае відавы склад дзікіх жывёл з культурнага слоя Замкавай тары Крычава.

Табліца 3

**Відавы склад астэалагічных рэшткаў дзікіх жывёл з Замкавай гары**

| Жывёлы | % ад агульнай колькасці асобін у слаях XII—XIII стст. | % ад агульнай колькасці асобін у слаях XIV—XVI стст. | % ад агульнай колькасці асобін у слаях XVII—XVIII стст. |
|---|---|---|---|
| Зубр | 12 | | 8,3 |
| Лось | 44 | 26,6 | 50 |
| Алень | | 20 | 16,6 |
| Касуля | | | 8,3 |
| Кабан | 16 | 20 | 16,6 |
| Мядзведзь | 16 | 6,6 | |
| Ліса | | 6,6 | |
| Воўк | 8 | 13,3 | |
| Заяц | 4 | 6,6 | |
| Усяго | 25 | 18 | 12 |

Прыведзеныя ў табл. 3 дадзеныя не зусім дакладна адлюстроўваюць відавы склад жывёл, на якіх вялося паляванне, таму што на вавёрку, рысь, лісу, воўка, куніцу, собаля палявалі з-за футру. Скуру з іх звычайна здымалі на месцы палявання і таму косці ў гарадскі слой не траплялі. Тое ж самае адбывалася і са здабытымі бабрамі, на якіх палявалі з-за футру і бабровага струменя. Крыніцы XVI —XVIII стст. неаднаразова згадваюць «бабровыя гоны» і баброўнікаў у наваколлях Крычава. Так, паводле распараджэння камісара староства, у 1727 г. старасцінскія баброўнікі павінны былі здаваць у замак штогод «па пяць скур старых добрых» баброў, а для заахвочвання баброўнікам выплачваўся порах (НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3981, арк. 25 адв.). У 1746 г. у Крычаўскім старостве меліся 4 баброўнікі (ДГАЛ, ф. 459, воп. 1, адз. зах. 2305, арк. 9).

Параўнанне дачыненняў паміж колькасцю асобін дзікай і хатняй жывёлы паказвае, што увесь час адбываўся працэс скарачэння ролі палявання ў жыцці насельнікаў дзядзінца Крычава. Так, калі ў XII —XIII стст. роля палявання ў забеспячэнні мясам дасягала 22,7%, то ў XIV —XVI стст. яна скарацілася да 16,6%, а ў XVII —XVIII стст. складала ўжо толькі 11,8%. На працягу ўсёй гісторыі Крычаўскага замка большую частку дабычы пад час палявання складалі ласі, доля якіх дасягала 50%. На другім месцы сярод паляўнічых трафеяў у XIV —XVII стст. былі алені. А вось зубры, астэалагічныя рэшткі якіх трапляюцца сярод матэрыялаў на Замкавай тары яшчэ ў слаях XVII ст., у апісанні Крычаўскага графства

1786 г. А. Мейеру ўжо не сустракаліся. Не згадваюцца яны і ў «Інфармацыі і генеральнай дыспазыцыі Крычаўскага староства 1727 г.», дзе самымі вялікімі жывёламі, на якіх палявалі ў старостве, былі мядзведзі і ласі (НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3981, арк. 25 адв.). Верагодна, зубры на тэрыторыі староства былі вынішчаны ў XVII ст.

Пісьмовыя крыніцы канца XVI ст. згадваюць наяўнасць у воласці «замку Крычовского» тураў, на якіх палявалі сяляне ў наваколлях в. Вепрын (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 77, арк. 24 — 25 адв.). Нельга выключыць, што частка астэалагічнага матэрыялу, які палеазаолагамі традыцыйна адносіцца да зуброў, на самой справе належыць турам. На мядзведзяў у наваколлях Крычава палявалі яшчэ ў 1746 г., калі на тэрыторыі староства іх было забіта 8 (ДГАЛ, ф. 459, воп. 1, адз. зах. 2305, арк. 9).

Наогул, аналіз астэалагічнага матэрыялу з Беларускага Падняпроўя сведчыць, што ў гэтым раёне былі распаўсюджаны віды дзікіх жывёл, характэрных для таёжных лясоў, — лось, зубр, мядзведзь, бобр. Гэта, верагодна, было выклікана ландшафтнымі і галацэнавымі фаўністычнымі асаблівасцямі (Александрович Н. П., 1999. С. 14).

Безумоўна, астэалагічны матэрыял толькі з гарадскога замка не можа дакладна вызначыць ролю палявання ў жыцці гараджан, але матэрыял з пасадаў вельмі нязначны, каб рабіць нейкія пэўныя высновы. Пісьмовыя крыніцы першай паловы XVIII ст. толькі адзначаюць, што адміністрацыя староства была зацікаўлена ў тым, каб паляўнічыя трафеі траплялі ў замак, і таму спецыяльна заахвочвалі стральцоў выплатай пораху за здадзеныя скуры мядзведзя і лася. Аднак, верагодна, паляваннем актыўна займаліся не толькі стральцы. Сяляне таксама не упускалі магчымасці папоўніць свой мясны рацыён за кошт палявання, бо крыніцы неаднаразова фіксуюць патрабаванні да войтаў, каб яны сачылі за сялянамі і не дазвалялі ім паляваць у каралеўскіх лясах. А калі сяляне палююць на баброў, то павінны альбо плаціць за гэта па 10 бітых талераў, альбо здаваць у Крычаускі замак бабровы струмень (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 156).

**Рыбалоўства.** Размяшчэнне горада на буйной і багатай рыбай рацэ садзейнічала заняццю яго жыхароў рыбалоўствам. Пад час археалагічных даследаванняў на Замкавай гары ў слаях XIV — пачатку XVI ст. знойдзены розныя прылады рыбнай лоўлі, якія падраздзяляюцца на колючыя, крюкавыя і сеткі.

Колючыя прылады прадстаўлены як цэлай мнагазубай, так і фрагментамі састаўных шматзубых восцяў (мал. 79:1, 2, 6), знойдзенымі на Замкавай гары адпаведна ў слаях XIV — першай паловы XVI ст.Ігла адназубай восці са слоя XIV ст. выгнутая (мал. 79:2), мае даўжыню 100 мм. 3 гэтага ж слоя паходзіць і абламаны фрагмент шматзубай восці (мал. 79:2), які мае іглу даўжынёй 120 мм. Трохзубая восць са слоя пачатку XVI ст. мае іглы даўжынёй па 70 мм (мал. 79:6). Крукавыя снасці прадстаўлены знаходкай аднаго крука (мал. 79:7). Безумоўна, рыбу лавілі і сеткамі, ад якіх у слаях XV —XVII стст. захаваліся 22 гліняныя грузілы (мал. 79:3 — 5).

Права гараджан займацца рыбалоўствам было пацверджана і прывілеем караля Уладзіслава IV ад 24 лютага 1634 г. аб пашырэнні вольнасцей магдэбургскага горада. Мяшчанам надавалася права вольнай лоўлі рыбы на Сожы ад Прапойскай да Рослаўскай мяжы (ИЮМ, 1879. С. 311). У горадзе існавалі і прафесійныя рыбакі. Так, у інвентары горада 1682 г. адзначана, што на Казловай вуліцы жылі 3 рыбакі — Міхал Прывал, Гапон і Міхей Рухля (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 7). У інвентары 1694 г. пералічаны 6 мяшчан, якія прафесійна займаліся гэтай справай разам з сынамі і братамі (усяго 11 чалавек). Сярод іх зноў згадваецца Міхей Рухля.

Рыбакі павінны былі, «згодна даўняга звычаю», дастаўляць рыбу ў замак тры дні на тыдзень — у сераду, пятніцу і суботу. За гэта яны мелі права вольна лавіць рыбу на Сожы і, дастаўляючы неабходную колькасць у замак, прадаваць яе (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 32). Гэтыя ж абавязкі гарадскіх рыбакоў былі пацверджаны і ў інвентарах горада 1709, 1720, 1723, 1727 гг., дзе падкрэслівалася, што рыбу ў замак яны павінны дастаўляць усё лета, ад вясны да восені (ад дня Св. Юр'я да дня Св. Марціна) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1929, арк. 42; адз. зах. 1931/2, арк. 16; адз. зах. 1932, арк. 20; адз. зах. 1933/2, арк. 5). Акрамя Сожа да Крычаўскага замка належала яшчэ 29 заток і ставаў, у якіх лавілася рыба выключна на замкавыя патрэбы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 8).

Згодна з інвентаром горада 1747 г., у 15 азёрах і затоках на Сожы, ад в. Ціхіль да в. Вепрын, забаранялася лоўля рыбы. Гэтыя вадаёмы належалі замку, і злоўленыя тут рыбакі караліся вінoй у 10 талераў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 14). У інвентары горада 1747 г. згадваюцца рыбакі Андрэй і Апанас Казлы, якія жылі на Пабярэжанскай вуліцы, Захар Крапіва і Стенка Шарыёт з Бочкавай вуліцы. На Забялышчыне прафесійна рыбалоўствам займаўся Грышко Архімовіч, а на Загарадзішчы — Кузьма і Пархвен Чарткі і

нейкі Маліна (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 22, 23, 25, 36, 40, 42). Прамысловымі рыбамі ў Крычаўскім старостве яшчэ ў канцы XVIII ст. былі бялізна (жэрах), шчупак, выразуб, лінь, налім, мірон, сом, падуст, галавень, галец, карась, лешч і іншыя рыбы. Зрэдку на Сожы трапляліся і асятры (Мейер А., 1901. С. 123-124).

**Збіральніцтва і бортніцтва.** Размяшчэнне горада ў лясной зоне, безумоўна, садзейнічала таму, што мяшчане папаўнялі свой рацыён ляснымі ягадамі і арэхамі, грыбамі. У гарадскіх напластаваннях сярэднявечнага Крычава знойдзена шкарлупіна арэхаў.

Вядома, жыхары горада займаліся і бортніцтвам, якое давала не толькі мёд, але і воск, які ішоў на выраб царкоўных свечак. Сведчаннем гэтага з'яўляецца прывілей крычаўскім мяшчанам, выдадзены каралём Жыгімонтам III на «две склади медовые для подумножения гарадских церквей» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 74, арк. 1 адв.). Пра заняткі бортніцтвам сведчыць і той факт, што ў 1522 г. жыхары горада і воласці скардзіліся вялікаму князю Жыгімонту Старому на крычаўскага дзяржаўцу князя Васіля Сямёнавіча Жылінскага, які забраў у іх васкабойню (Литовская Метрика, 1997. № 34. С. 64). Інвентар горада 1747 г. сярод павіннасцей гараджан называе і іх абавязак выплачваць штогод па 100 злотых за борці, пастаўленыя ў гарадскім лесе (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 59).

## § 4. Гандаль і гандлёвыя сувязі

Гандлёвым сувязям Крычава на раннім этапе развіцця садзейнічала яго размяшчэнне на буйной рачной артэрыі — Сожы, і нельга выключаць, што рака была адным з адгалінаванняў вялікага гандлёвага шляху ранняга сярэднявечча «з варагаў у грэкі». Шлях па Сожы не быў тупіковым для прасоўвання арабскага срэбра на поўнач. Вытокі Сожа і яго буйных прытокаў блізка падыходзілі да Дняпра, што, як сведчаць археалагічныя матэрыялы, дадзеныя гідраніміі і тапаніміі, спрыяла пачатку функцыянавання скразнога шляху з Сожа на Днепр.

Шлях з Дняпра на Сож пачынаўся ў раёне сучаснага Смаленска, дзе знаходзяцца вытокі Сожа, і пераход на яго не выклікаў цяжкасцей. Курганы VIII —IX стст., размешчаныя на шляху з Дняпра на Сож (Немыкары, Калупаева, Арэфіна, Янава, Пуцяцінкі), сведчаць, што некалі тут існаваў волак. Гэта пацвярджае і тапонім Валахоўшчына (Валакоўшчына). Акрамя таго, недалёка ад Крычава пачынаўся шлях з Сожа на Бесядзь. Ён ішоў па р. Лабжанцы, зварочваў у яе левы прыток р. Пераволочню, адтуль волакам у р. Жадуньку, праз якую і выходзіў у Бесядзь. Акрамя таго, паселішча ў Крычаве кантралявала і выхад на Асцёр. Размяшчэнне паселішча IX —X стст. у Крычаве, на скрыжаванні водных шляхоу, безумоўна, садзейнічала яго ўключэнню ў гандлёвыя сувязі, хоць археалагічныя крыніцы, якія б сведчылі пра заняткі яго насельнікаў гандлем, адсутнічаюць.

У наваколлях Крычава знойдзены два скарбы куфічных дырхемаў X — пачатку XI ст. — Старадзедзінскі і Стайкаўскі. Акрамя таго, курганы са знаходкамі дырхемаў X ст. вядомы ў Бацвінаўцы, каля Крычава (Равдина Т. В., 1988. С. 31, 78; Мяцельскі А., 1996. С. 60-63). Роля Сожа як буйнога шляху не змянілася і ў XII —XIII стст. Па Сожы ішоў у Ноўгарад у 1168 г. кіеўскі князь Расціслаў Мсціславіч (ПСРЛ, 1962. Стб. 528).

Адбудаваны на Замкавай гары новы гарадскі цэнтр развіваўся ў непасрэднай блізкасці ад Мсціслава, буйнога гандлёва-рамеснага цэнтра Смаленскага княства, і знаходзіўся ў зоне яго прававаго і гаспадарчага уплыву — першапачаткова ў складзе Мсціслаўскага княства (да 1527 г.), а потым Мсціслаўскага ваяводства. Мсціслаў выступаў у якасці галоўнага гандлёвага цэнтра рэгіёна і ў ім археалагічна прасочваюцца сувязі з рознымі краінамі свету, а Крычаў, верагодна, абмяжоўваўся выкананнем функцыі цэнтра мясцовага абмену.

Менавіта гэтым тлумачыцца даволі слаба археалагічна прасочваемыя гандлёвыя сувязі Крычава. Імпартныя рэчы прадстаўлены адзінкавымі экземплярамі; знойдзены шкляныя бранзалеты, якія маглі паступаць як з паўднёварускіх, так і са шкларобчых цэнтраў Смаленскай зямлі. Другой катэгорыяй паўднёварускіх знаходак з'яўляюцца сланцавыя праселкі.

Пра гандлёвыя сувязі Крычава XIII —XV стст. з дальнім замежжам цяжка што-небудзь казаць, бо знаходкі падобнага кшталту вельмі нешматлікія, а пісьмовыя крыніцы гэтага перыяду адсутнічаюць. Знойдзены меч, які мае бліжэйшыя аналогіі ў знаходцы з Глогува Вельканольскага, залаты вугорскі дукат Сігізмунда-Люксембурга (1387-1437) (Ткачоў М., 1995. С. 347; Ткачоў М., Трусаў А., 1990. С. 70-71) і пражскі грош Вацлава IV (1379 — 1419).

У другой палове XIII —XIV ст. узрастае роля сухапутных шляхоў. Размяшчэнне Крычава на буйным гандлёвым шляху пацвярджае

існаванне ў горадзе каморы (мытні), якая да 1495 г. давала даход у памеры 35 коп грошай за 3 гады (Pietkiewicz K., 1995. S. 193).

Першыя звесткі пра Крычаўскую мытню мы сустракаем пад 1488 г. у грамаце вялікага князя Казіміра, якою ён вызваліў мінскага мешчаніна Луку Церашковіча ад выплаты мыта. У гэтай грамаце сярод іншых камор згадваецца і крычаўская (РИБ, 1910. С. 463). У 1495 г. крычаўская камора была здадзена ў арэнду на год троцкаму яўрэю Сімку Мархаевічу, а калі той прыняў хрысціянства, то вялікі князь Аляксандр падоўжыў тэрмін арэнды яшчэ на тры гады за «пулчетвернадцать» коп грошаў у год (АЛМ, 1896. С. 70). У 1499 г. яе ўзялі ў арэнду мясцовыя жыхары за 25 коп грошаў. У 1499—1501 гг. крычаўская камора давала штогод па 15 коп грошаў (Pietkiewicz K., 1995. S. 193). На жаль, кнігі запісаў крычаўскай каморы не захаваліся, І мы не можам сказаць, які даход яна давала пазней і якія тавары праходзілі праз яе.

У сярэдзіне XVI ст. роля крычаўскай мытні, верагодна, некалькі зменшылася, бо ў гэты час на ўсходзе краіны на першае месца выходзіць магілёўская — «мыто могилевское со всими мыты посторонними по замкомъ нашымъ пограничнымъ ку мыту коморы могилевское прислухаючыми» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 35, арк. 249 адв.). І фактычна ў гэты час крычаўская мытня пераўтвараецца ў прыкаморак. Тым не менш яна прыцягвала ўвагу арандатараў і ў больш позні час. Так, у 1667 г. яе арандаваў крычаўскі яўрэй Элья Іцковіч (ИЮМ, 1888. С. 223-224).

Прыкаморак згадваецца ў Крычаве ў 1765 г. (ДГАЛ, ф. ДА, адз. зах. 3810, арк. 76). У той жа час у наваколлі Крычава крыніцы фіксуюць яшчэ адзін пункт, дзе была мытня, — Бяляны (ДГАЛ, ф. ДА, адз. зах. 3810, арк. 71 адв.), сучасная аднайменная веска Суражскага раёна Бранскай вобласці Расіі.

Гандлёвыя сувязі Крычава ў XV —XVI стст. дазваляюць прасачыць не толькі археалагічныя знаходкі. Шмат звестак пра іх захавалася і ў пісьмовых крыніцах. Перадусім, крыніцы адзначаюць шырокія гандлёвыя сувязі горада з іншымі гарадамі і раёнамі Вялікага княства Літоўскага.

Так, напрыклад, крычаўскія купцы у канцы XV — пачатку XVI ст. вялі актыўны гандаль у Смаленску. Сувязі былі такімі моцнымі, што, калі смаленскі дзяржаўца пан Мікалай Радзівіл пачаў збіраць «взвестку» (верагодна, плату за ацэнку прывезенага тавару) з іншагародніх купцоў, што гандлявалі ў Смаленску, пацярпелыя гарады, у тым ліку і Крычаў, таксама пачалі збіраць «взвестку» са смаленскіх гандляроў. Гэта выклікала незадавальненне жыхароў Смаленска, і яны звярнуліся да вялікага князя Аляксандра з просьбай, каб той адмяніў нowaўвядзенні Радзівіла, што было Аляксандрам зроблена і замацавана ў прывілеі баярам і ўсім мяшчанам смаленскім на права і вольнасці ад 1505 г. (Литовская Метрика, 1995. С. 273).

Адначасна крычаўцы актыўна асвойвалі і паўднёвы накірунак. Улічваючы тыя значныя разбурэнні, якія пацярпеў горад ад шматлікіх войнаў з Масквой у першай палове XVI ст., і дзеля таго, каб хутчэй аднавіць горад, вялікі князь Жыгімонт Аўгуст у сакавіку 1567 г. даў крычаўскім купцам грамату на права вольнага гандлю ў Кіеўскай і Валынскай землях. Згодна з граматай, крычаўскім купцам дазвалялася свабодна праязджаць у гэтыя землі Сожам, Дняпром і Прыпяццю, а таксама карыстацца свабодным праездам сухапутнымі шляхамі ў Прапойск, Чачэрск, Гомель, Магілёў, Кіеў, Канеў, Чаркасы, Чарнобыль, Любеч і іншыя паўднёвыя замкі Вялікага княства Літоўскага. Асноўнымі таварамі, якімі гандлявалі крычаўскія купцы, былі мёд, рыба, воск, скуры і «иншые всякие живности» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 49, арк. 31 адв.— 32).

Грамата давалася вялікім князем «да воли и ласки», і пасля Люблінскай уніі, калі Кіеўская і Валынская землі былі адабраны ад ВКЛ і ўвайшлі ў Польскую Карону, кароль Жыгімонт Аўгуст 27 жніўня 1570 г. яе пацвердзіў. Больш таго, абараняючы крычаўскіх купцоў, кароль папярэджваў, што таго, хто не пажадае звяртаць увагу на каралеўскую грамату, чакае штраф на карысць дзяржавы ў памеры 3000 злотых і дадаткова ён павінен будзе «имъ вел шкоды и паклады ихъ, которые бы за неслушнымъ гомованьемъ и вымыслы вашими приняли, нагородити». Гэтыя ж вольнасці крычаўскім купцам былі пацверджаны і каралямі Стэфанам Баторыем і Жыгімонтам III у 1587 г. (АЮЗР, 1863. С. 179-180; НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 58, арк. 254 — 255 адв; адз. зах. 74, арк. 273-274).

Акрамя гандлю ў межах ВКЛ і Рэчы Паспалітай крычаўскія купцы актыўна гандлявалі і з замежжам, і ў першую чаргу з Маскоўскай дзяржавай. Так, крыніцы сведчаць, што ўжо на пачатку XVI ст. (1507 г.) Крычаў падтрымліваў гандлёвыя сувязі з Калугай, Казельскам, Алексіным (Литовская Метрика, 1995 а. С. 67). Не забывалі крычаўскія гандляры і больш блізкія рускія гарады.

Так, напрыклад, у лютым 1580 г. крычаўскія купцы Сенька Іваноў і Гаўрылка Фёдараў

прывезлі ў Пачэп тавар з Заходняй Еўропы: «...сукно серо четцкою половину, да половину сукна мурамскую, да 2 половинки серы мышеские, да 3 полавинки шебединских, да 2 полавинки сининовая земля; да 6 фунтов перцу; да 3 литры шолку; да 3 фунта ладану; да 10 тафилей нажей угорских; да 16 тафилей нажей полуугорских» (Русско-белорусские связи.., 1963. С. 11). Гандлёвыя сувязі з Пачэпам былі такімі цеснымі, што ў Крычаве нават існавала Пачэпская вуліца, якая, верагодна, выводзіла на дарогу ў яго бок (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 38 — 39).

Значка больш інфармацыі мы маем пра заняткі гараджан гандлем у XVII —XVIII стст. Развіццю гандлю значка паспрыяла наданне гораду магдэбургскага права (23.08.1633 г.). Праз паўгода пасля гэтага (24.02.1634 г.) кароль Уладзіслаў IV выдаў другую грамату, у якой дэталізаваліся і пашыраліся правы і абавязкі месцічаў. Згодна з ёю горад атрымаў права на дзве ярмаркі ў год — на Св. Троицу і на Св. Міколу па каталіцкім (грыгарыянскім, сучасным) календары. Для прыезджых купцоў гараджанам дазвалялася пабудаваць два гасцінныя дамы. Адзін на беразе Сожа, а другі «за астрогам». Інвентары горада другой паловы XVII —XVIII ст. не фіксуюць іх месцаразмяшчэнне, толькі інвентар 1682 г. адзначае на вуліцы, што вяла з рынку да замка, «гасціны пляц пусты» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 6). Для пашырэння рынку дазвалялася выкарыстаць адзін з замкавых агародаў, размешчаных у горадзе. Адначасова ў прывілеі абараняліся правы крычаўскіх купцоў: падкрэслівалася, што прыезджыя купцы маюць права гандляваць толькі ў горадзе. Гандаль у воласці для іх быў забаронены (ИЮМ, 1889. С. 313-314).

Як паведамляе інвентар горада 1694 г., рынкавая плошча мела прамакутную форму, але была невялікай. На ей размяшчаўся «кабак» і 39 крамак (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 15). Інвентар 1747 г. паведамляе нам памеры рынку — 12 х 13 прэнтаў (63,3 х 58,4 м, ці 3696 $м^2$), але ён быў свабодны ад забудовы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 21-22).

Першыя звесткі пра крычаўскую карчму сустракаюцца яшчэ на пачатку XVI ст. (1500 г.), калі вялікі князь перадаў яе ў арэнду Іеву Кучуковічу (Описание.., 1915. С. 66. № 411). Яна давала вялікі даход — 40 коп грошай, у 1501 г. даходы з яе складалі ўжо 50 коп, але ў 1504 г. у сувязі з вайной 1500—1503 гг. з Вялікім княствам Маскоўскім яе даходы скараціліся да 60 злотых, што адпавядала 22 — 24 копам грошай (Pietkiewicz K., 1995. S. 194). Таму на пачатку XVI ст. арэнды яе дамагаліся розныя гарадскія групоўкі.

У 1501 г. за права арандаваць крычаўскую піўную і мядовую карчму спаборнічалі Занька Жаба і іншыя крычаўскія мяшчане. Першапачаткова карчма была здадзена ў арэнду Заньку Жабе на год за 40 коп грошай. Але потым да вялікага князя прыйшлі крычаўскія мяшчане Ісак і Сенька Епіхамовічы, Федко Бранін, Кузьма Карков, Грышка Нашуцін, Васька Савін і іншыя і выкупілі карчму за тую ж суму. Тады Занька Жаба ізноў купіў права арэнды карчмы, але ўжо за 50 коп грошай. Аднак крычаўскія мяшчане яшчэ раз прыйшлі да вялікага князя і паведамілі яму, што Занька «в той карчме кривду чинит». Вялікі князь забраў карчму ў Занькі Жабы і аддаў яе ў арэнду крычаўцам з указанием дакладнага тэрміну арэнды — ад Св. Міколы на год (АЛРГ, 1899. № 73).

У XVII ст. гарадская карчма належала гораду і даходы з яе ішлі «не на что иное, только на поделку и оборону города» (Псторыя Беларусь., 1936. С. 501). Інвентар горада 1747 г. паведамляе, што крычаўская карчма была уязной. Будынак карчмы трохкамерны — складаўся з дзвюх ізбаў і каморы. Перад ёю стаяла «абозня» без даху. На той час сам будынак стаяў недабудаваным — не было печаў, акон і дзвярэй. Таму карчма была перададзена ў арэнду Ёсіфу Саламанавічу пры ўмове, што ён яе дабудуе (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 21).

Адзінай крыніцай, якая паведамляе колькасць жыхароў горада, што займаліся гандлем, з'яўляецца інвентар горада 1747 г. З яго мы даведваемся, што ў горадзе на той час жылі 5 купцоў, 2 перакупшчыкі, насупраць прозвішчаў 2 гаспадароў стаіць дапіска, што яны «крамары» — трымалі крамы, і 28 чалавекі трымалі шынкі. Большая частка шынкоў размяшчалася на Замкавай вуліцы — 22 з 28. На правым баку Замкавай вуліцы, адзначае інвентар, размяшчаліся 8 крамаў, якімі валодалі Фёдар Казёл, Міхал Уця (2), Аляксей Уця, Алесь Уця, Леон Пастрыгіч, Ян Пушкар і Арон Юдавіч. Бліжэй да рынку ў тры рады стаялі яшчэ 26 амбараў і крамаў, і яшчэ было 6 пустых пляцаў для размяшчэння крамаў і амбараў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 20-21).

З'яўляючыся невялікім горадам, Крычаў арганічна ўваходзіў у гаспадарчую структуру акругі як цэнтр лакальнага абмену. Ён быў выкліканы да жыцця яе патрэбамі, і іх забеспячэнне вызначала яго развіццё як горада. На мяс-

цовым рынку знаходзіла пакупнікоў прадукцыя крычаўскіх рамеснікаў, у той жа час як вяскоўцы збывалі на рынку лішкі сваёй прадукцыі.

У межах староства шырокія гандлёвыя сувязі ў XVIII ст. горад падтрымліваў з Хоцімскам, Міхалёвым, Мілаславічамі — мястэчкамі, якія ўваходзілі ў склад староства. Аднак з прычыны таго, што горад з'яўляўся цэнтрам дзяржаўнага староства, яго жыхары былі часткова абмежаваны ў вольным пашырэнні сваёй гандлёвай дзейнасці. Так, у 1752 г. Іеранім Радзівіл пад пагрозай двухгадовага турэмнага зняволення ў Слуцкім замку забараняў мяшчанам, карчмарам і сялянам староства гандляваць у Касцюкове (Касцюковічах), Шумячах, Чэрыкаве і іншых прыватных мястэчках. Аднак, верагодна, нават такое жорсткае пакаранне не магло спыніць пашырэнне гандлёвых сувязяў. Праз два гады Іеранім Радзівіл выдаў новы загад, якім за гандаль па-за межамі староства пагражаў смяротным пакараннем.

Гандлёвымі днямі ў Крычаве былі вызначаны пятніца і нядзеля. У гэтыя дні для патрэб староства куплялі воск, пяньку, свечачны лой (ИЮМ, 1888. С. 315, 352). У 1770 г. крычаўскі дзяржаўца Юры Мнішак звярнуўся да караля Станіслава Аўгуста з просьбай перанесці штотыднёвыя таргі з пятніцы на панядзелак. Гэта давала магчымасць гандляваць у горадзе два дні запар. Просьба месцічаў Крычава знайшла падтрымку караля, і ён выдаў спецыяльны прывілей аб пераносе дня таргоў (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 189, арк. 314 — 315). Акрамя таго, тады ж каралём былі ўпарадкаваны дні таргоў у іншых мястэчках Крычаўскага староства. Так, у мястэчку Забычанне гандлявалі па аўторках; у мястэчках Еранімава (суч. в. Грозава Чэрыкаўскага раёна), Мілаславічы, Студзянец гандляваць дазвалялася ў сераду; у мястэчку Хоцімск — у чацвер (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 189, арк. 315—-321). Такім чынам, амаль кожны дзень у адным з мястэчак староства альбо ў яго адміністрацыйным цэнтры адбываліся таргі.

Акрамя таго, ярмаркі і гандлёвыя дні былі і ў прыватнаўласніцкіх мястэчках, размешчаных каля Крычава, на якія гарадскія рамеснікі прывозілі свае тавары. Так, напрыклад, уладальнік мястэчка Маляцічы пан Мікалай Тадэвуш Лапацінскі 11 кастрычніка 1766 г. атрымаў прывілей ад караля Аўгуста III на дазвол на дзве ярмаркі ў год і на два гандлёвыя дні ў тыдзень. Першая ярмарка дазвалялася на праваслаўнае Раство, а другая — на 12-ю пятніцу пасля праваслаўнага Вялікадня. Гандлёвымі днямі былі прызначаны чацвер і нядзеля (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 185, арк. 130 — 131).

Гандлёвыя сувязі Крычава ў XVII — XVIII стст. адлюстроўваюць як пісьмовыя крыніцы, так і шматлікія знаходкі на тэрыторыі горада нумізматычнага матэрыялу. Даволі частымі знаходкамі з'яўляюцца расійскія медныя манеты. На Замкавай тары знойдзены расійскія медныя манеты; капейка Пятра I (1711 г.), денга Ганны Іаанаўны (1737 г.). Існавалі сувязі і з Прыбалтыкай: знойдзены соліды шведскіх уладанняў у Прыбалтыцы — соліды Крысціны Аўгусты Вазы (1632— 1654 гг.), адчаканеныя ў Рызе.

Як паведамляюць пісьмовыя крыніцы, у XVIII ст. з Крычаўскага староства вывозіліся пяиька, клёпка, лес у Пецярбург, Вялікія Лукі, Невель, Слуцк. Адміністрацыя староства першай паловы XVIII ст. даволі часта наймала сялян дзеля таго, каб даставіць тавары да бліжэйшых прыстаней на рэках Балтыйскага басейна — Бешанковічы, Свержань, каб тавар мог трапіць у Рыгу, Крулявец, Гданьск.

Знаёмства з узроўнем развіцця рамяства, сельскай гаспадаркі і гандлю ў Крычаве ў XIII —XVIII стст. паказвае, што гаспадарчая функцыя гэтага цэнтра ў пэўнай ступені мела аграрна-рамесна-гандлёвую спецыялізацыю. Нягледзячы на безумоўную наяўнасць у горадзе рамеснікаў, дзейнасць якіх былі вызначальнай — у першую чаргу розныя віды металаапрацоўкі, ад узроўню развіцця якіх залежаў агульны стан развіцця рамеснай вытворчасці ў горадзе, трэба прызнаць, што значная частка яго насельніцтва была звязана з вытворчасцю і перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі.

Гэта ў першую чаргу жыхары горада, якія займаліся сельскагаспадарчай справай як асноўным відам працы, і рамеснікі, звязаныя з вытворчасцю прадуктаў харчавання і вопраткі: піваварапы, алейнікі, рэзнікі, пекары, рыбакі, гарбары, кушняры, шаўцы, краўцы. Такая аграрная накіраванасць гаспадарчага жыцця сярэднявечнага Крычава не была чымсьці спецыфічным менавіта для гэтага горада. Сярэднявечны горад ніколі не парываў з агракультурай, і аграрна-рамесная арыентацыя была характэрнай рысай для ўсіх малых гарадоў Еўропы (Ястребицкая А. А., 1988. С. 194).

Крычаў, які меў пэўныя гандлёвыя дні ў тыдзень і права на дзве ярмаркі ў год, арганічна ўваходзіў у гаспадарчую структуру акругі як цэнтр лакальнага абмену. Таму Крычаў развіваўся як цэнтр, што ўзяў на сябе абавязак рэгулярнага забеспячэння акругі якаснымі реместнымі таварамі ў абмен на сельскагаспадарчую прадукцыю і сыравіну.

## § 5. Вайсковая справа



Мал. 80. Гарадзішча Замкавая гара. Меч са слоя мяжы XIII-XIV стст.

Адной з найгалоўных функцый сярэднявечнага горада была ваенная. Горад з'яўляўся цэнтрам абароны сваей акругі. Асабліва тэта было ўласціва паселішчам, якія ўзніклі і стаялі на памежжы, дзе найбольш адчуваўся подых вайны. У гэтым сэнсе ўся гісторыя Крычава «прапахла» парахавым дымам. Пачынаючы з XII ст., калі нанова адбудаваная крэпасць апынулася на неспакойным смаленска-чарнігаўскім памежжы, і да канца XVII ст., калі скончылася апошняя вайна паміж Рэччу Паспалітай і Рускай дзяржавай, жыхарам Крычава давялося не аднойчы станавіцца на гарадскія сцены, каб захаваць свае дамы, альбо разам з апалчэнцамі з іншых гарадоў збірацца над харугвы дзеля абароны краіны.

Жыццё вымушала іх авалодваць вайсковай справай незалежна ад заняткаў і свайго сацыяльнага статуса, што, безумоўна, не магло не адбіцца на жыцці горада. Пісьмовыя і археалагічныя крыніцы дазваляюць асвятліць пытанні, звязаныя з арганізацыяй ваеннага жыцця горада. Прычым калі археалогія дазваляе прасачыць тыпалогію зброі, то пісьмовыя крыніцы праліваюць святло на саму арганізацыю гарадской абароны.

**Узбраенне.** Сярод знаходак у сярэднявечным Крычаве ёсць як зброя блізкага бою — мячы, дэталі шабляў, коп'і, клявец, так і далёкага — наканечнікі стрэл, гакаўніца, дэталі агнястрэльнага ўзбраення — шчыпцы для адціскання куль, курок ад стрэльбы.

Мячы ў крычаўскай калекцыі прадстаўлены двума экземплярамі. Цэлы меч з Замкавай тары мае агульную даўжыню 96,5 см, даўжыню ляза 74 см, шырыню — 5 см, даўжыню рукаяткі 22,5 см, шырыню дола 2,5 см (мал. 79:1). Каля перакрыжавання на абодвух баках дола захаваўся знак у выглядзе стрэлкі, выкананай жоўтым металам. Дакладная аналогія



Мал. 81. Гарадзішча Замкавая гара. Меч са слоя XVI ст.

крычаўскаму мячу невядомая. Стратыграфічна ён датуецца другой паловай XIII —XIV ст. Падобнае датаванне не аспрэчваюць і некаторыя яго іншыя рысы. Так, лязо мае падоўжана-трохвугольную форму, якая з'яўляецца ў другой палове XIII ст. і сведчыць пра распаўсюджванне наборных даспехаў, якія лягчэй было пракалоць, чым прасячы. Па-другое, пра даволі познюю дату яго з'яўлення сведчаць і памеры дзяржальна — у паўтары рукі. Падобная зброя хоць і з'явілася ў дамангольскі час, але стала шырокараспаўсюджанай у Еўропе з другой паловы XIV ст. (Арциховский А. В., 1969. С. 392; Кирпичников А. Н., 19736. С. 24).

Пад час зямляных работ, прыблізна ў 300 м на захад ад Замкавай тары, каля будынка раённага Дома культуры была знойдзена загатоўка аднализовага мяча. Яе захаваная даўжыня 52,5 см. Захаваная даўжыня клінка — 32,6 см, шырыня ляза 4,7 см, таўшчыня — 0,7 см, даўжыня двуручнага дзяржальна — 20 см. Перакрыжаванне выканана ў выглядзе стальной пласціны з загнутымі ўніз канцамі. Дзяржальна мяча каванае, чатырохвугольнае ў сячэнні. На яго край замацавана чатырохвугольная гайка (мал. 79:2). Лязо мяча незавершанае: яно аднабаковае, прычым пракаванае толькі з аднаго боку.

Меч быў знойдзены ў тым раёне горада, які, мяркуючы па стратыграфічных назіраннях, пачаў засяляцца не раней XVI ст. Датаваць яго часам не раней за XVI ст. дазваляе і чатырохвугольная гайка на навершы, якая, па аналогіі з расійскімі матэрыяламі, начала распаўсюджвацца з XVI ст. (Никитин А. В., 1971. С. 40). Ю. Бохан адносіць гэтую знаходку да іншага тыпу зброі блізкага бою. Ён разглядае яго як корд (Бохан Ю., 1997. № И. С. 57; Бохан Ю., 2002. С. 121).

Да зброі блізкага бою адносяцца і шаблі. Перакрыжаванне шаблі знойдена ў слоі сярэдзіны XVII ст. Яно выканана ў выглядзе пашыранага па баках стрыжнепадобнага перакрыжавання (даўжыня 11,5 см) і мае ў сярэдняй частцы прадаўгаватыя сіметрычныя парасткі. У ім ёсць скразная адтуліна памерамі 2 х 2 см, якая ў верхняй частцы пашыраецца да памераў 5,5 х 2 см. Акрамя перакрыжавання ў слоі XVII ст. знойдзены фрагменты ляза шаблі і акоўка ад ножнаў (мал. 81:2, 3, 7).

Аднак найбольш распаўсюджаным і асноўным відам зброі блізкага бою з'яўлялася кап'ё, якое было найбольш дэмакратычным відам зброі, у адрозненне ад мяча і шаблі. З Замкавай тары Крычава вядомы два наканечнікі коп'яў, якія маюць падоўжана-трохвугольную




Мал. 82. Гарадзішча Замкавая гара. Узбраенне XVI — XVIII стст.: 1 — клявец; 2 — перакрыжаванне корда; 3 — фрагмент шаблі; 4 — часнок; 5 — 6 — наканечнікі коп'яў; 7 — акоўка похваў

форму з даволі шырокім пяром і адносяцца да трэцяга тыпу паводле класіфікацыі А. М. Кірпічнікава.

Першае кап'ё мае наканечнік даўжынёй 33 см, даўжыня пяра — 21 см. Шырыня пяра дасягала 3,2 см, дыяметр утулкі — 3 см (мал. 80:5). Другое кап'ё мела абламаны наканечнік пяра. Даўжыня захаванай часткі мела даўжыню 19 см, шырыня пяра дасягала 3,2 см. Утулка мела даўжыню 10 см, дыяметр 3,8 см (мал. 80:6). Абодва наканечнікі былі знойдзены ў слоі XVI ст. Гэтым жа часам датуюцца і рускія наканечнікі коп'яў з пяром шырынёй больш за 3 см (Кирпичников А. Н., 1975. С. 20).

Грознай зброяй ў бліжнім бoi быў клявец, які выкарыстоўваўся для прабіцця металічных пласцін і кальчуг абарончага даспеха. Ён вядзе сваё паходжанне ад баявых сякер і быў шырока распаўсюджаны ў Еўропе ў XV — XVIII стст. (Денисова М. М., Портнов М. Э., Денисов Е. Н., 1953. С. 47. Табл. XI, 73; Оружейная палата, 1964. С. 34; Zygulski J., 1983. S. 121. Mal. 51). Клявец з Крычава стратыграфічна датуецца XVI ст.; мае вастрыё




Мал. 83. Гарадзішча Замкавая гара. Наканечнікі стрэл XIII —XVIII стст.

квадратнага сячэння, загнутае ўніз, і абух у выглядзе ўсечанай пірамідкі (мал. 80:1).

Зброя далёкага бою прадстаўлена як наканечнікамі стрэл, так і агністрэльнай зброяй — гакаўніцай, living рознымі прыстасаваннямі і дэталямі для агністрэльнай зброі — шчыпцамі для адціскання куль і спускавым курком.

Наканечнікі стрэл па форме мацавання дзеляцца на ўтулкавыя і чаранковыя. Утулкавыя наканечнікі стрэл зроблены з косці (2 экз.) Яны выкарыстоўваліся найперш над час палявання на пушнога звера і зрэдку ў боі. Першы наканечнік кулявідны, канічнай формы, з чатырохгранным вастрыём. Яго даўжыня 28 мм, дыяметр 10 мм, дыяметр утулкі 6 мм. Другая страла таксама кулявідная, конусападобнай формы з трехгранным вастрыём. Яе даўжыня 46 мм, дыяметр 10 мм, дыяметр утулкі 7 мм. Абедзве стралы былі знойдзены ў слоі XVII ст. (мал. 81:7, 12).

Чаранковыя стрэлы па сваей форме падзяляюцца на плоскія і гранёныя. Плоскі, вяслападобны наканечнік стралы мае агульную даўжыню 12,5 см пры даўжыні пяра 6 см і яго максімальнай шырыні 1,7 см (мал. 81:1). Падобныя наканечнікі з'явіліся ва Усходняй Еўропе разам з ордамі Батыя ў сярэдзіне XIII ст. і былі шырока распаўсюджаны ў XIV ст. (Медведев А. Ф., 1966. С. 75. Мал. 26, 24: 30, 63).

Ромбападобныя наканечнікі гнёздаўскага тыпу другога віду, якія маюць выпуклыя бакі і ўвагнутыя плечукі з пашырэннем у ніжняй трэці, былі шырока распаўсюджаны ад XI да XVI ст. Крычаўскія наканечнікі (3 экз.) знойдзены ў слоі XIII ст. (мал. 81:2) і XVI-XVII стст. (2 экз.) (мал. 81:3). Аналагі ім вядомыя з раскопак у Ноўгарадзе, Крэўскім замку, Ашмянах (Медведев А. Ф., 1959. С. 165; Сагановіч Г. М., 1993. С. 96. Мал. 29:12, 14; Краўцэвіч А. К., 1993. С. 44. Мал. 20:6).

Клінападобныя наканечнікі стрэл маюць прамыя бакі і ўвагнутыя плечукі. Па сваей форме яны адпавядаюць тыпу 44 па класіфікацыі А. Ф. Мядзведзева, які датуе іх IX —XIV стст. (Медведев А. Ф., 1966. С. 67). Іх даўжыня вагаецца ад 50 да 60 мм. Шырыня пяра ў найбольш шырокім месцы дасягае 14—18 мм. У Крычаве яны былі знойдзены ў слаях XVI — XVII стст.

У слаях XVI —XVII стст. сустрэты ромбападобны наканечнік з прамымі плечукамі і бакамі. Найбольшае пашырэнне яго пяра прыпадае на частку, размешчаную крыху ніжэй сярэдзіны. Падобныя наканечнікі ў Пскове датуюцца XV —XVII стст. У Міры і Лідскім замку яны знойдзены сярод матэрыялаў XVI —XVII стст. Таксама сустракаюцца яны на Дзявочай тары ў Мсціславе, сярэднявечныя матэрыялы якой датуюцца даволі вузка — штурмам маскоўскімі вайскамі Мсціслава ўлетку 1654 г. (Сергина Т. С., 1983. С. 88, 96. Рис. 7:9; Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М., 1987. С. 82. Мал. 2:14; Алексеев Л. В., 1963. Рис. 21:3).

Вельмі падобны на папярэдні, толькі з найбольшым пашырэннем пяра ў сярэдзіне, наканечнік знойдзены ў напластаваннях XVII ст. Аналагі яму вядомыя на гарадзішчы Дзявочая тара ў Мсціславе (Алексеев Л. В., 1963. Рис. 21:5).

Сярод матэрыялаў XVI —XVII стст. ёсць наканечнік, які знешне нагадвае срэзні тыпу 67 (па А. Ф. Мядзведзеву) больш ранняга часу. У адрозненне ад іх ён мае меншыя памеры. Яго агульная даўжыня 65 мм, даўжыня пяра 46 мм, наибольшая шырыня пяра 10 мм.

Да гэтага ж часу адносіцца ромбападобны наканечнік з прамымі бакамі і плечукамі, які мае найбольшае пашырэнне ў ніжняй трэці пяра. Падобныя наканечнікі знойдзены ў Мсціславе на Дзявочай тары, на пасадзе горада ў слаях XVI —XVII стст. і ў пахаваннях XVII ст. (Алексеев Л. В., 1963. Рис. 21:2, 4; Сагановіч Г. М., 1989. С. 187. Мал. 90:4).

Бранябойныя наканечнікі найчасцей выкарыстоўваліся для прабіцця засцерагальнага ўзбраення. Пірамідальны наканечнік квадратнага ці ромбападобнага сячэння з квадратнай шыйкай адносіцца да тыпу 87 паводле класіфікацыі А. Ф. Мядзведзева. Яны былі характэрны для XIV ст. (Медведев А. Ф., 1959. С. 82). Крычаўскі наканечнік знойдзены ў напластаваннях мяжы XIII —XIV ст.

Шрамідальныя наканечнікі з масіўнай кароткай баявой галоўкай квадратнага ці пірамідальнага сячэння і з перахватам каля кароткага чаранка былі шырока распаўсюджаны ў X — XIV стст. і адносяцца да тыпу 91 паводле класіфікацыі А. Ф. Мядзведзева (Медведев А. Ф., 1959. С. 83. Рис. 3:4).

Шылападобны наканечнік стралы квадратнага сячэння з простым упорам знойдзены ў слоі XII —XIII стст. адносіцца да тыпу 90. Яны шырокавядомыя па матэрыялах помнікаў I — XIV стст. (Медведев А. Ф., 1959. С. 83. Рис. 21:20; 25:2).

Бранябойная страла квадратнага сячэння без упору для дрэўка (сячэнне 7 х 9 мм, даўжыня 71 мм) была знойдзена ў развале печы, под якой быу складзены памерамі 27 х 13 х 9 см. Стратыграфічна печ была разбурана ў сярэдзіне XVII ст. Таму, верагодна, тэты тып наканечнікаў стрэл можа быць датаваны пачаткам — сярэдзінай XVII ст.

Адзін з відаў зброі, якая шырока выкарыстоўвалася ў сярэднявеччы для барацьбы з конніцай, — гэтак званы «часнок». Ён быў вядомы яшчэ ў эпоху Кіеўскай Русі, аднак найбольшае распаўсюджанне атрымаў у XVI — XVII стст. На думку А. В. Нікіціна, яго можна лічыць датавальнай знаходкай гэтага часу (Никитин А. В., 1971. С. 41). «Часнок» з Замкавай тары Крычава быў знойдзены ў напластаваннях XIV ст. (мал. 81:4).

Унікальнай з'яўляецца знойдзенная на замчышчы ў слаях XV —XVI стст. гакаўніца — агнястрэльная зброя, якая выкарыстоўвалася для абароны замкавых і гарадскіх умацаванняў. Яна адносіцца да тыпу гакаўніц з жэрдкападобным ложам. Гакаўніца мела агульную даўжыню 115 см, калібр ствала дасягаў 20 — 22 мм, дыяметр ствала 55 мм. Каля канца ствала на спецыяльным памосце, з правага боку, знаходзілася адтуліна дыяметрам 5 мм для запальнага кнота. Бліжэй да канца дыяметр ствала гакаўніцы памяншаўся да 45 мм. На адлегласці 19,5 см ад канца ствала быў «гак», які дапамагаў аслабіць аддачу ў момант стрэлу. Вышыня яго 10 см, шырыня да 4,5 см і таўшчыня да 0,5 см. У верхняй частцы гака ёсць адтуліна дыяметрам да 0,8 см, якая, верагодна, ужывалася для мацавання складваючагася ўпору. Гакаўніцы з жэрдкападобным



Мал. 84. Гарадзішча Замкавая гара: 1 — 2 — страмёны; 3 — шчыпцы для адціскання куль; 4 — курок

ложам у Еўропе шырока выкарыстоўваліся ў XV ст. На пачатку XVI ст. яны паступова выходзяць з ужывання (Kazak K., 1973. S. 318). Гэтым жа часам — пачаткам XVI ст., верагодна, трэба датаваць і крычаўскую гакаўніцу, якую «згубілі» пад час аднаго са шматлікіх штурмаў горада рускімі войскамі.

Акрамя таго, з дэталяў агнястрэльнай зброі ў слаях XVII ст. знойдзены спускавы курок і шчыпцы для адціскання куль (мал. 82:3,4; мал. 83:3), якія маюць шматлікія аналогіі сярод матэрыялаў XVI —XVII стст. (Никитин А. В., 1971. Табл. VII:5; Краўцэвіч А. К., 1991. Мал. 36:21, 22).

Галоўнай ударнай сілай сярэднявечнага войска была конніца. Таму вялікую цікавасць уяўляе знойдзены рыштунак конніка. У час даследаванняў на Замкавай тары знойдзены два страмёны, якія адносяцца да тыпу 7 паводле класіфікацыі А. М. Кірпічнікава, — страмёны мяккай вуглаватасці (Кирпичников А. Н., 1973. С. 50).

Першае стрэмя мае прамую авальную падножку шырынёй 7 см. Шырыня прарэзу для путавішча, зробленага ў самой дужцы стрэмені, 4 см (мал. 82:1). Падобныя страмёны ў Польшчы былі распаўсюджаны ў другой палове XIII — пачатку XV ст. Але бліжэйшая аналогія крычаўскай знаходцы сярод польскіх матэрыялаў — стрэмя з Бердзіна, не датаваная (Swientoslawski W., 1990. S. 52, 109. № 97). У Расіі страмёны падобнага тыпу бытавалі ў познім сярэднявеччы і нават у XVIII ст. (Кирпичников А. Н., 1973. С. 50). Крычаўскае стрэмя знойдзена ў напластаваннях XVI — XVII стст. Сярод расійскіх матэрыялаў яно мае аналоги са страмёнамі з Арэшка і калодзежа каля Кутавай Арсенальнай вежы Маскоўскага Крамля і Маскоўскага Іпацеўскага скарба XVI ст. (1565 г.) (Шеляпина А. С., Попова Т. Д., Авдусина Т. Д., 1979. С. 228. Рис. 3:26; Кирпичников А. Н., 1980. С. 96. Рис. 28:1).

Другое стрэмя мае круглую падножку дыяметрам 5 см. У кілепадобным завяршэнні яго знаходзіцца адтуліна для путавішча шырынёй 3 см (мал. 82:2). Стрэмя было знойдзена ў слоі сярэдзіны XVII ст. Разам з ім знойдзены соліды Яна Казіміра 1660 г., кераміка і кафля XVII ст.

Акрамя таго, на схіле Замкавай тары ў дзірване было выпадкова знойдзена яшчэ адно стрэмя. Яно мае грушападобную форму, авальную падножку памерамі 75 х 40 мм, шырыню прарэзу для путавішча шырынёй 50 мм (мал. 83:1). Па сваей форме яно вельмі нагадвае страмёны з Польшчы тыпу V-B, якія датуюцца другой паловай XIV —XV ст. На ўсходнеславянскіх землях бліжэйшая аналогія крычаўскаму стрэмені вядомая з раскопак Гродна, дзе яно знойдзена ў слоі XIII —XIV стст. (Swientoslawski W., 1990. S. 57-58. № 120-121, 129, 141, 144; Воронин Н. Н., 1954. С. 166-167. Рис. 88:20).

Атрыбутам прафесійнага воіна былі шпоры. Калекцыя крычаўскіх шпор з Замкавай тары налічвае 7 экземпляраў, і ўсе яны адносяцца да тыпу шпор з зубчатым колам. Найбольш старадаўняй з'яўляецца шпора з зорачкай, якая мае падвоеныя круглыя петлі і паўцыркульныя сагнутыя дугі ў апошняй трэці даўжыні (мал. 84:3). Даўжыня шпоры 10 см, даўжыня вілкі, у якую замацавана зорачка, 3 см, дыяметр зорачкі 3,2 см. У надпятачнай частцы ёсць невялікі казырок для лепшага мацавання на назе. Шпора знойдзена ў слаях рубяжа XIII —XIV стст. Падобныя шпоры вядомыя па матэрыялах другой паловы XIII — XIV ст. з раскопак Пскова, на Смаленшчыне і ў зямлі вяцічаў (Гроздилов К. П., 1962. Рис. 48:5; Седов В. В., 1960. Рис. 57; Никольская Т. Н., 1981. Рис. 62:4).

Другая шпора, якая захавалася фрагментарна, зроблена з дроту трохвугольнай формы (мал. 84:1). Яна мае загнуты ўверх відэлец, у якім замацавана 6-праменная зорачка. Загнуты ўверх відэлец на шпорах пачаў распаўсюджвацца з XIV ст. Шпоры падобнай формы па матэрыялах Літвы вядомыя з XV ст. (Кирпичников А. Н., 1973а. S. 308; Volkalte-Kulikauskine A., 1974. S. 26-27. Мал. 12).

У сярэдзіне XV ст. пачалі шырока ўжывацца шпоры з доўгім відэльцам для трымання зорачкі. Такія шпоры з далека адстаўленай




Мал. 85. Гарадзішча Замкавая гара: 1 — стрэмя; 2 — фрагмент шпоры; 3 — шчыпцы для адціскання куль; 4 — арбалетны болт

зорачкай выкарыстоўваліся пры поўнай «пласціністай» абароне нагі, што крыху ўскладняла яе выгіб і скарачала пасыл прымусовага сродку. Фрагмент шпоры з доўгім відэльцам, на якім замацавана 8-праменная зорачка, знойдзены ў слаях XV — пачатку XVI ст. (мал. 84:5). На захаванай пятцы выразна відаць надпятачны выступ, які служыў для падтрымкі шпоры. Падобныя шпоры былі шырока распаўсюджаны ў XV ст. як у Расіі, так і ў Заходняй Еўропе (Кирпичников А. Н., 1975. С. 50. Табл. XXI:6; Zygulski J., 1983. Мал. 36, 42-44; Chudziakowa J., Kola A., 1974. Tabl. XXXI:6, 7).

Шпоры, якія стратыграфічна датуюцца XVII ст., маюць некалькі іншы выгляд у адрозненне ад знаходак ранейшага перыяду. Яны пласціністыя, з прамавугольнымі петлямі і пррэзамі.

Першая шпора мае кароткую U-падобную дужку і доўгі відэлец, у якім замацавана зорачка (мал. 84:2). Даўжыня шпоры 12,3 см, даўжыня відэльца 6,5 см, шырыня дужкі 8 см, дыяметр зорачкі 2,3 см. Як адзначалася вышэй, стратыграфічна шпора датуецца XVII ст. Падобнае датаванне маюць і яе аналагі з іншых паселішчаў (Никитин А. В., 1971. Табл. 4:2).

Другая шпора таксама мае U-падобную дужку, але ў адрозненне ад папярэдняй у яе загнуты ўверх кароткі відэлец, у якім замацавана 8-прамянёвая зорачка. Даўжыня шпоры 11 см, шырыня дужкі 7,2 см, даўжыня відэльца 3,2 см (мал. 84:4).

Апошняя шпора з Замкавай тары Крычава мае плоскую дужку, зробленую ў выглядзе слабавыгнутай літары «U», краі якой упрыгожаны разеткамі (мал. 84:6) з адтулінай для мацавання. Відэлец даўжынёй 5 см завершаны шматпрамянёвай зорачкай дыяметрам 2,2 см. У месцы адыходу відэльца ад дужкі захавалася яшчэ адна разетка з дзірачкай для мацавання шпоры.

**Арганізацыя ваеннай справы.** З прычыны адсутнасці крыніц даволі цяжка канкрэтна казаць пра тое, як была арганізаваная ваенная справа ў горадзе ў XII —XV стст. Але пачынаючы з XVI ст. пісьмовыя крыніцы дазваляюць нам даволі падрабязна ахарактарызаваць гэты бок гарадскога жыцця.

Размешчаны на маскоўскім памежжы, горад меў вялікае стратэгічнае значэнне для Вялікага княства Літоўскага. Нават у канцы XVII ст. гетман ВКЛ Казімір Сапега падкрэсліваў, што Крычаў пастаўлены «как от Москвы, так и от казаков около входа в государство» (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 292).

Ваенна-абарончае будаўніцтва ў Крычаве, як і ў іншых вялікакняскіх гарадах, цалкам трымалася на насельніцтве горада і воласці, абавязаным, акрамя таго, у ваенны час са зброяй у руках абараняць горад і замак. Ад абавязкаў рамантаваць гарадскія ўмацаванні не вызваляліся і шляхцічы, якія мелі ўладанні ў старостве. Яны павінны былі прысылаць для гэтых прац сваіх падданых, што было пацверджана прывілеямі каралёў Жыгімонта III і Аўгуста II (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 5807, арк. 35). Так, у наказе Віленскага сойма крычаўскаму дзяржаўцу гаварылася, каб замак рамантаваўся «тамошними» людзьмі і на грошы, якія выдзяляліся са скарбу. Узгадваецца аб неабходнасці назапашвання правіянту і «там мешкати в добром осмотренье и осторожности» (ДМАМЮ, 1897. С. 527; Любавский М. К., 1900. С. 257). У сваіх прывілеях на валоданне Крычаўскім замкам і воласцю каралі заўжды падкрэслівалі абавязак дзяржаўцаў выстаўляць на абарону замка людзей і трымаць іх сваім коштам. Так, напрыклад, Мікалай Служка быў абавязаны выстаўляць 15 коней «ездных» і 15 драбаў пешых. Таксама ён павінны быў падтрымліваць крычаўскіх пушкароў (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 63, арк. 104 адв. —105 адв.).

З крыніц сярэдзіны XVII ст. вядома, што на «поделку» і абарону горада как «прежде сего бывало шли доходы с корчмы в городе и с двух мельниц за рекой Сожом на реке на духобыче стоячие», а таксама і падаткі палужныя, памерныя і весавыя (Гісторыя Беларусь., 1936. С. 501). Пад час вайны ваенныя запасы Крычава папаўняліся за кошт паставак пораху



Мал. 86. Гарадзішча Замкавая гара. Шпоры XIII — XVIII стст.

і куль з Магілёва (Беларускі архіў.., 1928. С. 125. 126, 131). Крыніцы захавалі імя аднаго з крычаўскіх гараднічых сярэдзіны XVII ст., які адказваў за стан абароны замка і горада. У 1650 г. ім быў Базыль Кацёл, які адзначыўся пры абароне горада ад казацкіх нападаў (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 123, арк. 272 — 273 адв).

Час ад часу вялікія князі дазвалялі дзяржаўцам браць грошы з гаспадарскіх даходаў на дадатковыя выдаткі, выкліканыя вайной. Так, з 1561 г. вялікі князь Жыгімонт Аўгуст дазволіў крычаўскаму дзяржаўцу Андрэю Талуху браць па 300 коп грошай з даходаў са староства на ўтрыманне ў замку 40 коней (Любавский М. К., 1900. С. 694-695).

У XV — пачатку XVI ст. для аховы замка з горада і воласці рэгулярна давалася па 3 «клікуны», аднак у 1522 г. вялікі князь Жыгімонт, улічваючы, што памеры воласці Крычава значна скараціліся з-за зямельных наданняў шляхце, даў загад князю В. С. Жылінскаму скараціць колькасць клікуноў, якія выстаўляліся воласцю, да 2 (Литовская Метрика, 1997. № 34. С. 64 — 65). Акрамя таго, «з веку» горад, воласці Крычаўская і Лучыцкая давалі на замак вартавых. Прынамсі, у другой чвэрці XVI ст. іх давалі «на недели по пяти» чалавек, у тым ліку Лучыцкая воласць выстаўляла аднаго (Довнар-Запольский М. В., 1905. № 24. С. 53 — 56; Гісторыя Беларусі.., 1936. С. 141 — 142). Верагодна, у старостве існавала пэўнае размеркаванне па колькасці выстаўленых на тыдзень вартавых на замак — кожная воласць (Лучыцкая, Палявая, Засожская, ці, як яна яшчэ называлася, Зарэцкая, горад і шляхецкія ўладанні) выстаўляла па аднаму вартавому.

У канцы XVII —XVIII ст. інвентары фіксуюць наяўнасць у горадзе «стража замковага», абавязкі якога ў 1679 і 1682 гг. выконваў нейкі Клім (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1925, арк. 10-11; адз. зах. 1926, арк. 10). У 1694 г. стражам замковым быў Іван Мармаж. Інвентар Крычава 1747 г. таксама адзначае наяўнасць драгуна і казака, які быў на «паслугах замковых» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1925, арк. 11; адз. зах. 1926, арк. 10; адз. зах. 1936, арк. 36).

Як і ў іншых гарадах, што жылі па магдэбургскім праве, Крычаў меў ваенную арганізацыю насельніцтва. Яно аб'ядноўвалася ў дзесяткі і сотні, размеркаваныя па вуліцах — Бочкавая, Забялышчынская, Латынская, Пагаранская і Падбярозская. Мяркуючы па крыніцах, у сотню залічвалі ўсіх дарослых мужчын з кожнага «дыма». Кожная сотня аб'ядноўвала розных паводле прававога статуса мяшчан — «мяшчане права магдебургского» і «мяшчане прысуду замковага», што, верагодна, указвае на адміністрацыйна-тэрытарыяльны характар камплектацыі кожнай сотні.

Пра ваенную небяспеку горад абвяшчалі ўдарамі «в звон ратный, который ест завешоный при церкви Св. Николы в замку Крычевском». Крыніцы падкрэсліваюць, што ў яго званілі «под час небеспеченства от неприятеля звычайного». Забаранялася біць у звон без патрэбы, а парушальнікі караліся. Ведаючы, што звычайна «в тот звон ратный на гвалт звонят... яко на замку пограничном, з великим страхом з домов своих люде, которые живут за замком, до замку утекали, яко звыкли от неприятеля утекат».

Яшчэ ў 1664 г. «звон ратный» вісеў на званіцы царквы Св. Мікалая (ИЮМ, 1894. С. 325). Аднак у 1687 г. згадваецца ўжо «звон на браме замкавай для скарэйшай пабудки и збирання жыхаров места Кричева».

Значная ўвага надавалася каралеўскай уладай і стану ўзбраення, што мелася ў замку. Так, пад час вайны з Масквой 1512 — 1522 гг. на пачатку 1514 г. у горад дадаткова прыслалі ўзбраенне і за наём жаўнераў крычаўскаму дзяржаўцу была зроблена выплата: «...пану Юрью Немировичу на Крычовъ дано бочечка пороху ваги полтретя каменя... А на Крычовъ пану Ю. Немировичу далъ есми 10 гаковниц» (АЛРГ, 1899. № 138. С. 157). У 1519 г. у момант перадачы Крычаўскага замка ў дзяржан-

не князю В. С. Жылінскаму ў ім мелася 11 вялікіх гармат, 7 з якіх былі трафейныя, «маскоўскія». У цэйхгаузе было таксама 33 «палутарасніцы» — гакаўніцы, 12 ручніц, 3 фуглірыка, 7 дзежак пораху маскоўскага, 2 поўныя дзежкі старога пораху і 2 дежкі па палавіне, «гроховницы» з ключом і тры «гевары» (РИБ, 1903. С. 1173. № 457). У 1552 і 1556 гг. у Крычаў з Віленскага цэйхгауза накіроўваліся гакаўніцы, амуніцыя, шанцавы інструмент (NowakТ., 1968. S. 112).

Як памежны замак Крычаў заўсёды павінен быў падтрымліваць сваю баяздольнасць. У мірны час у замку таксама знаходзілася пэўная колькасць зброі. У інвентары за 1671 г. тут згадваюцца 2 бронзавыя і 2 жалезныя палявыя гарматы, 1 шмыгаўніца, 24 гакаўніцы, 13 штурмачкоў жалезных, 33 кнотавыя мушкеты, 8 бердышаў. Такое ж узбраенне захоўвалася ў Крычаўскім замку і ў 1673 г. Акрамя таго, мелася болей за 270 фунтаў пораху, 1500 мушкетных куль, ядры гарматныя і ад гакаўніц — 230 штук, гранаты, волава, кнот і інш. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 2669/1, арк. 167; адз. зах. 1923, арк. 5). У 1679 г. у замку былі 2 бронзавыя гарматы і 2 жалезныя з разарваным ствалом, шмыгаўніца, 14 штурмакоў, 25 мушкетаў, кулі. Праз тры гады (1682 г.) колькасць зброі засталася той жа самай; толькі паменшылася колькасць куль для гакаўніц — 135 і мушкетаў — 1198. Затое павял ічылася колькасць пораху — 912 фунтаў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1925, арк. 3 — 4; адз. зах. 1926, арк. 5). Пра змены колькасці і якасці замкавай зброі паведамляе інвентар горада 1694 г. Замак меў 2 бронзавыя гарматы на колах, шмыгаўніцу на колах і на жалезным лафеце, 1 жалезную разарваную гармату, 24 штурмакі, 23 гакаўніцы, 16 «паганцув» жалезных, 24 мушкеты, 227 ядраў для гармат, 1120 куль мушкетных. Акрамя таго, інвентар згадвае пра 24 камяні пораху «dawni moskiewski przerobiony» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 6).

У 1709 г. у запусцелым замку было толькі 18 гакаўніц; гакаўніцы, што называліся кіямі, і гармата ў браме (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1929, арк. 3). У 1720 г. ва ўязной браме на замак мелася толькі чвэрць малой бронзавай гарматы, а інвентар 1723 г. называв толькі палову гарматы жалезнай. Неістотна змянілася сітуацыя і праз чатыры гады. У 1727 г. ва ўязной- браме было 2 гарматы жалезныя, але адна з іх забітая каменнем, а другая разарвана. Акрамя таго, у браме былі 2 гакаўніцы, згадваюцца гарматы малыя (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 3; адз. зах. 1933/2, арк.1; адз. зах. 1932, арк. 13).

Пад час ваенных дзеянняў у горад прывозілася яшчэ пэўная колькасць гармат і іншай зброі. Трэба сказаць, што яе было каму абслугоўваць. Як і ў кожным тагачасным замку, у Крычаве меліся пушкары — прадстаўнікі вайскова-служылага насельніцтва на дзяржаўнай службе, якія неслі яе на пэўных умовах. У XVI ст. іх было 5. Як сведчаць крыніцы XVI —XVII стст., тэта былі ў асноўным прадстаўнікі двух крычаўскіх родаў — Карпачоў і Герчыкаў. У пацвярджальных граматах Стэфана Баторыя 1586 г. згадваюцца Мітка Іванавіч Карпач, Цішка Іванавіч Карпач, Федка Карпач, Іван Герчык і Сямён Іванавіч Карпач. Называюцца таксама Л ех Кандратавіч Бочка, Васіль Шульга, Марцін Ісакавіч Шульга, Лявон Гаўрылавіч Азяровіч і Пархвен Карабан, якія атрымалі пушкарскую справу ў спадчыну. «Спадчыннасць» пушкарскай службы добра адлюстроўвае чалабітная Івана Герчыка каралю Стэфану Баторыю за 1576 г., які, «про зошлые лета и старости досыть чинити не могучи», прасіў гаспадара «абыхмо сына его Семёна при этой службе нашой пушкарской захававши и земли от продков наших на тую службу ему наданыя» захаваў (НГАБ, кмф-18, воп.1, адз. зах. 74, арк. 65 — 65 адв.). Як сведчаць пісьмовыя крыніцы, «пушкары от давних часов на той службе пушкарское будучи, завжды её пристойне и верне пильновали». Як і ў іншых гаспадарскіх замках, крычаўскія пушкары штогод атрымлівалі плату па 5 грошай «личбы литовское» і акрамя службы «никаторое иншое дани повинности нам Гаспадару и нияких пошлин и служб враду нашому Крычовскому давати, чынити не повинны» (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1556, арк. 43 — 43 адв.). Між тым на самой справе пушкароў у выпадку ваенных дзеянняў за. межамі замка маглі мабілізоўваць у войска для нясення пушкарскай службы. Так, напрыклад, у 1610 г., у час паходу караля Жыгімонта III на Смаленск, у крычаўскіх пушкароў купілі порах, а два з іх бралі ўдзел у вайсковым паходзе, атрымоўваючы за службу па 6 злотых у месяц (H6rski K., 1902. S. 86, 89).

У мірны час яны былі абавязаны чысціць салетру і штогод даваць для патрэб замка 120 фунтаў пораху (1694 г.), даглядаць і рамантаваць агнястрэльную зброю, з'яўляцца ў замак і быць гатовым яго абараняць (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 17). Але з цягам часу норма пастаўкі пушкарамі пораху мянялася. Так, калі ў 1709 г. яны пастаўлялі на замак 200 фунтаў пораху гарматнага і 50 фунтаў «лютраванага», то ў 1720 г. зноў па 120 фунтаў, а у 1727 г. яны былі пераведзены на выплату грашовага чыншу — разам выплочвалі 32 талеры (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах.

1929, арк. 4; адз. зах. 1931/2, арк. 6; адз. зах. 1932, арк. 19-20).

Крычаўскія замкавыя пушкары ў XVII ст. за сваю «верную зычливую службу при той фортеции и на потребу Отчизне своей» неаднаразова атрымлівалі прывілеі і вольнасці ад нясення розных павіннасцей, кантрыбуцый і вайсковых пастояў.

Усе прывілеі, якія давалі крычаўскім пушкарам каралі Стэфан Баторы, Жыгімонт III, Уладзіслаў IV на «поля, сеножати, леса с деревом, озёра с певным ограничением», неаднаразова пацвярджаліся. Той, хто адважваўся замахнуцца на дадзеныя ўладанні, па скарге пушкароў мог быць пакараны «виной» у памеры 100 коп грошай.

Пушкары часта згадваюцца ў інвентарах горада XVII —XVIII стст. Так, у 1676 г. у горадзе іх было 17, у 1682 г. - 15, у 1694 г. - 18, у 1720 г.- 23, у 1723 г. - 25, у 1747 г.- 12 (ДГАЛ, ф. 1280, воп. 2, адз. зах. 533, арк. 8 адв. — 9; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 6-12; адз. зах. 1928, арк. 16-17; адз. зах. 1931/2, арк. 11; адз. зах. 1932, арк. 42). Як і раней, сярод іх сустракаюцца прозвішчы Карпачоў і Герчыкаў — старадаўніх пушкарскіх родаў Крычава. У інвентары Крычаўскага староства 1765 г. сярод жыхароў горада, якія былі пад уладай старасты, згадваюцца 6 пушкароў (ДГАЛ, ф. ДА, воп. 1, адз. зах. 3806, арк. 2 адв.).

У XVIII ст., з развіццём артылерыі, Крычаўскі замак страціў свае ваеннае значэнне. Аднак у 1778 г. пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай рускія ваенныя тапографы, здымаючы план Крычава, яшчэ зафіксавалі ў замку палісад, які ішоў па грэбені вала, і амаль засыпаны роў. «Топографические примечания...», выдадзеныя ў сувязі з вандраваннем Кацярыны II у 1780 г., адзначалі ў Крычаве «небольшой замок, окруженный полисадом і рвом».

## § 6. Павіннасці гараджан

Жыхары кожнага сярэднявечнага горада мелі пэўныя абавязкі перад сваім гаспадаром. Крычаў быў дзяржаўным уладаннем і таму яго жыхары павінны былі выконваць пэўныя абавязкі перад дзяржавай, якія былі зафіксаваны і рэгламентаваны ў статуце. Захаваліся павіннасці і статуты горада XVII —XVIII стст., дзе адзначаецца, што яны складзены згодна «даўніх звычаяў». Верагодна, што ў сваёй аснове яны абапіраліся на больш раннія і адрозніваліся ад іх толькі памерамі выплочваемых данін.

Павіннасці, якія абавязаны былі выконваць гараджане, зафіксаваны ў прывілеі на магдэбургскае права, атрыманае ў 1633 г. У 1634 г. яно было некалькі пашырана (гл. Дадатак 3). Акрамя гэтага некаторыя крыніцы зафіксавалі і шэраг іншых абавязкаў гараджан.

Так, у інвентары 1727 г. зафіксавана, што жыхары Крычава павінны рамантаваць у замку свае «кватэры» і будаваць новыя. Кожны, хто выязджаў і прыязджаў у горад, з прычыны яго размяшчэння на памежжы, павінен быў адзначацца ў замку. Мяшчане, якія жылі на манастырскіх пляцах, павінны былі апрацоўваць замкавы агарод і вырабляць крупы, неабходныя замку. Згодна з інвентаром 1696 г. яны павінны былі хадзіць у замак для мыцця сталоў і посуду (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 196; адз. зах. 1928, арк. 43). Гараджане, як хрысціяне, так і іўдзеі, паводле абодвух інвентароў, абавязаны былі рамантаваць гарадскі млын і адсыпаць граблю. Нагул, крычаўскія яўрэі выконвалі тыя ж павіннасці, што і іншыя месцічы замкавага прысуду (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 18—19; адз. зах. 1933/1, арк. 5).

У той жа час кагал меў і асобыя правы, замацаваныя спецыяльным прывілеем. Першапачатковы прывілей не захаваўся, да нас дайшло яго пацвярджэнне, зробленае ў 1682 г. каралём Янам Сабескім. 3 красавіка 1664 г. кароль Ян Казімір, спасылаючыся на больш раннія прывілеі, якія загінулі пад час знаходжання Крычава пад уладай Масквы ў 1654 — 1661 гг., аднавіў правы яўрэям Крычава будаваць сінагогу, мець у горадзе розныя пляцы і агароды, а таксама на занятак гандлем і шынкарствам (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 9 — 10). У прывілеі крычаўскім яўрэям на гандаль і іншыя вольнасці, дадзеным каралём Уладзіславам IV у 1646 г., ёсць паведамленні, што агульныя правы з мяшчанамі крычаўскія яўрэі атрымалі пад час надання гораду магдэбургскага права (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 119, арк. 707 — 708).

Павіннасці жыхароў Крычава не абмяжоўваліся толькі выкананнем пэўных прац на патрэбу горада. Яны таксама павінны былі кожны год да свята Св. Міколы выплочваць чынш у памеры 600 злотых. Дадаткова ў статуце горада 1727 г. адзначаецца, што акрамя абавязковых 600 злотых з кожнай валокі гараджане плацілі па злотаму, з прэнта па паўтары грошы польскія, з морга — па грошу (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 19).

*Раздзел* 4

# ПАЛІТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ КРЫЧАВА

## § 1. Паходжанне і ранняя гісторыя горада (X—XV стст.)

Гістарыяграфія ведае шмат прыкладаў, калі аднойчы выказанае меркаванне становіцца тым пастулатам, на які ў далейшым пачынаюць абапірацца даследчыкі. Адной з такіх аксіём стала дата першага ўпамінання Крычава. Агульнапрызнана думка, што ўпершыню горад з'яўляецца на старонках пісьмовых крыніц у 1136 г. ў Статуце Расціслава Мсцілавіча смаленскага пад назвай Кречют. Пералічваючы воласці, з якіх Расціслаў Мсціславіч прызначаў дзесяціну на карысць утворанай ім епіскапіі, крыніца згадвае воласць Кречют: «У Кречюта дани 10 гривен, а с(вя)тъи Б(огороди)ци и еп(и)ск(о)пу грив(на)» (Древнерусские.., 1976. С. 140).

Меркаванне, выказанае ўпершыню ў сярэдзіне XIX ст. І. Д. Бяляевым (Беляев И. Д., 1852. С. 179), у далейшым знайшло маўклівую падтрымку наступных даследчыкаў (Довнар-Запольский М. В., 1891; Алексеев Л. В., 1979. С. 112), а некаторыя нават зрабілі спробу падмацаваць думку І. Д. Бяляева (Голубовский П. В., 1895. С. 79. Прим. 2; Седов В. В., 1976. С. 252). У пісьмовых крыніцах пад сваей назвай — Крычаў — горад з'яўляецца ў складзеным прыкладна ў 1390-я гады «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» сярод літоўскіх гарадоў (Тихомиров М. Н., 1952. С. 237).

Негледзячы на тое, што аргументацыя аднадумцаў І. Д. Бяляева на карысць атаесамлення Крычава і Кречюта даволі штучная, трэба адзначыць, што на сённяшні дзень няма і іншых, больш слушных, прапаноў па лакалізацыі Кречюта. Таму і мы не будзем аспрэчваць гіпотэзу І. Д. Бяляева, тым болей, што гэта ўсяго толькі адзін штрых у гісторыі горада, які не ўносіць істотных змен у яго лес. Акрамя таго, археалагічныя матэрыялы сведчаць пра існаванне ў Крычаве паселішча менавіта ў гэты час (пачатак XII ст.). Паспрабуем рэканструіраваць гісторыю сярэдневяковага Крычава.

Адным з самых галоўных і цікавых момантаў у гісторыі любога горада з'яўляецца пытанне пра час яго ўзнікнення, характар і ролю гэтага першапачатковага паселішча. Як вядома, дата першага згадвання населенага пункта ў пісьмовай крыніцы звычайна даволі далека адстаіць ад часу яго ўзнікнення. Для вырашэння гэтай праблемы неабходна прасачыць развіццё паселішча не толькі з таго моманту, калі яно атрымала ўсе рысы феадальнага горада, а па-магчымасці з таго часу, калі пачало вылучацца сярод адначасных паселішчаў і заняло адносна іх панавальнае становішча (Рыбаков Б. А., 1980. С. 35).

Аналіз археалагічных помнікаў Крычава эпохі феадалізму паказвае, што ў X —XI стст. на тэрыторыі сучаснага Крычава існавалі два паселішчы. Адно з іх, найбольш буйное, узнікае на дзюне ў пойме Сожа. Другое, што датуецца керамікай XI ст., зялёным рубленым бісерам, шыракарогай луніцай, фарміруецца на высокім левым беразе Сожа, на месцы, дзе потым было пабудавана гарадзішча Замкавая гара. Плошча першапачатковых паселішчаў X —XI стст. на тэрыторыі Крычава — у пойме Сожа (каля 1 га) і на беразе Сожа (0,5 га?) складала разам каля 1,5 га.

У другой палове XI ст. з-за перамен, адбыўшыхся ў водным рэжыме Верхняга Падняпроўя, паселішчы ў пойме Сожа паступова занепадаюць і пераходзяць на правы, карэнны бераг ракі. Недзе ў канцы XI ст. насельніцтва вяртаецца з поймы Сожа на старое паселішча, існаваўшае на Гарадцы ў эпоху жалезнага веку. Сярэднявечнае паселішча існавала тут да мяжы XIII-XIV стст.

Нешматлікасць знаходак з верхняга стратыграфічнага слоя і невялікая плошча помніка, якая захавалася, не дазваляе вызначыць яго сацыяльную тыпалогію ў XII —XIII стст. Але ўлічваючы той факт, што Гарадзец у X — XI стст. не быу заселены, а на поўнач ад яго прыблізна ў 1 км знаходзілася даволі вялікае паселішча, нельга выключаць, што Гарадзец у X —XI стст. выконваў функцыю сакральнага цэнтра паселішча. Ускоснае пацверджанне гэтаму ёсць і ў мясцовым паданні XIX ст., якое распавядае, што калісьці на Гарадцы было капішча Перуна. Існуе і іншая варыяцыя гэтага падання, згодна якой капішча знаходзілася на месцы Замкавай тары.

Новае жыццё на Гарадцы пачынаецца з канца XI — пачатку XII ст. Паселішча на Гарад-

цы ў гэты час, верагодна, было невялікім пасёлкам, які, магчыма, выконваў ролю цэнтра акругі.

Хто яго заснавау, на сённяшні дзень высветліць не ўяўляецца магчымым. Яно размешчана ў асяроддзі радзімічскіх курганных могільнікаў XI —XIII стст., але недалёка ад радзіміцка-крывіцкай мяжы. Радзіміцка-крывіцкае памежжа праходзіць прыкладна ў 25 — 35 км на поўнач ад паселішча на Гарадцы. У самім жа горадзе яшчэ ў XIX ст. існавала паданне, што ён быў заснаваны крывічамі і першапачаткова называўся Крывічаў (Живописная.., 1994. С. 421).

Верагодней за ўсё, паселішча на Гарадцы атрымала сваю назву ад рэчкі Крычаўкі. І хоць зараз большасць жыхароў горада нават не ведае яе назву, тэты гідронім пад назвай «рэчка Крычаўка», «ручай Крычавец» ён сустракаецца ў крыніцах XVI —XVIII стст,

Узнікненне ўмацаванага паселішча на гарадзішчы жалезнага веку Гарадзец у Крычаве было абумоўлена яго геаграфічным размяшчэннем. Крыху на поўнач ад яго ў Сож з левага боку ўпадае Асцёр, і, такім чынам, Гарадзец кантраляваў як шлях уверх па Сожы, з якога ў раёне Смаленска быў выход на Днепр, так і па Астру. Акрамя магістральных шляхоў па буйных рэках — Сожу і Астру, на поўдзень ад Гарадца ў Сож з левага боку ўпадае рэчка Лабжанка, з якой, праз волак па рэчцы Перавалочня, у раёне сённяшняй вёскі Цімanaва, адкрываўся выхад у басейн ракі Бесядзі і ў глыбінныя раёны зямель радзімічаў.

З-за дрэннай захаванасці Гарадца мы не маем магчымасці даць дакладную характарыстыку яго сацыяльнай тыпалогіі.

Узнікшы як кропка на шляху радзіміцкай каланізацыі Пасожжа, паселішча на Гарадцы даволі хутка стала адным з апорных пунктаў у гэтым працэсе, верагодна, цэнтрам акругі, якая пачынала фарміравацца. Менавіта з гэтага моманту пачаўся паступовы рост паселішча, што ў рэшце рэшт прывяло да пераўтварэння яго ў горад.

У выніку падзелу Кіеўскай Русі ў 1024 г. паміж Яраславам Мудрым, які княжыў у Кіеве, і Мсціславам Уладзіміравічам, які княжыў у Чарнігаве, зямля радзімічаў і паселішча на Гарадцы апынуліся пад уладай апошняга. Гісторыя Крычава ў XI ст., нягледзячы на маўчанне крыніц, была цесна звязаная з лёсам Чарнігаўскага княства. Умацаванае паселішча на поўначы зямель радзімічаў, верагодна, адначасна выконвала ролю чарнігаўскага фарпоста на паўночных межах княства і было цэнтрам невялікай акругі, адкуль ішоў працэс «адзяржаўлення» радзімічаў.

У такім стане Крычаў уступіў у XII ст., якое унесла карэнныя змены ў яго лес. У 1125 г. Смаленская воласць Кіеўскай Русі была вылучана ў самастойнае княства (Алексеев Л. В., 1980. С. 51). Родапачынальнікам дынастыі смаленскіх князёў быў Расціслаў Мсціславіч. Гады княжання яго ў Смаленску (1125 — 1159, 1159—1167 гг.) былі гадамі росквіту і пашырэння Смаленскага княства, узрастання яго ролі ў агульных усходнеславянскіх палітычных і эканамічных працэсах.

Менавіта пры Расціславе пачынаецца пранікненне смалян у землі радзімічаў. Мяжуючы на поўдні з Чарнігаўскім княствам, Смаленск уважліва сачыў за падзеямі, якія адбываліся там, і чакаў зручнага моманту, каб адарваць далёкія ад Чарнігава паўночныя землі радзімічаў. І такая нагода хутка здарылася.

У 1127 г. Усевалад Ольгавіч чарнігаўскі распачаў усобіцу супраць Яраслава. За апошняга ўступіўся Мсціслаў Уладзіміравіч кіеўскі — бацька Расціслава смаленскага. У бітве, якая адбылася паміж войскамі Мсціслава і Усевалада, апошні быў разбіты і ўцёк. Усевалад пачаў прасіць міру, аднак Мсціслаў не пагаджаўся. Спатрэбілася ўмяшанне царквы дзеля таго, каб Мсціслаў пагадзіўся на мір. Менавіта гэтае складанае становішча Усевалада скарыстаў Расціслаў Мсціславіч, каб далучыць да Смаленска паўночныя землі радзімічаў (Алексеев Л. В., 1980. С. 51 — 52), на якіх стаяў крычаўскі Гарадзец.

Падзеі 1127 г. унеслі значныя змены ў развіццё Пасожжа. Неабходна было замацаваць за сабою новыя землі і арганізаваць на іх надзейнае падаткаабкладанне. І гэта было хутка зроблена. Да нас дайшоў Статут Расціслава Мсціславіча смаленскага, з якога мы ведаем, што ў 1136 г. у Смаленскім княстве была ўтворана самастойная епіскапская кафедра. На карысць яе Расціслаў Мсціславіч перадаваў значныя ўладанні і дзесяціну з усіх падаткаў, збіраемых з валасцей. Кречют (Крычаў) на той час быў ужо цэнтрам воласці, з якой бралася даніна ў памеры 10 грыўняў, адна з іх ішла на карысць епіскапіі (Древнерусские.., 1976. С. 143).

У канцы XII — пачатку XIII ст. у Крычаве на беразе Сожа, на месцы неўмацаванага паселішча (існавала ў XI — пачатку XII ст.) пачынаецца будаўніцтва новага ўмацаванага цэнтра — гарадзішча Замкавая гара, якое да канца XVIII ст. заставалася цэнтрам горада. Якія прычыны выклікалі перанос цэнтра паселішча на новае месца?

Адной з найгалоўных, верагодна, была малая плошча старога ўмацаванага цэнтра і немагчымасць яго павелічэння. Па-другое, маг-

чыма, ужо ў тэты час пачалося разбурэнне Гарадца водамі рэчкі Крычаўкі, што таксама паспрыяла пераносу цэнтра паселішча. І, нарэшце, новаму цэнтру лепей было знаходзіцца непасрэдна на беразе буйной воднай артэрыі, якой з'яўляўся Сож, каб кантраляваць яе.

Пасля адзінага ўпамінання горада (1136 г.), калі яно сапраўды адносіцца да яго, Крычаў знікае са старонак пісьмовых крыніц да канца XIV ст. Якія падзеі тут адбываліся, сказаць цяжка.

Значныя перамены на абшарах Усходняй Еўропы ў сярэдзіне XIII ст. былі выкліканы мангола-татарскім нашэсцем. Да сённяшняга дня ў навуцы пануе думка, што землі Беларусі пазбеглі мангола-татарскага пагрому сярэдзіны XIII ст. Смаленскае княства, у склад якога ўваходзіў Крычаў, на думку Л. В. Аляксеева, толькі ў 70-я гады XIII ст. пачынае прызнаваць цяжкую руку мангола-татараў (Алексеев Л. В., 1980. С. 235).

Але ў святле апошніх даследаванняў, праведзеных у Гомелі і Магілёве, дзе археалагічна прасочаны сляды штурму і знішчэння гарадоу татарамі (Макушников О. А., 1994. С. 54; Марзалюк І., 1999. С. 181), цікавым падаецца вершаванае паданне аб спусташэнні Крычава татарамі:

Падымаліс чорны хмары,
Неба пакрывалі, —
Прыхадзілі злы татары,
Пад Крычавам сталі.
Запалілі стары Крычаў, —
Канцы запылалі.
Наш Івашка падымаўся,
Людзі ў рады сталі.
Палілася кроў, змяшалась
З чорнаю зямлёю, —
Злы татары падаліся
Уцякаць гурбою.
А Івашка гоніць, гоніць,
Голасна смяецца,
Што татарва уцякае,
Аж хахол трасецца

*(Беларускі эпас, 1959. С. 165).*

Улічваючы, што раён «старога» Крычава, які згадваецца ў паданні, верагодна, і ёсць гарадзішча Гарадзец, што нанава пачало засяляцца толькі з XVII ст., а татарскія прарывы над Крычаў у гэты час у крыніцах не фіксуюцца, можна меркаваць, што паданне адносіцца да часу папярэдняга адначаснага існавання двух паселішчаў — гарадзішча Гарадзец і Замкавай гары (другая палова XII — пачатак XIV ст.). Верагодна, у сярэдзіне — другой палове XIII ст. адбыўся набег мангола-татар на Пасожскія раёны Смаленскай зямлі, у выніку якіх і быў спалены стары Крычаў, што і знайшло адлюстраванне ў паданні, якое з часам прыняло вершаваную форму.

Яшчэ адна цікавая інфармацыя, якую можна атрымаць з гэтага невялікага падання і якая знаходзіць археалагічнае пацверджанне, — наяўнасць у Крычаве складанай тапаграфічнай структуры — канцоў, пасадаў, якія існавалі каля Гарадца і на Спаскай гары.

У XIII — XV стст. пісьмовыя крыніцы амаль абыходзяць увагай горад. Толькі ў 90-х гадах XIV ст. горад упершыню трапляе на старонкі «Спіса рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» у ліку літоўскіх гарадоў над сваім імем (Тихомиров М. Н., 1952. С. 237).

На пачатку XV ст. горад ізноў на кароткі час трапляе ў кола інтарэсаў летапісца, што было звязана з падзеямі вайны 1432—1436 гг., ахапіўшай ВКЛ. Акрамя таго, існуе паданне, што ў 1410 г. яго наведаў кароль Ягайла (Живописная.., 1994. С. 422). Магчыма, горад бачыў і вялікага князя Вітаўта, пра што сведчыць згаданы на замку ў крыніцы 1581 г. «Витовтов погреб» (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1556, арк. 43).

У ноч на 1 верасня 1432 г. адбыўся замах на жыццё вялікага князя Свідрыгайлы. Змоўшчыкі пасадзілі на віленскі стол брата Вітаўта Жыгімонта, а Свідрыгайла ратаваўся ўцёкамі ў Полацк. Дзяржава раскалолася на дзве часткі — Вялікае княства Літоўскае і Вялікае княства Рускае. Пра гэта паведамляе летапісец: «И Литва же посадиша великого князя Жигимонта Кесьтутевичь на великое княжение на Вилни и на Троцех месяца сентября 1 день. И приде Швитригаило на Полотескь и на Смоленскь и князи руськыи и бояре посадиша князя Швытригаила на великое княжение на Руское» (ПСРЛ, 1980. С. 57). Крычаў, разам з астатнімі ўсходнімі гарадамі і землямі, падтрымаў у гэтай барацьбе Свідрыгайлу. Сведчаннем таму з'яўляецца згадванне яго сярод гарадоў і зямель, што знаходзіліся ў залежнасці ад апошняга, у 1432 г. (Даўгяла З. І., 1930. С. 51).

Вайна закончылася ў 1436 г. паражэннем Свідрыгайлы. На баку Свідрыгайлы выступалі мсціслаўскія князі — Юры і Яраслаў Лугвенавічы. Яраслаў загінуў у бітве пад Вількамірам, а ў Юрыя, які збег у Ноўгарад, парамажца Жыгімонт канфіскаваў княства. У яго склад уваходзіў і Крычаў. Пра гэта мы даведваемся з паведамлення Наўгародскага летапісу за 1440 г., дзе гаворыцца, што пасля смерці Жыгімонта князь Юры вяртаецца ў Літву: «...князь великыи Казимирь дал ему очину его всю, Мстиславъ и Кричевъ, иных градов и волостей не мало...» (Новгородская.., 1950. С. 420).

Пасля гэтага кароткага паведамлення Крычаў зноў на доўгі час знікае са старонак пісьмовых крыніц і пра ягоны лес нам нічога не вядома. Верагодна, ён заставаўся ў складзе Мсціслаўскага княства.

У 1483 г. сканаў апошні прадстаўнік роду Лугвенавічаў па мужчынскай лініі князь Іван Юрьевіч (Pietkiewicz K., 1995. S. 51). Мсціслаўскае княства вялікі князь Казімір забраў у дзяржаўны скарб, і калі праз некаторы час яно было адноўлена, то ўжо ў значна меншых памерах. Адной з валасцей, якой не далічылася Мсціслаўскае княства, была Крычаўская.

Горад з воласцю ў канцы XV ст. былі вылучаны ў самастойную адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку ў складзе Віленскага ваяводства. Кіраваў ёю прызначаны вялікім князем намеснік. Адным з першых крычаўскіх намеснікаў быў Андрэй Ковач, альбо нейкі «Анъдрэйкавич» (ДМАМЮ, 1897. С. 54. № 14; РИБ, 1910. С. 109). Ён згадваецца сярод зямельных раздач караля Казіміра, а сам прывілей аб пажалаванні Крычава пісаў «Панъ Нацъ». Хто з прадстаўнікоў гэтага роду пісаў указ, невядома, ды і сам род Нацаў, вядомы па крыніцах сярэдзіны XV ст., паступова губляецца ў гісторыі. У той жа час нельга выключыць, што прозвішча Нац з'яўляецца скажоным прозвішчам вядомага роду Пацаў. Сярод прадстаўнікоў гэтага знакамітага роду ў канцы XV ст. насаду маршалка гаспадарскага, які мог пісаць прывілей, у 1480 — 1492 гг. займаў Юры Пац (Urzadnicy centralni.., 1994. S. 227). Таму намеснікам у Крычаў Андрэй Ковач мог быць прызначаны паміж 1483 (год смерці Івана Юр'евіча) і 1492 (год смерці караля Казіміра) гадамі.

Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што горад на працягу XIII —XV стст. хоць і марудна, але паступова расце. Недзе ў XIII ст. адбылося ўзмацненне абарончага вала на Замкавай гары, які падняўся на вышыню 3,5 м. Прычым, як адзначаў М. А. Ткачоў, на мяжы XIII — XIV стст. былі знішчаны драўляныя ўмацаванні замка. У гэтай сувязі цікавым з'яўляецца той факт, што прыкладна ў тэты ж час вялікі пажар, датаваны перыядам паміж 1296 і 1307 гг., фіксуецца на дзядзінцы Мсціслава (Алексеев Л. В., 1995. С. 151). Магчыма, абодва пажарышчы адлюстроўваюць нейкі незафіксаваны ў крыніцах вялікі паход на Пасожскія землі Смаленскага княства.

Паціху, але бесперапынна актывізавалася жыццё на Спаскай гары, будучым Забялышчынскім пасадзе; кераміка XIV — XV стст. трапляецца тут на плошчы каля 1,5 га і значна часцей, чым матэрыялы папярэдняга часу. У гэты перыяд пачынае развівацца пасад і на заходнім ад Замкавай гары плато. Пакуль яшчэ нешматлікія фрагменты керамікі гэтага часу сустрэты на даволі вузкай, шырынёй да 50 м, даўжынёй каля 300 м берагавой паласе, абмежаванай двума ярамі. У далейшым, аж да канца XVIII ст., яны сталі галоўным горадаўтваральным фактарам — Забялышчынскім ярам і ярам, па якім працякаў ручай Крычавец. У канцы XV ст. Крычаў усе яшчэ ўяўляў сабою невялікі гарадок на ўсходзе Вялікага княства Літоўскага.

## § 2. Крычаў у XVI-XVIII стст.

У выніку войнаў канца XV ст. паміж Вялікімі княствамі Літоўскім і Маскоўскім дзяржаўная мяжа ВКЛ падыйшла непасрэдна да Крычава. Горад апынуўся на вастрыні ўдараў маскоўскіх войскаў і на працягу XVI — XVIII стст. мы ўвесь час бачым яго на старонках летапісаў. Уся гісторыя Крычава XVI — сярэдзіны XVII ст. прапітана парахавым дымам ад тых шматлікіх войнаў, што апальвалі яго сцены.

Першыя звесткі пра Крычаў, звязаныя з пачаўшыміся войнамі, трапляюцца ў канцы XV ст. Так, у 1496 г. з Крычава выпраўлялася 100 чалавек з сякерамі на работы па ўмацаванню памежных замкаў (АЛМ, 1896. С. 63).

Пад час вайны 1500 — 1503 гг. яго жыхары ўпершыню ўбачылі пад сваімі сценамі войскі Вялікага княства Маскоўскага. Так, у 1501 г., калі пад Мсціслаў падышло рускае войска, яму насустрач выйшаў не толькі мсціслаўскі князь Міхаіл Іванавіч, але і ваявода Юры Дашковіч з вялікакняскаю заставаю і жаўнерамі. Бітва закончылася перамогай рускіх войскаў, і князь Міхаіл з Дашковічам ледзь паспелі «вскочить в город» (ПСРЛ, 1959. С. 294; Разрядная книга.., 1977. С. 76 — 77). Для нас гэтае паведамленне цікавае таму, што згаданы Юры Дашковіч быў у тэты час крычаўскім старастам. Верагодна, і крычаўцы прыходзілі тады на дапамогу мсціслаўцам разам са сваім дзяржаўцам. Ён яшчэ раз згадваецца як крычаўскі намеснік летам 1503 г. Але недзе ў канцы 1503 — пачатку 1504 г. ён на некаторы час збег у Маскву, пра што сведчыць ліст вялікага князя і караля Аляксандра да маскоўскага князя Івана Васільевіча, зачытаны літоўскімі пасламі ў Маскве летам 1504 г. У ім Аляксандр абвінавачвае Дашковіча ў здрадзе і рабаўніцтве мясцовага насельніцтва, патрабуе ад вялікага князя Івана Васільевіча яго выдачы (Сборник.., 1892а. С. 467).

На абвінавачанні ў здрадзе гораду і дзяржаве, рабаўніцтве насельніцтва, якія былі зноў прад'яўлены Дашковічу ў 1511 г. крычаўскім старастай Т. І. Капустай, Дашковіч як доказ сваёй невінаватасці падаў каралю Жыгімонту Казіміравічу даравальны ліст караля Аляксандра і казаў, што «заежчаясъ съ Крычова къ Москве ни которое шкоды замъку и панъству его милости не вчинивши...», што ён быў абылганы і проста хаваўся там ад гневу караля. Ад'язджаючы на Маскву, Крычаўскі замак ён здаў на кіраванне пану Пятру Епімаховічу (РИБ, 1903. С. 770-771). З гэтага паведамлення вынікае, што гараджане Крычава пад час вайны 1500—1503 гг. не здрадзілі і засталіся верным! сваёй дзяржаве.

Нягледзячы на тое, што ў 1503 г. было заключана перамір'е паміж ВКЛ і ВКМ, крычаўцы не давалі спакою памежным маскоўскім валасцям. Захаваліся скаргі князя Сямёна Старадубскага, што крычаўцы і лучычане (жыхары Лучыцкай воласці) толькі пасля Вялікадня 1503 г. двойчы «имали его волости Попову Гору и Стародубские сёла... через перемирные грамоты наших людей грабят и бьют». Асабліва занепакоены быў бранскі наместнік князь Васіль Сямёнавіч Рапалоўскі дзеяннямі крычаўскага намесніка Дашковіча, які «входил» у воласць маскоўскую Прыкладні (Сборник.., 1892а. С. 430, 447). Падобныя скаргі працягваліся і далей: так, у сярэдзіне 1507 г. князь Сямён Старадубскі скардзіўся, што «Мстиславцы и Кричевцы и Чечеряне и Лучичане приходили во-первое на Страстной неделе, а в другие в Юрьев день, а в третьи после Николина дня, да имели Попову Гору да Стародубские сёла...» (Сборник.., 1892а. С. 431).

Замірэнне 1503 г. толькі прыпыніла барацьбу паміж дзвюма дзяржавамі. У 1507 г. пры новым маскоўскім вялікім князі Васілю III і новым вялікім князі літоўскім і польскім каралі Жыгімонце I вайна ўзнавілася (Кашпировский Е. И., 1899. С. 15—16). Восенню гэтага года баявыя дзеянні адбываліся пад Мсціславам і Крычавам. Большасць летапісаў сціпла паведамляе, што 14 верасня 1507 г. вялікі князь паслаў ваявод князя В. Д. Холмскага і Якава Захар'іча да Мсціслава. Тыпаграўскі летапіс дапаўняе гэта паведамленнем, што тады ж пад Мсціславам папалілі пасады. Некаторыя ўдакладненні сустракаюцца ў польскіх хроніках. Так, Бернард Вапоўскі сведчыць, што войска вялікага маскоўскага князя Васіля асадзіла і спрабавала захапіць крэпасці Мсціслаў і Крычаў. Кароль паслаў туды ваявод на дапамогу. Даведаўшыся пра гэта, «маскавіты» знялі асаду і адступілі (Кром М. М., 1995. С. 185-186). Падобныя паведамленні захаваліся і ў рускіх разрадных кнігах (Разрядная книга .., 1977. С. 102). Пра баі пад Крычавам згадвае і Тыпаграўскі летапіс: пад яго сценамі «ис пищали застрелили» рускага ваяводу Міхаіла Абразцова (Кром М. М., 1995. С. 186).

Апісваючы падзеі 1508 г., крыніцы зноў прыводзяць нас пад сцены Крычава. Гэтым разам з нагоды мяцяжу М. Глінскага. Летапісы паведамляюць, што горад быў ім захоплены (ПСРЛ. 1892. Т. 35. С. 167, 234). Аднак дэталёвы аналіз падзей паказвае, што летапісныя паведамленні пра захоп М. Глінскім Крычава, Турава, Оршы, Гомеля, пераход на яго бок князя М. Мсціслаўскага не маюць пад сабою ніякіх падстаў (Кром М. М., 1995. С. 119 — 129). Горад, нягледзячы на дапамогу М. Глінскаму маскоўскіх ваявод, застаўся верным сваёй дзяржаве.

«Вечны мір», заключаны ў кастрычніку 1508 г., трымаўся ўсяго 4 гады. У 1512 г. пачынаецца новая вайна паміж ВКЛ і ВКМ, у якой асноўная барацьба вялася за авалоданне Смаленскам. Распачаўшы штурм Смаленска, Васіль III адначасова ў 1513 г. пасылае сваіх ваявод пад Оршу, Мсціслаў, Крычаў, Мінск, Друцк (Кром М. М., 1995. С. 189). Аднак ні над Смаленскам, ні над іншымі гарадамі ён не дамогся доўгачаканай перамогі.

Нарэшце, у апошнія дні ліпеня 1514 г., пасля трэцяга штурму Смаленска, здзейснілася мара Васіля III — горад быў захоплены. Памежныя гарады перайшлі пад уладу маскоўскага вялікага князя, што было выклікана, паводле слушнай заўвагі Е. І. Кашпроўскага, тым, што «с присоединением к Москве Смоленска днепровская область оставалась без прикрытия» (Кашпировский Е. И., 1899. С. 70).

Ужо 7 жніўня Васіль III пасылае князя М. Д. Шчанятава і князя І. М. Варатынскага на Мсціслаў. Князь М. Мсціслаўскі нават не паспрабаваў арганізаваць абарону горада, а, наадварот, сустрэў вялікакняскіх ваявод і «бил им челом, чтобы государь... взял его к себе на службу» (Разрядная книга .., 1977. С. 144; ПСРЛ, 1963. С. 349). Гэта тлумачыцца тым, што «бояре его и люди Мстиславский ему в обороне помочни быть не хотели» (АЗР, 1848. С. 117. № 92).

За Мсціславам пацягнуліся і іншыя гарады. Прычым у Крычаве адбыўся бунт, у вышку якога жыхары горада «слуг наместника пабили, а его самого выгнали» (Pietkiewicz K., 1995 а). 13 жніўня мяшчане і «чорныя людзі» Крычава і Дуброўны прыслалі ў Смаленск да Васіля III пасольства і прынеслі яму прысягу на вернасць: «И княз великий ихъ пожало-

валъ, взялъ ихъ въ свое имя и въ крестное целование велел ихъ привести» (ПСРЛ, 1965а. С. 20-21; ПСРЛ, 1963. С. 349-350).

Аднак падзеі 1514 г. нельга разглядаць як здраду. Прысяга гарадоў на вернасць маскоўскаму вялікаму князю была выклікана, як ужо адзначалася, найперш падзеннем Смаленска — цэнтра арганізацыі абароны ўсяго Падняпроўя. Па-другое, пасля захопу Смаленска вызваляліся дадатковыя маскоўскія войскі, якім малыя гарады не маглі самастойна супрацьстаяць.

Пад уладай Масквы Крычаў заставаўся нядоўга. Не прайшоў і месяц, як 8 верасня 1514 г. маскоўскае войска было разбіта Канстанцінам Астрожскім у бітве над Оршай. Адразу ж Мсціслаў, Дуброўна і Крычаў вярнуліся над уладу вялікага князя Жыгімонта (ПСРЛ, 1965а. С. 23; ПСРЛ, 1980. С. 127). Такія паводзіны гарадоў гавораць пра тое, што ўсе яны, наколькі гэта было магчыма, захоўвалі адданасць сваёй дзяржаве — Вялікаму княству Літоўскаму. Перад буйнымі сіламі праціўніка яны капітулявалі, каб захаваць сваё жыццё. Але пры першай жа магчымасці вярталіся ў Вялікае княства Літоўскае. Падобным чынам крычаўцы будуць весці сябе і ў болып позні час — пад час вайны сярэдзіны XVII ст.

Падзеі 1513—1514 гг. — паходы маскоўцаў пад Крычаў — не маглі не адбіцца на стане ўсёй воласці. Яна была вынішчана, і мяшчане і жыхары воласці адмовіліся выплочваць троцкаму цівуну штогадовую даніну — 10 рублёў грошай «дубасных пенязей», спасылаючыся на «лист господарский», які вызваляў іх ад гэтага з нагоды вялікага спусташэння (РИБ, 1903. Стб. 120; Кром М. М., 1995. С. 149).

Пасля кампаніі 1514 г. вайна млява цягнулася да 1522 г., пра падзеі пад Крычавам нічога не паведамляецца, толькі асобныя рускія крыніцы адзначаюць паход 1515 г. пад Мсціслаў (Разрядная книга .., 1977. С. 146, 149). Крычаў і надалей заставаўся значнай крэпасцю на ўсходзе краіны. Нават пасля заканчэння вайны тут знаходзіўся аддзел з 400 салдатнаёмнікаў (АЛРГ, 1899. С. 188. № 164).

Вайна скончылася. Адзіным набыткам гэтай дзесяцігадовай вайны для Масквы стаў Смаленск. Але, нягледзячы на перамір'е 1522 г., мяжа не стала спакойнай. На працягу 20-х гадоў XV ст. крыніцы неаднойчы фіксуюць скаргі рускіх паслоў аб нападзе крычаўцаў на рускія землі і наадварот (Сборник .., 1892 а. С. 676, 679, 684, 685, 694, 752).

Цяжкі фінансавы стан дзяржавы пад час апошняй вайны вымусіў вялікага князя шукаць грошы на вядзенне баявых дзеянняў. Дзеля гэтага Жыгімонт Стары пайшоў на здачу ў «заставу» дзяржаўных замкаў, валасцей і двароў. У 1519 г. Крычаў быў здадзены каралём Жыгімонтам у «заставу» князю Васілю Сямёнавічу Жылінскаму за 733 капы грошай (Литовская Метрика, 1997 б. С. 86).

Аднак здача замкаў у арэнду не выправіла фінансавы стан дзяржавы. Таму на Віленскім сойме 1522 г. многія буйныя крэдытары даравалі ўраду свае пазыкі і вярнулі ў скарб «застаўленыя» двары, замкі і воласці. Своеасаблівай кампенсацыяй іх страт з боку дзяржавы было тое, што яны атрымлівалі гэтыя ўладанні ў «даживотное» валоданне на правах дзяржаўцаў (Пичета В. И., 1958. С. 28). Князь В. С. Жылінскі ў 1521 г. атрымаў права на валоданне горадам да таго часу, пакуль кароль не верне яму доўг, што цягнулася да самой смерці В. С. Жылінскага ў 1529 г. (Литовская Метрика, 1997 а. С. 81-82; Wolff J., 1895. S. 622). Валоданне Васілём Жылінскім Крычавам і яго воласцю ўвайшло ў гісторыю горада як эпоха бессаромнага рабаўніцтва ім горада і староства. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца звароты караля Жыгімонта да князя Жылінскага з патрабаваннем спыніць рабаўніцтва,

Першая скарга да караля была складзена ўжо ў 1522 г. Мяшчане і жыхары воласці наракалі, што дзяржаўца ўводзіць шматлікія «навины», чыніць «кривды великий», забраў у воласці васкабойню, ездзіць у палюддзе «у великом почте», — тым часам як раней намеснікі ўвогуле не ездзілі ў палюддзе. Князь Васіль Жылінскі сам ездзіў па валасных размётах і браў з сялян «не мало пенязей», прымушаў іх да цяглай працы. Справай гэтай па загадзе караля займаўся князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, які знайшоў скаргі жыхароў «правымі». Кароль Жыгімонт Стары загадаў князю Жылінскаму вярнуцца «да старины», не ўводзіць ніякіх новых падаткаў і дадатковых прац, вярнуць васкабойню (АЛРГ, 1899. С. 184-185. № 168).

Аднак, нягледзячы на грамату караля, у 1526 г. мяшчанам Крычава і жыхарам воласці зноў прыйшлося звяртацца са скаргай на дзеянні князя Васіля Жылінскага. Справа ў тым, што ў 1522 г. Крычаву і воласці быў дадзены Статут аб памерах даходаў намеснікаў, які да нас не дайшоў. Але пасля заканчэння ваенных дзеянняў даведзеная да галечы вайной і морам воласць, якая да таго ж страціла частку сваіх уладанняў, была не ў стане выплочваць ніякіх данінаў. Таму жыхары горада і воласці штогод звярталіс'я да вялікага князя з просьбай даравадь іх і вызваліць ад выплаты падаткаў. У студзені 1525 г. яны былі зноў вызвалены ад выплаты ўсіх падаткаў яшчэ на год (НГАБ,

кмф-18, воп. 1, адз. зах. 14, арк. 251 адв.— 252 адв.). Сітуацыя нязначна палепшылася праз год. Але і тады валасць магла выплочваць толькі палову данінаў. У той жа час Жылінскі працягваў браць падаткі ў поўным памеры, кладучы іх ў сваю кішэню, і нават не звяртаў увагу на каралеўскага камісара Міхаіла Кузьміча, які разбіраўся па гэтай справе. Кароль патрабаваў спынення грабяжу жыхароў валасці «врядниками» Жылінскага, папярэджваў аб недапушчальнасці грабяжоў і аб магчымасці канфіскацыі маёмасці (Любавскйй М. К., 1892. С. XLII-XLIII).

Аднак і пагроза канфіскацыі не спыніла дзеянні Жылінскага. На працягу другой паловы 1526 — пачатку 1527 г. жыхары Крычаўскай воласці неаднаразова зноў звярталіся са скаргамі да караля. Нават самі ездзілі да яго ў Гданьск, Варшаву і Кракаў, дзе «со слезами жалуючы» аб тым, што Жылінскі нават узмацніў «драпежства». Неаднаразовыя спробы караля і паноў-рады ўгаварыць Жылінскага спыніць рабаўніцтва не давалі ніякіх вынікаў. Калі кароль адправіў у Крычаў свайго камісара Івана Бацвінню, то Жылінскі нават не пусціў яго ў замак і папярэдзіў: «естли дей до мене с тыми листы поидеш, велю дей на тебе з замку з дел бита». Болей таго, тут жа на вачах каралеўскага камісара былі збіты стараста крычаўскі, старцы валасныя, мяшчане і пасаджаны ў турму.

Жыхары воласці, у чарговы раз прыйшоўшы да караля Жыгімонта ў Кракаў, скардзіліся «со слезами и великими крики... имовили перед нами: иж дей вжо далей того там жити не будем, а пойдем из жонами и з детьми проч, а то нашой милости, господару нашому, объявляем и з себе присягу в том складаем». Толькі пасля гэтага Жыгімонт прыбег да больш рашучых дзеянняў: ён паслаў у Крычаў дзяка Андрэя Мацковіча, каб забраць у Жылінскага «к рукам господарским» воласць і горад і трымаць іх да высвятлення віны дзяржаўцы. Жыгімонт зноў не выключаў магчымасці канфіскацыі воласці і горада (Довнар-Запольский М. В., 1905. С. 153-155. № 49).

Гэтая справа, верагодна, усё ж такі добра скончылася для Жылінскага, бо ўжо на пачатку 1529 г. кароль Жыгімонт даручыў яму забраць з рук Нікіфара Бабаеда Лучыцкую воласць і далучыць яе да Крычаўскай. Аднак, добра ведаючы схільнасці Жылінскага, кароль забараніў яму туды ўваходзіць. Усе падаткавыя справы павінны былі ісці праз мясцовых старцаў (Любавскйй М. К., 1892. С. XLVIII-XLIX. № 46).

«Гаспадаранне» Жылінскага Крычаўскім староствам на працягу дзесяцігоддзя было такім «пленным», што нават пасля яго смерці да караля прыйшла дэпутацыя з Крычава («люди наши от всех мещан и людей волости нашое Кричевское»), якая скардзілася на хлебны недарод і разарэнні ад былога дзяржаўцы, прасіла караля вызваліць іх ад абавязку выплаты падаткаў. Але кароль пагадзіўся толькі на зніжэнне напалову памеру падаткаў на год (Кром М. М., 1995. С. 149-150).

Наогул, барацьба за свае правы была характэрнай рысай для крычаўцаў. Так, яшчэ ў 1511 г. яны разам з жыхарамі іншых памежных валасцей скардзіліся Жыгімонту на разарэнне ад вайны і рабаўнічых дзеянняў княскіх эмісараў. Яны прасілі караля вярнуцца ў справе збору падаткаў да «старыны», што была пад час Вітаўта і Жыгімонта Кейстутавіча. Жыгімонт Казіміравіч пагадзіўся з іх прапановай (Гісторыя Беларусі .., 1936. С. 138-139). У 1544 г., пасля чарговай скаргі крычаўцаў на дзеянні свайго дзяржаўцы, кароль звярнуўся да Андрэя Шалухі з патрабаваннем не ўводзіць ніякіх «навін», а вярнуцца ў падаткаабкладанні да памераў, прадугледжаных Статутам 1526 г. (Довнар-Запольский М. В., 1905. С. 53-55. № 24). І ў сярэдзіне XVII ст. (1647 г.) кароль Ян Казімір таксама быў вымушаны асобым прывілеем бараніць крычаўцаў ад дзяржаўцы Мікалая Стэфана Паца, які таксама пачау парушаць вольнасці гараджан (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 119, арк. 967 адв. -968 адв.).

Пасля смерці маскоўскага вялікага князя Васіля III у 1533 г. праз год успыхнула новая вайна паміж Масквой і Вільняй, якую распачалі Жыгімонт Стары і Жыгімонт Аўгуст. Вясной 1535 г. у сваім лісце да крычаўскага дзяржаўцы Васіля Чыжа вялікі князь Жыгімонт Стары дакладваў, што атрымаў ад яго паведамленне аб нападзе атрада маскоўскіх войскаў колькасцю ў некалькі тысяч чалавек на воласць Крычава і на іншыя навакольныя воласці. Пад час гэтага набегу «...той волости нашой и инъшымъ шкоды великий поделали». У адказ на тэта вялікі князь загадваў Васілю Чыжу сядзець у Крычаве з вялікай асцярогай (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 15, арк. 126 адв.).

Крычаў быў адным з апорных пунктаў літоўскіх войскаў у барацьбе за Севершчыну ў час кампаніі 1534 г. (ПСРЛ, 1980. С. 236). Акрамя таго, на горад у тэты год была распісана «сярэбршчына» памерам 15 рублёў (Любавский М. К., 1900. Приложения, с. 30). Кампанія 1535 г. прывяла вайну пад сцены Крычаўскага замка. Маскоўскія крыніцы паведамляюць пра паходы ў студзені і ўлетку гэтага года пад Мсціслаў, Крычаў, Магілёў і іншыя гарады, адзначаючы, што «остроги има-

ли, посады жгли и людей многих побили и живых имали» (ПСРЛ, 1980. С. 87-88, 99; ПСРЛ, 1959. С. 316, 321-322). Пад час студзеньскага пахода 1535 г. Крычаў быў спалены маскоўскімі войскамі. Нягледзячы на тое што воласць горада моцна пацярпела ад маскоўскага нападу, яе жыхары ў верасні гэтага ж года былі накіраваныя для аднаўлення Старадубскага замка (Малиновский И. И., 1901. С. 231). У наступны год рускія войскі пад кіраўніцтвам князя М. Ю. Абаленскага зноў былі пад сценамі Крычава. У наказным лісце Міхаілу Юр'евічу Абаленскаму рэкамендавалася падысці да Крычава ноччу: «А прити им к острогу на утреней зори безвестно...» (Грали И., Эскин Ю. М., 1999. С. 75). Ліст гэты быў перахоплены, планы рускага камандавання сталі вядомыя, і рускія войскі гэты раз пад Крычавам былі разбітыя (Kolankowski L., 1913. S. 141,150).

Вайна 1534—1535 гг. паміж Масквой і Вільняй — апошняя ў першай палове XVI ст. Аднак дзяржаўная мяжа не заставалася спакойнай нават пад час перамір'я. Крыніцы неаднаразова фіксуюць скаргі з абодвух бакоў на спусташэнне памежных валасцей (Сборник .., 1887. С. 132, 141, 230, 336, 357 і інш.). Так, у 1550 г. маскоўскі цар Іван Жахлівы скардзіўся Жыгімонту Аўгусту, што «кричевские казаки Олтушко Кривой с товарищи приходил в Стародубский уезд в Тарасову деревню Верёвкина сына Цвиленва в Онкушино, да взяли из стада 4 коней да 7 меринов; а цена конем и мерином 50 рублёв, да свели с собою человека его безвестно. Да литовские же казаки из Пропойска да из Кричева приходили в Стародубский уезд в Попову Гору да сёла и деревни разбивали и многие животы и статки поймали: и на том разбое поймали казака Янка Дмитрова и тот Янка сказывал, что их посылают воевати кричевские и пропойские и чечерские воеводы, а что ни добудут, и они с ними тою добычей делятся» (Сборник .., 1887. С. 345-346).

Дзякуючы крыніцам XVI ст. вядомыя памеры падаткаў, што збіраліся з горада. Так, у 1551 г. Крычаў разам з воласцю павінен быў выплаціць 50 коп грошай. Для параўнання суседні Мсціслаў такую суму выплочваў толькі з самога горада. У наступны год у рэестры абавязковых паставак у дзяржаўны скарб пад час вайны адзначаецца, што з Крычава ідзе 20 коп грошай (Любавский М. К., 1900. С. 47, 69).

Перамір'е, якое цягнулася каля 20 гадоў, скончылася. У 1558 т. пачалася новая вайна паміж ВКЛ і Рускім царствам — так званая Інфлянцкая (Лівонская). Ужо ў 1562 г. гарачы подых баявых дзеянняў апаліў наваколлі Крычава. Летам маскоускі ваявода князь Пётр Сямёнавіч Сярэбраны паліў Мсціслаў. Са Старадуба князь Рыгоры Мяшчэрскі ваяваў Магілёў, Чачэрск і Прапойск (ПСРЛ, 1965 а. С. 340, 343). Для Літоўскага княства гэтая вайна пачалася няўдала. Яно цярпела вялікія страты. У 1563 г. Масква захапіла Полацк. Таму ўжо ў лістападзе 1563 г. пачаліся першыя перамовы аб перамір'і, пад час якіх Іван Жахлівы высунуў патрабаванне перадачы яму ўсіх зямель Вялікага княства Літоўскага, размешчаных на усход ад р. Бярэзіны, у тым ліку і Крычава (Сборник .., 1892 б. С. 260, 272). Становішча ВКЛ было такім цяжкім, што пад час гэтых перамоў, каб не было якіх-небудзь новых зачэпак для маскоўскіх баяр, кароль Жыгімонт Аўгуст загадаў крычаўскаму старасце Андрэю Багданавічу Шалуху, каб той «за границу в землю Московскую сам не ходил и слугам своим и подданым и козаком нашим ходити не казал и никоторых шкод и зачепок чинити не велел». Адначасова Андрэю Шалуху даваўся загад набіраць людзей у войска, прычым запрашаліся за добрую плату як вольнанаёмныя, так і давалася разнарадка — з воласці «з десяти служб одного человека», мяшчанам горада «з девяти чоловеков десятого выправили» (РИБ, 1914. С. 750-752).

Высунутый Масквой умовы былі непрымальнымі для Літвы. Вайна пачалася з новай сілай. У студзені 1564 г. маскоўскі ваявода князь П. С. Сярэбраны ваяваў Магілёў, Радамль, Мсціслаў, Крычаў «и королевские сёла и деревни жгли и в посылках во многих заставы Литовских людей побивали и языки имали и в полон многых людей и з животы поймали» (ПСРЛ, 1965 а. С. 377). У ліпені - жніўні 1564 г. адбыўся новы паход маскоўскіх войскаў на землі ўсходняй Беларусі: «Того ж лета, июля в 25 день, ходил из Смоленска в Литовскую землю ко Мстиславлю воевода Василий Ондреевич Бутурлин з детьми боярскими и с Татары служилыми и с Казанскими и с горными и с Чебоксарскими и с Мордвою, а воевали Мстиславские места и Кричевские и Радомльские и Могилёвские и многих людей побили и в полон взяли воинских людей шляхтич, и з жонами и з детьми, и чорных людей всяких 4787 душ» (ПСРЛ, 1965 а. С. 385).

У сваю чаргу жыхары памежных раёнаў ВКЛ адказвалі на маскоўскія напады сваімі набегамі на рускія землі. Так, у 1565 г. «...Литовские же люди приходили Июня в 10 день в Ивановский стан, Мстиславцы и Кричевцы, в головах Мстиславский хорунжий и иные ротмистры, а с ними 1200 человек...» Праўда, тэты напад скончыўся для крычаўцаў і мсціслаўцаў паражэннем (ПСРЛ, 1965 а. С. 397). Крыніцы

1566 г. адзначаюць, што ў Крычаве ў гэты год стаяў ротмістр Сымон Камянецкі, з якім было 150 драбаў (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 529, арк. 211 адв.).

Нарэшце, у 1566 г. супернікі зноў селі за стол перамоў. Як і раней, патрабаванні Масквы перадаць ёй усе землі да р. Бярэзіны былі непрымальнымі для Вільні. Праз год маскоўскія паслы прывезлі новыя прапановы, у якіх яны адмаўляліся ад некаторых сваіх прэтэнзій і прапанавалі на Падняпроўі правесці старыя рубяжы, па якіх Крычаў заставаўся за ВКЛ. На гэтых умовах было падпісана перамір'е тэрмінам на 7 гадоў (Сборник.., 1892 б. С. 361, 478, 481, 486, 490).

Нягледзячы на тое, што афіцыйна ваенныя дзеянні не вяліся, маскоўскія войскі час ад часу спусташалі наваколлі Крычава. Так, восенню 1568 г. мяшчане Крычава былі вызвалены ад выплаты чыншу ў сувязі з тым, што напярэдадні яго наваколлі спустошылі «московские татары». Яны захапілі ўсіх коней і іншае «упражное быдло», у выніку чаго крычаўцам нават не было чым узараць зямлю і пасеяць хлеб. У сувязі з гэтым мяшчане звярнуліся да вялікага князя з просьбай вызваліць іх ад чыншу на некалькі гадоў. Але вялікі князь Жыгімонт Аўгуст даў згоду толькі на адзін год (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 267, арк. 220—220 адв.).

Урад ВКЛ і Рэчы Паспалітай, нягледзячы на тое што асноўны тэатр баявых дзеянняў размяшчаўся далека на поўнач ад Крычава, вялікую ўвагу аддаваў ахове ўсіх памежных замкаў. У 1567 — 1569 гг. у Крычаве размяшчалася рота пешых драбаў у колькасці 150 чалавек пад кіраўніцтвам ротмістра С. Камяніцкага (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 529, арк. 211 адв.— 213). Акрамя таго, горад у тэты час абараняла конная рота, якую трымаў сваім коштам дзяржаўца Канстанцін Шалуха.

У 1569 г. была заключана Люблінская унія паміж ВКЛ і Каронай Польскай, вышкам чаго стала ўтварэннэ Рэчы Паспалітаы. Гэтая падзея ўзмацніла сілы ВКЛ у барацьбе з Масквой. І хоць баявыя дзеянні не вяліся, дыпламатычныя перамовы працягваліся ўвесь час. Нягледзячы на дасягнутае перамір'е, мірнае пагадненне ніяк не ўдавалася заключыць. Масква патрабавала прызнання яе правоў на ўсе землі, размешчаныя на ўсход ад Бярэзіны. Іван Жахлівы абгрунтоўваў свае правы на гэтыя землі на тым, што калісьці гэта былі валасці Кіеўскай Русі, праваспадкаемцам якой ён сябе бачыў. Паміж дзяржавамі па гэтых пытаннях вялася даволі інтэнсіўная перапіска, з якой мы даведваемся, што ў свой час Крычавам валодаў уцякач з Масквы князь Андрэй Курбскі (Сборник.., 1892 б. С. 806).

Аднак тут у крыніцы, верагодна, закралася нейкая блытаніна. Магчыма, ён проста хаваўся тут некаторы час. Бо, як сведчаць запісы ў Літоўскай Метрыцы, ад сакавіка 1566 г. (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 49, арк. 3 — 3 адв.) і да сваей смерці ў 1576 г. Крычавам валодаў Канстанцін Андрэевіч Шалуха. Сваім лістом ад 1 жніўня 1576 г. кароль Стэфан Баторы паведаміў удаве Канстанціна Шалухі, што ён забірае замак Крычаў з валасцямі з яе рук, і выдаў ліст аб ўводзе Мікалая Служкі ў замак крычаўскі. А праз некаторы час выдаў і спецыяльны прывілей на валоданне Мікалаем Служкам замкам крычаўскім «зъ волостми кричовскою и лучицкою ... до живота» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 58, арк. 30 адв. — 31, 145— 145 адв; адз. зах. 63, арк. 104 адв. — 105 адв.). Хутчэй за ўсё блытаніна выкліканая сугуччам назваў Крычава і Крэва. А. Курбскі на самой справе валодаў Крэўскім староствам.

Пасля абрання на каралеўскі стол Стэфана Баторыя ваенныя дзеянні распачаліся з новай сілай, і фартуна была на баку Рэчы Паспалітай. Аслабленая шматгадовай вайной, даведзеная апрычнінай да галечы Расія сама шукала міру. У 1582 г. вайна скончылася Ям-Запольскім перамір'ем. Масква за шматгадовую вайну не змагла дабіцца жаданых ею мэтаў, а Крычаў застаўся за Рэччу Паспалітай.

Канец XVI ст. быў адносна спакойным у гісторыі Крычава. У 1580 г. князь Багдан Іванавіч Саламарэцкі атрымаў прывілей на дзяржаву Крычаўскую, якою ён валодаў да сваей смерці 7 верасня 1602 г. (Wolff J., 1895. S. 498; ПСРЛ, 1975. С. 189). Паслугі, аказаныя каралю Багданам Саламарэцкім, былі высока ацэнены гаспадаром, і ён дазволіў Багдану Іванавічу здаваць «дзяржавы» яго Крычаўскую і Алучыцкую ў арэнду «кому хочечи» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 83, арк. 202 — 202 адв.).

Пасля смерці Б. І. Саламарэцкага Крычаўскае староства 30 лістапада 1602 г. было падаравана ва ўладанне князю Фрэдэрыку Багданавічу Лукомскаму «до живота» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 85, арк. 206), але Ева Баркулабаўна Карсакаўна, удава нябожчыка Саламарэцкага, начала барацьбу за вяртанне староства, якая цягнулася да 1604 г. Справу выйграў Лукомскі— у 1607 г. і ў больш познія гады мы бачым яго дзяржаўцам Крычаўскім і Алучыцкім. На думку Ё. Вольфа, ён валодаў Крычаўскім староствам да 1615 г., калі яно зноў перайшло да Саламарэцкіх. Е. Вольф лічыў, што крычаўскім дзяржаўцам у тэты год быў Багдан Багданавіч які заставаўся ім да сваёй смерці ў 1630 г. (Wolff J., 1895. S. 217, 498 — 499). Аднак, як паказваюць крыніцы,

гэта не зусім дакладна. Так, яшчэ у 1620 г. Ф. Лукомскі даваў наданні крычаўскім цэрквам (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 14, 15), а ўжо ў 1625 г. крычаўскім старастай быў Крыштаф Весялоўскі (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 110, арк. 327).

Пасля Ям-Запольскага перамір'я да другой чвэрці XVII ст. Крычаў застаўся амаль па-за ўвагай летапісцаў, што было выклікана адносна спакойнай сітуацыяй на ўсходніх межах Рэчы Паспалітай. У канцы XVI — пачатку XVII ст. Расія трапіла ў доўгую паласу «смутного времени», і ёй было не да актыўнай знешняй палітыкі.

Але як толькі ў Расіі скончылася гэтая паласа, адразу ж пачаліся напады на землі Рэчы Паспалітай. Ужо ў 1614 г. рускія войскі спалілі Крычаў і рабавалі валасць. Гэтыя падзеі не знайшлі адлюстравання ў летапісах. Толькі ў Літоўскай Метрыцы захаваўся прывілей караля Жыгімонта Вазы 1615 г. аб вызваленні горада і валасці ад выплаты ўсялякіх падаткаў, пастояў войска тэрмінам на 4 гады ў сувязі з пагромам маскоўскімі войскамі ў 1614 г. (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 92, арк. 168 адв. - 169).

У 1632 г. пасля смерці караля Жыгімонта III Вазы ў Рэчы Паспалітай пачаўся перыяд безуладдзя. Выкарыстаўшы гэты момант, маскоўскі цар Міхаіл Аляксеевіч распачаў вайну за вяртанне Смаленска, Чарнігаўскай і Северскіх зямель, якія Масква страціла ў выніку Дэўлінскага замірэння 1618 г. У верасні 1632 г. 40-тысячнае рускае войска пад кіраўніцтвам ваяводы М. Б. Шэіна накіравалася пад Смаленск. Адначасова ўдары наносіліся па іншых гарадах. У тым ж годзе Масква захапіла Себеж, Невель, Рослаў, Ноўгарад-Северскі і іншыя гарады. У студзені 1633 г. войскі М. Б. Шэіна асадзілі Смаленск. Іншыя рускія аддзелы пайшлі далей. Вясною — летам гэтага года Крычаў неаднойчы абараняў свае сцены ад захопнікаў.

Яшчэ ў лютым 1633 г. рускія шпегі паведамлялі ў Рослаў, што ў Крычаве шляхціч пан Бацвінка збірае добраахвотнікаў, каб ісці на «брянские и рославские места в Жарынь». Рускае камандаванне правяло прэвентыўны паход. У лютым пад вёскай Лапатавічы адбылася бойка з добраахвотнікамі Бацвінкі. Супраць 350 рускіх жаўнераў, як паведамляюць рускія крыніцы, выступілі 150 вершнікаў і 350 пешых добраахвотнікаў пана Бацвінкі. Нягледзячы на колькасную перавагу Літвы, перамога была за маскоўскімі войскамі, якія гналі крычаўцаў да сцен горада (АМГ, 1890. С. 472-473).

Як страшэнная маланка, пракаціўся па горадзе паход ваяводы Івана Тарбеева і атаманаў Івана Балаша і Сямёна Пірогі. Крыніцы паведамляюць, што Іван Тарбееў «а с ним донские казаки и солдаты и охочие люди, Ивашка Балаш с товарищи, ходили за рубеж для Языков и пришли под Кричев ночью и большой острог взяли и многих литовских людей побили, а в меньшим остроге литовские люди сели в осаде: и они приступали многожды до тех мест, покаместа пороху стало, и острог зажигали со многих мест, а в остроге взяли две пищали железных, знамена и барабан поймали, да языков взяли 4 человек шляхтичей, а иных де языков в те поры побивали, чаяли взять город; да из того же городу взяли полону мужескаго полу и жёнам с 2000 человек» (АМГ, 1890. С. 446, 476, 479, 481). Сямён Пірога дадаткова паведамляў, што пад час паходу пад Сураж і Крычаў яго аддзелам было захоплена 5 знамёнаў і «пушечка» (АМГ, 1890. С. 481). Адпіска маскоўскіх ваявод і атаманаў малюе страшэнную карціну штурму і вынішчэння горада. Маскоўскія войскі здолелі ўварвацца ў пасады і, як відаць з іх рэляцыі, у нейкі момант нават змаглі прабрацца ў замак. Але жыхары Крычава яго ўсё ж адстаялі. І як вынік — амаль поўны вывад жыхароў горада ў маскоўскі палон, бо наўрад ці ў той час яго насельніцтва значна перавышала названую колькасць. Значная частка крычаўскага палону, магчыма, была адпраўлена на пасяленне ў Сібір, Ва ўсялякім выпадку, у партыі са 150 чалавек, накіраванай ў Томск не раней 1633 г., значыцца «Яска Петров сын кричевец» (Лешчанка Р. Ф., 1982. С. 77). Тым часам некаторая частка жыхароў Крычава, якая, верагодна, добраахвотна перайшла на бок Масквы, звярталася ў гэтым годзе ў Разрадны прыказ з просьбай, каб іх пасялілі ў Пачэпе (Русско-белорусские.., 1963. С. 117-118. № 94).

Не паспелі загаіцца раны ад гэтага паходу, як праз два тыдні з Рослаўля пад Крычаў быў адпраўлены новы маскоўскі аддзел пад кіраўніцтвам Івана Балаша, а разам з ім і аддзелы Пятра Гур'ева, Савелія Хітрова і Фёдара Тургенева. Яны пісалі цару, што пад Крычавам «они побили пана Красинского, а взяли в бою литовских людей 2 человек, а побили литовских людей 90 человек» (АМГ, 1890. С. 476).

У абароне горада актыўны ўдзел брала ўсё яго насельніцтва. Так, у 1646 г. кароль, улічваючы адвагу крычаўскіх яўрэяў пад час апошняй «экспедыцыи масковской» і жадаючы, каб яны і надалей актыўна ўдзельнічалі ў абароне горада, даў ім дазвол на будаванне асобных «клетак» у замку, каб захоўваць там свае рэчы і хавацца ад ворага (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 119, арк. 708 адв. - 709).

1633 г. застаўся ў гісторыі горада не толькі як год маскоўскага пагрому. 23 жніўня адбылася значная падзея для Крычава: яму было нададзена магдэбургскае права. У прывілеі Уладзіслава IV падкрэслівалася, што надаецца яно з мэтаю паляпшэння ўмоў далейшага развіцця горада і ў якасці своеасаблівай міласці за вернасць гараджан як ў папярэднія гады, так і за сёлетнюю нужную абарону. Згодна з прывілеем, горад атрымаў выбарнае гарадское самакіраванне, суд, дазвалялася будаўніцтва ратушы. Адначасова гораду надаваўся герб з выявай мяча і крыжа каля яго (ИЮМ, 1879. С. 307 — 311). Выява зброі на гарадской пячатцы была характэрная для памежных гарадоў Рэчы Паспалітай: яна адлюстроўвала ягоную ролю ў абароне краіны.

У дадатак да прывілея аб наданні гораду магдэбургскага права 24 лютага 1634 г. кароль Уладзіслаў IV выдаў другі прывілей, якім абавязаў усіх жыхароў горада выконваць гарадскія павіннасці, пабудаваць ратушу на рынку, а для пашырэння апошняга прапанаваў выкарыстаць замкавы агарод. Дазвалялася мець два гасцінныя дамы — адзін за астрогам, а другі над Сожам, а таксама дзве ярмаркі ў год: першую на Троіцу, а другую — на дзень Св. Міколы (6 снежня) каталіцкага веравызнання. Адначасова ў прывілеі вызначаліся памеры плацяжоў мяшчан, ім дазвалялася ганляваць па ўсіх каралеўскіх валасцях без выплаты мыта і інш. (ИЮМ, 1879. С. 311-315).

У 1634 г. вайна скончылася Палянаўскім Мірам, згодна з якім кароль Уладзіслаў IV афіцыйна адмаўляўся ад прэтэнзій на рускі трон. Масква здабыла Сярпейск, Трубчэўск, Ахтырку, Лебядзін, але Смаленск застаўся за Рэччу Паспалітай.

У другой палове 30-х гадоў XVII ст. Крычаў і староства на доўгі час трапілі пад уладу Пацаў. Ва ўсялякім выпадку, у 1640 г. пасля смерці Стэфана Паца Крычаўскае староства перайшло да ягонай удавы Ганны з Рудзімінаў-Дусяцкіх, якая валодала ім да 1642 г. (Polski siownik biograficzny, 1974. S. 738). У гэтым годзе яна атрымала дазвол караля Уладзіслава IV на перадачу Крычаўскага староства з замкам свайму сыну Мікалаю Стэфану Пацу (Wolff J., 1885. S. 88), які і валодаў ім амаль тры дзесяцігоддзі. Верагодна, памежнае староства не давала вялікага прыбытку, таму дзяржаўца шукаў магчымасць здаць яго ў арэнду. І хоць 3 ліпеня 1645 г. Мікалай Стэфан Пац атрымаў згоду караля на здачу ў арэнду староства «каму захоча» (Wolff J., 1885. S. 173), зрабіць гэта ён змог толькі 12 сакавіка 1666 г. Крычаў і староства былі зданы ў арэнду на тры гады маршалку валкавыскаму пану Яну Агінскаму (ИЮМ, 1900. С. 131-132).

Пад час антыфеадальнай вайны 1648 — 1654 гг. Крычаў неаднаразова выкарыстоўваўся ў якасці апорнай базы для войска Рэчы Паспалітай і як месца, адкуль арганізоўваліся напады на рускія ўладанні. У сваю чаргу Крычаў у 1648 і 1651 гг. вытрымаў штурмы казакаў і паўстаўшых сялян, калі казакі, адышоўшы ад Рослава, беспаспяхова асаджалі Крычаў (АВАК, 1909. С. 329). Арганізатарам абароны горада быў сам крычаўскі дзяржаўца Мікалай Стэфан Пац. Ён, як сведчыць пастанова Берасцейскага сойма 1653 г., не толькі паказаў асабістую мужнасць, але і ўклаў на рамонт замка і ўтрыманне абаронцаў свае грошы — 20000 злотых, якія сойм пастанавіў яму вярнуць (Volumina legum, 1859. S. 174. № 379. S. 192. № 417). Горад і яго воласць вельмі пацярпелі ад казацкай навалы, і калі ў 1649 г. сойм зацвердзіў новыя падаткі на вядзенне вайны ў памеры «10 пабораў», то, напрыклад, для Мсціслаўскага павета ён быў паменшаны да 7. Аднак і з гэтага Мсціслаў змог выплаціць толькі 3 паборы. А у наступным годзе Мсціслаўскі і Старадубскі паветы наогул былі вызвалены ад выплаты падаткаў. Крычаў быў вызвалены ад выплаты падаткаў яшчэ ў 1649 г.

Сітуацыя не змянілася і пазней. У 1652 г. за мужнасць горад зноў быў вызвалены ад падаткаў і пастою жаўнераў на 6 гадоў, за выключэннем мытных збораў (Morzy J., 1965. S. 32, 143).

Трыццаць гадоў не было вайны паміж Масквой і Вільняй. Аднак тэта не азначала, што паміж дзвюма дзяржавамі ўсе пытанні развязаныя. Па-ранейшаму маскоўскі Крэмль і маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч марылі пра Смаленск, пра далучэнне ўсіх зямель Рэчы Паспалітай да Расіі. Масква вяла падрыхтоўку да новай вайны і шукала толькі зручнага моманту. І ён хутка наспеў.

Рэч Паспалітая была знясіленая казацкай вайной 1648 — 1654 гг. Казакоў падтрымлівала Расія. На перамовах паміж Масквой і Вільняй пытанне наконт Украіны зайшло ў тупік. А тут яшчэ мсціслаўскі падкаморы Пётр Вяжэвіч абразіў маскоўскага цара: у сваім звароце да яго ён не назваў тытул «повелитель всея России». Толькі аднаго гэтага было дастаткова, каб распачаць вайну. Масква патрабавала пакараць смерцю вінаватага і прыводзіла як прыклад адпаведныя дзеянні ў такой жа сітуацыі ў Персіі. Кароль Ян Казімір адмаўляўся пайсці на такі варварскі ўчынак. 1 кастрычніка 1653 г. Земскі Сабор, слухаючы справаздачу паслоў «о неправдах литовского короля», пастанавіў:

«За честь царей Михаила и Алексея стоять и против польского короля войну вести, а терпеть того больше нельзя» (Сагановіч Г. М., 1995. С. 9).

Пачалася самая страшэнная вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай — вайна 1654 — 1667 гг., да якой Рэч Паспалітая не была падрыхтавана. Рускія войскі выйшлі з Масквы 15 мая 1654 г. Адначасова пачалі дзеянні рускія арміі, сабраныя ў Бранску і ў Вялікіх Луках. 22 ліпеня 1654 г. войскамі князя Трубяцкога быў захоплены і выразаны Мсціслаў: «Трубецкой с товарищи город Мстиславль взял и высек и выжег, а побил в нём больше пяти да десяти тысяч...» (Акты.., 1836. С. 128). Вайна падышла пад сцены Крычава.

30 ліпеня цар Аляксей Міхайлавіч паслаў пад Крычаў сваіх стольнікаў і ваявод «артаульнага палка» П. В. Шарамецева і князя Т. І. Шчарбатава, якія паведамлялі цару: «Город Кричев крепок, стоит на осыпи высокой, и ров глубок и въезд и выезд один, а пищалей затинных и винтовочных (гакаўніц і мушкетаў) в городе много». На іх думку, з тымі сіламі, што яны мелі, штурмаваць горад было немагчыма. Таму атрымалі загад адысці ад горада, стаць у аблогу, а «над городом промышлять» — «зажогом, изождав ветру» і іншымі спосабамі (Дворцовые разряды, 1852. С. 437; Мальцев А. Н., 1974. С. 51). Акрамя артаульнага палка пад Крычавам стаялі татары, стральцы, «жылецкія сотні». Але аблога нічога не дала, і ў жніўні цар быў вымушаны перакінуць з-пад Дуброўны да Шарамецева вызваленыя «жилецкие и татарские сотни» (Дворцовые разряды, 1852. С. 443).

Крычаўцы мужна абараняліся, і цар Аляксей Міхайлавіч, які так і не змог паслаць сюды вялікае войска, быў вымушаны шукаць іншыя шляхі для ўзяцця горада. Па яго загадзе здраднік палкоўнік К. Паклонскі паслаў у Крычаў для вядзення перамоў аб здачы горада шляхціча Іваноўскага (АЮЗР, 1889. С. 241-246). Неаднаразова і сам К. Паклонскі браў удзел у перамовах з крычаўцамі, прычым аднойчы яго ледзь не забілі (АЮЗР, 1889. С. 399-400). Але горад не здаваўся. Не дапамагаў і ўдзел у перамовах жыхароў Мсціслава, якія засталіся жывымі (Русско-белорусские связи.., 1963. С. 341—342). Для паскарэння здачы горада К. Паклонскі прасіў цара, каб ён напісаў гараджанам даравальную грамату з абяцаннем захавання іх маёмасці і прывілеяў.

Адначасова з перамовамі аб мірнай здачы горада маскоўскія войскі двойчы спрабавалі ўзяць яго штурмам — «извоевал, только одними душами остался есми» (АЮЗР, 1889. С. 400). Аднак крычаўцы знаходзілі ў сабе сілы не толькі абараняцца, але і самі рабілі вылазкі: «...з немалым крыви своей пролитьем... у голоде и великой нэнде отпор давали, у ноч на неприятеля, школы чынечи, выходили». І толькі ў канцы верасня, калі да абаронцаў дайшлі звесткі пра тое, што ўжо заваяваныя Горы, Орша, Дуброўна, Смаленск, Мсціслаў, Магілёў, што ім няма адкуль чакаць дапамогі, а ў горадзе пачаўся голад, мяшчане Крычава здалі яго рускім вайскам.

У падзяку за тэта 9 кастрычніка цар Аляксей Міхайлавіч выдаў крычаўскай шляхце, мяшчанам і манастырам Крычава даравальныя граматы, у якіх пацвярджаў захаванне ўсёй іх маёмасці, правоў, прывілеяў (Белоруссия.., 1960. С. 95-97).

Даруе цар, а не даруе псар. Рускія войскі, увайшоўшы ў горад, выгналі з замка ўсіх абаронцаў, не даўшы ім магчымасці забраць адтуль свае дабро. А праз некалькі месяцаў, 13 мая 1655 г. атрады казакоў Залатарэнкі, якому цар Аляксей Міхайлавіч аддаў Крычаў, без якіх-небудзь падстаў спалілі сам замак з усёй маёмасцю (АВАК, 1909. С. 329; Сагановіч Г. М., 1995. С. 38).

Відаць, не даспадобы прыйшлася новая ўлада, бо ўжо ў 1655 г. менавіта крычаўская шляхта пры абароне Магілёва здрадзіла Маскве і перайшла на бок князя Радзівіла (АМГ, 1894. С. 398). Да і ў самім Крычаве не ўсё было так спакойна, бо горад неаднойчы падымаў паўстанні і выганяў акупантаў, а у яго наваколлях дзейнічалі партызаны (Сагановіч Г. М., 1995. С. 77).

Як толькі паміж захопнікамі — маскоўскім войскам і іх паплечнікамі — казакамі пачаліся сутычкі, тэта адразу ж скарысталі крычаўцы. Восенню 1658 г. палкоўнік Нячай перайшоў на бок Рэчы Паспалітай разам са сваім палком і гарадамі Старым Быхавам, Чавусамі, Рославам. Адначасова паўсталі жыхары Крычава і Мсціслава, знішчылі ў гарадах царскія аддзелы і ўзялі ўладу ў свае рукі (Сагановіч Г. М., 1995. С. 79).

Цар Аляксей Міхайлавіч паслаў сюды ваяводу Івана Іванавіча Лабанава-Растоўскага, які « в року 1658, тамже мечом и огнем, без милосердя, людей секли и палили…» (ИЮМ, 1894. С. 461). Восенню 1659 г. яму на дапамогу прыйшоў стольнік Лука Ляпуноў, які ўжо на пачатку сакавіка наступнага года паведамляў, што яго войска разам з палкамі Івана Лабанава-Растоўскага аблажылі Мсціслаў. З Крычава на дапамогу мсціслаўцам выйшлі палкоўнікі Кміціч, Аскірка, Нячай і Выганоўскі, але пацярпелі паражэнне. На пачатку красавіка яны зноў паспрабавалі дапамагчы Мсціславу, але зноў беспаспяхова. У гэтай бітве маскоў-

скае войска «...побили 3000 ч. Да в языцехъ взято 121 ч., да наряду взято 4 пушки да гоковница, 4 литавры, 32 знамени 114 древок гусарских, 4 барабана и обоз взяли…» (АМГ, 1901. С. 150). Пасля гэтага Мсціслаў, застаўшыся без дапамогі, здаўся маскоўскаму войску (Сагановіч Г. М., 1995. С. 81). Хутка, верагодна, і Крычаў быў вымушаны зноў падначаліцца ўладзе рускага цара.

Але і гэты пагром не здолеў патушыць жаданне крычаўцаў вярнуцца пад апеку Рэчы Паспалітай. У канцы ліпеня 1660 г. князь Б. А. Рапнін паведамляў цару, што ў Крычаве стаіць рускі гарнізон з 188 чалавек, але горад, як і астатнія гарады вакол Смаленска, не надзейны.

Цар Аляксей Міхайлавіч у адказ на гэта: «...Мстиславль, Кричев, Рославль, Чичерск велел укрепить гораздо и осадным людем сидеть с великим бережением» (АМГ, 1901. С. 106, 108). Ён быццам прадбачыў небяспечнасць сітуацыі, якая склалася на захопленых землях. Ужо ў канцы жніўня, калі пад Мсціслаў падышлі аддзелы палкоўніка Ліпскага, яго жыхары самі адчынілі ім гарадскую браму. Сюды ж прыбегла дэпутацыя з Крычава і прасіла Ліпскага як мага хутчэй ісці пад Крычаў, «а чаять де кричевцы город польским людем сдадут вскоре» (АМГ, 1901. С. 147-148). Недзе ў канцы жніўня — пачатку верасня крычаўцы зноў прысягнулі на вернасць Рэчы Паспалітай. Спробы маскоўскага ваяводы князя Ю. А. Далгарукага сілай вярнуць горад пад царскую руку толькі выклікалі ў мяшчан і шляхты Крычава абурэнне. Гарадскія ўлады да восені вялі перамовы з царскімі ўладамі, падкрэсліваючы, што калі яны падвядуць да горада войскі, то крычаўцы будуць з імі біцца. У рэшце рэшт 23 лістапада мяшчане і шляхта здалі горад, але не маскоўскаму войску, а запарожскаму палкоўніку П. І. Раслаўчанку (АМГ, 1901. С. 243 — 244; Русско-белорусские связи.., 1963. С. 441-442).

Але праз тры месяцы, у канцы лютага — пачатку сакавіка 1661 г., Крычаў зноў выйшаў з-пад улады Масквы. Як адзначалі маскоўскія крыніцы, у горадзе было шмат людзей, якія даўно жадалі вярнуцца пад уладу Рэчы Паспалітай. Гэтая партыя атрымала перавагу, і гараджане прысягнулі на вернасць каралю (АМГ, 1901. С. 323-324, 334).

У тым жа годзе рускае войска назаўжды пакінула Крычаў, нягледзячы на тое што вайна яшчэ працягвалася да 1667 г. Рашэннем Варшаўскага сойма Рэчы Паспалітай 1661 г. Крычаў з прычыны значнага разбурэння горада і воласці быў вызвалены ад падаткаў на 4 гады, за выключэннем выплаты мыта (Белоруссия.., 1960. С. 284).

Горад даволі хутка адраджаўся. Ужо ў сакавіку 1664 г. кароль Ян Казімір, аглядаючы ўмацаванні замка, застаўся задаволены іх станам. Але каб край хутчэй адрадзіўся і ў памяць пра неаднаразовую мужную абарону горада ад ворагаў кароль на 10 гадоў дае ільготы ад выплаты плацяжоў, забірае ў мясцовых яўрэяў арэнду карчмы і перадае яе ў рукі мяшчан, зацвярджае за гараджанамі і жыхарамі воласці іх былыя правы (ИЮМ, 1879. С. 358 — 359; ИЮМ, 1894. С. 314-316).

Гэта былі вельмі своечасовыя дзеянні ўлад па адраджэнні горада і воласці, бо ў 1667 г. у старостве засталіся толькі 200 сельскіх і 82 гарадскія дымы. Згодна з інвентаром Крычаўскага староства 1671 г., у яго 49 вёсках яшчэ каля 60% гаспадарак былі пустыя. А колькасць дымаў у Мсціслаўскім ваяводстве за гады вайны 1654 — 1667 гг. скарацілася на 70% — з 13 730 да 4 119 дымаў (Morzy J., 1965. S. 107, 337).

Нягледзячы на амаль двухсотгадовае бесперапыннае ваеннае ліхалецце, у XVI —XVII стст. тэрыторыя Крычава расла. Горад інтэнсіўна займаў тэрыторыю паміж Забялышчынскім ярам і далінай Крычаўкі, выкарыстоўваючы іх у якасці натуральных штучных умацаванняў. Росту горада спрыяла мэтанакіраваная дзяржаўная палітыка, якая праводзілася вялікімі князямі і каралямі. З пашырэннем Рускага царства на захад Вялікае княства Літоўскае на пачатку XVI ст. апынулася перад неабходнасцю мець на ўсходніх межах краіны моцныя абарончыя замкі, якія б маглі спыніць маскоўскі націск. Дзеля гэтага дзяржава пачала надаваць увагу развіццю гарадоў на памежжы. Ім выдзяляліся дадатковыя грошы на ўтрыманне замкаў, мяшчанам надаваліся шматлікія прывілеі. Такая дзяржаўная палітыка прыводзіла да таго, што гарады у большасці заставаліся вернымі Рэчы Паспалітай, нягледзячы на частыя і моцныя пагромы з боку маскоўцаў. Яны даволі хутка адбудоўваліся і нават працягвалі расці.

26 жніўня 1670 г. Міхал Стэфан Пац добраахвотна адмаўляецца ад свайго права на «дажывотнае» ўладанне Крычаўскім староствам на карысць Мікалая Казіміра Радзівіла. Праз месяц тэты факт быў пацверджаны каралём Міхалам Сабескім, і Крычаў разам са староствам амаль на стагоддзе апынуўся ў руках старадаўняга роду Радзівілаў (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 128—129 адв.). Пасля смерці Мікалая Казіміра староствам кіравала ягоная жонка Катажына, потым яна пе-

радала права на ўладанне староствам свайму сыну Каралю (НГАБ, ф. 694, вон. 4, адз. зах. 1155, арк. 190-192).

У 1692 г. пасля шлюбу Караля Станіслава Радзівіла з Ганнай Катажынай Любартаўнай Сангушкавай апошняя таксама атрымала права на пажыццёвае ўладанне Крычавам і староствам. Кароль Ян III выдаў прывілей на сумеснае валоданне староствам і горадам кн. Ганне Любартаўне Сангушкавай-Радзівіл і яе мужу, што было пацверджана ў 1729 г. прывілеем караля Аўгуста II (НГАБ, ф. 694, воп. 1, адз. зах. 188, арк. 6 — 8).

У канцы XVII — першай палове XVIII ст. Крычаў рэдка трапляе на старонкі пісьмовых крыніц, што было звязана са спыненнем войнаў паміж Рускім царствам і Рэччу Паспалітай. Толькі аднойчы падзеі, што адбыліся тут у 1696 г., павінны былі прыцягнуць увагу ўсёй Рэчы Паспалітай.

У гэты год у старостве і ў горадзе на пастой была расквартаравана харугва харунжага Вялікага княства Літоўскага Рыгора Агінскага. Яна адразу ж пачала рабаваць насельніцтва староства і Крычава, і гэта ў рэшце решт выклікала нездавальненне людзей. Неаднаразова сяляне староства выступалі са зброяй супраць рабаўнікоў, а 8 лістапада 1696 г. пачалося сумеснае ўзброенае выступленне жыхароў горада і воласці супраць харугвы Агінскага ў Крычаве. Падставаю для гэтага паслужыла адмова камандавання спыніць рабаўніцтва і нават болей таго — пагроза «агнём і мячом разбурыць горад і ўсю Крычаўскую воласць» (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 313).

Жыхары горада і сяляне староства, як сведчаць крыніцы, некалькі тысяч чалавек, авалодалі замкавымі гарматамі і абстралялі з іх харугву Агінскага каля замка. У адказ харугва абрынулася на паўстанцаў. Пачалася лютая сеча, з абодвух бакоў было шмат загінуўшых. Як адзначаў паручык харугвы Ян Паломскі, паўстанцы нападалі на харугву як на самага лютага ворага Рэчы Паспалітай. У выніку харугва была разгромлена, а хто застаўся ў жывых — вымушаны быў ратавацца з горада ўцёкамі (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 320-323; Мелешко В. И., 1970. S. 143-146).

У 1705 г., пад час Паўночнай вайны, падзеі зноў прыводзяць нас у наваколлі Крычава. Каля в. Добрая адбылася бітва паміж шведскімі і рускімі войскамі. Пасля бітвы рускія войскі адышлі пад Крычаў і на працягу некалькіх тыдняў адпачывалі тут. У далейшым горад жыў сваім унутраным жыццём, не трапляючы на старонкі «вялікай гісторыі». Толькі ў сярэдзіне XVIII ст. ён зноў прыцягнуў да сябе увагу — у 1740—1744 гг. горад і воласць ахапіла сялянскае паўстанне.

У 1731 г. Іеранім Радзівіл за 102 тыс. злотых здаў Крычаўскае староства ў арэнду свайму казначэю Гдалію Іцковічу. Той адразу ж пачаў «отягощать безмерными денежными податьми тамошних крестьян, излишне вымослив рабочие лесовые заводы, где построил поташние и гардашние заводы и под оный поташ и гардаш брал хотя с наймом с уезду подводы для поставки оных товаров к пристани, отчего немалую излишнюю нужду и крайнее разорение крестьяне претерпевали». Болей за тое, Гдалій увёў новыя «откупные кабачные и прудовые денежные великие зборы и продажу пеньки, покупку соли и прочие несносные отягощения на крестьян» (Белоруссия.., 1960. С. 389). Яго рабаўнічыя дзеянні асуджала нават жонка Іераніма Радзівіла, княжна Ганна, якая адзначала, што жыхары староства ні дзяржаўных, ні княжаскіх падаткаў плаціць не маюць магчымасці (Игнатенко А. П., 1974. С. 111).

Гараджане і жыхары воласці неаднойчы звярталіся да І. Радзівіла, каб той вызваліў іх ад незаконных падаткаў, спыніў рабаўніцтва, патрабавалі адлучэння арандатара ад кіраўніцтва староствам. На пачатку 1740 г. пачаліся хваляванні сялян, якія адмаўляліся ад выхаду на баршчыну і выплаты падаткаў. Вясной гэтага ж года ў старостве пачаў дзейнічаць сялянскі ўзброены аддзел пад кіраўніцтвам В. Вашчылы, які быў разбіты з дапамогаю конных зямян на пачатку ліпеня. Пачатак узброеннага паўстання змусіў І. Радзівіла змяніць арандатара. Староства было перададзена новаму арандатару, брату Гдалія — Ш. Іцковічу (Игнатенко А. П., 1974. С. 113).

Аднак дзейнасць новага арандатара ніякіх перамен не прынесла. Болей за тое, І. Радзівіл у канцы чэрвеня 1740 г. даручыў Ш. Іцковічу зрабіць рэвізію зямель у насельніцтва староства і адначасова ўвёў новыя падаткі. Гэта не магло не выклікаць супраціўлення насельніцтва.

У сярэдзіне ліпеня 1740 г. у старостве пачалося ўзброенае паўстанне на чале з Васілём Мацвеевічам Вашчылам, жыхаром і войтам в. Селішча (Белоруссия.., 1960. С. 389). 18 ліпеня 1740 г. некалькі соцен сялян пад кіраўніцтвам В. Вашчылы напалі на аддзел шляхцічаў і капыскіх зямян, з якімі адміністратар староства Прылецкі прыбыў у мястэчка Міхалава для задушэння сялянскіх хваляванняў. І. Радзівіл першапачаткова не надаў значнай увагі гэтым падзеям і меркаваў адужаць паўстанцаў мяс-

цовымі сіламі. Але ўжо ў канцы лета ён вымушаны быў звярнуцца за дапамогаю да каралеўскіх улад. У адказ гетман ВКЛ князь М. Вішнявецкі загадаў паручніку Валадкевічу, харугва якога стаяла у Крычаве, задушыць паўстанне любымі сродкамі. Аднак зрабіць гэта Валадкевічу не ўдалося, і да сярэдзіны 1741 г. паўстанне шырылася па ўсім старостве (Йгнатенко А. П., 1974. С. 118).

І. Радзівіл вымушаны быў адмовіць Ш. Іцкевічу ў арэндзе і перадаць староства на два гады шляхцічу Храптовічу. Праводзячы тую ж палітыку, што і яго папярэднікі, Храптовіч не здолеў спыніць паўстанне. Восенню 1743 г. Радзівіл прыслаў у Крычаў новага губернатара П. Цялецкага, але ён не толькі не змог паставіць сваю адміністрацыю ў валасцях староства, а нават быў выгнаны з Крычава. Кіраўніцтва староствам фактычна аказалася ў руках паўстанцаў.

Толькі пасля гэтага, на пачатку студзеня 1744 г. за справу ўзяўся сам І. Радзівіл. Ён завербаваў новых рэкрутаў, з Круляўца была дастаўлена зброя і порах, са Слуцка накіравана радзівілаўская міліцыя — некалькі сот казацкай конніцы, пяхоты з гарматамі, з Невеля і Себежа — 200 вершнікаў і гарматы. На арганізацыю гэтай карнай акцыі І. Радзівіл уклаў 200 тысяч злотых (Lech M. J., 1960. S. 326).

15 студзеня 1744 г. радзівілаўскія войскі пад кіраўніцтвам палкоўніка Песцжэцкага ўвайшлі ў Крычаў і занялі замак. Спроба шляхам распаўсюджвання універсалаў схіліць паўстанцаў да падпарадкавання нічога не дала. Наадварот, яны вырашылі атакаваць горад. 18 студзеня 1744 г. звыш 2 тысяч паўстанцаў падышл! да горада. Да іх далучыліся гараджане. Паўстанцы абстралялі з гармат замак, а потым пайшлі на штурм. У бітве загінула каля 100 сялян і гараджан, каля 500 чалавек былі параненыя, 77 трапілі ў палон (Гісторыя Беларускай ССР, 1972. С. 413). Паўстанцаў выбілі з горада.

26 студзеня каля в. Царковішча Крычаўскага староства адбылася новая бітва войскаў Вашчылы і міліцыі Радзівіла, і паўстанцы зноў былі разбітыя. Паводле слоў А. Мейера, «Кричев весь тогда был обагрён кровью, и расставленные по всем улицам на правом берегу виселицы и колья через несколько дней грозное и страшное представляли позорище» (Мейер А., 1901. С. 91).

22 лютага 1744 г. у Крычаве адбыўся суд, які прысудзіў 16 кіраўнікоў паўстання да пакарання смерцю. Аднак, нягледзячы на гэта, невялікія аддзелы паўстанцаў яшчэ пэўны час працягвалі дзейнічаць на тэрыторыі староства. Гэта была апошняя значная падзея ў сярэдзіне XVIII ст., якая прыцягнула да горада ўвагу ўсёй дзяржавы.

Пасля смерці Іераніма Фларыяна Радзівіла ў 1760 г. Крычаўскае староства і горад амаль адразу ж былі падараваны Ежы Аўгусту Мнішку (Polski siownik biograficzny.., 1976. S. 472).

У 1772 г. адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай. Рускія войскі атрымалі загад узяць пад свой кантроль новыя землі ў тэрмін паміж 1 і 7 верасня 1772 г. (ПСЗРИ, 1830. Т. 19. № 13850. С. 553).

З гэтага часу пачалася гісторыя Крычава у складзе Расійскай імперыі. Аднак першапачаткова горад і староства заставаліся ў руках Ежы Мнішка. І толькі ў 1775 г., з-за яго адмовы прысягнуць на вернасць расійскай імператрыцы Кацярыне II, Крычаў і староства былі ў яго канфіскаваныя і абернуты ў дзяржаўны скарб, а потым, на пачатку 1776 г., пажалаваны графу Р. Пацёмкіну.

*Раздзел* 5

# ВОЛАСЦЬ КРЫЧАВА Ў XII - XVIII стст.: ТЭРЫТОРЫЯ АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ГАСПАДАРЧЫ ПАДЗЕЛ

## § 1. Воласць Крычава ў XII—XIII стст.

Кожны сярэднявечны горад выконваў ролю гаспадарчага, адміністрацыйнага і культурнага цэнтра пэўнай сельскай акругі, з якою ён быў шчыльна звязаны.

Гісторыя фарміравання воласці сярэднявечнага горада — недастаткова распрацаваная праблема ў сучаснай беларускай медыевістыцы. Пытанні генезісу, фарміравання і тэрытарыяльнага развіцця воласці Крычава таксама не знайшлі пакуль свайго адлюстравання ў гістарычнай літаратуры. Таму нашай мэтай з'яўляецца рэканструкцыя, на падставе комплекснага аналізу археалагічных і пісьмовых крыніц, пытанняў фарміравання, адміністрацыйна-гаспадарчага і тэрытарыяльнага развіцця воласці Крычава на працягу XII —XVIII стст.

Першапачатковым ядром будучага горада было гарадзішча Гарадзец, на якім сустракаюцца найбольш раннія сярэднявечныя матэрыялы — мяжы XI/XII —XIV стст. Пачатак фарміравання аднаго з першых сярэднявечных умацаваных паселішчаў на крычаўскім гарадзішчы жалезнага веку Гарадзец, верагодна, можна растлумачыць яго выгадным геаграфічным месцазнаходжаннем.

Размешчанае недалёка ад упадзення ў Сож р. Асцёр паселішча на Гарадцы кантралявала водны шлях па апошнім. Акрамя таго, крыху ніжэй Гарадца, па леваму прытоку Сожа р. Лабжанцы, пачынаўся волак на Бесядзь.

Менавіта праз сваё выгаднае геаграфічнае месца паселішча на Гарадцы стала той кропкай, якая адначасова выдавала як цэнтрабежныя, так і цэнтраімклівыя імпульсы. Дзякуючы першым пад прыкрыццём Гарадца ішло асваенне акругі; ад яго адгаліноўваліся новыя паселішчы, а астатніе пакідалі за ім ролю цэнтра акругі. Статут Расціслава Мсціславіча 1136 г. пацвярджае гэтую думку, калі ён паказвае на пачатку XII ст. Кречют як цэнтр невялікай акругі, з якой на карысць князя ішло ўсяго 10 грыўняў.

Будаўніцтва ў канцы XII — пачатку XIII ст. замест старога адміністрацыйнага цэнтра, якім было паселішча на гарадзішчы Гарадзец, новага — Замкавай тары сведчыць пра тое, што былы цэнтр ужо не мог задаволіць патрэбы воласці.

Дакладна вызначыць памеры воласці Крычава XII —XIII стст. немагчыма з прычыны адсутнасці пісьмовых крыніц. Толькі ўлічваючы размяшчэнне вакол Крычава іншых адміністрацыйных цэнтраў і помнікаў археалогіі XII — XIII стст., можна зрабіць спробу схематычна яе абмаляваць.

Кожны адміністрацыйны цэнтр меў адпаведную свайму статусу акругу. Вакол Крычава ў XII —XIII стст. знаходзіўся шэраг гарадскіх паселішчаў — Мсціслаў, Зарой, Прупой, Расціслаў. На захадзе, на р. Проні, магчыма, існавала яшчэ некалькі самастойных невялікіх валасцей: адна — вакол Радамля, дзе ёсць гарадзішча і селішча з матэрышламі XII —XIII стст. (Мельниковская О. П., 1976), а другая — на Чавускім селішчы, дзе па археалагічных матэрыялах прасочваецца наяўнасць прадстаўнікоў феадальных вярхоў (Рыер Я. Р., 1994. С. 202 — 227). Улічваючы вышэйсказанае, паспрабуем, карыстаючыся метадам рэтраспекцыі, прыблізна акрэсліць межы воласці Крычава X — XIII стст.

Картаграфуючы вядомыя населения пункты, што цягнуліся да Мсціслава і Крычава ў XV —XVI стст., можна заўважыць, што яны падзяляюцца рэкамі Белай і Чорнай Натапай. Для вызначэння мяжы воласці Крычава вельмі цікавую інфармацыю дае «Агранічэнне староства Крычаўскага», захаваўшаяся копія якога датуецца 1604 г., а першакрыніца была складзена пад час знаходжання Крычава ў праўленні Андрэя Багданавіча Шалухі (1544 — 1563 гг.) у гады гаспадарання Жыгімонта Аўгуста (1548 — 1572 гг.). Гэта дае падставы датаваць час складвання «агранічэння» паміж 1548—1563 гг. Хутчэй за ўсё яно было складзена ў 1560 г., калі праводзілася аграрная рэформа ў Крычаўскім павеце (Любавский М. К., 1900. С. 452; Пичета В. А., 1958. С. 243).

У гэтай крыніцы мяжа паміж валасцямі Мсціслава і Крычава ішла ад балота Воўчага

да ракі Белая Натапа, а потым ёю да ракі Сож (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 68). Верагодна, Воўчае балота ў XVI ст. можна лакалізаваць на поўдзень ад сучасных вёсак Забалоцце і Волкаўка Мсціслаўскага раёна. Адсюль мяжа Крычаўскай воласці ішла ўздоўж Чорнай Натапы, з якой па рацэ Белая Натапа выводзіла на Сож. Такі ж накірунак мяжы паміж валасцямі Крычава і Мсціслава захоўваўся і ў XVII ст., калі на правым баку Чорнай і Белай Натапы стаялі крычаўскія сёлы Юшкавічы, Маляцічы, Катаны, Мышкавічы, Стабаршчына (АЮЗР, 1889. С. 504. № 13-VIII-11).

Супадзенне агульнага накірунку мяжы сярэдзіны XVI —XVII ст. з сучаснай мяжой паміж Мсціслаўскім і Крычаўскім раёнамі Магілёўскай вобласці дазваляе меркаваць, што яна вядзе сваё паходжанне з больш ранніх часоў і пачатак яе фарміравання трэба шукаць у XII — XIII стст. — часе, калі пачалі фарміравацца два размешчаныя побач гарадскія цэнтры.

І падставы для такіх меркаванняў ёсць. Той факт, што ў «Агранічэнні» даецца агульная мяжа воласці Крычава, без падзелу на шляхецкія і дзяржаўныя ўладанні, дазваляе сцвярджаць, што яно было складзена раней, чым у сярэдзіне XVI ст. Асаблівую цікавасць у гэтай сувязі ўяўляюць паўночная і заходняя мяжа, якія не зведалі тых кардынальных перамен, што адбываліся на ўсход і поўдзень ад Крычава ў першай палове XVI ст.

За Сожам паўночная мяжа воласці (1560 г.) ішла па ручаі Каменным, які зараз не лакалізуецца. Але сугучны тапонім — Каменны брод і безыменны ручай ёсць насупраць упадзення Белай Натапы ў Сож (Шмидт Е. А., 1983. С. 143). Нельга выключыць, што гэта той самы Каменны ручай, па якім мяжа Крычаўскай воласці ішла ў накірунку р. Асцёр, і «Агранічэнне» называв яго другой апорнай кропкай у нашых пошуках паўночнай мяжы воласці Крычава. Узнавіць мяжу крычаўскай воласці XII — XIII стст. на поўнач ад р. Асцёр дапамагаюць крыніцы XVI —XVII стст.

Сярод вёсак «Крычаўскага павету» і вёсак «воласці замка Крычаўскага», размешчаных за Астром, згадваюцца вёскі «Краблёва» (1518 г., сучасная в. Караблёва), «Бабичово» (1523 г., суч. в. Бабічоўка), «Холмъ» (1534 г., суч. в. Халмы), «Ціхіл», (суч. в. Ціхіль), «Стракайлы» (1560 г., суч. в. Палохава). У 1546 г. называецца «земля пустовская селища Надейковъщину» (суч. в. Надзейкавічы). Усе пералічаныя вёскі зараз знаходзяцца на тэрыторыі Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці. У інвентары Крычаўскага староства 1694 г. згадваецца, што ў вёсках «Найдзейкавічы», «Бабічы», «Янкіна» (суч. в. Яўкіна, Шумяцкі р-н) Крычаўскага староства валодаў «дажывотным правам заведзёным» 47 дымамі пан Гансеўскі (Литовская Метрика, 1997б. С. 55-56. № 20; Литовская Метрика, 1999. С. 166, № 352; НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 230; адз. зах. 30, арк. 154 адв.; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 114; НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 69 — 69 адв.).

Картаграфія гэтых населеных пунктаў фіксуе даволі цікавую карціну. Па-першае, населеныя пункты Крычаўскай воласці XVI —XVII стст., размешчаныя за Астром, уваходзяць у скапленне курганных могільнікаў і селішчаў X — XIII стст., якія канцэнтруюцца каля Крычава ўздоўж р. Асцёр. Па-другое, ні адзін з іх не выходзіць за крывіцка-радзіміцкае памежжа XI —XIII стст. (Шинаков Е. А., Гурьянов В. Н., Миненко В. В., 1998. С. 147. Мал. 1).

Такім чынам, за р. Асцёр мяжа воласці Крычава X —XIII стст. у пэўнай ступені паддаецца рэканструкцыі. Яна, верагодна, адпавядала крывіцка-радзіміцкаму памежжу і не выходзіла ў паўночным накірунку за плынь р. Сожанкі. Узнікнуўшы ў X —XIII стст., яна захоўвалася і ў больш познія часы.

На Асцёр крычаўска-мсціслаўскае памежжа выходзіла, верагодна, у раёне сучаснай в. Мікуліна Шумяцкага раёна. На поўдзень ад яе крыніцы XVI —XVIII стст. адзначаюць крычаўскія вёскі. Верагодна, і крывіцка-радзіміцкае памежжа таксама выходзіла на р. Асцёр у гэтым раёне, бо на ўсход ад в. Мікуліна ў курганным могільніку каля в. Гнеўкава пачынаюць сустракацца крывіцкія пахаванні (Седов В. В., 1972. С. 54-60).

Крыніцы XVI —XVII стст. дазваляюць зрабіць схематычную рэканструкцыю мяжы Крычаўскай воласці XII ст. і з заходняга боку. Згустак курганных могільнікаў, які цягнецца ўздоўж Сожа, даходзіць да вусця р. Воўчас і па ёй падымаецца ўверх. Прыкладна ў гэтым жа накірунку (паміж рэкамі Воўчас і Вудога) ішла мяжа 1560 г. паміж Крычаўскім і Магілёўскім староствамі. Пачыналася яна з Воўчага балота, выходзіла на р. Воўчас, потым выходзіла на магілёўскую «сцяну» (мяжу), адтуль ішла да р. Турэі, якая ўпадае ў Сож (НГАБ, ф. 694, воп. 1, адз. зах. 1155, арк. 68).

Лакалізацыя населеных пунктаў пачатку — сярэдзіны XVII ст. Магілёўскага староства дазваляе больш дакладна правесці крычаўска-магілёўскую мяжу. У даравальнай грамаце вялікага князя Жыгімонта Вазы Хрыпуновым-Дубельскім згадваюцца 7 сёл у Магілёўскім старостве, якія вялікі князь перадаваў ім у хлебакармленне «да ласки гаспадарскае» (АЗР, 1851. С. 247. № 160). З іх сёння лакалізуюцца ў Чэ-

рыкаўскім раёне аднайменныя вёскі Глінь, Паходавічы, Вудога, сучасны райцэнтр Чэрыкаў. 3 крыніц сярэдзіны XVII ст. вядома, што в. Верхавцы, размешчаная на р. Воўчас, таксама была ў Магілёўскім старостве (АЮЗР, 1889. С. 272. № 8-XVI).

Крычаўскія вёскі, вядомыя па крыніцах XV —XVII стст. і размешчаныя на ўсход ад вёсак Магілёўскай воласці, гэта — «Волчасы» (суч. в. Воўчас, 1440-я гады), зямля пустоўская «Хотиловъская» (суч. в. Хацілавічы, 1546 г.) (ДМАМІО, 1897. С. 1; НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 30, арк. 154 адв.). У 50-я гады XV ст. сярод зямельных раздач караля Казіміра згадваецца крычаўская веска «Хорево» (РИБ, 1910. С. 44), пад назвай якой, магчыма, хаваецца сучасная в. Вахор Чэрыкаўскага раёна.

Картаграфаванне населеных пунктаў крычаўскай і магілёўскай валасцей XV — XVII стст. дазваляе меркаваць, што крычаўска-магілёўская мяжа на поўдзень ад в. Верхаўцы ішла паміж р. Воўчас, на якой размешчаныя вёскі Крычаўскай воласці, і ручаём Глінец, на якім знаходзіліся магілёўскія вёскі. Паўднёвай вёскай Крычаўскага староства XVI —XVIII стст. на правабярэжжы Сожа была в. «Зоры» — сучасная аднайменная веска Чэрыкаўскага раёна. Верагодна, тут мяжа паварочвала на захад, дзе выходзіла на р. Турэя.

Зараз ракі з назвай Турэя, альбо Тур'я, у гэтым раёне няма (Маштаков П. Л., 1913). У Чэрыкаўскім раёне існуе на р. Вудога веска Тур'я, якая ў XVI —XVII стст. уваходзіла ў склад Магілёўскага староства. Нельга выключыць, што сучасная р. Вудога — гэта вядомая па крыніцах XVI —XVII стст. р. Тур'я. Гэтая думка ўскосна пацвярджаецца «разгранічэннем» Крычаўскага староства са шляхецкімі ўладаннямі, складзеным у 1744 г. Яно сцвярджае, што «граніца даўняя» паміж Магілёўскай эканоміяй і Крычаўскім староствам у раёне мястэчка Чэрыкаў і сяла Зоры ішла па рацэ Вудоге (НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3982, арк. 251).

Такім чынам, пісьмовыя крыніцы XV — XVIII стст. дазваляюць узнавіць заходнюю мяжу акругі Крычава. Пэўнае супадзенне заходняй мяжы воласці XVI —XVIII стст. з канцэнтрацыяй курганных могільнікаў X —XIII стст., што цягнуцца да Крычава, дазваляе сцвярджаць, што заходняя мяжа акругі Крычава таксама начала функцыяніраваць з X —XIII стст.

Больш складана выглядае справа з лакалізацыяй усходняй і паўднёвай мяжы Крычаўскай воласці X —XIII стст. На ўсход ад Крычава знаходзіўся дакладна не лакалізаваны летапісны Зарой, вядомы па падзеях 1154 г. (Мяцельскі А. А., 1993. С. 71-73). На р. Асцёр знаходзіўся Расціслаўль, згаданы ўпершыню ў грамаце «Аб пагароддзі і пачэсці», час складання якой датуецца сярэдзінай XII — пачаткам XIII ст. (Алексеев Л. В., 1980. С. 25; Янин В. Л., 1994. С. 118). Яны, безумоўна, таксама мелі свае валасці, памеры якіх немагчыма дакладна рэканструяваць.

Адлегласць паміж Крычавам і летапісным Зароем прыкладна 80 км. Амаль такая ж адлегласць аддзяляе Крычаў і Рослаўль, летапісны Расціслаўль. Канцэнтрацыя помнікаў археалогіі X —XIII стст., якія прылягаюць да Крычава, на ўсход ад яго, дасягае раёна сучасных вёсак Родня і Мілаславічы Клімавіцкага раёна, таму і ўсходнюю мяжу воласці Крычава X —XIII стст., верагодна, трэба праводзіць каля гэтых вёсак.

На поўдзень ад Крычава бліжэйшым умацаваным паселішчам X —XIII стст. з'яўляецца 'гарадзішча ў в. Стары Дрокаў. Тут па крыніцах канца XV ст. вядома самастойная воласць Вялікага княства Літоўскага — Дрокаўская. Але паміж Крычавам і Дрокавам у XV ст. існавала яшчэ адна воласць — Алучыцкая. На поўдні Крычаўскай воласці на пачатку XVI ст. згадваецца веска «Соловчичи» (Литовская Метрика. 1997. С. 190. № 225) (сучасная в. Галоўчыцы Чэрыкаўскага раёна). Таму паўднёвую мяжу воласці Крычава X —XIII стст., верагодна, трэба праводзіць па паўночнай мяжы Алучыцкага войтаўства XVII ст. Яна, прыкладна, маркіруецца па плыні р. Сянной, левага прытока Сожа. Потым яе працяг трэба шукаць каля сучасных вёсак Забялышчын, Пячары, Ельня Касцюковіцкага і Хоцімскага раёнаў. Тут, у лясістым міжрэччы Сожа і Бесядзі, даследчыкі праводзяць смаленска-чарнігаўскую мяжу 1127 г. (Алексеев Л. В., 1980. С. 52. Мал. 5). У гэтым жа раёне праходзіла мяжа паміж юхнаўскімі і днепра-дзвінскімі плямёнамі ў эпоху ранняга жалезнага веку (Шадыра В. І., 1998. С. 90).

У гэтай сувязі цікавым з'яўляецца той факт, што прапануемыя намі межы Крычаўскай воласці X —XIII стст. цалкам ахопліваюць скапленне курганных могільнікаў у наваколлях Крычава (Алексеев Л. В., 1980. Рис. 3; Риер Я. Г., 1982. С. 109. Рис. 1), якое ўяўляе з сябе адзінае цэлае. Прапанаваныя намі памеры воласці Крычава XII —XIII стст. прыкладна аднолькавыя ва ўсе бакі — па 25 — 30 км. Такую адлегласць — 50 —60 км у два бакі (выехаць з горада і вярнуцца дамоў) мог пераадолець вершнік за дзень. Гэты факт, на наш погляд, таксама сведчыць пра магчымасці вызначыць менавіта такія памеры акругі Крычава X —XIII стст.

У межах вызначанай тэрыторыі курганныя могільнікі і паселішчы X —XIII стст. вядомыя




Мал. 87. Помнікі археалогіі X —XIII стст. у наваколлях Крычава: 1 — Іванаўск, 2 — Ігнатаўка, 3 — Асецішча, 4 — Асмаловічы, 5 — Баравая, 6 — Барадзінічы Вялікія, 7 — Барысавічы, 8—12 — Бацвінашка, 13 — Баяры, 14 — Бедня, 15 — Бель, 16 — Будлаўка, 17 — Бухаўка, 18 — 21 — Вародзькаў, 22 — Васькаўка, 23 — Вохар, 24 — 25 — Воўчас, 26 - Востраў, 27-30 - Вушакі-4, 31 - Галічы, 32 - Глушнева, 33-34 - Горкі, 35 - Грабалава, 36-37 - Гразівец, 38 — Грамабой, 39 — Гронаў, 40 — 41 — Губеншчына, 42 — Гусарка, 43 — Дабранка, 44 — 45 — Дзягавічы, 46 — Дарашкоўка, 47 — Дубейкава, 48 — Дубовіца, 49 — Дубраўка, 50 — Дубраўка, 51 — Дубровіца, 52 — Жадунька, 53 — Журавель, 54 — Жытнёў, 55 — Зімоніна, 56 — Зуі, 57 — Калеснікі, 58 — Камаравічы, 59 — 60 — Каменка, 61 — Канахоўка, 62 —餘Каролішкі, 63 — Касцюкоўка, 64 — Каханаў, 65 — Катаны, 66 — 67 — Клімавічы, 68—70 — Красавічы, 71 — Красны Бераг, 72 — 74 — Крычаў, 75 — 77 — Крычаўскі, 78 — Куляшоўка, 79 — Курганава, 80 — Лабковічы, 81 — Мікалаеўка, 82 — Мікулічы, 83 — Міхалін, 84 — Макеевічы, 85 — 86 — Малашкавічы, 87 — Маляцычы, 88 — Муравец, 89 — Муравец-2, 90 — Мышкавічы, 91 — Мядзведаўка, 92 — 94 — Н. Харанёва, 95 — 96 — Наноскава, 97 — Новыя Дамамерычы, 98 — Пільня, 99—101 — Паклады, 102 — Палом, 103 — Пнева, 104 - Прудок, 105-106 - Пясчанка, 107 - Рагозінка, 108 - Радамля, 109 - Ревут, 110 - Ректа, 111 - Рэпішча, 112 — Ржавец, 113 — Роськаў, 114 — Рысін, 115 — Сідараўка, 116 — Сінеж, 117 — Савінічы, 118 — Сакольнічы, 119—121 — Селішча, 122—123 — Серкаўка, 124 — Снегірёўка, 125—126 — Стабаршчына, 127 — 128 — Стары Дзедзін, 129 — Студзянец, 130 — Сялец, 131 — Турье, 132 — Усполле, 133 — Фядотава Буда, 134 — Халмы, 135-138 - Хатовіж, 139 - Хацень, 140-141 - Хадунь, 142-143 - Ціманава, 144 -. Цінькова, 145 - Ціхіл, 146 - Чернаўцы, 147 — Штаб-Загусіна, 148 — Юны Пахар, 149—150 — Ягораўка (П — гарадзішчы; Д — курганныя могільнікі; О — селішчы; * — скарбы)

каля вёсак Вепрын, Вахор, Камаровічы і Гронаў Чэрыкаўскага раёна (Копытин В. Ф., 1994. С. 29, 30, 32, 33); Ігнатаўка, Цітаўка, Савінічы, Рысін, Красавічы, Барысавічы, Сінеж, Грязівец, Узнясенск, Дамамерычы, Хатовіж, Ходунь, Куляшоўка, Стары Дзедзін, Старыя Пранічкі, Іванаўск, Селішча, Бухаўка, Канахоўка, Рэкта, Асмаловічы, Патаронаўка, Мядзведаўка Клімавіцкага раёна. Курганныя могільнікі і рэшткі паселішча гэтага часу раней былі і ў саміх Клімавічах (Копытин В. Ф., 1998. С. 46-49, 51-64, 66-69, 71-75, 77-79, 81-87). На тэрыторыі воласці X —XIII стст., якая знаходзілася на поўнач ад р. Асцёр, археалагічныя помнікі гэтага часу сустракаюцца каля вёсак Дарашкоўка, Дубраўка, Зімоніна, Каролішкі, Курганава, Ціхіль, Халмы Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці (Шмидт Е. А., 1983. С. 145—150, 155—156). На тэрыторыі сучаснага Крычаўскага раёна ў прапанаваных намі межах воласці Крычава X —XIII стст. помнікі археалогіі X —XIII стст. вядомы каля вёсак Бель, Зарубец, Катаны, Глушнева, Зуі, Лабковічы, Паклады, пас. Крычаўскі-1-ы, Бацвінаўка, Воўчас, Маляцычы, Стаборшчына, Вародзькаў-2-і, Ягораўка, Дзягавічы, Баяры (Збор помнікаў.., 1986. С. 278-283; Штыхов Г. В., 1971. С. 223-224).

Такім чынам, у склад воласці Крычава X — XIII стст. уваходзіла рэчышча Сожа ад р. Белая Натапа да р. Воўчас з прытокамі Лабжанкай, Задабрасцю, ніжнім цячэннем Астра. З захаду яна была абмежаваная міжрэччам Воўчаса і Глінкі, з поўначы — рэкамі Белая Натапа і Сожанка. Паўднёвая мяжа ішла па лясістым міжрэччы Сожа і Бесядзі. Усходняя мяжа воласці Крычава праходзіла, верагодна, па лініі Мілаславічы — Родня. Агульная плошча акругі-воласці Крычава X —XIII стст. складала каля 2500 $км^2$.

## § 2. Воласць Крычава ў XIV — першай чвэрці XVI ст.

У 1358 г. вялікі князь літоўскі Альгерд захапіў Мсціслаў. У выніку гэтага паходу да ВКЛ былі далучаныя і іншыя Пасожскія воласці Смаленскага княства — Прапошаск, Крычаў, Мглін, Алучыцы, Дрокаў і Панова Гара. Лес Крычава з гэтага года назаўжды аказаўся звязаным з лесам Вялікага княства Літоўскага.

Пашырэнне на ўсход меж ВКЛ, верагодна, магло прывесці да пэўных адміністрацыйна-тэрытарыяльных зменаў. І падставы для такіх меркаванняў ёсць. Недзе ў тэты час (другая палова XIII —XIV ст.) назаўжды знікае са старонак пісьмовых крыніц Зарой, спыняецца жыццё на Навасёлкаўскім гарадзішчы, якое было цэнтрам Смаленскай воласці Заруб (Мецельский А. А., 1996. С. 62 — 64). Землі, што апынуліся без ранейшага адміністрацыйнага ядра, павінны былі перайсці над кіраванне новаўтвораных і ацалелых старых цэнтраў, і нельга выключыць, што частка іх увайшла ў склад воласці Крычава.

На пачатку XVI ст., у выніку вайны 1500 — 1503 гг. паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам, апошняе захапіла літоўскія воласці Прыкладні, Салаўянічы і шэраг іншых (Духовные.., 1950. С. 359; Любавский М. К., 1929. С. 125).

Захопленыя Масквой воласці Прыкладні і Салаўянічы размяшчаліся на левабярэжжы Іпуці (Крашенинников В. В., 1995. С. 122) і ў XVI —XVIII стст. межавалі з воласцю Крычава. У гэтай сувязі цікавым з'яўляецца запіс,



Мал. 88. Населеныя пункты воласці Крычава XV ст., згадваемыя ў крыніцах

зроблены ў 3-й кнізе запісаў Літоўскай Метрыкі, у якім вялікі князь і кароль Казімір дае загад нейкаму Глебку крычаўскаму «на прикладнех у Кричеве прикладненское серебро выбравъ къ великому князю принести Глебку, а ему его доходец» (ДМАМЮ, 1897. С. 1).

Безумоўна, падобная сітуацыя, калі крычаўскі дзяржаўца (?) збіраў у воласці Прыкладні даніну, дазваляе меркаваць, што гэтыя воласці межавалі. Нельга выключыць, што ў вышку падзей XIII —XV стст. воласць Прыкладні, размешчаная на левабярэжжы Іпуці і ўздоўж яе прытокаў Надвы і Опараці (вёскі Шыркоўка, Алень, Мужынава, Акулічы і інш.) (Крашенинников В. В., 1995. С. 122), апынулася ў пэўнай залежнасці ад Крычава, а сама крычаўская воласць дасягнула правабярэжжа Іпуці.

Пра якія-небудзь змены памераў Крычаўскай воласці ў іншых накірунках, што маглі мець месца ў XIV —XV стст., мы не маем фактаў і таму можна сцвярджаць, што яе заходні, паўднёвы і паўночны рубеж заставаліся ў межах XII —XIII стст. Памеры плошчы акругі-воласці Крычава ў XIII —XIV стст. выраслі за кошт пашырэння на ўсход і ў XV ст. дасягалі прыкладна 4000 *км*$^2$.

## § 3. Воласць Крычава ў сярэдзіне XVI—XVIII ст.

Новыя змены ў тэрыторыі Крычаўскай воласці адбыліся ў выніку вайны 1500—1503 гг. Падставай для гэтага паслужыў той факт, што акрамя Прыкладней і Салаўяніч ВКЛ над час гэтай вайны страціла на Пасожжы яшчэ гарады Мглін, Дрокаў, Панову Тару. Рускія войскі захапілі частку Алучыцкай воласці. Крычаў застаўся адной з нешматлікіх крэпасцей на ўсходзе Сярэдняга Пасожжа, пад ахову якой пачала цягнуцца Алучыцкая воласць. Верагодна, ужо ў тэты час крычаўскія дзяржаўцы калі-нікалі прымалі ўдзел у кіраванні Алучыцкай воласцю. Ва ўсялякім выпадку, у 1508 г. менавіта крычаўскаму баярыну Ивашку Гарбузу вялікі князь даручыў «увязаць» Сеньку Мсціслаўца ў Алучыцкае сяло «названое Костюково» (Литовская Метрика, 1999. С. 276. № 353).

У гісторыі Алучыцкай воласці важная падзея адбылася 17 сакавіка 1529 г., калі вялікі князь Жыгімонт, спасылаючыся на скаргі, што паступілі яму ад жыхароў Алучыцкай воласці на дзяржаўцу Нікіфара Бабаеда, забраў воласць і перадаў пад кіраванне дзяржаўцы Крычаўскай воласці князя Васіля Сямёнавіча Жылінскага (Любавскйй М. К., 1892. Док. № 46). Ад гэтага часу і да першага падзелу Рэчы Паспалітай Алучыцкая воласць знаходзілася ў складзе Крычаўскай воласці. Яна страціла ролю самастойнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі і ў яе засталіся толькі функцыі адміністрацыйна-гаспадарчай адзінкі — войтаўства (хоць больш познія крыніцы называюць яе то воласцю, то войтаўствам) у складзе Крычаўскага староства. У той жа час дзяржаўцы Крычаўскага староства працягвалі афіцыйна называцца «дзяржаўца Крычаўскі і Лучыцкі».

Спрэчкі з-за Алучыцкай воласці, якія цягнуліся паміж Масквой і Вільняй ад пачатку XVI ст., працягваліся і ў 30-я гады, але ні адзін з бакоў не збіраўся паступіцца сваёй часткай і кожны прэтэндаваў на ўсю яе тэрыторыю (Сборник.., 1892а. С. 708-709, 716-717, 751, 789, 791). Нарэшце ў 1533 г. вялікі князь Жыгімонт пайшоў на сілавое вырашэнне гэтай праблемы. Па яго загадзе крычаўскі дзяржаўца Васіль Чыж пачаў прыводзіць жыхароў Алучыцкай воласці да прысягі ВКЛ і арыштаваў увайшоўшую туды маскоўскую адміністрацыю (Сборник.., 1892. С. 833, 837, 843, 860-861). Наступная вайна паміж Масквой і Вільняй (1535 — 1537 гг.) паказала пэўную раўнавагу сіл. Хоць ВКЛ адваявала Гомель, вярнуць Смаленск яно так і не змагло. Болыл за тое, зноў узніклі пэўныя праблемы з Алучыцкай воласцю. Масква патрабавала прызнання Вільняй прыналежнасці ёй усёй воласці і іншых спрэчных тэрыторый. Але вялікі князь Жыгімонт не пагаджаўся з прэтэнзіямі Масквы. На перамовах літоўскія паслы прапанавалі перадаць Маскве за яе воласць горада Завалочча і воласці Няведра і Істцо на паўночным усходзе княства. Спачатку маскоўскія баяры пагардліва адмаўлялі гэтыя прапановы, кажучы: «никакож государю нашаму тех волостей и сёл не поступитися, а королевы ему волости в тех волостех место к Заволочью ненадобно». Але праз некаторы час яны пайшлі на размен: за Себеж, Завалочча і прыпісаную да Завалочча воласць Долыскую пагадзіліся прызнаць пераход пад уладу ВКЛ Гомія з воласцю і не пералічаных у грамаце нейкіх крычаўскіх і чачэрскіх сёл. У той жа час маскоўскія баяры адмаўляліся прызнаваць прыналежнасць ВКЛ Алучыцкай воласці, сцвярджаючы, што Вільня трымае яе сілай (Сборник.., 1887. С. 102—103, 105). Нарэшце пытанне па спрэчных валасцях у 1537 г. было вырашана па прынцыпе — «хто сильнее, тот и держит» (Памятники истории,., 1992. С. 164). У выніку гэтага замірэння Алу-

чыцкая воласць назаўжды засталася ў складзе ВКЛ і пытанне аб яе прыналежнасці болей не ўздымалася.

У выніку шматлікіх войнаў ВКЛ з Масквой у першай палове XVI ст. усходняя і паўднёвая межы крычаўскай воласці сталі аднача-сова і дзяржаўнай мяжой Вялікага княства Літоўскага. 3 1537 г. Крычаўская воласць прыняла свае канчатковыя памеры і не мяняла іх да 1772 г. Нават калі на пачатку XVII ст. межы Рэчы Паспалітай пашырыліся на ўсход і на поўдзень, воласць Крычава засталася у ранейшых памерах. Гэта дае нам магчымасць пашырыць крыніцазнаўчую базу апісання мяжы воласці Крычава і супадаючай з імі дзяржаўнай мяжы ВКЛ сярэдзіны XVI ст. за кошт больш позніх крыніц.

Для вызначэння ўсходняй і паўднёвай мяжы Крычаўскай воласці XVI ст. уяўляюць цікавасць руска-літоўскае «разгранічэнне» 1522 г., «агранічэнне» Крычаўскай воласці 1560 г., праца Н. Б. Шаламанавай па вызначэнню заходняй мяжы суседняга з Крычавам расійскага Рослаўскага ўезда (Шеломанова Н. Б., 1974), шматлікія інвентары Крычаўскага староства XVII —XVIII стст., у якіх ёсць апісанне зямельных уладанняў памежных вёсак, межы якіх супадалі з дзяржаўнай мяжой.

Як адзначалася вышэй, паўночная мяжа Крычаўскай воласці за Астром ішла ад месца ўпадзення Белай Натаны на ўсход у накірунку Астра. Яна вяла сваё паходжанне ад XII ст. і, з'яўляючыся ўнутранай мяжой ВКЛ, заставалася стабільнай на працягу XIV —XVI стст. «Агранічэнне» Крычаўскай воласці (1560 г.) згадвае, што яе паўночная мяжа за Сожам выводзіла на р. Асцёр, не ўдакладняючы канкрэтнае месца. Акрамя таго, іншая крыніца канца XVI ст. згадвае, што крычаўскія ўладанні межавалі з уладаннямі Ануфрыеўскага манастыра каля вёскі Пажозе, размешчанай далека на ўсход на р. Астры (НГАБ, кмф. 18, вон. 1, адз. зах. 85, арк. 178), дзе мяжа Крычаўскай воласці выходзіла на дзяржаўную мяжу з Рускім царствам.

Дзяржаўная мяжа, якая ўсталявалася ў 1522 г. паміж Масквой і Вільняй, разам з тым стала і ўсходняй мяжой воласці Крычава. Крычаўска-рослаўскі рубеж даволі падрабязна апісаны ў «разгранічэнні» 1522 г. Ён пачынаўся ад Стрэкулы: «к Стрекуле к рубежу Кричевскому». Стрэкула 1522 г. — гэта сучасная веска Стракайлава Шумяцкага раёна. Ад Стрэкулы крычаўска-рослаўскі рубеж апісаны такім чынам: «от Кричева городу Рославлю рубеж река Шумяча, а Шумячею в р. Немилицу, а из Немилицы старым рубежом к Заборью в Ипуть реку, да на низ Ипути к Хмелю» (Сборник.., 1887. С. 127-128, 190-191; Сборник.., 1892. С. 638, 744, 746).

Трэба адзначыць, што крычаўска-рослаўскі адрэзак дзяржаўнай мяжы, замацаваны перамір'ем 1522 г., працягваў функцыяніраваць усе XVI ст. І нават на пачатку XVII ст. перамірныя граматы фіксуюць яго на тым самым месцы (Сборник.., 1912. С. 68-69, 701-702, 713-714).

Пра тое, што крычаўска-рослаўскі рубеж ішоў па р. Шумячы, пацвярджаюць і іншыя крыніцы. Так, у 1569 г. у Крычаўскай воласці «при границы Московской», «до воли и ласки господарской» пустаўшчынамі Шумячы, Глушкава і Стракайлава (суч. аднайменны гарадскі пасёлак і вёскі Шумяцкага раёна) валодаў баярын крычаўскі Якуб Рыбенінскі (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 56, арк. 76 — 77). Далей крычаўскі рубеж з р. Шумячы зварочваў у левы прыток Шумячы р. Нямыліцу, а потым ішоў «старыми рубежами» да Забар'я і далей у Іпуць. Тэты «стары рубеж» на Іпуць у «агранічэнні» Крычаўскай воласці 1560 г. ішоў у бок рэчкі Савенкі і выходзіў на Іпуць (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 68), дзе знаходзіўся Хмель.

Хмель першай паловы XVI ст. — тэта сучасная веска Гулькі Клімавіцкага раёна, якая на працягу XVI —XVII стст. у крыніцах праходзіць то пад назвай Хмель — «Chmel», то пад назвай Гулькі — «Hulki». І толькі інвентар Крычаўскага староства 1694 г. паведамляе, што гэта адно і тое ж паселішча — «Hulki alias Chmel» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 81). Ад XVIII ст. веска Хмель ужо увесь час праходзіць пад назвай Гулькі. Прыкладна ў гэтым жа месцы прапанавала лакалізаваць Хмель і Н. Б. Шаламанава, лакалізаваўшы яго па рускіх крыніцах пачатку XVII ст. Ніжэй Хмеля, насупраць упадзення ў Іпуць р. Баравіцы, лакалізуецца і Забор'е (Шеломанова Н. Б., 1974. С. 178, 182). Менавіта на такім кароткім участку дзяржаўнай мяжы, ад вусця Савенкі да вусця Баравіцы, крычаўскі «рубеж» ішоў па Іпуці, а потым зварочваў у накірунку Бесядзі.

На правым баку Іпуці пачынаўся крычаўска-бранскі рубеж, які рэканструюецца значна горш. На крычаўска-бранскім памежжы знаходзіліся дзве бранскія воласці — Салаўянічы і Прыкладні, захопленыя Масквой пад час вайны 1500—1503 гг. На сённяшні дзень мы не маем звестак пра сёлы гэтых валасцей XVI ст., якія б дапамаглі нам у рэканструкцыі мяжы. Крычаўска-бранскі рубеж (1503 г.) не быў дакладна зразумелы і Я. Натансону-Лескаму, які толькі агульнымі штрыхамі акрэсліў яго,

сцвярджаючы, што ад вярхоўяў Іпуці ў межах Мсціслаўскага княства мяжа ішла ўздоўж р. Бесядзі, спачатку па яе левым беразе, потым па правым. У рэшце рэшт яна зварочвала на захад, даходзячы да Сожа (Natanson-Leski J., 1922. S. 94). Не быў зразумелы крычаўска-бранскі рубеж і Н. Б. Шаламанавай (Шеломанова Н. Б., 1974. С. 184).

М. Ф. Спірыдонаў на сваей карце «Землі Беларусі ў канцы XVI ст.» правёў дзяржаўную мяжу ВКЛ і адпаведна ўсходнюю мяжу воласці Крычава на поўдзень ад р. Іпуці крыху ў іншым накірунку. На яго думку, мяжа на поўдзень ад Іпуці фактычна паўтарала сучасную беларуска-расійскую мяжу і ішла на Бесядзь па р. Рэкце.

Пытанне праходжання ўсходняй мяжы ВКЛ на гэтым адрэзку пакуль яшчэ дакладна не высветлена, але некаторыя назіранні за крыніцамі дазваляюць схіліцца да думкі Натансон-Лескага і праводзіць мяжу напрамую з Іпуці на Бесядзь, мінуючы рэку Рэкту.

Вызначыць гэты адрэзак дзяржаўнай мяжы дапамагае «аграніўэнне» крычаўскага староства 1560 г., у якім усходнія рубяжы Крычаўскага староства супадаюць з дзяржаўнай мяжой. З Іпуці мяжа, згодна з «аграніўэннем» сярэдзіны XVI ст., ішла «рубяжамі» да ручая «Бальшога», з яго да р. Арлоўкі, адтуль да р. Крупні, а з Крупні ручаём Сцюдзёным у Бесядзь. Усе першыя гідронімы на сённяшні дзень не лакалізуюцца і таму цяжка дакладна вызначыць дзяржаўную мяжу ВКЛ на той час. М. Ф. Спірыдонаў, як мы казалі вышэй, прапанаваў правесці яе на поўдзень ад Іпуці ўздоўж сучаснай дзяржаўнай мяжы Беларусі (Спиридонов М. Ф., 1993. Карта). Аднак у інвентары Крычаўскага староства 1747 г. пры апісанні «аграніўэння» в. Макеевічы адзначаецца, што адзін бок зямельных уладанняў вёскі супадае з дзяржаўнай мяжой і ідзе па р. Маскоўцы ў бок Клімава балота, а адтуль у вярхоўі Бесядзі (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 189). Рака Маскоўка лакалізуецца — правы прыток Іпуці, і таму, улічваючы супадзенне канчатковых кропак апісання мяжы — р. Бесядзі, ёсць сэнс правесці дзяржаўную мяжу ВКЛ і ўсходнюю мяжу Крычаўскай воласці сярэдзіны XVI ст. напрамую ад вытокаў Маскоўкі ў бок вытокаў правага прытока Бесядзі — р. Смародзінкі. Далей мяжа, верагодна, уздоўж р. Смародзінкі выходзіла на Бесядзь, на правым беразе якой размешчаны характэрныя палітонімы — «Ліцвінава» і «Ліцвінава Буда» — сучасныя вёскі Ершыцкага раёна Смаленскай вобласці. Назвы гэтыя, магчыма, сведчаць пра іх былую прыналежнасць Літве. Мяжа ішла па Бесядзі, а потым, верагодна, зварочвала на ўсход у бок р. Альшоўкі, якая двойчы фігуруе як апорная кропка ў нашых пошуках мяжы у «аграніўэнні» мяжы крычаўскай воласці (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 68).

Другое, што не дазваляе пагадзіцца з прапановай М. Ф. Спірыдонава аб правядзенні дзяржаўнай мяжы па р. Рэкце, — гэта тое, што ў інвентарах Крычаўскага староства XVIII ст. пры апісанні зямельных уладанняў сучасных памежных вёсак — Фядотава Буда, Галічы адсутнічаюць звесткі пра тое, што яны размешчаны на дзяржаўнай мяжы. Мы не знаходзім у інвентарах інфармацыі, што землі гэтых вёсак падыходзяць да дзяржаўнай мяжы, як гэта было з іншымі вёскамі староства, калі яны сапраўды размешчаны на памежжы. Нават калі ў інвентары гаворыцца, што ўсходняя мяжа зямельных уладанняў гэтых вёсак праходзіць па р. Рэкце, то тут няма паведамлення, што па р. Рэкце праходзіць дзяржаўная мяжа. Гэта дазваляе меркаваць, што на ўсход ад р. Рэкты яшчэ знаходзіліся землі, якія належал! Літве, і дзяржаўную мяжу ВКЛ трэба праводзіць, верагодна, як і прапанаваў Я. Натансон-Леек!, па р. Бесядзі.

Дзяржаўная мяжа ВКЛ і воласці Крычава ішла па р. Бесядзі да ўпадзення ў яе левага прытока р. Альшоўкі. Тут мяжа зварочвала на апошнюю і падымалася ўверх. Дакладна правесці крычаўска-бранскі рубеж вельмі цяжка з-за немагчымасці зараз знайсці тыя апорныя кропкі, на якія абапіраецца апісанне праходжання мяжы ў XVI і у XVIII стст. Але агульны яе накірунак узнавіць можна.

У апісанні «аграніўэння» зямельных уладанняў в. Горня XVIII ст. (Хоцімскі р-н) мы сустракаем шэраг апорных кропак, дзякуючы якім маем магчымасць вызначыць усходнюю мяжу воласці Крычава і ВКЛ. Так, у інвентары 1747 г. гаворыцца, што мяжа в. Горня пачынаецца з р. Вітавы, дзе на мяжы «з казакаМі» насыпаны «капец». Адсюль мяжа цягнулася ў бок р. Асінкі. Па Асінцы мяжа спускалася ўніз да «гасцінца Боханаўскага». З «гасцінца Боханаўскага» мяжа зямель, што належалі в. Горня, выходзіла да «балота Гарохаваго», на якім знаходзіўся другі памежны «капец» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 154). Усе пералічаныя «памежныя» тапонімы — рэчкі Вітава, Асінка і ўрочышча Гарохаўшчына і зараз лакалізуюцца на расійска-беларускім памежжы. Гэта дазваляе сцвярджаць, што сучаснае памежжа ў сваёй аснове абапіраецца на больш ранняе, якое пачало складвацца як мінімум з сярэдзіны XVIII ст. А згаданы ў кры-

ніцы «гасцінец Боханаўскі» існуе да сённяшніх дзён. Гэты шлях з сучаснай в. Жасткова Мглінскага раёна вядзе праз пасёлак Паграiнічны, урочышча Гарохаўшчына, в. Юзафоўку ў сучасную в. Баханы Хоцімскага раёна.

У міжрэччы Іпуці і Бесядзі мяжа XVI ст. таксама дрэнна паддаецца рэканструкцыі. Гэта можна зрабіць, толькі абапіраючыся на больш познія крыніцы, якія паказваюць прыналежнасць населенага пункта той ці іншай дзяржаве.

Сярод вёсак першай паловы XVI ст. і лакалізуемых сёння ў памежным «разгранічэнні» 1523 г. у Алучыцкай воласці ВКЛ згадваюцца вёскі «Мокрая», «Слабада», «Ходимско» (АЛРГ, 1899а. С. 67) (сучасная веска Хоцімск Касцюковіцкага раёна). Слабада — гэта, верагодна, сучасная веска Кісялёўка, якая мела раней іншую назву — Слабодка. Гэтыя ж вёскі сустракаюцца ў крыніцах, прысвечаных перагаворам аб рубяжах паміж Масквой і Вільняй, што адбываліся ў канцы 1526 — пачатку 1527 г. Тут дадаткова ў Алучыцкай воласці названы вёскі «Уклеевічы» (сучасная Клеявічы), «Ковынічы» (сучасная Ковычыцы), «Зеньковічы» (гэта усходняя частка сучаснай в. Саматэвічы) (Сборник.., 1892. С. 750 — 751). Усе гэтыя вёскі лакалізуюцца на поўдні сучаснага Касцюковіцкага раёна.

З рускага боку крыніца называе памежную вёску ў воласці Дрокава «Влазовичи» — сучасная аднайменная веска Суражскага раёна Бранскай вобласці. На захад ад «Влазович» знаходзілася воласць горада «Паповая Гара». У яго воласці крыніца называе наступныя памежныя вёскі — «Панкевичи», сугучны тапонім якой існаваў у Гардзееўскай воласці Чарнігаўскай губерні яшчэ ў канцы XIX ст. (ДМАМЮ, 1897. С. 67; Список населенных мест Черниговской.., 1892. С. 97). Насупраць нелакалізаванай паповагорскай вёскі «Кузнецовичы» знаходзілася алучыцкае сяло «Мокрае» (ДМАМЮ, 1897. С. 67). У воласці Паповай Гары на алучыцкім памежжы знаходзілася другое нелакалізаванае сяло «Рагозичи». Насупраць яго знаходзілася алучыцкая веска «Слабада» (ДМАМЮ, 1897. С. 67). Далей, на прапойскай мяжы, крыніца згадвае паповагорскае сяло «Кибилщичи», якім, верагодна, з'яўляецца сучасная в. Кібіршчына Краснагорскага раёна Бранскай вобласці. Насупраць яе размяшчалася нелакалізаваная прапойская веска «Локичы» (ДМАМЮ, 1897. С. 66-67).

Сярод «сёл дзяржавы Крычаўскай», пералічаных у «аграніченні» 1560 г., згадваюцца размешчаныя недалёка ад сучаснай расійска-беларускай мяжы вёскі «Відуйцы», «Панкі» (суч. Зацішша Касцюковіцкага раёна); «Баханы», «Ганнаўка» (Хоцімскі р-н) (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 69). Адна з крыніц 1546 г. згадвае у Крычаўскай воласці «сяльцо Бялынкавічы над р. Басеяй» (Бесяддзю) (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 72 адв.).

Таму для больш дакладнага, але ўсё ж такі схематычнага вызначэння напрамку паўднёвай дзяржаўнай мяжы і мяжы Крычаўскай воласці XVI ст. паспрабуем картаграфаваць вёскі Крычаўскага староства, што ўзніклі ў памежных раёнах у XVII —XVIII стст.

Крыніцы першай паловы XVIII ст. сярод новых вёсак Крычаўскага староства, размешчаных уздоўж сучаснай расійска-беларускай мяжы, у Лучыцкім войтаўстве адзначаюць вёскі Баравая, Бароўнькаў, Гаўрыленкі (аднайменныя вёскі Касцюковіцкага р-на). У Бярозкаўскім войтаўстве згадваюцца вёскі Узлогі, Ліпаўка, Горня, Дубраўка, Негаў (сучасная в. Ветка, усе вёскі Хоцімскага р-на), Селецкая, Вішанкі (сучасная в. Вішні, Касцюковіцкі р-н) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 121, 122, 125, 148, 150, 154, 159, 160, 162, 169). Прычым у апісанні «агранічэння» некаторых з іх гаворыцца, што частка меж гэтых вёсак праходзіць па граніцы з «Масквой і казакамі». Памежным населеным пунктам Крычаўскай воласці, у якім знаходзілася мытня, была в. Бяляны (суч. аднайменая веска Суражскага р-на Бранскай вобласці) (ДГАЛ, ф. ДА, адз. зах. 3810, арк. 71 адв.).

Картаграфаванне ўсіх пералічаных населеных пунктаў XVI —XVIII стст. сведчыць, што яны практычна не выходзяць за межы сучаснай беларуска-расійскай мяжы. Гэта дазваляе сцвярджаць, што яна прыблізна адпавядае паўднёвай мяжы Крычаўскай воласці, якая канчаткова сфарміравалася ў 1537 г. Таму можна пагадзіцца з М. Ф. Спірыдонавым, які правёў паўднёвую мяжу ВКЛ, што адначасова з'ўлялася мяжой і воласці Крычава, па сучаснай дзяржаўнай мяжы Беларусі.

На захад ад Бесядзі «агранічэнне» сярэдзіны XVI ст. дае нам другую апорную кропку ў пошуках мяжы — р. Дзясёнку, якою яна ішла ў бок р. Палуж (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 68). Дзясёнка з'яўляецца правым прытокам р. Алешні, і сучасная расійска-беларуская мяжа часткова праходзіць па ёй. Вытокі р. Дзясёнкі зусім блізка падыходзяць да плыні р. Палуж, па якой мяжа падымалася ўверх. Уздоўж плыні Палужа воласць Крычава межавала з Прапойскім староствам.

Вышэй в. Палуж (на левым беразе ракі была аднайменная веска Крычаўскага староства, а на правым — Прапойскага) мяжа ішла ў накірунку р. Сянной. Апошняя таксама служыла мяжой з Прапойскім староствам. Мяжа на Сян-




Мал. 89. Воласць Крычава ў XVI ст.: 1 — Бабічоўка, 2 — Бялынкавічы, 3 — Бель-1-я, 4 — Бярозкі, 5 — Блудземля, 6 — Барысавічы, 7 — Барысаўка, 8 — Баравая, 9 — Баханы, 10 — Брацьковічы, 11 — Вепрын, 12 — Відуйцы, 13 — Воўчас, 14 — Варанёва, 15 — Галічы, 16 — Глушкава, 17 — Гарбавічы, 18 — Гулькі, 19 — Дарлівая, 20 — Дамамерічы, 21 — Дзягавічы, 22 — Ярашоўка, 23 — Забычанне, 24 — Залесавічы, 25 — Зарубец, 26 — Зацішша, 27 — Зуі, 28 — Іванаўка, 29 — Кавычыцы, 30 — Канічы, 31 — Кісялёўка, 32 — Клеявічы-1-я, 33 — Клімавічы, 34 — Камаровічы, 35 — Караблёва, 36 — Касцюковічы, 37 — Касцюшкавічы, 38 — Чырвоная Слабада, 39 — Крывая Ніва, 40 — Лобжа, 41 — Лабковічы, 42 — Лапатавічы, 43 — Макеевічы, 44 — Мануйлы, 45 — Мілаславічы, 46 — Мірная, 47 — Міхеявічы, 48 — Мокрае, 49 — Мышкавічы, 50 — Надзейкавічы, 51 — Асмаловічы, 52 — Вохар, 53 — Паўлавічы, 54 — Палуж-2-гі, 55 — Песькавічы, 56 — Пячары, 57 — Паланіца, 58 — Саматевічы, 59 — Саматевічы, 60 — Свадкавічы, 61 — Сакольнічы, 62 — Стараселле, 63 — Стары Стан, 64 — Стрекайлава, 65 — Стракайлы, 6 — Судзілы, 67 — Тарасавічы, 68 — Ціманава, 69 — Цімошкі, 70 — Ціхіл, 71 — Вушакі, 72 — Халмы, 73 — Хацілавічы, 74 — Хоцімск, 75 — Хатовіж, 76 — Царковішча, 77 — Шарэйкі, 78 — Шумячы, 79 — Юр'явічы, 80 — Крычаў

ную ішла на захад ад сучасных вёсак Лешчанка і Лешчанская Буда, першая з якіх узнікла ў Крычаўскім старостве ў XVIII ст. на палужскіх землях (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 97). На Сянной мы сустракаем у XVI ст. крычаўскую вёску Вушакі. Па Сянной мяжа Крычаўскай воласці выходзіла на Сож, па ім падымалася ўверх да р. Вудогі. Па р. Вудозе ішла ўжо вызначаная намі заходняя мяжа воласці Крычава.

Трэба адзначыць, што воласць Крычава у прылеглых да Сожа раёнах не ўяўляла сабой адзінае цэлае. У другой чвэрці XVI ст. Крычаўская воласць страціла частку зямель у выніку ўнутрыдзяржаўных адміністрацыйна-тэрытарыяльных змен. На пачатку 1526 г. крыніцы паведамляюць пра спрэчкі паміж дваранамі «Митком, Фёдарам и Сенкам Маскевичами» і крычаўскім мешчанінам панам Грынем Кулзуновым з-за сяла Галоўчыцы. Паводле прысуду вялікага князя Жыгімонта крычаўскі дзяржаўца Васіль Сямёнавіч Жылінскі павінен быў «увязать» Маскевічаў у сяло Галоўчыцы, якое трымаў іх бацька «Гринь Маскевич» (Литовская Метрика, 1997. С. 190. № 225). Але ўжо ў канцы 1526 — на пачатку 1527 г. у «разгранічэнні» паміж Масквой і Вільняй мы бачым в. «Соловчицы» (верагодна, скажонае «Головчицы») у складзе Прапойскай воласці. Адначасова прапойскімі вёскамі называюцца «Чюдиновичи» і «Савиничи» — сучасныя в. Чудзяны Чэрыкаўскага і Савінічы Клімавіцкага раёна (Сборник.., 1892. С. 751). Яны ўтварылі своеасаблівы прапойскі анклаў паміж крычаўскімі вёскамі. На землях гэтага анклава ў XVIII ст. знаходзіліся як вёскі Засожскага войтаўства Прапойскага староства Рэчыцкага павета — Манастырёк, Галоўчыцы, «Чудзін» (Чудзяны), Жабень, так і

вёскі Чудзянскага і Галоўчынскага староставў Рэчыцкага павета — Чудзяны, Лысоўка, Малінаўка, Галоўчыцы, Жаліж'е, слабоды Буда, Размыслоўка (ДГАЛ, ф. ДА, адз. зах. 3803, арк. 9 адв., 31—32). Прычыны такіх унутрыдзяржаўных тэрытарыяльных змен незразумелыя.

Адзіная ў адміністрацыйна-тэрытарыяльным плане Крычаўская валасць не была адзінай у адміністрацыйна-гаспадарчых дачыненнях. Яна падзялялася на дзяржаўныя ўладанні і шляхецкія, якія хоць і складалі адно цэлае ў адміністрацыйным сэнсе — падпарадкоўваліся аднаму цэнтру, але адрозніваліся па правах землеўласнікаў — землі гаспадарскія, з аднаго боку, і землі шляхецкія — з другога. Першыя крыніцы XVI ст. аб'ядноўваюць у дзяржаўнае ўладанне — староства ці «валасць замка Крычаўскага».

Працэс падзелу воласці на дзве часткі, верагодна, распачаўся пасля смерці апошняга прадстаўніка роду мсціслаўскіх князёў князя Івана Юр'евіча ў 1486 г. Мсціслаўскае княства было забрана вялікім князем Казімірам у дзяржаўны скарб. Горад з воласцю быў вылучаны ў самастойную адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку ў складзе Віленскага ваяводства, і кіраваў ёю намеснік, які прызначаўся вялікім князем.

Як мсціслаўскія ўдзельныя князі, так і вялікія князі шырока выкарыстоўвалі землі Крычаўскай воласці для раздачы шляхце на пэўных умовах. Дараванне зямель ішло шляхам раздачы як бенефіцыяў, так і ленных уладанняў — перадачы зямель «на вечнасць». Прычым гэты працэс набраў такі размах, што ўжо ў 1522 г. вялікі князь Жыгімонт у лісце да крычаўскага дзяржаўцы князя Васіля Жылінскага падкрэслівае, што па тры вартавыя на замак валасць Крычаўская давала «коли ещо волость была цэла, и не роздали были есмо двораном нашим» (Литовская Метрика, 1997. С. 64 — 65. № 34). Такім чынам, з ліста вялікага князя вынікае, што ў канцы першай чвэрці XVI ст. адзіную валасць Крычава ўжо ахапіў працэс падзелу на дзяржаўныя і шляхецкія ўладанні.

З населеных пунктаў, што ўваходзілі ў староства, крыніцы пачатку XVI ст. згадваюць в. Лабковічы (1508 г.), з якой вялікі князь Жыгімонт прызначыў даніну ў памеры 3 рублёў грошай на карысць мсціслаўскага Пустынскага манастыра (Литовская Метрика, 1999. С. 279. № 361). Гаспадарскімі сёламі ў «агранічэнні» сярэдзіны XVI ст. названы сёлы Камаравічы (у якім было 23 службы), Вахор (20), Вепрын (35), Вушакі са слабадой Палужам (37) (Чэрыкаўскі р-н); Крычаўская веска Палуж сярэдзіны XVI ст. — тэта сучасная в. Палуж-2 Краснапольскага раёна. Сярод сучасных вёсак Крычаўскага раёна гаспадарскімі сёламі былі вёскі Стараселле (17), Лабковічы (14), Міхеевічы (7), Варанёва — зараз у межах Крычава (1,5), Свіна — сучасная в. Іеанаука (1), Зуі (1,5), Друшчава — сучасная в. Зарубец, Песькевічы (па 0,5). У Касцюковіцкім раёне мы знаходзім вёскі Відуйцы (30), Саматэвічы (40), Панкі — сучасная в. Зацішша (30), Горбавічы (15), Гібалы — сучасная Чырвоная Слабада (10), Мокрае (20), Брацкевічы (15), Хоцімск (10), Шарэйкі (10), Лешня (7), Крывая Ніва (2). Іншыя вёскі — Жадунка (25), Галічы, якая на той час мела и другую назву — «Czyto Pole» (20), Мілаславічы (27), Цімошкі (15), Стары Стан (10), Тарасавічы (20), Макіевічы (7), Юрэвічы (12), Гулкі (5), Дамамерычы (20), Барысаўка (7), Царковічы (10), Ерашоўка (9), Лобжа (6), Лапатавічы (3) — знаходзяцца на землях Клімавіцкага раёна; Боханы (40), Бярозкі (15) — у Хоцімскім раёне; Ціхіль (4), Стракайлы (12) (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 69) — у Шумяцкім раёне Смаленскай вобласці. У старостве знаходзіліся і іншыя вёскі, якія час ад часу здаваліся на пэўных правах шляхце. Так, крыніца 1591 г. паведамляе, што ў вёсках Зяленкавічы і Клеявічы Крычаўскага староства з 1572 г. валодаў «да жывата» землям! Андрэй Міхайлавіч Гарбуз, які з дазволу Жыгімонта Вазы перадаў іх, пры ўмове нясення «службы земскай ваеннай», на тых жа правах — «да жывата» сыну Якаву (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 77, арк. 230 — 231).

Да 1569 г., калі на Люблінскім сейме была прынята пастанова аб забароне без згоды сейма дараваць «правом вечным» уладанні, якія належалі вялікаму князю, пэўныя змены адбываліся і ў Крычаўскім старостве. Так, верагодна, у гэты час — паміж 1560—1569 гг. са складу Крычаўскага староства фармальна назаўжды выбылі вёскі Стараселле і Ерашоўка — яны былі здадзены ў леннае валоданне, хоць час ад часу фігуруюць у якасці вёсак Крычаўскага староства.

Картаграфія населеных пунктаў, якія ўваходзілі ў староства, паказвае, што іх значная частка лакалізуецца на левабярэжжы Сожа, у пэўнай аддаленасці ад горада.

Валасць Крычава (староства) на пачатку XVI ст. у адміністрацыйна-гаспадарчым плане складалася з некалькіх валасцей-войтаўстваў. Акрамя далучанай ў 1529 г. Алучыцкай воласці крыніцы другой паловы XVII —XVIII стст. называюць у «воласці замка Крычаўскага» воласці Палявую і Зарэчную (Засожскую). Нельга выключыць, што падзел воласці Крычава на




Мал. 90. Воласць Крычава ў XVII ст.: 1 — Сакольнічы, 2 — Судзілы, 3 — Мышкавічы, 4 — Залесавічы, 5 — Губіншчына, 6 — Брацькавічы, 7 — Крывая Ніва, 8 — Ціманаў, 9 — Мірная, 10 — Халмы, 11 — Іванаўка, 12 — Караблёва, 13 — Пясчынікі, 14 — Варанёва, 15 — Горбатка, 16 — Юшкавічы, 17 — Сарочына, 18 — Вусце, 19 — Речыца, 20 — Вахор, 21 — Стабаршчына, 22 — Паўлавічы, 23 — Галічы, 24 — Бацвінаўка, 25 — Клін, 26 — Шумячы, 27 — Глушкова, 28 — Стрэкайлава, 29 — Гарбавічы, 30 — Дубіец, 31 — Відуйцы, 32 — Курбакі, 33 — Саматэвічы, 34 — Хоцімск, 35 — Мокрае, 36 — Кавычыцы, 37 — Зацішша, 38 — Чырвоная Слабада, 39 — Дзямідавічы, 40 — Бярозкі, 41 — Баханы, 42 — Крапіўна Вялікая, 43 — Канічы, 44 — Бялынкавічы, 45 — Забычанне, 46 — Мурын Бор, 47 — Пралетарскае, 48 — Мілаславічы, 49 — Тарасавічы, 50 — Гулькі, 51 — Макеевічы, 52 — Юр'евічы, 53 — Цімошкі, 54 — Якімавічы, 55 — Лапатавічы, 56 — Лобжа, 57 — Баравая, 58 — Вепрын, 59 — Дамамерычы, 60 — Зарубец, 61 — Царковішча, 62 — Міхеевічы, 63 — Дзягавічы, 64 — Касцюшкавічы, 65 — Хацілавічы, 66 — Халоблін, 67 — Камаровічы, 68 — Песькевічы, 69 — Зоры, 70 — Касцюковічы, 71 — Мануйлы, 72 — Батаева, 73 — Блудзімля, 74 — Клеявічы, 75 — Пячары, 76 — Ельня, 77 — Тупічын, 78 — Барысаўка, 79 — Канахоўка, 80 — Стары Стан, 81 — Высокое, 82 — Калодзеская, 83 — Первае Мая, 84 - Зуі, 85 - Рудня, 86 - Гута, 87 - Палуж-2-гі, 88 - Дарагое, 89 - Дарлівае, 90 - Бабічоўка, 91 - Ананічы, 92 — Белая Дуброва, 93 — Бель-1-я, 94 — Барысавічы, 95 — Воўчас, 96 — Ермакоўка, 97 — Зеленкавічы, 98 — Катаны, 99 — Клімавічы, 100 — Камароўка, 101 — Красавічі, 102 — Красная Буда, 103 — Крычаўскі-1-шы, 104 — Лабковічы, 105 — Луты, 106 — Надзейкавічы, 107 — Асмаловічі, 108 — Паўлавічы, 109 — Паланіца, 110 — Прусіна, 111 — Свадкавічы, 112 — Стараселле, 113 — Стракайлы, 114 — Ціхіл, 115 — Вушакі, 116 — Яўкіна, 117 — Крычаў

больш дробныя пачаўся раней, бо ў шматлікіх перамірных граматах XVI — пачатку XVII ст. паміж Масквой і Вільняй адзначаецца, што Крычаў адыходзіць да Літвы «з волостьми». У перамірным «разгранічэнні» 1503 г. паведамляецца, што «городъ Кричев с волостьми» застаўся за Вялікім княствам Літоўскім. Прыналежнасць «волостей Кричевских» ВКЛ адзначаюць і больш позднія граматы, якія ўвесь час згадваюць крычаўскія воласці ў множным ліку (АЗР, 1846. С. 288. № 142; АЗР, 1848. С. 134, 303, 314).

Адзіны інвентар Крычаўскага староства — 1676 г. пералічвае ў яго складзе чатыры воласці: Зарэчную, Мілаславічскую, Палявую і Алучыцкую, якая ў польскамоўных крыніцах праходзіць пад назвай Лучыцкай. Але усе больш познія інвентары — другой паловы XVII — XVIII ст. — называюць у складзе Крычаўскага староства толькі дзве воласці — Палявую і Зарэчную (Засожскую). Астатнія адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі пераведзены ў разрад войтаўстваў. Ці сапраўды ў другой палове

70-х — пачатку 80 —х гадоў XVII ст. у Крычаўскім старостве адбыліся нейкія адміністрацыйна-гаспадарчыя змены, якіяператварылі некаторыя воласці ў войтаўства, ці гэта памылка складальніка інвентару, дакладна зараз невядома. Таму мы у сваіх высновах будзем абапірацца толькі на факты, зафіксаваныя ў крыніцах.

Як паказваюць інвентары Крычаўскага староства другой паловы XVII — XVIII ст., Палявая воласць складала адзіны гаспадарчы комплекс, размешчаны на правым беразе Сожа. У яго склад у 1676 г. уваходзілі вёскі Сакольнічы, Вусце, Вахор, Камаравічы, Зоры, Халоблін, Песькевічы — сучасныя вёскі Крычаўскага і Чэрыкаўскага раёнаў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1924, арк. 37 — 43). У 1686 г., пасля смерці ўдавы пана Гайко, да Крычаўскага староства былі «привернуты» вв. Варанёва, Зуі, Свіная, якія ўвайшлі ў склад Палявога войтаўства (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 64-67).

Акрамя названых вёсак на правабярэжжы Сожа знаходзіліся і некаторыя іншыя вёскі Крычаўскага староства, якія праз увесь час здаваліся шляхце «до жывата». Так, падваявода полацкі пан Жаба валодаў у сяле Бель 30 дымамі, вёскай Ананічы — 25 дымаў (Крычаўскі р-н). Акрамя таго, у в. Бель 20 дымамі валодаў пан Андрэй Гайко. Пан Кашанскі меў у сяле Стараселле 15 дымаў, а пан Іллініч у сёлах Дарагое і Воўчас — адпаведна 30 і 20 дымаў. Пан Гедройц валодаў сялом Прусін, у якім было 10 дымаў. Пану Макавецкаму належалі 12 дымаў у Лабковічах.

Акрамя таго, тут было некалькі вёсак, якімі хоць і валодаў пан Гансеўскі «ленным правам», але ў інвентары паведамляецца, што яны ўваходзяць у склад Крычаўскага староства. Гэта вёскі Палоніца — 30 дымаў, Камароўка — 30, Ермакоўка — 20, Луты — 5 і нелакалізаваныя вёскі Берёзы — 4 дымы і Міарма — 4 (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 114). Лакалізацыя гэтых вёсак на правабярэжжы Сожа дазваляе таксама бачыць ў іх былыя вёскі Палявой воласці.

Некаторыя змены ў памерах Палявой воласці адбыліся на пачатку XVIII ст., калі яе тэрыторыя часткова перайшла на левы бераг Сожа. Так, у складзе Палявой воласці інвентары 1720 і 1723 гг. згадваюць Лабжанскае і Барысаўскае войтаўствы. У склад першага ўваходзілі вёскі Л обжа і Лапатавічы, памеры другога дакладна не вызначаны (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 24 — 25; адз. зах. 1933/2, арк. 21 — 22). Інвентар Крычаўскага староства 1727 г. сведчыць, што на левым беразе Сожа ў Палявой воласці акрамя вёсак Лапатавічы, Лобжа, Барысавічы былі вёскі Вепрын, Палуж, Вушакі, Жаркі, Высокае, слабада Гразівец і пабудаванае каля Вепрына мястэчка Геранімаў (суч. в. Гронаў Чэрыкаўскага р-на). Акрамя таго, сюды ўваходзілі размешчаныя на правым беразе Сожа вёскі Сакольнічы, Варанёва, Свіная, Песькевічы, Вахор, Вусце, Камаравічы, Халоблін, нелакалізаваная в. Губкі і размешчаная за р. Асцёр в. Ціхіль (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 152 — 178).

Апошні інвентар Крычаўскага староства 1747 г. не дае падзелу староства на воласці. Усе адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі староства названы ў ім войтаўствамі.

У склад Палявога войтаўства ў 1747 г. уваходзілі мястэчка Геранімаў (суч. в. Гронаў Чэрыкаўскага р-на). На левым беразе Сожа знаходзіліся вёскі войтаўства Палуж (суч. в. Палуж 2-і), Лешчанка, размешчаныя на тэрыторыі сучаснага Краснапольскага раёна. У Чэрыкаўскім раёне знаходзяцца вёскі Вушакі, Вепрын. Значная колькасць населеных пунктаў Палявога войтаўства знаходзіцца цяпер на тэрыторыі Клімавіцкага раёна: вёскі Рудня на р. Лобжа, Гразівец, Лапатавічы, Лобжа, Дарагінь, Высокая, Жаркі (верагодна, в. Старыя Жаркі), Высокая Буда, Жадунь, Барысавічы, слабада Жаркоўская (верагодна, в. Новыя Жаркі).

На правым баку Сожа на тэрыторыі Чэрыкаўскага раёна зараз мы бачым вёскі Зоры, Халоблін, Вусце, Вохар, Камаровічы, якія ўваходзілі ў Палявое войтаўства. З вёсак Крычаўскага раёна ў Палявое войтаўства ўваходзілі вёскі Сакольнічы, Песькевічы, Свіная, Лабковічы, Зуі, Варанёва. Акрамя таго, на левым беразе Сожа, за Астром, размяшчалася в. Ціхіль (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 62-97).

Зарэчная, альбо Засожская, воласць па памерах была значка большай за Палявую. Яна, згодна сваей назве, размяшчалася за Сожам і складалася з некалькіх дробных войтаўстваў, сярод якіх крыніцы другой паловы XVII — XVIII ст. згадваюць Дамамерыцкае, Мілаславіцкае і Алучыцкае войтаўствы. На пачатку XVIII ст. было сфарміравана яшчэ Бярозкаўскае войтаўства. Час ад часу фарміраваліся і іншыя войтаўствы ў складзе Засожскай воласці, але тэта былі кароткачасовыя адміністрацыйна-гаспадарчыя ўтварэнні.

Адной з такіх часовых адміністрацыйна-гаспадарчых адзінак было Ушакоўскае войтаўства, якое размяшчалася ўздоўж левага берага Сожа. Яно згадваецца толькі ў інвентары Крычаўскага староства 1682 г. Акрамя в. Ушакові-

чы ў склад войтаўства ўваходзілі вёскі Палуж, Вепрын, Барысавічы, Лобжа, Лапатавічы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 15 — 21). У 80-х — пачатку 90-х гадоў XVII ст. цэнтр войтаўства перамясціўся ў в. Лобжу. У 1693 г. усе гэтыя вёскі згадваюцца ў складзе Лабжанскага войтаўства Засожскай воласці. Акрамя таго, паміж 1682 і 1693 гг. у гэтым войтаўстве ўзнікае слабада Высокая (сучасная аднайменная веска Клімавіцкага р-на) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1927, арк. 25 — 30). Гэтыя вёскі мы бачым у складзе Лабжанскага войтаўства Засожскай воласці і ў 1696 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 83 — 93). Больш познія інвентары пачатку XVIII ст., у якіх згадваецца Лабжанскае войтаўства, лакалізуюць яго ў складзе Палявой воласці.

У інвентары 1682 г. упершыню з'яўляецца і Дамамерыцкае войтаўства. У яго склад уваходзілі вёскі Дзягавічы, Дрышчаў (суч. в. Зарубец Крычаўскага р-на), Стракайлы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 33 — 34). Інвентар 1693 г. згадвае у складзе Дамамерыцкага войтаўства вёскі Міхеевічы, Дзягавічы, Дрышчаў (вёскі суч. Крычаўскага р-на), Дамамерычы, Барысаўку, Царковішча, слабаду Канахоўку (вёскі суч. Клімавіцкага р-на) і в. Стракайлы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1927, арк. 14—19). Тыя ж самыя населения пункты былі ў Дамамерыцкім войтаўстве і ў 1696 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 67 — 75).

Акрамя вышэйпералічаных вёсак інвентар Крычаўскага староства 1712 г. упершыню называе ў складзе Дамамерыцкага войтаўства в. Палошкава (сучасная аднайменная веска Клімавіцкага р-на) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1930, арк. 2 — 3). Не змяніўся склад населеных пунктаў Дамамерыцкага войтаўства і ў 1713 і ў 1714 гг. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1930, арк. 25, 46-48).

Наступным інвентаром Крычаўскага староства, які дае ўяўленне пра населеныя пункты Дамамерыцкага войтаўства, з'яўляецца інвентар 1727 г. У складзе войтаўства знаходзіліся вёскі Дамамерычы, Канахоўка, Палошкаў, Барысаўка, Царковішча, Дрышчаў, Міхеевічы, Стракайлы, Дзягавічы. Акрамя таго, у 20-я гады XVIII ст. на землях войтаўства ўзнікла шмат новых паселішчаў.

Так, у 1722 г. на землях — «кгрунце» Дамамерыцкім была заснавана слабада Ярашоўка (суч. в. Ерашоўка Клімавіцкага р-на). Тэрмін «слабада» для заснаванага паселішча быў абмежаваны 10 гадамі. На землях в. Дамамерычы ў 1724 г. з'явілася слабада Бухоўка (слабада 10 гадоў). У кастрычніку 1727 г. на гэтых жа землях заснавана слабада Зімніца (слабада 10 гадоў).

Акрамя дамамерыцкіх зямель актыўна асвойваліся і землі в. Палошкава. Так, на дамамерыцка-палошкаўскай мяжы ў 1722 г. была заснавана слабада Свірыль (слабада на 10 гадоў). У 1723 г. «на грунтах» в. Палошкаў была заснавана слабада Гусарка (слабада на 12 гадоў) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 118-131).

Апошні вядомы інвентар Крычаўскага староства 1747 г. да пералічаных населеных пунктаў адзначае ў складзе Дамамерыцкага войтаўства новыя паселішчы: вёскі Хоцень, Прохараўку, слабодку Дрышчаў, размешчаную насупраць аднайменнай вёскі, і нелакалізаваную в. Ледешня (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 205-221).

Адміністрацыйна-гаспадарчая адзінка з цэнтрам у Мілаславічах толькі двойчы называецца воласцю (1676, 1682 гг.). Яна размяшчалася на ўсходзе сучаснага Клімавіцкага раёна і ў 1676 г. у яе склад уваходзілі вёскі Мілаславічы, Тарасавічы, Галічы, Людковічы, Хмель, Макеевічы, Цімошкі, Юр'евічы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1924, арк. 28 — 30). Інвентар 1682 г. дадаткова згадвае у Мілаславіцкай воласці в. Якімавічы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 36).

Больш познія інвентары адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку з цэнтрам у Мілаславічах называюць войтаўствам у складзе Засожскай воласці.

Інвентар 1693 г. акрамя раней вядомых вёсак згадвае ў складзе Мілаславіцкага войтаўства в. Стары Стан і Гулькі (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1927, арк. 20 — 24). Не змяніўся склад населеных пунктаў войтаўства і праз тры гады. Адзіная навіна, якую паведамляе інвентар 1696 г., тэта тое, што в. Гулькі раней мела іншую назву — Хмель (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 76 — 82).

На пачатку XVIII ст. Мілаславіцкае войтаўства змяніла сваю назву. Інвентары 1712 — 1714 гг. згадваюць вышэйпералічаныя вёскі Мілаславіцкага войтаўства ў складзе Углянскага (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1930, арк. 4-6, 26-29, 48-50).

Вызначыць склад населеных пунктаў Мілаславіцкага войтаўства сярэдзіны XVIII ст. дазваляюць інвентары Крычаўскага староства 1727 і 1747 гг.

Згодна з інвентаром староства 1747 г., у склад Мілаславіцкага войтаўства ўваходзіла мястэчка Ганна, заснаванае 17 ліпеня 1725 г. на землях в. Мілаславічы. Мястэчка мела і іншую назву — Мілаславічы. У той жа час інвентар староства 1727 г. паведамляе, што назву Мілаславічы мае і веска Скрымінава, упершыню зга-

даная ў складзе Мілаславіцкага войтаўства. Да сярэдзіны XVIII ст. гэтая блытаніна была ліквідавана. Мястэчка захавала дзве назвы — Ганна і Мілаславічы, а былая в. Скрымінава пачала выступаць пад назвай Склімін — сучасная аднайменная веска Клімавіцкага раёна (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 108 — 109, 111-114; адз. зах. 1936, арк. 173-176, 198 -199).

Сярод населеных пунктаў Мілаславіцкага войтаўства ў 1747 г. усе тыя ж вядомыя нам вёскі Галічы, Юравічы, Макеевічы, Цімошкі, Якімавічы, Гулькі, Стары Стан, Тарасавічы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 173 — 203). Як і на тэрыторыі Дамамерыцкага войтаўства, 20 —40-я гады XVIII ст. былі часам актыўнага асваення зямель Мілаславіцкага (Углянскага) войтаўства. У тэты час узнікае вялікая колькасць новых паселішчаў, якія зараз знаходзяцца на тэрыторыі Клімавіцкага раёна.

На землях в. Галічы ў 1719 г. была заснавана слабада Сабалёўка (слабада на 10 гадоў), у 1720 г. — слабада Фядотава Буда (слабада на 12 гадоў). На галіцкіх землях у 1723 г. з'явіліся слабоды Суроў (слабада на 10 гадоў), Сакалоўка (слабада на 12 гадоў), Дудараўка (слабада на 10 гадоў), у 1724 г. — слабада Шчамялёўка (слабада на 12 гадоў) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 86 — 96).

На землях в. Юравічы ў 1720 г. была заснавана слабада Пераралочна (слабада на 10 гадоў) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 97 — 99). На землях в. Гулькі згадваецца новая в. Асоўна, якая ў 1727 г. толькі выйшла са слабады. На гулькоўскіх землях над р. Іпуццю ў 1724 г. была заснавана не лакалізуемая зараз слабада Куляроўка (слабада на 12 гадоў). На землях в. Якімавічы ў 1722 г. заснавана слабада Кавалёва — сучасная в. Кавалёўка 1-я Клімавіцкага раёна. На тарасаўска-старастанскім памежжы ў 1724 г. былі заснаваны слабоды Цітоўка і Пуцівіл — сучасная в. Пуцімель. Акрамя таго, у інвентары 1727 г. упершыню згадваецца в. Лядзяшня (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 105-106, 115-117).

Апошні інвентар — 1747 г. — згадвае ў складзе Углянскага войтаўства мястэчка Ганна (Мілаславічы), вёскі Галічы, Дудараўку, Сабалёўку, Сакалоўку, Песляцін, Фядотаву Буду, Шчамялёўку, Юрэвічы, Перавалочна, Макіевічы, Цімошкі, Якімавічы, Лядзяшню, Ільюхіна, Гулькі, Асоўна, Кавалёўку, Склімін, Цітоўку, Стары Стан, Пуцімель, Пожар, Тарасавічы, Карпачы (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 173 — 204). Усе пералічаныя вёскі зараз знаходзяцца на тэрыторыі Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці.

Алучыцкая воласць, якая была далучана да Крычаўскага староства ў 1529 г., першапачаткова, верагодна, заставалася раўназначнай адміністрацыйна-гаспадарчай адзінкай староства сярод іншых валасцей. Ва ўсялякім выпадку, яшчэ ў інвентары Крычаўскага староства 1676 г. яна названа воласцю. Аднак ва ўсіх наступных інвентарах XVII —XVIII стст. яна лічыцца войтаўствам Засожскай воласці.

Памеры Алучыцкай воласці XV —XVI стст. рэканструюцца дзякуючы інвентарам Крычаўскага староства другой паловы XVII ст. і падараванням вялікіх князёў «у Алучыцах». Так, у інвентары 1676 г. гаворыцца, што ў Алучыцкую воласць уваходзілі сёлы «Блудзімл» (суч. Блудземля), «Брацкевіче» (Брацькавічы), «Горбовіче» (Гарбавічы), «Дубісці» (Дубіец), «Відуцы» (Відуйцы), «Панкі» (суч. в. Зацішша Макранскага с/с), «Ковычыце» (Кавычыцы), «Мокре» (Мокрае), «Хоцімск» (сучасная аднайменная веска Касцюковіцкага раёна), «Самотевіче» (Саматэвічы), «Пбалы» (суч. в. Чырвоная Слабада), «Демідовіче» (Дзямідавічы), слабада «Кропівна» (Вялікая Крапіўна), слабада «Забычаніе» (Забычанне). Усе пералічаныя вёскі размешчаны на тэрыторыі сучаснага Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці.

Акрамя таго, у Алучыцкай воласці згадваюцца вёскі «Курбакі» (Краснапольскі раён), «Берозкі» (Бярозкі), слабада «Батніево» (Батаева) — Хоцімскі раён, вёскі Лешня і Жадунь (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1924, арк. 31 — 37), якую інвентар Крычаўскага староства 1747 г. лакалізуе на р. Жадуньцы насупраць мястэчка Студзянец (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 110), прыкладна на тым месцы, дзе зараз размешчана в. Мір'якоўка Касцюковіцкага раёна.

Інвентар Крычаўскага староства 1682 г., акрамя гэтых вёсак у Алучыцкім войтаўстве дадаткова называе слабаду «Тупічына» (Тупічын), вёскі «Крыва Ніва» (Крывая Ніва) (Касцюковіцкі раён) і «Бохоны» (в. Боханы Хоцімскага р-на) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1926, арк. 26 — 27, 31). Інвентар 1693 г. дадае назву яшчэ адной вёскі, што ўваходзіла ў склад Алучыцкага войтаўства — в. «Калодзесцы» (в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на). Такімі ж звесткамі пра Алучыцкае войтаўства абмяжоўваецца і апошні вядомы нам інвентар Крычаўскага староства XVII ст. — інвентар 1694 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1927, арк. 41; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 94 — 110).

Аднак раней Алучыцкае войтаўства (калі яно існавала яшчэ як самастойная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка — воласць) бы-

* На карце Крычаўскага графства 1786 г. веска Лешня паказана на поўдзень ад в. Вішанька.

ло значна большым па памерах. Яго землі на працягу XV — першай паловы XVI ст. шырока выкарыстоўваліся дзяржаўнай уладай для зямельных раздачаў шляхце на пэўных умовах. У выніку колькасць дзяржаўных уладанняў у Алучыцкай воласці скарачалася, а шляхецкія ўладанні пазней увайшлі ў склад Мсціслаўскага ваяводства. Аднак гэтыя населения пункты таксама цікавыя для нас, бо дазваляюць больш дакладна акрэсліць першапачатковыя межы Лучыцкай воласці.

Адным з такіх першых падараванняў, што зафіксаваны ў крыніцах, з'яўляюцца падараванні ўдзельнымі мсціслаўскімі князямі панам Кучукам вёсак «Бычане» (суч. Забычанне) і «Тупищину» (суч. Тупічын) (ИЮМ, 1894. С. 484). У в. Забычанне «ў Олучыцах» у 1591 г. Іван Раманавіч Каша валодаў «правам дажывотным», службай зямлі, якую ён на тых жа ўмовах, са згоды караля Жыгімонта III, перадаў свайму сыну Міхаілу (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 54 — 55). Тады ж Іван Каша перадаў сыну Міхаілу і «землю Евхимовскую при Мануйлавичах» у Алучыцкай воласці (суч. в. Мануйлы Краснапольскага р-на) (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 77, арк. 229 адв. - 230).

Прывілей караля Жыгімонта Старога ад 27 жніўня 1508 г. паведамляе нам пра падараванне Сенку Мсціслаўцу сяла Касцюкова ў Алучыцкай воласці, якое, верагодна, з'яўляецца сённяшнім г. Касцюковічы. Жыгімонт надаў сяло Сенку пры ўмове выканання ім службы земскай ваеннай. Аднак недзе паміж 1508 і 1512 гг. Жыгімонт падараваў в. Касцюкова Сенку Мсціслаўцу «на вечнасць», пра што сведчыць пацвярджальны прывілей 1512 г. (Литовская Метрика, 1995а. С. 276; Описание.., 1915. С. 180, 202).

У 1582 г. Ольша Ждановіч прасіў у Стэфана Баторыя пацвярджэння правоў на валоданне «сяльцом пустым» Печары (суч. в. Пячары Касцюковіцкага р-на) у Алучыцкай воласці, якое ён атрымаў «до воли и ласки» ад караля Жыгімонта Аўгуста. Стэфан Баторый пацвердзіў права на валоданне вёскай «до живота». У 1722 г. яго нашчадкі атрымалі пацвярджэнне правоў ад караля Аўгуста II (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 33 — 35).

Крыніцы XVI ст. згадваюць і іншыя вёскі Крычаўскага староства і Мсціслаўскага ваяводства, якія, меркуючы па іх размяшчэнні, раней уваходзілі ў склад Алучыцкай воласці. У 1511 г. у Крычаўскім павеце згадваецца в. «Коничы» (суч. в. Канічы Касцюковіцкага р-на), у якой Кірылу Залесаву была падаравана пустаўшчына «Воистюйкова» (Описание.., 1915. С. 199). 1546 г. датуюцца звесткі пра размежаванне шляхецкіх і каралеўскіх зямель сяла Бялынкавічы Крычаўскага староства, якое павінна было адносіцца да Алучыцкай воласці (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 72 адв.). У лісце крычаўскага дзяржаўцы Андрэя Шалухі баярам Кашурам на землю ў наваколлях Брацькавічаў, які датуецца 1552 г., пры апісанні меж зямлі згадваюцца дарога Блудзімская і дарога да Забычання (АЮЗР, 1863. С. 147 — 148). Гэта сведчанне таго, што аднайменныя вёскі ўжо былі. Тут жа згадваюцца раўкі «Сколински» і «Хамински», якія ўскосна сведчаць аб існаванні ў той час сучасных аднайменных вёсак. Размяшчэнне гэтых тапонімаў паміж вёскамі Мануйлавічы і Забычанне — доказ таго, што яны таксама раней уваходзілі ў Алучыцкую воласць.

Крыніца 1591 г. паведамляе, што ў вёсках Зяленкавічы і Клеевічы Крычаўскага староства з 1572 г. валодаў «да жывата» землямі Андрэй Міхайлавіч Гарбуз, які з дазволу Жыгімонта III перадаў іх, пры ўмове нясення «службы земскай ваеннай», на тых жа правах — «да жывата» — сыну Якаву (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 77, арк. 230 — 231). Адпаведна і гэтыя вёскі — Зяленкавічы і Клеевічы таксама раней уваходзілі ў склад Алучыцкай воласці.

І ў больш познія часы землі Алучыцкай воласці шырока выкарыстоўваліся для часовых падараванняў шляхце. Так, у 1663 г. Г. Асмалоўскі падаў каралю пратэстацыю аб тым, што пасля смерці Ц. Падабеда яго маці аспрэчвала права на «маетнасць» Г. Падабеда — вёскі Крывую Ніву і Брацькавічы — у удавы апошняга — сястры Г. Асмалоўскага (ИЮМ, 1888. С. 187-188).

Такім чынам, як вынікае з крыніцы, Алучыцкая воласць, а потым і аднайменнае войтаўства на працягу XV —XVII стст. займала тэрыторыю сучасных Касцюковіцкага, Хоцімскага, усходнюю частку Краснапольскага раёнаў Магілёўскай вобласці.

Значныя змены адбыліся ў адміністрацыйна-гаспадарчым падзеле Крычаўскага староства на пачатку XVIII ст. Інвентары Крычаўскага староства гэтага часу фіксуюць новы этап у асваенні зямель на поўдні староства. Так, у інвентары 1709 г. акрамя даўно вядомай в. Хоцімск у Алучыцкім войтаўстве ўпершыню згадваецца новая «слабада Хоцімск» на «грунтах Бохонскіх», якая з'яўляецца правабярэжнай часткай сучаснага райцэнтра Хоцімск. У гэтым жа інвентары ўпершыню сустракаецца і в. Красніца, якая павінна была знаходзіцца на слабадзе да 1711 г. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1929, арк. 22 — 23). Больш актыўна тэты працэс распачаўся ў другім — трэцім дзесяцігоддзях XVIII ст.

Інвентар 1712 г. фіксуе новую тэндэнцыю ў адміністрацыйна-гаспадарчай арганізацыі старроства. Па-першае, у тэты час раней адзінае Лучыцкае войтаўства дзеліцца на два — Лучыцкае і новаўтворанае Бярозкаўскае, якое было сфарміравана на ўсходніх землях Лучыцкага. Цэнтр Бярозкаўскага войтаўства размяшчаўся ў в. Бярозкі, якая і дала яму сваю назву. У склад войтаўства акрамя в. Бярозкі ўвайшлі вёскі «Хоцімск Вялікі» — былая слабада Хоцімск, «Бохоны», «Батаева», «Тупічына слабада», «Дзямідавічы», «Крапіўна», «Лешня». Назвы вёсак даюць падставы сцвярджаць, што Бярозкаўскае войтаўства займала большую частку сучаснага Хоцімскага і ўсходнюю частку Касцюковіцкага раёнаў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1930, арк. 4).

У складзе Лучыцкага войтаўства засталіся раней вядомыя вёскі Жадунь, Гарбавічы, Гібалы, Красніца, Дубіец, Панкі, Кавычыцы, Мокрая, Саматэвічы, Курбакі, Відуйцы, Калодіск, Крывая Ніва, Забычанне, Брацкавічы, Блудзімль. Скараціўшы сваю тэрыторыю на ўсходзе, Лучыцкае войтаўства пашырыла свае ўладанні за кошт паўночных і заходніх зямель. Так, у яго складзе былі вёскі Палуж (суч. в. Палуж-2 Краснапольскага р-на), Вушакі, Вепрын (Чэрыкаўскі р-н), Высокая, Барысавічы, Лобжа і Лапатавічы (Клімавіцкі р-н) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1930, арк. 6—15). У такім жа стане Лучыцкае войтаўства знаходзілася і ў 1713 і 1714 гг. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1930, арк. 32-38, 54-61).

Але даволі хутка тэрыторыя войтаўства зноў начала скарачацца. Так, інвентар Крычаўскага староства 1720 г. паведамляе, што вёскі Лобжа, Лапатавічы і Барысавічы перайшлі ў склад Палявой воласці.

У той жа час інвентар фіксуе новыя вёскі, што ўзніклі ў межах Лучыцкага войтаўства. 14 сакавіка 1714 г., згодна з універсалам канцлера ВКЛ, на тэрыторыі Лучыцкага войтаўства з'явілася мястэчка «Міхалаў», якому надавалася «слабада» тэрмінам на 15 гадоў. У 1716 г. над р. Крупняй на землях вёсак Лешня, Жадунька і Тупічын была заснавана слабада «Прусін» (слабада на 10 гадоў) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 33, 38; адз. зах. 1932, арк. 46 — 47).

Значная колькасць населеных пунктаў на землях Лучыцкага войтаўства з'яўляецца ў 20-я гады XVIII ст. Так, у 1719 г. над р. Зубар узнікае нелакалізаваная слабада «Ганнаўка»; у 1720 г. над р. Лешняй, на землях в. Саматэвічы, — слабада «Сіліч» (суч. в. Сілічы Касцюковіцкага р-на); у 1722 г. на землях в. Крывая Ніва — нелакалізаваная слабада «Селіцкая», на землях в. Забычанне, над р. Жадунькай, — в. «Галашоўка» (суч. в. Галачоўка Касцюковіцкага р-на) (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 148; адз. зах. 1936, арк. 103); у 1723 г. на землях в. Гарбавічы — слабада «Баравая» (суч. Бароука); у гэтым жа годзе, 19 красавіка, на землях в. Відуйцы — слабада «Казелье» (суч. в. Казелле Краснапольскага р-на). У 1723 г. была заснавана слабада «Філіпаў Ручай» на «грунце» Жадуньскім. У інвентары староства 1747 г. веска пад блізкай назвай — «Ліпаў Ручай» згадваецца ў Бярозкаўскім войтаўстве, але на карце Крычаўскага графства 1786 г. яна наказана на тэрыторыі Лучыцкага войтаўства і размешчана прыкладна на месцы сучаснай в. Ліпаўка Касцюковіцкага раёна (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 44; адз. зах. 1936, арк. 169). У 1726 г. над р. Зубар, на землях вёсак Панкі і Мокрая, узнікае слабада «Баронькава»; у інвентары Крычаўскага староства 1727 г. упершыню згадваецца в. «Прусінская Буда» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 47, 60-61, 133-135, 138-139, 141 — 142, 146); у гэтым жа годзе над р. Крупняй, на землях в. Забычанне, — в. Крупня (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 151 — 152; адз. зах. 1936, арк. 102) (усе вёскі Касцюковіцкага р-на). Усім даваўся тэрмін «слабады» на 10 — 12 гадоў.

Дакладна вызначаныя памеры Лучыцкага войтаўства дае інвентар Крычаўскага староства 1747 г. У яго складзе на той час былі два мястэчкі — Міхалаў, размешчанае побач з вёскай Забычанне і заснаванае на яе землях, а таксама заснаванае ў 1738 г. мястэчка Студзянец (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 98, 106). Акрамя таго, яшчэ ў інвентары Крычаўскага староства 1727 г. адзначалася, што ў Лучыцкім войтаўстве наваколлі в. Панкі з'яўляюцца добрым месцам для пабудовы горада (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 141).

Са старых вёсак Лучыцкага войтаўства згадваюцца вёскі Забычанне, Гібалы, Жадунь, Гарбавічы, Красніца, Дубіец, Брацкавічы, Крывая Ніва, Кавычыцы, Мокрая, Хоцімск, Саматэвічы, Відуйцы, Курбакі, Колодзіцк і інш. (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 98 — 137). Адначасова інвентар фіксуе наяўнасць значнай колькасці новых населеных пунктаў Лучыцкага войтаўства, што ўзніклі ў 20 —40-я гады XVIII ст.

Паміж 1727 і 1747 гг. у войтаўстве з'яўляецца в. «Гумніцкая». У 1747 г. згодна з інвентаром заканчваўся тэрмін слабады для в. «Мялоўка» (Касцюковіцкі р-н), а ў 1748 г. — для в. «Харашоўка» (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 105—106, 114), тэта дазваляе лічыць, што яны ўзніклі ў канцы 30-х гадоў XVIII ст.

Шмат населеных пунктаў Лучыцкага войтаўства было заснавана і ў другой палове 40-х гадоў XVIII ст. Так, у 1745 г. на мяжы «з казакамі», на ручаі Пеняжэц узнікла не лакалізаваная слабада «Пенеж» (слабада на 12 гадоў) (НГАБ, кмф-5, вон. 1, адз. зах. 1936, арк. 123).

Яшчэ болып населеных пунктаў паўстала ў 1747 г. 21 студзеня 1747 г. на землях в. Кавычыцы заснавана слабада «Вялікі Бор», 7 сакавіка таксама на землях в. Кавычыцы — слабада «Баравая» (НГАБ, кмф-5, вон. 1, адз. зах. 1936, арк. 121) (Касцюковіцкі р-н), 22 сакавіка над р. Дубійцэм, на землях в. Дубіец, — нелакалізаваная слабада «Поўсцін». У гэтым жа годзе з'явіліся слабоды «Папротна Буда» (суч. в. Папаротная Касцюковіцкага р-на) і нелакалізаваныя «Бердніцкі ручай», «Колпіта» (НГАБ, кмф-5, вон. 1, адз. зах. 1936, арк. 125, 135). Апошнюю, верагодна, трэба шукаць у раёне паміж сучаснымі вёскамі Траякоўка і Жукаўка Касцюковіцкага раёна, дзе знаходзяцца вытокі р. Колпіта, на якой, мяркуючы па назве, яна і знаходзілася. Інвентар 1747 г. згадвае, без даты заснавання, і іншыя новыя вёскі Лучыцкага войтаўства: «Вётухну»,.«Доўгі Лог», «Дубровіцу» (суч. в. Дубраўка Брацькавіцкага с/с) (усе вёскі Касцюковіцкага р-на), «Казельскую Буду» (Краснапольскі р-н), «Гослеў» (Касцюковіцкі р-н), «Буду Курбацкую», нелакалізаваныя вёскі «Буда Брацькоўская», «Гайдукоўка» (НГАБ, кмф-5, вон. 1, адз. зах. 1936, арк. 117, 119, 129, 133). Апошняя на карце Крычаўскага графства 1786 г. размешчана на поўдзень ад в. Саматэвічы, недзе ў раёне сучаснай в. Хоцімск. Пра в. «Какойск» (Краснапольскі р-н) адзначаецца, што яе заснавалі перасяленцы з Блудземлі (НГАБ, кмф-5, вон. 1, адз. зах. 1936, арк. 137). За Бесядзю згадваюцца вёскі «Калодліва», якая была перанесена з Панкоў, «Панкоўская Буда», «Белы Камень», «Гаўрыленка» (усе Касцюковіцкага р-на), слабада «дзеравец» (НГАБ, кмф-5, вон. 1, адз. зах. 1936, арк. 120, 123—127). Адносна апошняй інвентар удакладняе, што яна была перанесена з нейкай Свінёўкі. Сугучную ёй назву — Свінка — мае рэчка, што працякае непадалёку ад сучаснай в. Азярэц Касцюковіцкага раёна, размешчанай на расійска-беларускай мяжы. У сувязі з гэтым, на наш погляд, магчыма атаясамленне слабады XVIII ст. дзеравец і сучаснай в. Азярэц.

Такім чынам, у сярэдзіне XVIII ст. Лучыцкае войтаўства ўключала ў свой склад два мястэчкі — Міхалаў, Студзянец і 39 вёсак: Забычанне, Крупня, Галашоўка, Харовін, Пбайлы, Гумніцкая, Харашоўка, Жадунь, Баравая, Бароўка, Гарбавічы, Красніца, Гаврылінка, Дубіец, Мялоўка, Вётухна, Доўгі Лог, Брацькавічы, Дубраўка, Дубровіца, Гольшаў, Крывая Ніва, Буда Брацькавіцкая, Калодліва, Кавычыцы, Бароцькаў, Буда Панкоўская, Белы Камень, Хоцімск, Саматэвічы, Сілічы, Гайдукоўка, Відуйцы, Казелле, Буда Казельска, Курбакі, Буда Курбацка, Колодзіцк, Какойск. Акрамя таго, у войтаўстве на той час было 7 слабод — Поўсцін, Вялікі Бор, Пенеж, Колпіта, Бердніцкі Ручай, Дзеравец і Папротна Буда.

Праз 10 гадоў (1757 г.) у «рэестры бірчым» староства Крычаўскага ў Лучыцкім войтаўстве адзначаны амаль усе папярэднія населеныя пункты. Адсутнічаюць толькі мястэчка Студзянец, слабоды Колпіта і Бердніцкі Ручай. З новых населеных пунктаў адзначана веска «Сяшнеўка» (суч. в. Сігееўка Касцюковіцкага р-на) (НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3983, арк. 86 адв. — 87).

На тэрыторыі новаўтворанага Бярозкаўскага войтаўства таксама пачынаюць узнікаць новыя паселішчы. Так, у 1710 г. на землях в. Бярозкі была заснавана слабада Ганнаўка, у 1712 г. на землях в. Боханы — слабада Бесовіцкая (суч. в. Бяседавічы Хоцімскага р-на). У 1714 г., згодна з прывілеем дзяржаўцы Крычаўскага староства канцлера ВКЛ Караля Станіслава Радзівіла, таксама на землях в. Боханы было заснавана мястэчка Радзівілаў (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1931/2, арк. 41—44; Мяцельскі А. А., 1999. С. 20-24). У 20-х гадах XVIII ст. колькасць населеных пунктаў Бярозкаўскага войтаўства значна ўзрасла. У 1723 г. на землях в. Тупічына Слабада ўзнікла слабада Валынеж, у 1724 г. на землях в. Батаева — слабада Негава. На Батаеўскіх землях у 1725 г. паўстае слабада Узлогі, а ў 1726 г. — слабада Ліпаўка. У 1725 г. на мяжы з Расіяй узнікае слабада Горня, а на «грунце» в. Бярозкі — слабада Дубраўка (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 52-53, 59-63, 79-81). Інвентар Крычаўскага староства 1747 г. паведамляе, што Бярозкаўскае войтаўства зараз мае і назву — «Хоцімскае», а апісанне населеных пунктаў пачынаецца з горада Радзівілаў, які, верагодна, з'яўляўся цэнтрам войтаўства.

У складзе Бярозкаўскага (Хоцімскага) войтаўства крыніцы называюць вёскі Ліпаўку, Узлогі, Хоцімск, Бясовіцкую, Горня, Боханы, Бярозкі, Ганнаўку, Дубраўку, Ніегва (суч. в. Ветка Хоцімскага р-на), Батаева, Селіцкую, Крапіўна, Тупічын, Дзямідавічы, Валынеж, Лешню, Вішанкі (суч. в. Вішні Касцюковіцкага р-на), Ліпавы Ручай, Прусін, Шарэйкі (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 141 — 172). Большая частка гэтых вёсак сёння знаходзіцца ў паўднёвай частцы Хоцімскага і Касцюковіцкага раёнаў. Выключэнне складае толькі в. Ганнаўка, якая на карце Крычаўскага графства 1786 г. паказана побач з в. Бярозкі. Верагод-

на, гэтыя населения пункты даўно зліліся і зараз уяўляюць адно цэлае. Не лакалізуецца в. Лешня, але на карце 1786 г. яна наказана на поўдзень ад в. Вішанькі. Згаданая ў інвентары в. Ліпавы Ручай, верагодна, трапіла сюды выпадкова. Населены пункт з сугучным гучаннем — «Філіпаў Ручай» быў заснаваны ў 1723 г. на «грунце» Жадуньскім. У інвентары староства 1747 г. веска з блізкаю назвай — «Ліпаў Ручай» згадваецца ў Бярозкаўскім войтаўстве. На карце Крычаўскага графства 1786 г. яна наказана на тэрыторыі Лучыцкага войтаўства і размешчана прыкладна на месцы сучаснай в. Ліпаўка Касцюковіцкага раёна (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1932, арк. 44; адз. зах. 1936, арк. 169).

Акрамя гэтых дзяржаўных вёсак, падзеленых паміж войтаўствамі Зарэчнай воласці Крычаўскага староства, быў шэраг населеных пунктаў, якія кароль здаваў шляхце на пэўных умовах. Звычайна гэта былі адны і тыя ж паселішчы, якія знаходзіліся ў шляхты «да жывота правам заведзёным», і таму ў інвентарах староства фігуруюць вельмі рэдка.

Так, у 1607 г. кароль Жыгімонт III Ваза надаў жонцы крычаўскага і алучыцкага старасты Ф. Лукомскага правам дажывотным «державу» — 5 сёл у старостве Крычаўскім — Кашаны, Бель, Ананічы, Лабковічы і Паўлавічы (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 89, арк. 41 — 41 адв.). Першыя чатыры з іх і сёння знаходзяцца на тэрыторыі Крычаўскага раёна, а апошняя — у Клімавіцкім.

Інвентар Крычаўскага староства 1696 г. адзначае, што ў вёсках Зяленкавічы і Белая Дубрава адпаведна 20 і 40 дымамі валодаў пан Андрэй Гайко (НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 114). Фармальна гэтыя вёскі ўваходзілі ў склад Лучыцкага войтаўства, хоць «de facto» знаходзіліся ў шляхецкіх уладаннях і прадстаўнікі дзяржаўнай улады не ўмешваліся ў кіраванне імі. Гэтыя вёскі і надалей заставаліся ў валоданні рода Гайко, пакуль кароль Аўгуст II не забраў іх частку ў скарб пасля смерці Альбрэхта Гайко і не перадаў Каралю Станіславу Радзівілу, што і было пацверджана ў 1718 г. (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1160, арк. 42). Але і ў больш позні час гэтыя землі належалі роду Гайкаў. Так, у 1727 г. у Зяленкавічах валодаў землямі Казімір Гайко (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 5807, арк. 48). На карце Крычаўскага графства 1786 г. пасярод Лучыцкага войтаўства ў раёне сучасных вёсак Белая Дуброва, Клеевічы, Клеткі, Рвенск паказаны ўладанні паноў Гайко.

У 1696 г. «да жывотным правам заведзёным» за ракой Асцёр вёскамі «Бабічы» (12 дымаў) і «Надзейкавічы» (20 дымаў), слабадой «Янкіна» (15 дымаў) валодаў пан Гансеўскі. Пан Макавецкі валодаў 20 дымамі ў в. Ціхіль за Астром (усе вёскі Шумяцкага р-на).

3 вёсак староства, якія мы сёння сустракаем на тэрыторыі Клімавіцкага раёна, згадваюцца в. Паўлавічы, у якой пан Жаба валодаў 5 дымамі; в. Клімавічы, у якой пан Беляцкі трымаў 15 дымаў, і в. Красавічы, дзе пан Гімбут валодаў 12 дымамі. Раней у склад староства ўваходзіла в. Асмаловічы, але ў канцы XVII ст. яна ўся была занята шляхецкімі ўладаннямі.

Акрамя гэтых вёсак у складзе староства заставаліся тыя паселішчы, гаспадары якіх памерлі без нашчадкаў. Яны папаўнялі фонд зямель, якія кароль здаваў на пэўны час шляхцічам. Так, напрыклад, пасля смерці Яна Ліндорфа ў Крычаўскае староства былі вернуты вёскі Бабілічы і Заселле. Але кароль Станіслаў у верасні 1707 г. надзяліў імі пажыццёва ўладальніка Крычаўскага староства Караля Радзівіла (НГАБ, ф. 694, воп. 1, адз. зах. 191, арк. 1).

Верагодна, у 50 —70-я гады XVIII ст. у Крычаўскім старостве зноў адбыліся некаторыя адміністрацыйна-гаспадарчыя змены. Яны закранулі Дамамерыцкае войтаўства і Палявую воласць. Так, на карце Крычаўскага графства 1786 г. у склад Дамамерыцкага войтаўства ўваходзяць вёскі, размешчаныя за р. Асцёр — Стракайлы і Ціхіль; акрамя таго, вёскі каля Крычава, якія раней былі ў складзе Палявой воласці — Лабковічы, Варанёва, Зуі, Задабрасць.

У складзе Палявой воласці паказаны толькі вёскі Халоблін, Камаровічы, Вусце, Вохар, Вушакі, Вепрын, Палуж, Лешчанка, Высокі Барок і нелакалізаваныя Рудня на р. Сянной, Ніўіцкая, Кур'якоўка.

Акрамя гэтых дзяржаўных вёсак на тэрыторыі былой Крычаўскай воласці знаходзіліся шматлікія шляхецкія ўладанні, якія пасля адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1565 — 1566 гг. увайшлі ў склад Мсціслаўскага ваяводства. Час ад часу шляхецкія ўладанні былой Крычаўскай воласці адзначаюцца ў крыніцах XVII —XVIII стст. як размешчаныя у «Крычаўскім тракце».

Шляхецкія ўладанні былі раскіданы па ўсёй воласці. Значную колькасць зямельных раздачаў у воласці Крычава зрабілі яшчэ мсціслаўскія князі ў канцы XIV —XV стст. Так, сярод запісаў зямельных раздачаў вялікага князя і караля Казіміра мы знаходзім яго пацвярджэнне «выслугі ў князя Яраслава Пахомам Нефедовичам» «у Мстиславли и у Кричове» нелакалізаванага «Избучина» (ДМАМЮ, 1897. С. 23).

Але асноўны комплекс звестак пра наданні мсціслаўскіх князёў у воласці Крычава мы суст-

ракаем у больш позніх крыніцах — скаргах шляхты аб страце прывілеяў на маёмасць пад час вайны 1654—1667 гг. Праўда, трэба адразу адзначыць, што некаторая частка гэтых скаргаў выклікае сумненне. Напрыклад, шляхцічы спасылаюцца на прывілеі ад мсціслаўскага князя «Михаила Иванавича Лугвеньева». Безумоўна, гэта нейкая блытаніна. Па-першае, мсціслаўскі князь Міхаіл Іванавіч не належаў да роду мсціслаўскіх князёў Лугвеньевічаў. А па-другое, Крычаўская воласць не ўваходзіла ў склад Мсціслаўскага княства, якім валодаў Міхаіл Іванавіч Мсціслаўскі. Таму князь Міхаіл Іванавіч не мог надаваць маёмасці ў Крычаўскай воласці. Да такіх прывілеяў адносіцца падараванне князем Міхаілам Іванавічам Лугвеньевічам продкам Казіміра Івіцкага «маетнасці» Волчаскай (суч. в. Волчас Крычаўскага р-на) і Халмы (Шумяцкі р-н) (ИЮМ, 1894. С. 475).

Таксама ў Волчасе была «маетнасць» Я. Бацвінні, атрыманая яго продкамі паводле прывілея мсціслаўскіх князёў (ИЮМ, 1894. С. 447). Перад «уніяй» каралём былі пацверджаны прывілеі мсціслаўскіх удзельных князёў продкам Андрэя Кучука на «маетнасць» Ціманава (Клімавіцкі р-н) і Глупікі (суч. в. Мірная Крычаўскага р-на). Гэтым жа часам датуецца і пацвярджэнне каралём прывілея мсціслаўскіх князёў продкам І. і В. Мішкоўскіх на «маетнасць Мишковскую» (аднайменная веска Крычаўскага р-на) (ИЮМ, 1894. С. 461, 471). Продкі П. Г. Улазоўскага атрымалі ад удзельных князёў мсціслаўскіх прывілей на «маетнасць Свинскую» (суч. в. Іванаўка Крычаўскага р-на) (ИЮМ, 1894. С. 485). Стэфан Міснік і Самуэль Аляхновіч прасілі караля аб пацвярджэнні страчанага прывілея ад князёў мсціслаўскіх на сяло Дарлівае (аднайменная веска Крычаўскага р-на) (ИЮМ, 1894. С. 488-489). Апанас і Аляксандр Кабатавы прасілі пацвярджэння прывілея мсціслаўскіх князёў на «маетнасць Псковскую» ў Крычаўскім тракце (верагодна, суч. в. Пяскевічы Крычаўскага р-на) (ИЮМ, 1894. С. 466). Сугучную па назве «маетнасць Песковичи в тракте Кричевском» атрымалі ад мсціслаўскіх князёў продкі Філімона Арла (ИЮМ, 1900. С. 150-151). Улічваючы ўдакладненне, што «маетнасць» размешчана за Сожам, можна меркаваць, што гэта сучасная веска Пясчынікі Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці. Стэфан Закалінскі прасіў пацвярджэння прывілея на сяло Цімошкава (суч. в. Цімошкі Клімавіцкага раёна) (ИЮМ, 1894. С. 445-446).

Пра падараванне населеных пунктаў Крычаўскай воласці шляхце каралём Казімірам захаваліся адзінкавыя звесткі. Так, сярод запісаў зямельных раздачаў вялікага князя і караля Казіміра мы знаходзім падараванне «Глебку кричевъскому семъ чоловековъ у Кричеве... То возле его селца Волчосы» (ДМАМЮ, 1897. С. 1). Значка больш інфармацыі пра населеныя пункты воласці ёсць пачынаючы з канца XV ст.

У 1499 г. вялікі князь Аляксандр разбіраў справу аб прыналежнасці селішча зямлі паміж крычаўлянкаю Зуевай і Сенькам Паповічам. Аляксандр пацвердзіў прывілей вялікага князя Казіміра на валоданне селішчам і зямлёй Зуеўскай Сенькам Паповічам пры ўмовах нясення ім службы і выплаты куніцы (АЛМ, 1892. С. 2 — 4). Нельга выключаць, што справа ішла пра сённяшнюю в. Зуі Крычаўскага раёна.

У 1514 г. крычаўскаму папу Ісаку была падаравана пустаўшчына «Баранова», верагодна, гэта вядомая па больш позніх крыніцах в. Варанёва, якая зараз увайшла ў склад Крычава (Описание бумаг.., 1915. С. 156). У 1518 г. Васку Дашковічу былі падараваны ў Крычаўскім павеце пустаўшчыны ў в. Краблёва (суч. в. Караблёва Шумяцкага р-на) і на рацэ Свіной (суч. р. Свінка на поўнач ад Крычава) (Литовская Метрика, 1997б. С. 55-56. № 20). У 1534 г. маскоўскаму выхадцу Навуму Канстанцінавічу Ярцаву вялікі князь Жыгімонт даў «на хлебокормлене» сяло пустое «Полоніцу» «на которомъ один чоловекъ мешкает. А с того службу нашу нам служить». Ягонаму брату Пратасу Ярцаву, на тых жа ўмовах, вялікі князь даў у «хлебокармлене»... «селищо пустое Холм» у Крычаўскай воласці (Литовская Метрика, 1999б. С. 166. № 351-352). «Пустым» селішчам Холм Пратас Ярцаў валодаў і ў 1561 г. (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 37, арк. 524 — 524 адв.). А вось ягоны брат вярнуўся на Маскву, і сяло Палоніца ў 1559 г. атрымаў мсціслаўскі ротмістр Пётр Разбіцкі (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 37, арк. 359 адв.).

У 1536 г. на шляху маскоўскіх войскаў на Крычаў і Мсціслаў згадваецца в. Бель (Глали И., Эскина Ю. М., 1999. С. 75). Як ужо адзначалася, у 1546 г. у Крычаўскім старостве згадваецца пустаўшчына «Хотиловская» (суч. в. Хацілавічы Крычаўскага р-на) (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 30, арк. 154 адв.). У гэтай жа крыніцы згадваюцца і іншыя населеныя пункты альбо зямельныя надзелы, якія ў больш позні час адносіліся да Крычаўскай воласці і зараз лакалізуюцца.

Так, згадваемыя «Судиловичи», у якіх у 1546 г. дзве пустаўшчыны Котавы былі падараваны Фёдару і Ждану Багданавічам Круглікевічам (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 30, арк. 154 адв.), верагодна, з'яўляюцца сучаснай вёскай Судзілы Клімавіцкага раёна. Пра гэта,




Мал. 91. Воласць Крычава ў XVIII ст.: 1 — Іванаўка, 2 — Ігнатаўка, 3 — Ілюхіна, 4 — Азярэц, 5 — Ананічы, 6 — Асмаловічы, 7 — Баравая, 8 — Баравая, 9 — Баравая, 10 — Баронькава, 11 — Барысаўка, 12 — Барысавічы, 13 — Батаева, 14 — Баханы, 15 — Бацвінаўка, 16 — Белая Дубрава, 17 — Белы Камень, 18 — Белынкавічы, 19 — Бель-1-я, 20 — Блудзімля, 21 — Брацкевічы, 22 — Бухаўка, 23 — Бярозкі, 24 — Бяседавічы, 25 — Відуйцы, 26 — Вішанскі, 27 — Вішанькі, 28 — Вішні, 29 - Вётухна, 30 - Валынеж, 31 - Варадзькова-1-е, 32 - Варанева, 33 - Вепрын, 34 - Ветка, 35 - Воўчас, 36 - Вохар, 37 — Вусце, 38 — Вушакі, 39 — Высокае, 40 — Высокая Буда, 41 — Вялікі Бор, 42 — Гаўрыленка, 43 — Галічы, 44 — Галачоўка, 45 — Ганна, 46 — Ганнаўка, 47 — Гарбавічы, 48 — Глушкова, 49 — Горбатка, 50 — Горня, 51 — Гослеў, 52 — Гразівец, 53 — Гронава, 54 — Губеншчына, 55 — Гулькі, 56 — Гумніцкае, 57 — Гусарка, 58 — Гута, 59 — Дамамерычы, 60 — Дарагінь, 61 — Дарагая, 62 — Дарлівае, 63 — Дзягавічы, 64 — Дзямідавічы, 65 — Доўгі Лог, 66 — Дубец, 67 — Бубраўка, 68 — Дубраўка, 69 — Дубровіца, 70 — Дудараўка, 71 — Ельня, 72 — Зімніцы, 73 — Забычанне, 74 — Забычанье-1, 75 — Залесавічы, 76 — Зарубец, 77 — Зацішша, 78 — Зоры, 79 — Зуі, 80 — Зяленкавічы, 81 — Кісялёўка, 82 — Кавалёўка, 83 — Кавычыцы, 84 — Казелле, 85 — Казелле-2, 86 — Какойск, 87 — Калодзецкая, 88 — Калодліва, 89 — Камаровічы, 90 — Канічы, 91 — Канахоўка, 92 — Караблева, 93 — Касцюковічы, 94 — Касцюшкавічы, 95 - Катаны, 96 - Клімавічы, 97 - Клін, 98 - Кліны, 99 - Клеявічы-1-я, 100 - Крапіўна В., 101 - Красавічы, 102 - Крупня, 103 - Крывая Ніва, 104 - Крычаўскі-1-ы, 105 - Куляшоўка, 106 - Курбакі, 107 - Ліпаўка, 108 - Ліпаўка, 109 - Лабковічы, 110 — Лазовіца, 111 — Лешчанка, 112 — Лобжа, 113 — Лапатавічы, 114 — Лядзяшня, 115 — Мірная, 116 — Міхеявічы, 117 — Мышкавічы, 118 — Макевічы, 119 — Малашкавічы, 120 — Маляцічы, 121 — Мануйлы, 122 — Мокрае, 123 — Мурын Бор, 124 — Мыза, 125 — Мялоўка, 126 — Надзейкавічы, 127 — Негіна, 128 — Недзведзь, 129 — Післяціна, 130 — Паўлавічы, 131 — Пажарь, 132 — Паклады, 133 — Паланіца, 134 — Палошкава, 135 — Палуж-2, 136 — Панькоўская Буда, 137 — Папаратная, 138 — Перавалочня, 139 — Песькавічы, 140 — Печанеж, 141 — Полахава, 142 — Прохараўка, 143 — Прусіна, 144 — Прусіна, 145 — Прусінская Буда, 146 — Пуцімель, 147 — Пячары, 148 — Рэчыца, 149 — Родня, 150 — Рудня, 151 — Сігеяўка, 152 — Сілічы, 153 — Сабалёўка, 154 — Сакалоўка, 155 — Сакольнічы, 156 — Саматэвічы-2, 157 — Саматэвічы, 158 — Свірель, 159 — Свадкавічы, 160 — Склімін, 161 — Соўна, 162 — Ст. Жаркі, 163 — Стабаршчына, 164 — Стараселле, 165 — Стары Стан, 166 — Стракайлава, 167 — Студзянец, 168 — Суроў, 169 — Сялецкае, 170 — Тарасавічы, 171 - Тошна, 172 - Тупічына, 173 - Узлогі, 174 - Фядотава Буда, 175 - Халдзеёўка, 176 - Халмы, 177 - Халоблін, 178-179 - Харашоўка, 180 - Хатовіж, 181 - Хацілавічы, 182 - Хацень, 183 - Хоцімск, 184 - Хоцімск-2, 185 - Хоцімск-3, 186 - Ціманава, 187 - Цімошкі, 188 - Цітоўка, 189 - Ціхіль, 190 - Царковішча, 191 - Царковішча-2, 192 - Чырвоная Буда, 193 - Чырвоная Слабада, 194 - Шарэйкі, 195 - Шумячы, 196 - Шчаглоўка, 197 - Юр'евічы, 198 - Юшкавічы, 199 - Яўкіна, 200 - Якімавічы, 201 - Ярашоўка, 202 - Ярашоўка-2, 203 - Крычаў (• - «гаспадарскія» мястэчкі; D — прыватныя мястэчкі; Ф — вёскі Алучыцкага войтаўства; * — вёскі Бярозаўскага (Хоцімскага) войтаўства; A — вёскі Мілаславіцкага (Углянскага) войтаўства; * — вёскі Дамамерыцкага войтаўства; 0 — вёскі Палявога войтаўства; O — вёскі шляхецкія; 0 — вёскі, у якіх ёсць як «гаспадарскія», так і шляхецкія ўладанні)

на наш погляд, сведчыць фундуш 1566 г. мужа і жонкі Мікалая і Ганны Дзядзерак-Тураўскіх на карысць крычаўскай царкве Св. Багародзіцы на «вечное владение огорода Котовщина в селе Судиловичах в тракте Кричовском над р. Лобжаю» (ИЮМ, 1900. С. 124-126). Шляхецкім уладаннем была в. «Коничы», згадваемая ў 1546 г. (суч. в. Канічы Касцюковіцкага р-на) (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 30, арк. 154 адв.).

У 1555 г. Арцём Васілевіч атрымаў тры пустаўшчыны «при границы московской» — «Илиное, Малышковщизну і Хатабовъскую при Братковичахъ» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 37, арк. 228 - 228 адв.). У 1560 г. Якубу Рыбеньскому былі пажалаваны землі пустаўскія Шумячы, Глушково, Строкайлово, сугучныя тапонімы якім мы бачым сёння ў Шумяцкім раёне (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 58, арк. 96 адв. - 97 адв.).

У 1561 г. Міхаілу Канстанцінавічу Вінчуры было пацверджана права на зямлю пустаўскую «Хотовижъ въ повете Кричовскомъ лежачую» (суч. в. Хатовіж Клімавіцкага р-на) (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 37, арк. 512 адв.—513). Продкі Марыі, Афанаса і Івана Сваткоўскіх атрымалі прывілей ад «караля перед унией» на «маетнасць» у сяле Сваткавічы (суч. в. Крычаўскага р-на) (ИЮМ, 1894. С. 485).

«Дворец Б^отьвинъевский у Волчосе» і зямлю бортную Холм за р. Сожам атрымаў у 1563 г. Мікалай Івініцкі (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 41, арк. 333; адз. зах. 266, арк. 343 — 343 адв.). У 1576 г. пушкар Крычаўскага замка Мітко Іванавіч Карпач атрымаў пацверджанне на валоданне паловай сяла Асмаловічы, размешчанага ў воласці Крычава (суч. в. Клімавіцкага р-на) (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 74, арк. 60 — 60 адв.).

У 1584 г. Івану Захарычу было падаравана «селцо Павловичи за рекою Сожом при границы московское» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 70, арк. 160—161), якое зараз знаходзіцца ў Клімавіцкім раёне. У гэтым жа годзе Івану Кашы было падаравана «селцо пустое Костюшковичи у волости Кричевской» (НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 70, арк. 161 — 161 адв.). Вёску Касцюшкавічы мы зараз бачым у Крычаўскім раёне.

У 1592 г. браты Казуліны дзялілі маёмасць і людзей у сяле «Оборовой», якое размяшчалася за Сожам (АЮЗР, 1963. С. 192-193. № 160). Улічваючы, што ў крыніцы акрамя самога сяла «Оборового» згадваюцца «Чудянский рубеж», «Вепринский рубеж», сяло «Вохар», перад намі сучасная в. Баравая Чэрыкаўскага раёна.

Значна большая колькасць шляхецкіх уладанняў, якія размяшчаліся на тэрыторыі былой воласці Крычава, згадваюцца ў крыніцах другой паловы XVII —XVIII ст. Яны перш за ўсё сустракаюцца ў шматлікіх зваротах да рускага цара за 1654 г. аб пацверджанні правоў на былыя ўладанні, а пасля вяртання гэтых зямель у склад Рэчы Паспалітай — у скаргах шляхты каралю аб прапажы старых прывілеяў «на маетнасць» пад час вайны 1654—1667 гг.

Так, сярод зваротаў да рускага царя Аляксея Міхайлавіча захаваўся зварот Гарбуза Бардзінаўскага аб падараванні яму в. Прусіна (АЮЗР, 1889. С. 274), якая раней належала Самойлу Кгедройцу. Апошні не пажадаў заставацца пад уладай рускай адміністрацыі і збег у Літву. Згаданая ў звароце в. Прусіна — тэта сучасны аднайменны населены пункт Крычаўскага раёна. Аб пацверджанні правоў на маёмасць у сяле Прусіне прасіў царя і Васіль Васільевіч Корсак (АЮЗР, 1889. С. 274-275).

Аляксандр Кашанскі прасіў пацвердзіць правы на сваю маёмасць — сяло Кашаны (АЮЗР, 1889. С. 274). У маёнтак Кашаны ўваходзіла і в. Ананішкі (ИЮМ, 1900. С. 134-136). Павел Самарокаў прасіў аб пацверджанні правоў на в. Варанёва (АЮЗР, 1889. С. 283).

Аляксандр Кучынскі прасіў у цара падараваць яму в. Гарбатку (суч. в. Крычаўскага р-на), якой раней валодаў пан Гарбацкі (АЮЗР, 1889. С. 451). Казак Сцепка Зальсоўскі прасіў цара аб падараванні яму сяла Юшкавічы (АЮЗР, 1889. С. 504), размешчанага ў Крычаўскім тракце (суч. в. Мсціслаўскага р-на).

Багдан Іваноўскі прасіў цара захаваць яго «поместья старинного» — сёлы Мішкавічы, Луць (суч. в. Крычаўскага раёна) (АЮЗР, 1889. С. 855).

Значна больш захавалася зваротаў да караля з просьбай аб пацверджанні страчаных прывілеяў на шляхецкія ўладанні пасля вяртання гэтых зямель.

Так, у 1663 г. земяне Самуіл і Ян Галкоўскія прасілі пацвердзіць правы на ўладанні ў с. Стабаршчыне (суч. в. Крычаўскага р-на) (ИЮМ, 1888. С. 199-202).

У в. Бацвінаўка сучаснага Крычаўскага раёна былі ўладанні Захара Давыдавіча Бутрымовіча і Васіля Корсака (ИЮМ, 1894. С. 458-459; АВАК, 1909. С. 436-437).

У пратэстацыі 1663 г. паноў Кобскіх, Бычкоўскіх і іншых аб нападзенні на іх слуг згадваюцца вёскі Редчыцы і Чубіншчына (ИЮМ, 1888. С. 196-197). Першая з іх з'яўляецца сучаснай в. Рэчыца Чэрыкаўскага раёна, другая — сучасная в. Губіншчына Крычаўскага раёна. У 1664 г. у якасці шляхецкіх уладанняў згадваюцца вёскі Царковішчы (суч. в. Пралетарскае) і Мурын Бор (Касцюковіцкі р-н)

(ИЮМ, 1894. С. 483). Шляхецкім уладаннем была в. Ельна (1671 г.) (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 74 — 75). Сугучны яе назве населены пункт, размешчаны ў сучасным Хоцімскім раёне.

На пачатку XVIII ст. (1721 г.) вёскамі Канічы, Касцюковічы, Царковічы валодаў пан Станіслаў Пішчала (НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 5807, арк. 43). Вялікія ўладанні на поўдні воласці Крычава меў пан Іваноўскі. У іх уваходзілі вёскі «Мушове» (суч. в. Машавое Касцюковіцкага р-на) і Шашалёва, уладанні якой межавалі з уладаннямі дзяржаўнай в. Гаўрыленка (НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3982, арк. 254).

Картаграфаванне дзяржаўных і шляхецкіх уладанняў паказвае, што гаспадарскія землі размяшчаліся ў асноўным за Сожам. Большая частка правабярэжжа Сожа была занята шляхецкімі землямі. На левым беразе Сожа яны размяшчаліся ў акружэнні дзяржаўных зямель, якія своеасаблівым пасам аддзялялі іх ад дзяржаўнай мяжы.

Назіранні за храналогіяй узнікнення паселішчаў на тэрыторыі Крычаўскай воласці паказваюць, што першапачаткова памежжа з Расіяй было слаба заселена. На левым беразе Бесядзі да пачатку XVIII ст. існавалі адзінкавыя паселішчы. Падобная карціна назіралася і з расійскага боку. Так, засяленне памежнай рускай Красназаборскай воласці фактычна пачалося з першых дзесяцігоддзяў XVIII ст. Слаба заселенымі былі ў XVI —XVII стст. і памежныя рускія воласці Салаўянічы і Прыкладні (Крашенинников В. В., 1995. С. 121-124).

Толькі пасля заключэння «Вечнага міру» 1686 г. паміж Рэччу Паспалітай і Рускім царствам, калі на памежжы ўсталяваўся сапраўдны мір, пачаўся працэс каланізацыі гэтых зямель. Асабліва актыўна асвойваліся землі з 20-х гадоў XVIII ст., пасля заканчэння Паўночнай вайны 1700-1721 гг.

Першыя крокі ў асваенні новых зямель зрабіла дзяржава, вылучыўшы для гэтага сваіх прадстаўнікоў. Крычаўскі дзяржаўца Караль Станіслаў Радзівіл у другім дзесяцігоддзі XVIII ст. пачаў асвойваць памежныя землі, а пасля яго смерці, з 1719 і да 1746 г., гэтую справу яшчэ болыл рашуча праводзіла ягоная удава Ганна Катаржына Сангушкаўна Радзівіл.

Такім чынам, воласць Крычава, якая начала фарміравацца на аснове невялікай акругі радзіміцкага пасёлка, на працягу XII —XIV стст. была адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай Смаленскай зямлі, з сярэдзіны XIV ст. — Вялікага княства Літоўскага, а потым і Рэчы Паспалітай. Тэрытарыяльны рост воласці Крычава працягваўся да другой чвэрці XVI ст., калі ў 1529 г. у яе склад была ўключана Алучыцкая воласць. 3 гэтага часу яна прыняла свае канчатковыя памеры, у якіх і заставалася да канца XVIII ст. Апошняя адміністрацыйна-гаспадарчая рэарганізацыя Крычаўскага староства была зроблена на пачатку XVIII ст.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Дзякуючы гістарычна-археалагічнаму даследаванню Крычава, а таксама комплекснаму выкарыстанню як археалагічных, так і пісьмовых крыніц мы змаглі скласці больш-менш пэўную карціну яго развіцця.

Першае сярэднявечнае паселішча ў Крычаве ўзнікла ў пойме Сожа на дзюне ў X ст. У канцы XI — пачатку XII ст. у выніку змены гідрарэжыму яно пераносіцца на былое гарадзішча жалезнага веку Гарадзец, размешчанае на тэрыторыі сучаснага горада.

У першай палове XII ст. у выніку двух паходаў Расціслава Мсціславіча на Чарнігаўскае княства сярэдняе Пасожжа апынулася ў складзе Смаленскай зямлі. Неабходнасць замацавання новых зямель і арганізацыі збору феадальнай даніны выклікала патрэбу ў будаўніцтве на захопленых землях новых гарадскіх цэнтраў. У час актыўнай горадабудаўнічай дзейнасці Расціслава Мсціславіча на Пасожжы былі пабудаваны Мсціслаў, Рослаў, узнікаюць абарончыя збудаванні ў Прупоі. У Крычаве цэнтрам жыцця застаецца гарадзішча Гарадзец, аднак новае невялікае паселішча пачынае фарміравацца на правым, каранным беразе Сожа.

У канцы XII — пачатку XIII ст. плошча гарадзішча Гарадзец, яго аддаленасць ад Сожа перасталі задавальняць надзённыя патрэбы. Акрамя таго, верагодна, палітычная сітуацыя патрабавала ад Смаленскага княства мець у гэтых раёнах, акрамя Мсціслава, яшчэ адну крэпасць. Таму на беразе Сожа будуецца новы ўмацаваны цэнтр — гарадзішча Замкавая тара, якая стала крэпасцю Крычава да канца XVIII ст.

На працягу XIII —XV стст. Крычаў заставаўся невялікім гарадком Смаленскага, а потым Мсціслаўскага княства ў складзе Вялікага княства Літоўскага, які амаль не трапляў на старонкі пісьмовых крыніц.

З пачатку XVI ст. горад апынуўся на неспакойнай мяжы з Рускім царствам, і яго роля як памежнай крэпасці ўзрасла. Амаль безупынныя войны, якія апальвалі сцены горада на працягу XVI ст., прымушалі вялікакняскую уладу звяртаць у вагу на стан яго ўмацаванняў. У вытку горад даволі хутка адраджаўся. Пад сценамі крэпасці рос горад, цэнтр аднайменнай воласці.

На працягу XVI —XVII стст. горад тэрытарыяльна развіваўся, асвойваў новыя раёны. У другой палове XVII — пачатку XVIII ст. у Крычаве акрамя замка пачынае фарміравацца новы, планіровачны і адміністрацыйны цэнтр. У яго ролі выступала рынкавая плошча. Менавіта яна стала тым ядром, ад якога адыходзілі ў розныя бакі шматлікія вуліцы.

Аднак тэрытарыяльнаму і, верагодна, дэмаграфічнаму росту горада увесь час перашкаджалі войны. З пачатку другой трэці XVII ст. колькасць насельніцтва Крычава фактычна не павялічвалася. Горад уступіў у амаль стогадовую паласу дэмаграфічнага крызісу, які быў абумоўлены войнамі 1633 — 1634, 1648—1667 і 1700—1721 гг. У міжваенныя перыяды насельніцтва горада паступова аднаўлялася, што адлюстравана ў павелічэнні колькасці гарадскіх дымаў. Але чарговая вайна нішчыла парасткі новага жыцця. Нават праз чвэрць стагоддзя пасля заканчэння апошняй вайны (1747 г.) насельніцтва горада не дасягнула колькасці 80-х гадоў XVII ст. Да канца XVIII ст. горад не здолеў цалкам адрадзіцца ад пагромаў, якія перанёс на працягу другой чвэрці XVII — першага дзесяцігоддзя XVIII ст. Фактычна гэтыя восемдзесят — дзевяноста гадоў сталі для яго ў поўным сэнсе дэмаграфічнай катастрофай.

Знаёмства з узроўнем развіцця вытворчых сіл Крычава ў XIII —XVIII стст. наказала, што гаспадарчая функцыя гэтага цэнтра мела аграрна-рамесна-гандлёвую спецыялізацыю. Нягледзячы на безумоўную наяўнасць у горадзе рамеснікаў, дзейнасць якіх была вызначальнай (у першую чаргу розныя віды металаапрацоўкі, ад якіх залежаў агульны стан развіцця рамеснай вытворчасці), значная частка яго насельніцтва была звязана з вытворчасцю і перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі.

Гэта ў першую чаргу жыхары горада, якія займаліся сельскагаспадарчай справай як асноўным відам працы, і рамеснікі, звязаныя з вытворчасцю харчавання і вопраткі: піваварь, алейнікі, рэзнікі, пекары, рыбакі, гарбары, кушнеры, шаўцы, краўцы. Аграрная накіраванасць гаспадарчага жыцця сярэднявечнага Крычава не была чымсьці спецыфічным менавіта для

яго. Сярэднявечны горад ніколі не парываў з агракультурай, і аграрна-рамесная арыентацыя была характэрнай рысай для ўсіх малых гарадоў Еўропы.

Крычаў меў пэўныя гандлёвыя дні ў тыдзень і права на дзве ярмаркі ў год, якія наведвалі сяляне з наваколляў і прафесійныя купцы. Апошнія прывозілі рэдкія тавары і скупалі лішкі сельскагаспадарчай і рамеснай вытворчасці. Горад арганічна ўваходзіў у гаспадарчую структуру акругі як цэнтр лакальнага абмену. Таму развіццё Крычава было абумоўлена і неабходнасцю яго існавання як цэнтра, які ўзяў на сябе забеспячэнне акругі якаснымі рамеснымі таварамі ў абмен на сельскагаспадарчую прадукцыю і сыравіну.

Назіранні за фарміраваннем воласці Крычава паказваюць, што яна пачала развівацца з невялікай акругі радзіміцкага пасёлка, у XII — XIV стст. стала адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай Смаленскай зямлі, з сярэдзіны XIV ст. — Вялікага княства Літоўскага, а потым і Рэчы Паспалітай. Тэрытарыяльны рост воласці працягваўся да другой чвэрці XVI ст., да ўключэння ў 1529 г. у яе склад Алучыцкай воласці. З гэтага часу яна да канца XVIII ст. заставалася ў гэтых памерах. У адміністрацыйна-гаспадарчым плане акруга Крычава падзялялася на шляхецкія і дзяржаўныя ўладанні — Крычаўскае староства, якое, у сваю чаргу, на больш дробныя адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі — воласці ці войтаўствы. Апошняя адміністрацыйна-гаспадарчая рэарганізацыя Крычаўскага староства была зроблена на пачатку XVIII ст.

Гісторыя сярэднявечнага Крычава, рэканструяваная з дапамогай археалагічных і пісьмовых крыніц, дазваляе лепш зразумець лёс тых гарадоў, якія адносіліся да катэгорыі так званых «малых». Аднак хоць яны і не мелі «класічнага» набору гарадскіх «прыкметаў», уносілі спецыфічны уклад не толькі ў палітычную, але і ў гаспадарчую дзейнасць сістэмы феадальных дачыненняў.

Наша праца не завяршае, а толькі падводзіць вынікі пэўнага этапу у шматгадовым вывучэнні Крычава. Археалагічныя і пісьмовыя крыніцы хаваюць яшчэ шмат таямніц, якія, спадзяемся, дазволяць больш поўна асвятліць гісторыю гэтага горада.

# ФАУНА КРЫЧАЎСКАГА ГАРАДЗІШЧА ГАРАДЗЕЦ

Адным з відаў масавых знаходак на гарадзішчы Гарадзец Крычава з'яўляюцца палеазаалагічныя рэшткі дамашніх і дзікіх жывёл, якія ўжо неаднаразова станавіліся аб'ектам даследавання. Матэрыялы, атрыманыя ў ходзе даследаванняў М. А. Ткачова (1974 г.), апрацоўваліся і былі апублікаваны В. В. Шчагловай'. Матэрыялы палявых даследаванняў 1995, 1998, 1999 гг. першапачаткова апрацаваў П. Ф. Каліноўскі і ўвеў іх у навуковы зварот[2]. Аўтар у сваім артыкуле паслойна разгледзеў відавы састаў дамашніх і дзікіх жывёл, даў суадносіны кожнага з відаў жывёл зыходзячы з агульнай колькасці касцей і колькасці асобін у кожным слоі. Зыходзячы з гэтага, П. Ф. Каліноўскім была зроблена выснова аб тым, што насельніцтва гарадзішча займалася жывёлагадоўляй (перавага аддавалася буйной рагатай жывёле) і паляваннем для забеспячэння мясам, а пушны промысел меў другаснае значэнне[3].

Аўтара дадзенага артыкула таксама прывабіла астэалагічная калекцыя з г. Крычава. Ім былі перагледжаны матэрыялы 1995, 1998, 1999 гг., апрацаваныя раней П. Ф. Каліноўскім[4], і, акрамя таго, апрацаваны новыя матэрыялы — 1997 і 2000 гг. У адрозненне ад даследаванняў П. Ф. Каліноўскага мы пры апрацоўцы матэрыялу звярталі ўвагу і на полаўзроставы састаў статка свойскіх жывёл, з дапамогай розных каэфіцыентаў быў вылічаны рост некаторых жывёл, дадзены больш падрабязны аналіз суадносін відаў і кожнага з іх паасобку па слаях.

Акрамя таго, былі перагледжаны (па справаздачах) дадзеныя аб жывёлагадоўлі і паляванні Крычава, якія раней ужо былі апублікаваны В. В. Шчагловай[5]. На жаль, трэба адзначыць, што ў апублікаваныя ёй высновы ўкралася недакладнасць, якая некалькі змяншае каштоўнасць вынікаў папярэдняга даследавання.

У апублікаваным В. В. Шчагловай артыкуле матэрыялы з Крычава прадстаўлены злучанымі разам з двух розных помнікаў — гарадзішчаў Гарадзец і Замкавая гара. Акрамя таго, усе матэрыялы храналагічна змешчаны ў адным перыядзе — X —XIV стст., хаця гарадзішча Гарадзец — помнік шматслойны, а на гарадзішчы Замкавая гара слаі X —XI стст. практычна адсутнічаюць.

Таму ў дадзеным артыкуле мы выкарыстоўвалі вынікі даследаванняў астэалагічнага матэрыялу, праведзеныя В. В. Шчагловай, але разлажылі яго па стратыграфічных слаях, якія адрозніваюцца рознымі храналагічнымі рамкамі. Такім чынам, у дадзенай публікацыі матэрыял апрацоўваўся па наступных пазіцыях:

— вызначэнне відавога складу жывёл;

— вызначэнне полаўзроставага складу;

— суадносіны паміж відамі і колькасцю асобін кожнага віду па слаях.

На падставе гэтых вызначэнняў былі зроблены высновы адносна характару жывёлагадоўлі і палявання на гарадзішчы Гарадзец.

Павідавы агляд дамашніх і дзікіх жывёл мы лічым неабходным рабіць па раскопачных слаях, знаходкі ў якіх адносяцца да розных храналагічных перыядаў: першы слой — XI — XIII стст. н. э., другі — II —IV стст. н. э., трэці — III ст. да н. э. — II ст. н. э.

За час даследаванняў гарадзішча Гарадзец (1974, 1995, 1997, 1999, 2000 гг.) былі сабраны 1442 косткі. Цэлых касцей у матэрыяле вельмі мала, шмат на якіх ёсць пэўныя сляды апрацоўкі, расколы, пагрызы, што дазваляе нам аднесці гэтыя косці да «кухонных рэштkaў». Вызначыць удалося не усе косці — 227 (15,74%) з іх невызначальныя. Відавы склад жывёл у нашай калекцыі даволі разнастайны. Дамашнія жывёлы ўключаюць 6 відаў: буйная рагатая жывёла, дробная рагатая жывёла, свіння, конь, сабака, кошка. Дзікія жывёлы прадстаўлены 10 відамі: зубр, бабёр рачны, лось, мядзведзь, казуля, дзік, заяц, ліса, куніца, вадзяная палёўка. Палавы і ўзроставы склад жывёл таксама разнастайны: ёсць самкі і самцы, маладыя і дарослыя асобіны.

**Бык дамашні (Bos taurus).** Усяго сабрана 419 касцей буйной рагатай жівёлы мінімальна ад 48 асобін: у першым слоі — 17 асобін, у другім — 15, у трэцім — 16. Ва ўсіх слаях буйная рагатая жывёла і па колькасці касцей, і па колькасці асобін займае першае месца (табл. 1, 2, 3, 8), Да XI — XIII стст. колькасць асобін буйной рагатай жывёлы і працэнт іх у складзе статка некалькі павялічваюцца, што можа быць сведчаннем узрастаючай ролі жывёлагадоўлі ў гаспадарцы насельніцтва (табл. 8). Пашырэнне засвоенай тэрыторыі і, такім чынам, павелічэнне плошчы для выпасу жывёлы і магчымасць назапашваць на зіму больш кармоў з'яўляецца адным з важкіх фактараў павелічэння пагалоўя жывёлы. Разнастайны ўз-

роставы склад: у першым пласце — толькі 2 маладыя асобіны (не дасягнуўшыя двух гадоў), у другім і трэцім — па адной. Гэта сведчыць аб тым, што жывёлу стараліся захаваць як мага даўжэй для атрымання малака. Зыходзячы з памераў касцей, іх прапорцый, можна зрабіць выснову, што ў нашым матэрыяле прысутнічаюць косці толькі аднаго быка, аснову ж статка складаюць каровы. Дзякуючы каэфіцыентам, прапанаваным В. І. Цалкіным[6], мы змаглі вылічыць рост кароў гарадзішча Гарадзец. У сярэднявеччы (першы слой — XI— XIII стст.) рост кароў складаў 96,3—114,4 см (у сярэднім 105,27 см); у II —IV стст. н. э. (другі слой) - 107,87-126,7 см (у сярэднім 118,5 см); у III ст. да н. э. — II ст. н. э. (трэці слой) — 103,53 — 114,2 см (у сярэднім 108,35 см) і адзін бык быў ростам 128,5 см. Калі ўлічваць, што рост буйной рагатай жывёлы ў сярэднявечнай Беларусі вагаўся ў межах 89,7 — 129,92 см[7], а ў жалезным веку — 100— 119 см[8], то можна лічыць, што буйная рагатая жывёла з Крычава пападае ў межы зменлівасці для беларускай жывёлы ў розныя храналагічныя перыяды.

Паколькі аснову статка складаюць косці дарослых кароў, то можна лічыць, што насельніцтва гарадзішча займалася развядзеннем буйной рагатай жывёлы дзеля атрымання мяса і малака, значыць, жывёлагадоўля мела мяса-малочны характар.

**Дробная рагатая жывёла (Ovis aries et Capra hircus).** Усяго сабрана 198 касцей, якія належалі мінімальна 29 асобінам (з іх 3 казы). І па колькасці касцей, і па колькасці асобін дробная рагатая жывёла сярод дамашніх жывёл займае трэцяе месца пасля буйной рагатай жывёлы і свінні. Сярод асобін дробнай рагатай жывёлы 12 — маладыя (не дасягнуўшыя 1,5 — 2 гадоў), астатнія — дарослыя асобіны (больш двух гадоў). Аснову статка складалі самкі, самцы ж прадстаўлены 3 асобінамі. З дапамогай каэфіцыентаў В. І. Цалкіна[9] нам удалося вылічыць рост некаторых асобін. Ён вагаўся ў межах: для сярэднявечча (XI —XIII стст.) — 51,6 — 55,4 см (у сярэднім 53,5 см), у другім слоі — 55,06 — 58,11 см (у сярэднім 56,6 см), у трэцім слоі — 51,19 — 60,5 см (у сярэднім 55,85 см). Можна заўважыць, што ў XI — XIII стст. вышыня ў карку дробнай рагатай жывёлы была некалькі меншай, чым у больш ранні перыяд існавання гарадзішча, што з'яўляецца даволі характэрнай прыкметай для тэрыторыі Беларусі. В. В. Шчаглова для сярэднявечнай Беларусі вызначала рост дробнай рагатай жывёлы ў межах 56,63 — 65,34 см (у сярэднім 60,06 см)[10], для жалезнага веку — у межах 54 — 64 см (у сярэднім 58,41см)[11]. Такім чынам бачна, што ў сярэднявечным Крычаве (на Гарадцы) дробная рагатая жывёла была прадстаўлена больш дробнай формай у параўнанні з сярэднімі значэннямі для Беларусі.

**Свіння дамашняя (Sus scrofa domestica).** У нашых матэрыялах і па колькасці асобін, і па колькасці костак свіння займае другое месца пасля буйной рагатай жывёлы. Усяго сабрана 234 косці, якія належалі мінімальна 36 асобінам, 12 з якіх маладыя (каля 1,5 года). Сярод асобін дамашніх жывёл колькасць свіней да XI —XIII стст. некалькі памяншаецца — з 13 да 11 (табл. 8). У матэрыялах пераважаюць верхнія і ніжнія сківіцы, лапатка (табл. 4, 5, 6). З дапамогай каэфіцыентаў, распрацаваных Тайхертам[12], мы вылічылі рост свінні на гарадзішчы Гарадзец. Ён склаў: для першага слоя — 50,96 — 66,5 см (у сярэднім 58,75 см), для трэцяга — 49,5 — 67,3 см (у сярэднім 55,93 см). Рост сярэднявечных беларускіх свіней вагаўся ў межах 60,86—68,48 см (у сярэднім 66,44 см)[13], а для жалезнага веку — 66,2 — 76,9 см (у сярэднім 72,7 см)[14]. Такім чынам, свінні ў Крычаве былі меншыя, чым у сярэднім па ўсёй тэрыторыі Беларусі на працягу усяго часу існавання гарадзішча.

**Конь (Equus caballus).** Усяго вызначана 81 косць, што належалі мінімальна 16 дарослым і 1 маладой асобінам. Сярод дамашніх жывёл колькасць асобін каня ад трэцяга слоя к першаму памяншаецца з 8 да 4 (табл. 8). Відаць, значэнне каня ў якасці крыніцы мяса для жыхароў гарадзішча некалькі зніжаецца. Цэлых касцей вельмі мала. Найбольшую колькасць касцей складаюць фрагменты пясці, галёначных касцей і другія фалангі. Зыходзячы з «суадносіны шырыні сярэдзіны дыяфіза» для першай фалангі[15], якая для першага слоя складае 44,2%, для трэцяга — 39,08 — 41,07% (40,44%), коней з гарадзішча Гарадзец можна аднесці да шыракаверхіх, такім чынам, да коней усходняга тыпу.

Улічваючы тое, што сярод касцей каня большасць фрагментарныя, многія расколаты, з пагрызамі, ці абпалены, можна лічыць, што коні ўжываліся насельніцтвам гарадзішча ў ежу. Конь мог выкарыстоўвацца не толькі для атрымання мяса, але і малака, скур, у якасці працоўнай сілы і сродку перамяшчэння. І калі ўлічваць, што на падножным корме ён можа знаходзіцца болып доўгі час, чым буйная рагатая жывёла, пакуль снежнае покрыва не стане значным (10—15 см), што скарачае колькасць назапашаных на зіму кармоў[16], то становіцца даволі зразумелай дастаткова вялікая колькасць асобін каня ў другім і трэцім слаях.

**Сабака дамашні (Canis familiaris).** Вызначана 4 косці сабакі, якія належаць мінімальна 3 асобінам. Цікава, што ў сярэднявечным слоі косці сабакі не знойдзены. Усе косткі фрагментарныя і належаць дарослым асобінамі невялікіх памераў.

**Кошка дамашняя (Felis domestica).** У матэрыялах да кошкі адносіцца 26 касцей, якія належаць 3 дарослым асобінам.

І па колькасці асобін, і па колькасці касцей дзікія жывёлы ўступаюць дамашнім.

**Зубр (Bison bonasus).** Самая буйная жывёла, якая сустракаецца ў Еўропе. Вышыня ў карку 158—195 см, жывая вага 430 — 1000 кг. Намі вызначана 29 касцей, якія належаць 8 асобінам, 2 з якіх маладыя (у трэцім слоі). Усе косткі ў калекцыі фрагментарныя, расколатыя, са слядамі пагрызаў. Размеркаванне па слаях нераўнамернае: першы — 4 косці ад адной асобіны, у другім — 12 костак ад трох асобін, у трэцім — 13 костак ад чатырох асобін. Здабывалі гэтую жывёлу дзеля мяса, паколькі ад аднаго зубра можна атрымаць мяса ў чатыры-пяць разоў больш, чым ад адной каровы[17].

**Бабёр рачны (Castor fiber).** Бабёр — самы буйны прадстаўнік атрада грызуноў, даўжыня цела 75— 120 см, вага каля 20 — 30 кг[18]. 44 косткі бабра ў калекцыі належаць, верагодна, не менш чым 18 асобінам. Па колькасці асобін бабёр сярод дзікіх жывёл займае другое месца. Па слаях яны размяркоўваюцца наступным чынам: у першым і ў другім па 5 асобін, у трэцім — 8. Ва ўсіх слаях захаванасць касцей бабра добрая. Здабываўся ён дзеля футра і, верагодна, спажываўся ў ежу[19]. У матэрыялах маюцца як косці дарослых, так і маладых жывёлаў (4 асобіны).

**Лось (Alces alces).** Самы буйны прадстаўнік сямейства аленяў. Даўжыня цела да 3 м, вышыня ў карку 190— 235 см, вага можа дасягаць 570 кг[20]. Па колькасці асобін дзікіх жывёл лось разам з дзіком займае першае месца. Намі вызначана 76 касцей, якія належаць мінімальна 20 асобінам (табл. 1, 2, 3), з якіх 3 асобіны маладыя. Наибольшая колькасць касцявых рэштках прыходзіцца на першыя фалангі, даўжыня якіх вар'іравала: у першым слоі — 80,2 мм (для сярэднявечнай Беларусі тэта значэнне складае 76 — 94 мм[21]); у другім — 81,1 — 92,3 мм (у сярэднім 86,7 мм); у трэцім — 83,4 — 93,4 (у сярэднім 88,1 мм) (для ранняга жалезнага веку — 75 — 97 мм[22]). Касцявыя рэшткі лася па слаях размеркаваны нераўнамерна: так, у першым слоі — 4 асобіны, у другім — 9 асобін, у трэцім — 7 асобін. Насельніцтва гарадзішча на лася палявала дзеля мяса, паколькі ад адной асобіны можна атрымаць у 3— 4 разы мяса больш, чым ад адной каровы[21].

**Мядзведзь** (Ursus **arctos).** Самы буйны драпежнік Беларусі. Даўжыня цела 130—185 см, вага 113 — 270 і больш кг. Знаходкі мядзведзя даволі тыповыя для археалагічных помнікаў Беларусі.

Усяго вызначана 22 косткі, якія належаць мінімальна 11 асобінам (табл. 1, 2, 3), адна з якіх маладая. У трэцім слоі знойдзены касцявыя рэшткі 5 асобін мядзведзя, у другім — 4, у першым — 2. Мядзведзь здабываўся дзеля мяса і шкуры. Так, выхад мяса ад адной асобіны складае каля 100 кг. У матэрыялах не сустрэты кіпцюровыя фалангі і іклы мядзведзя, якія насельніцтва магло выкарыстоўваць для вытворчасці падвесак — амулетаў ці караляў, як, напрыклад, на гарадзішчы Кашчэлічы[24].

**Казуля (Capreolus capreolus).** Невялікі прадстаўнік сямейства аленяў. Даўжыня цела 92— 136 см, вышыня ў карку 65 — 85 см, вага 20 — 60 кг. У нашых матэрыялах 13 касцей казулі належаць 7 асобінам: у першым і трэцім слаях па 2 асобіны, у другім — 3 (табл. 1, 2, 3). Косткі моцна раздробнены. На казулю палявалі дзеля атрымання мяса (выхад мяса каля 25 кг) і скур.

**Дзік (Sus scrofa ferus).** Даўжыня цела 150 — 205 см, вага 64—178 кг у самцоў; адпаведна 129—169 см і 48 — 109 кг у самак[25]. Косткі дзіка з'яўляюцца звычайнымі ў археалагічных помніках па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Намі вызначана 43 косткі ад 18 асобін, дзве з якіх не дасягнулі 2 гадоў. У першым слоі — 7 асобін, у другім — 5 асобін, у трэцім — 7 асобін. З гэтага бачна, што знаходкі дзікоў па слаях размеркаваны дастаткова раўнамерна, і можна лічыць, што дзік на працягу ўсяго існавання гарадзішча быў важнай прамысловай жывёлай, на якую палявалі дзеля мяса. У матэрыялах прысутнічаюць і косці самак, і косці самцоў (як мінімум 2 асобіны). З дапамогай каэфіцыентаў, прапанаваных Тайхертам[26], нам удалося вызначыць рост некаторых асобін. У першым слоі рост дзіка склаў 91,9 см, у другім — 75,18 см, у трэцім ён змяняўся ў межах 79,6-93,08 см (у сярэднім 88,4 см). В. В. Шчаглова ўказвае вышыню ў карку для сярэднявечных дзікоў у межах 90,29—113,82 см (у сярэднім 101,74см)[27].

**Заяц (Lepus sp.).** 18 костак зайца належаць, верагодна, 10 асобінам. Размеркаванне касцей зайца па слаях нераўнамернае: у першым слоі 16 костак ад 9 асобін, у другім — 2 косткі ад 1 асобіны, у трэцім жа слоі няма ніводнай косткі зайца. Відаць, заяц не меў вялікага прамыс-

ловага значэння для насельніцтва гарадзішча ў II— IV стст. н. э. і асабліва ў III ст. да н. э. — II ст. н. э., а набывае яго к XI ст. Гэта, відаць, звязана з тым, што ў больш ранні час існавання гарадзішча людзі аддавалі перавагу паляванню на больш буйную здабычу для атрымання мяса і футры, як, напрыклад, зубр, мядзведзь ці лось.

Ліса (Vulpes vulpes). З'яўляецца звычайным відам па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Усяго знойдзена 6 костак лісы, якія належаць мінімальна 3 асобінам (па 1 асобіне ў кожным слоі). Косткі моцна разбураны, і для вымярэнняў не прыгодныя. Ліса з'яўляецца карыснай прамысловай жывёлай, на якую палююць дзеля яе футра.

Куніца (Martes sp). Знаходкі куніц на тэрыторыі Беларусі нешматлікія. У матэрыялах раскопак 1974 г. вызначана 1 костка, якая належала куніцы[28]. Здабывалася дзеля шкурак, але вялікага прамысловага значэння на тэрыторыі рэспублікі гэтая жывёла не мела.

Вадзяная палёўка (Arvicola terrestris). 1 костка, якая належыць адной дарослай асобіне ў культурным слоі, апынулася, відаць, выпадкова і не звязана з гаспадарчай дзейнасцю чалавека.

## Заключэнне

Палеазаалагічнае даследаванне матэрыялаў з гарадзішча Гарадзец з Крычава наказала, што дамашнія жывёлы прадстаўлены тут 6 відамі: буйная рагатая жывёла, дробная рагатая жывёла, свіння, конь, кошка, сабака. Дзікія жывёлы прадстаўлены 10 відамі: бабёр рачны, заяц, зубр, вадзяная палёўка, дзік, казуля, куніца, ліса, лось, мядзведзь.

У першым слоі (XI —XIII стст.) сярод асобін дамашніх жывёл першае месца належыць буйной рагатай жывёле: мінімальна 17 асобін, 39,53% ад агульнай колькасці асобін дамашніх жывёл ці 22,97% ад агульнай колькасці асобін, на другім месцы стаіць свіння (11 асобін, 25,58 і 14,86% адпаведна), потым дробная рагатая жывёла (10 асобін, 23,26 і 13,51%), конь (4 асобіны, 9,3 і 5,41%), кошка (1 асобіна, 2,33 і 1,35%) (табл. 1, 8). Дзікія жывёлы прадстаўлены зайцам (9 асобін, 12,16% ад агульнай колькасці асобін), дзіком (7 асобін, 9,46%), бабром (5 асобін, 6,76%), ласём (4 асобіны, 5,41%), казуляй і мядзведзем (па 2 асобіны, 2,7%), зубром і лісой (па 1 асобіне, 1,35%) (табл. 1).

У другім слоі (II —IV стст. н. э.) буйной рагатай жывёле належала мінімальна 15 асобін (35,71% ад колькасці асобін дамашніх жывёл ці 20,27% ад агульнай колькасці жывёл), свінне — 12 асобін (28,57 і 16,22% адпаведна), дробнай рагатай жывёле — 8 (19,05 і 10,81%), каню — 5 (11,9 і 6,76%), сабаку — 2 асобіны (4,76 і 2,7%) (табл. 2, 8). Сярод дзікіх жывёл 9 асобін належаць ласю (12,16% ад агульнай колькасці асобін), па 5 асобін — бабру і дзіку (6,76%), 4 — медзвядзю (5,41%), па 3 — зубру і казулі (4,05%), па 1 асобіне — зайцу, куніцы, лісе (1,35%) (табл. 2).

У трэцім слоі (III ст. н. э. — II ст. н. э.) да буйной рагатай жывёлы можна аднесці мінімальна 16 асобін (31,37% ад колькасці асобін дамашніх жывёл ці 18,6% ад агульнай колькасці жывёл), свінні — 13 асобін (25,49 і 15,12% адпаведна), дробнай рагатай жывёлы — 11 (21,57 і 12,79%), каня - 8 (15,69 і 9,3%), кошкі — 2 (3,92 і 2,33%), сабакі — 1 асобіну (1,96 і 1,16%) (табл. 3, 8). Дзікія жывёлы прадстаўлены: бабёр — 8 асобін (9,3% ад агульнай колькасці асобін), лось і дзік — па 7 (8,14%), мядзведзь — 5 (5,81%), зубр — 4 (4,65%), казуля — 2 (2,33%), ліса і вадзяная палёўка — па 1 асобіне( 1,16%) (табл. 3).

Такім чынам, першасны аналіз указвае на вядучую ролю жывёлагадоўлі над паляваннем у насельніцтва Гарадца пачынаючы з жалезнага веку (табл. 7). Першае месца сярод дамашніх жывёл займае буйная рагатая жывёла, на другім месцы свіння, потым — дробная рагатая жывёла і конь (ва ўсіх слаях). Такія суадносіны відаў дамашніх жывёл характэрны для шэрага помнікаў. Напрыклад, для гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры Дзямідаўка і Тушамля[29], сярэднявечных Чарнігава[30], Лукомля[31], Турава[32]. Аснову статка складалі каровы. Колькасць асобін буйной рагатай жывёлы павялічваецца ад трэцяга слоя да першага, што можа быць сведчаннем павелічэння ролі гэтага віду дамашніх жывёл у гаспадарцы насельніцтва гарадзішча (дзеля атрымання мяса, малака, скур). Але паколькі развядзенне буйной рагатай жывёлы патрабуе даволі вялікіх затрат працы, даволі працяглы перыяд вырошчвання асобін для атрымання пагалоўя, неабходнасць назапашвання кармоў для ўтрымання жывёл у зімовы час, то таму ва ўсіх слаях назіраецца высокі працэнт скараспелых відаў дамашніх жывёл — свіней і дробнай рагатай жывёлы.

Асабліва добра праглядаецца высокая роля пагалоўя свіней у эпоху ранняга жалезнага веку і яе плаўнае паніжэнне да сярэднявечча. Дробная рагатая жывёла прадстаўлена і козамі, і авечкамі. Вышыня ў карку дробнай рагатай жывёлы і свіней з гарадзішча Крычава некалькі меншая, чым сярэдняя па Беларусі ў розныя храналагічныя перыяды.

У матэрыялах даволі шмат касцявых рэшткаў каня, якія адносяцца да «кухонных рэшткаў», што сведчыць аб ужыванні дарослых коней жыхарамі гарадзішча ў ежу. 3 табл. 8 бачна, што ад трэцяга слоя да першага павялічваецца колькасць асобін буйной рагатай жывёлы, некалькі змяншаецца колькасць асобін свіней (з 13 да 11) і значка скарачаецца колькасць асобін каня (з 8 асобін да 4). Колькасць асобін дробнай рагатай жывёлы практычна не змянялася. Зыходзячы з усяго вышэйсказанага, можна зрабіць выснову аб тым, што жывёлагадоўля на гарадзішчы мела мяса-малочны накірунак.

Знаёмства з палеазаалагічнымі рэшткамі дзікіх жывёл з гарадзішча Гарадзец дазваляе не толькі вывучыць відавы склад паляўнічых трафеяў, але і прасачыць змяненні іх відавога саставу, а адсюль зрабіць высновы аб характары засваення прылеглых тэрыторый.

Асноўнымі аб'ектамі палявання былі буйныя капытныя (зубр, лось, казуля, дзік, мядзведзь), якія здабываліся дзеля мяса. Для атрымання футры палявалі на бабра, зайца, куніц, ліс.

Колькасны аналіз палеазаалагічнага матэрыялу дзікіх жывёл паказвае выразную тэндэнцыю змяншэння паляўнічых трафеяў буйных жывёл. Ад трэцяга пласта да першага скарачаецца колькасць зуброў, ласёў, мядзведзяў. Але, пачынаючы з другога слоя, у якасці паляўнічай здабычы з'яўляецца заяц, які ў першым слоі дасягае 12,16% ад агульнай колькасці асобін (табл. 1, 2, 3). Такое плаўнае зніжэнне колькасці здабываных буйных жывёл, верагодна, сведчыць аб ідучым працэсе засваення тэрыторый, у выніку чаго буйныя і асцярожныя жывёлы ўсё далей адыходзяць ад паселішчаў і тэрыторый, якія асвойвала яго насельніцтва. У выніку жыхары Гарадца пачынаюць звяртаць увагу на больш дробную дзічыну — зайцоў.

Акрамя атрымання мяса і шкур, косці і рога дзікія жывёлы маглі выкарыстоўвацца жыхарамі гарадзішча для вытворчасці амулетаў, падвесак. Так, напрыклад, у трэцім слоі раскопу 1997 г. быў знойдзены амулет, зроблены з ікла дзіка.

Нягледзячы на перавагу ў матэрыяле колькасці асобін дамашніх жывёл (табл. 7), мы лічым, што паляванне ў значнай ступені забяспечвала мясам насельніцтва гарадзішча, па крайняй меры, у ніжніх двух слаях (III ст. да н. э. — IV ст. н. э.), дзе здабычай паляўнічых станавіліся буйныя жывёлы, адна асобіна якіх дае мяса ў некалькі разоў больш, чым адна карова.

Табліца 1

**Відавы склад жывёл з гарадзішча Гарадзец. Слой-1**

| Від | Колькасць касцей | % ад агульнай колькасці касцей | Колькасць асобін | % ад агульнай колькасці асобін |
|---|---|---|---|---|
| Бык дамашні | 139 | 40,41 | 17 | 22,97 |
| Дробная рагатая жывёла | 75 | 21,80 | 10 | 13,51 |
| Свіння дамашняя | 42 | 12,21 | 11 | 14,86 |
| Конь | 6 | 1,74 | 4 | 5,41 |
| Кошка дамашняя | 24 | 6,98 | 1 | 1,35 |
| Бабёр рачны | 9 | 2,62 | 5 | 6,76 |
| Заяц | 16 | 4,65 | 9 | 12,16 |
| Зубр | 4 | 1,16 | 1 | 1,35 |
| Дзік | 14 | 4,07 | 7 | 9,46 |
| Казуля | 5 | 1,45 | 2 | 2,70 |
| Ліса | 3 | 0,87 | 1 | 1,35 |
| Лось | 4 | 1,16 | 4 | 5,41 |
| Мядзведзь | 3 | 0,87 | 2 | 2,70 |
| Усяго | 344 | 100 | 74 | 100 |

Табліца 2

**Відавы склад жывёл з гарадзішча Гарадзец. Слой-2**

| Від | Колькасць касцей | % ад агульнай колькасці касцей | Колькасць асобін | % ад агульнай колькасці асобін |
|---|---|---|---|---|
| Бык дамашні | 118 | 35,87 | 15 | 20,27 |
| Дробная рагатая жывёла | 38 | 11,55 | 8 | 10,81 |
| Свіння дамашняя | 65 | 19,76 | 12 | 16,22 |
| Конь | 21 | 6,38 | 5 | 6,76 |
| Сабака дамашні | 2 | 0,61 | 2 | 2,70 |
| Бабёр рачны | 14 | 4,26 | 5 | 6,76 |
| Заяц | 2 | 0,61 | 1 | 1,35 |
| Зубр | 12 | 3,65 | 3 | 4,05 |
| Дзік | 8 | 2,43 | 5 | 6,76 |
| Казуля | 5 | 1,52 | 3 | 4,05 |
| Куніца | 1 | 0,30 | 1 | 1,35 |
| Ліса | 1 | 0,30 | 1 | 1,35 |
| Лось | 36 | 10,94 | 9 | 12,16 |
| Мядзведзь | 6 | 1,82 | 4 | 5,41 |
| Усяго | 329 | 100 | 74 | 100 |

Табліца 3

**Відавы склад жывёл з гарадзішча Гарадзец. Слой-3**

| Від | Колькасць касцей | % ад агульнай колькасці касцей | Колькасць асобін | % ад агульнай колькасці асобін |
|---|---|---|---|---|
| Бык дамашні | 162 | 29,89 | 16 | 18,60 |
| Дробная рагатая жывёла | 85 | 15,68 | 11 | 12,79 |
| Свіння дамашняя | 127 | 23,43 | 13 | 15,12 |
| Конь | 54 | 9,96 | 8 | 9,30 |
| Кошка дамашняя | 2 | 0,37 | 2 | 2,33 |
| Сабака дамашні | 2 | 0,37 | 1 | 1,16 |
| Бабёр рачны | 21 | 3,87 | 8 | 9,30 |
| Зубр | 13 | 2,40 | 4 | 4,65 |
| Дзік | 21 | 3,87 | 7 | 8,14 |
| Казуля | 3 | 0,55 | 2 | 2,33 |
| Ліса | 2 | 0,37 | 1 | 1,16 |
| Лось | 36 | 6,64 | 7 | 8,14 |
| Мядзведзь | 13 | 2,40 | 5 | 5,81 |
| Вадзяная палёўка | 1 | 0,18 | 1 | 1,16 |
| Усяго | 542 | 100 | 86 | 100 |

Т а б л і ц а 4

Анатамічны набор касцявых рэштак з гарадзішча Гарадзец. Слой-1
(тут і ў табл. 5, 6 — без уліку дадзеных раскопан 1974 г.)

| Косць | Брж | Држ | Свіння дам. | Конь | Конка дам. | Бабёр рачны | Заяц | Зубр | Ліса | Лось | Дзік | Казуля | Мядзведзь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-я фаланга | 10 | 4 | 1 | 1 | | | | | | 1 | | | |
| 2-я фаланга | 8 | 1 | 1 | 1 | | | | | | | 1 | | |
| Астрагал | 6 | | 5 | | | | | | | | | | |
| Вялікая галёначная | 5 | 7 | | 1 | 3 | | | | 2 | | | | |
| Малая галёначная | | | | | | 1 | | | | | | | |
| Сцягновая | | 4 | 1 | | 2 | 1 | 3 | | | | | 2 | |
| Верхняя сківіца | 2 | | 2 | | | | | 1 | | | | | |
| Зуб ізаляваны | 21 | 3 | 2 | 1 | | | | | | 1 | | | |
| Лакцявая | 1 | 2 | 3 | | 2 | | | | | | 2 | | |
| Лапатка | 8 | 5 | 4 | | 2 | 1 | 1 | 1 | | | | | |
| Прамянёвая | 5 | 2 | 1 | 1 | 3 | | | | 1 | | | | |
| Ніжняя сківіца | 8 | 4 | 4 | | 1 | | 1 | | | | 1 | | 1 |
| Плечавая | 4 | 5 | 2 | | 3 | | 1 | | | | 4 | 1 | |
| Плюсневая | 4 | 5 | 2 | | | | | | | | | 1 | |
| Пазванок | 10 | 15 | 3 | | 8 | 1 | | | | | 1 | | 1 |
| Пясцевая | 7 | 7 | 4 | | | | | 1 | | | | | |
| Пясцевая ці плюсневая | 3 | | | | | | | | | | | | |
| Пятачная | 7 | | 1 | | | | | 1 | | | 1 | | 1 |
| Рабро | 7 | 3 | 3 | | | | 2 | | | | | | |
| Рог | | 1 | | | | | | | | | | | |
| Тазавая | 2 | 2 | | | | 2 | 3 | | | | | 1 | |
| Перадплюсневая | 3 | | | | | | | | | | | | |
| Фрагмент чэрапа | | | | | | 1 | | | | | | | |
| Усяго | 121 | 70 | 39 | 5 | 24 | 7 | 11 | 4 | 3 | 2 | 10 | 5 | 3 |

**З а ў в а г а.** Тут і далей: Брж — буйная рагатая жывёла; Држ — дробная рагатая жывёла.

Т а б л і ц а 5

Анатамічны набор касцявых рэштак з гарадзішча Гарадзец. Слой-2

| Косць | Брж | Држ | Свіння дамашняя | Конь | Сабака дамашні | Бабёр рачны | Заяц | Зубр | Ліса | Лось | Дзік | Казуля | Мядзведзь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-я фаланга | 10 | 1 | 1 | 1 | | | | 1 | | 8 | | | |
| 2-я фаланга | 6 | | 1 | 2 | | | | | | 3 | | | 1 |
| 3-я фаланга | | | | 1 | | | | | | 1 | 1 | | |
| Астрагал | 7 | | | 2 | | | | 1 | | 1 | 1 | | |
| Вялікая галёначная | 1 | 6 | 1 | 1 | | 2 | | 2 | | | | 1 | |
| Сцягновая | 3 | 4 | 2 | 1 | | 3 | | 2 | | | | 1 | |
| Верхняя сківіца | 1 | | 11 | 1 | | | | | | 2 | 1 | | |
| Зуб ізаляваны | 23 | 3 | 5 | | | 1 | | 1 | | | 2 | | |
| Лакцявая | 1 | | 3 | | | 2 | | | | | 1 | 1 | |
| Лапатка | 14 | 2 | 2 | 1 | | 1 | | | | 1 | | | 1 |
| Прамянёвая | 5 | 3 | 3 | 2 | 1 | | | | | 1 | | 2 | |
| Ніжняя сківіца | 8 | 2 | 9 | | 1 | 3 | | | | 3 | 1 | | 1 |
| Плечавая | 1 | 2 | 2 | | | 1 | 1 | | 1 | 2 | | | |
| Плюсневая | 3 | 3 | 3 | 1 | | | | 1 | | 1 | | | 1 |
| Пазванок | 4 | 4 | 1 | 1 | | | | 1 | | | | | |
| Пясцевая | 8 | 2 | 5 | 4 | | | | 2 | | 7 | | | 1 |
| Пясцевая ці плюсневая | 1 | | | | | | | | | | | | |
| Пятачная | 4 | 2 | 1 | 2 | | | | 1 | | | | | |
| Рабро | | 1 | 8 | | | | | 1 | | 1 | | | |
| Рог | 1 | 1 | | | | | | | | | | | |
| Сустаўная | 2 | | | | | | | | | | | | |
| Тазавая | 2 | 1 | 1 | | | | 1 | | | 1 | | 1 | |
| Перадплюсневая | 3 | | | | | | | | | | | | |
| Фрагмент чэрапа | 1 | | | | | | | | | | | | |
| Усяго | 109 | 37 | 59 | 20 | 2 | 13 | 2 | 13 | 1 | 32 | 7 | 6 | 5 |

Т а б л і ц а 6

Анатамічны набор касцявых рэшткаў з гарадзішча Гарадзец. Слой-3

| Косць | Брж | Држ | Свіння дам. | Конь | Кошка дам. | Сабака дам. | Бабёр | Зубр | Ліса | Лось | Дзік | Казуля | Мядзведзь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-я фаланга | 16 | 1 | 2 | 7 | | | | | | 7 | | | |
| 2-я фаланга | 9 | | 1 | 1 | | | | | | 4 | | | 1 |
| 3-я фаланга | 2 | | | 2 | | | | | | | | | |
| Астрагал | 7 | | 2 | 2 | | | | | | 2 | 3 | | 1 |
| Вялікая галёначная | 9 | 9 | 8 | 7 | | | 2 | | | 3 | 2 | | |
| Малая галёначная | | | 1 | | | | | | | | | | |
| Сцягновая | 7 | 3 | 9 | 1 | | 1 | 4 | | | 2 | 2 | | |
| Верхняя сківіца | 4 | | 8 | 2 | | | | | | 1 | | | 1 |
| Зуб ізаляваны | 13 | 4 | 4 | 11 | | | 1 | | | | 2 | | |
| Лакцявая | 5 | 2 | 5 | 1 | | | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 1 | |
| Лапатка | 8 | 6 | 14 | 2 | | | 2 | | | 1 | | | |
| Прамянёвая | 5 | 6 | 10 | 2 | | | 1 | 2 | | 3 | 1 | | |
| Ніжняя сківіца | 11 | 11 | 10 | | | | 2 | 4 | | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Плечавая | 2 | 9 | 4 | 1 | 1 | | 5 | | | 2 | 1 | | 1 |
| Плюсневая | 12 | 4 | 8 | 2 | | | | | | 1 | | | 2 |
| Пазванок | 5 | 9 | 14 | 1 | | | 1 | 1 | | | 2 | | |
| Пясцевая | 16 | 3 | 9 | 7 | | 1 | | 1 | | 2 | 1 | | 2 |
| Пясцевая ці плюсневая | 7 | 3 | | | | | | 1 | | | 1 | | |
| Пятачная | 7 | 1 | 7 | 2 | | | | 2 | | 3 | 1 | | 2 |
| Рабро | 4 | 4 | 5 | 1 | | | | | | | | | |
| Рог | 1 | 2 | | | | | | 1 | | | | | |
| Сустаўная | 2 | | | | | | | | | | | | |
| Тазавая | 6 | 6 | 5 | 1 | | | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | | 1 |
| Перадплюсневая | 1 | | | | | | | | | | | | |
| Усяго | 159 | 83 | 126 | 53 | 1 | 2 | 21 | 15 | 2 | 36 | 21 | 2 | 13 |

Т а б л і ц а 7

Суадносіны паміж дамашнімі і дзікімі жывёламі на гарадзішчы Гарадзец

| Від | Слой 1 | | | | Слой 2 | | | | Слой 3 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Косці | % ад агульнай колькасці касцей | Асобіны | % ад агульнай колькасці асобін | Косці | % ад агульнай колькасці касцей | Асобіны | % ад агульнай колькасці асобін | Косці | % ад агульнай колькасці касцей | Асобіны | % ад агульнай колькасці асобін |
| Дамашнія | 286 | 83,14 | 43 | 58,11 | 244 | 74,16 | 42 | 56,76 | 432 | 79,7 | 51 | 59,3 |
| Дзікія | 58 | 16,86 | 31 | 41,89 | 85 | 25,84 | 32 | 43,24 | 110 | 20,3 | 35 | 40,7 |
| Усяго | 344 | 100 | 74 | 100 | 329 | 100 | 74 | 100 | 542 | 100 | 86 | 100 |

Т а б л і ц а 8

Суадносіны паміж відамі дамашніх жывёл

| Від | Слой 1 | | | | Слой 2 | | | | Слой 3 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Косці | % ад агульнай колькасці касцей | Асобіны | % ад агульнай колькасці асобін | Косці | % ад агульнай колькасці касцей | Асобіны | % ад агульнай колькасці асобін | Косці | % ад агульнай колькасці касцей | Асобіны | % ад агульнай колькасці асобін |
| Буйная рагатая жывёла | 139 | 48,60 | 17 | 39,53 | 118 | 48,36 | 15 | 35,71 | 162 | 37,50 | 16 | 31,37 |
| Дробная рагатая жывёла | 75 | 26,22 | 10 | 23,26 | 38 | 15,57 | 8 | 19,05 | 85 | 19,68 | 11 | 21,57 |
| Свіння | 42 | 14,69 | 11 | 25,58 | 65 | 26,64 | 12 | 28,57 | 127 | 29,40 | 13 | 25,49 |
| Конь | 6 | 2,10 | 4 | 9,30 | 21 | 8,61 | 5 | 11,90 | 54 | 12,50 | 8 | 15,69 |
| Кошка | 24 | 8,39 | 1 | 2,33 | – | – | – | – | 2 | 0,46 | 2 | 3,92 |
| Сабака | – | – | – | – | 2 | 0,82 | 2 | 4,76 | 2 | 0,46 | 1 | 1,96 |
| Усяго | 286 | 100 | 43 | 100 | 244 | 100 | 42 | 100 | 432 | 100 | 51 | 100 |

## Літаратура

[1]Щеглова В. В. К истории охоты и животноводства в Белоруссии в X —XIV вв. (по костным остаткам из раскопок археологических памятников) // Архив ИИ НАНБ. Мн., 1975. Дело № 483; Щеглова В. В. Роль охоты в снабжении мясом населения на территории Беларуси в X —XIV вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусь Мн., 1993. С. 74-82.

[2] Калиновский П. Ф., Метельский А. А. Палеатэрыяльныя даследаванні ў г. Крычаве Магілёўскай вобласці // Праблемы палеагеаграфіі позняга плейстацена і галацена. Матэрыялы беларуска-польскага семінара. Гродна, 26 — 29 верасня 2000. С. 42-43.

[3] Там жа. С. 43.

[4] Мяцельскі А. А. Справаздача навуковага супрацоўніка аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду аб праведзеных археалагічных даследаваннях на гарадзішчы «Гарадзец» у г. Крычаве ў 1997 годзе // Архіў ІГ НАНБ. Мн., 1998. Спр. № 1689. С. 36-60.

[5] Щеглова В. В. Роль охоты в снабжении мясом населения на территории Беларуси в X —XIV вв. '// Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусь Мн., 1993. С. 74 — 82.

[6] Цалкин В. И. Древнейшие домашние животные Восточной Европы. М., 1970. С. 162.

[7] Щеглова В. В. К истории охоты и животноводства в Белоруссии в X —XIV вв. (по костным остаткам из раскопок археологических памятников) // Архив ИИ НАНБ. Мн., 1975. Дело № 483. С. 103.

[8] Цалкин В. И. К истории животноводства и охоты в Восточной Европе. М., 1962.

[9] Цалкин В. И. Изменчивость метаподий у овец // Бюлл. МОИП, отд. биологический, № 5. 1961.

[10] Щеглова В. В. К истории охоты и животноводства в Белоруссии в X —XIV вв. (по костным остаткам из раскопок археологических памятников) // Архив ИИ НАНБ. Мн., 1975. Дело № 483. С. 110.

[11]Цалкин В. И. Древнее животноводство племен Восточной Европы и Средней Азии // МИА, № 135. М., 1966. С. 32.

[12]Teichert M. Osteometrische Untersuchungen zur Berechnung der Widerristhohe bei vor-und frUhqeschichtlichen Schweinen. Kuhn-Archiv 83, 3. Berlin, 1969.

[13] Щеглова В. В. К истории охоты и животноводства в Белоруссии в X —XIV вв. (по костным остаткам из раскопок археологических памятников) // Архив ИИ НАНБ. Мн., 1975. Дело № 483. С. 115.

[14]Шчаглова В. В., Шадыра В. І., Ласкавы Г. В. Да гісторыі жывёлагадоўлі і палявання на паселішчах Пруднікі (III-XI стст. н. э.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. Мн., 1990. № 3. С. 71.

[15] Бибикова В. И. Фауна Пекуновского городища // МИА. М.; Л., 1950. № 13. С. 138; Браунер А. Материалы к познанию домашних животных России, I. Лошади курганных погребений Тираспольского у. Херсонской губ. // Зап. Общ. сельхоз. Южной России. 1916. Т. 86, кн.1.

[16] Шмидт Е. А. Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства. М., 1992. С. 70.

[17] Щеглова В. В. Роль охоты в снабжении мясом населения на территории Беларуси в X —XIV вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусь Мн., 1993. С. 78.

[18] Млекопитающие фауны СССР. М.; Л., 1963. Ч. 1.

[19] Лухтан А. Скотоводство и охота в Восточной Литве в 1 тысячелетии до н. э. (по материалам городища Наркунай) // Научные труды ВУЗов ЛитССР. История. Вильнюс, 1986. Т. 25. С. 13.

[20] Соколов И. И. Копытные звери // Фауна СССР. Млекопитающие. Вып. 9. М.; Л., 1959. Т. 1. С. 236.

[21] Щеглова В. В. К истории охоты и животноводства в Белоруссии в X —XIV вв. (по костным остаткам из раскопок археологических памятников) // Архив ИИ НАНБ. Мн., 1975. Дело Jsfe 483. С. 37.

[22] Цалкин В. И. К истории животноводства и охоты в Восточной Европе. М., 1962. С. 51.

[23] Щеглова В. В. Роль охоты в снабжении мясом населения на территории Беларуси в X —XIV вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусь Мн., 1993. С. 78.

[24] Медведев А. М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (1 тысячелетие до н. э. — 5 в. н. э.). Мн., 1996. С. 25.

[25] Щеглова В. В. К истории охоты и животноводства в Белоруссии в X —XIV вв. (по костным остаткам из раскопок археологических памятников) // Архив ИИ НАНБ. Мн., 1975. Дело № 483. С. 51.

[26] Teichert M. Osteometrische Untersuchungen zur Berechnung der Widerristhohe bei vor-und frUhqeschichtlichen Schweinen. Kuhn-Archiv 83, 3. Berlin, 1969.

[27] Щеглова В. В. К истории охоты и животноводства в Белоруссии в X —XIV вв. (по костным остаткам из раскопок археологических памятников) // Архив ИИ НАНБ. Мн., 1975. Дело № 483. С. 54.

[28] Там жа. Дадатак 21.

[29] Шмидт Е. А. Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства. М., 1992. С. 66, табл. В.

[30] Потапов А. В. Новые материалы к истории скотоводства и охоты в Древнем Чернигове // Проблемы археологии Южной Руси. Киев, 1990. С. 39.

[31] Щеглова В. В. К вопросу о животноводстве и охоте в Белоруссии в средние века // Древности Белоруссии. Мн., 1969. С. 410.

[32]Тамжа. С. 411.

*В. А. Блашко*

# КРЫЧАЎСКІЯ ДЗЯРЖАЎЦЫ

| Дата | Прозвішча | Крыніцы |
|---|---|---|
| 1483 – 1492 (?) | Андрэй Ковач, альбо Андрэйкавіч | РИБ. СПб., 1910. Т. 27. С. 109; Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897. Т. 1. С. 54 |
| 1501 – 1503 | Астафі Дашковіч | ПСРЛ. М.; Л., 1959. Т. 26. С. 294; СИРИО. СПб., 1882. Т. 35, ч. 2. С. 430, 447 |
| 1503 – 1504 (?) | Пётр Епіхамовіч | РИБ. СПб., 1903. Т. 20. С. 770–771 |
| 1507 | Ян Янавіч Забярэзінскі | ЛМ. Книга записей № 8. Вильнюс, 1995. № 208, 220, 221, 231, 247, 250, 401 |
| 1508–1509 | Васка Іванавіч Ашушысін | ЛМ. Книга записей № 8. Вільнюс, 1995. С. 279, № 360; АЗР. СПб., 1848. Т. 2. С. 59 |
| 1511 | Цімафей Іванавіч Капуста | РИБ. СПб., 1903. Т. 20. С. 770, № 155 |
| 1514 | Юры (Ян) Неміровіч | АЛРГ. М., 1899. Вып. 1. С. 157, № 138; НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 230–230 адв. |
| 1517–1529 | Васіль Сямёнавіч Жылінскі | Любавский М. В. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого Литовского статута. М., 1892 |
| 1530–1534, 1536 | Васіль Багданавіч Чыж | ЛМ. Книга записей № 4. Вильнюс, 1999. № 455, 496, 520; НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 15, арк. 126 адв. – 127; ЛМ. Книга записей № 25. Вильнюс, 1998. С. 238, № 176; Archiwum książąt Sanguszków w Slawucie. Lwów, 1850. T. 3; Сборник И. И. Малиновского, относящийся к истории Панов-Рады Великога княжества Литовского. Томск, 1901. С. 487 |
| 1535 | Андрэй Няміраў | ПСРЛ. М., 1965. Т. 13. С. 85 |
| 1544 – 1563 | Андрэй Багданавіч Шалуха | ИЮМ. Витебск, 1900. Т. 28. С. 115. |
| 1566 – 1576 | Канстанцін Андрэевіч Шалуха | НГАБ, кмф-18, адз. зах. 49, арк. 3–3 адв.; АВАК. Вильна, 1897. Т. 24. С. 337; НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 77, арк. 230–231 |
| 1576–1578 | Мікалай Служка | НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 58, арк. 30 адв.–31, 145–145 адв.; адз. зах. 63, арк. 104 адв.–105 адв.; адз. зах. 77, арк. 244 адв.; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 14; АЗР. СПб., 1848. Т. 3. С. 239–240, № 108 |
| 1580 – 1602. 09. 07 | Багдан Іванавіч Саламярэцкі | Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 498; ПСРЛ. Т. 32. С. 189 |
| 1602. 30. 11 – 1620 (?) | Фрыдрых Багданавіч Лукомскі | Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od konca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 217; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 14, 15 |
| 1620 (?) – 1625 (?) | Багдан Багданавіч Саламярэцкі | Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od konca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 499 |
| 1625 – 1634 (?) | Кшыштаф Весялоўскі | НГАБ, кмф-18, воп. 1, адз. зах. 110, арк. 327; ИЮМ. Витебск, 1879. Т. 10. С. 309 |
| ? – 1640 | Стэфан Пац | НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 128 |
| 1640 – 1642 | Ганна з Рудамінаў-Дусяцкіх, удава Стэфана Паца | Polski slownik biograficzny. Wroclaw; Warszawa; Kraków; Gdansk, 1974. T. XXIV/4, zeszyt 103. S. 738 |

*Працяг табліцы*

| Дата | Прозвішча | Крыніцы |
|---|---|---|
| 1642 — 1670 | Мікалай Стэфан Пац | Polski slownik biograficzny. Wroclaw; Warszawa; Kraków; Gdansk, 1974. T. XXIV/4, zeszyt 103. S. 738, 740 |
| 1670 — 1680 | Міхал Казімір Радзівіл | Polski slownik biograficzny. Wroclaw; Warszawa; Kraków; Gdansk, 1987. T. XXX/2, zeszyt 125. S. 298 |
| 1680 — 1719 | Караль Станіслаў Радзівіл | НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 190—192 |
| 1692 — 1746 | Ганна Катажына з Сангушкаў Радзівіл | НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 287—288, 292 адв. |
| 1746 — 1759 | Іеранім Фларыян Радзівіл | Polski slownik biograficzny. Wroclaw; Warszawa; Kraków; Gdansk, 1987. T. XXX/2, zeszyt 125. S. 201 |
| 1760 — 1775 | Ежы Аўгуст Вандалін Мнішэк | Polski slownik biograficzny. Wroclaw; Warszawa; Kraków; Gdansk, 1976. T. XXI/3, zeszyt 90. S. 472 |

*ДАДАТАК 3*

# ПАЦВЯРДЖАЛЬНЫЯ ГРАМАТЫ АБ НАДАННІ КРЫЧАВУ МАГДЭБУРГСКАГА ПРАВА

**(пераклад з польскай мовы)**

Перад намі, Кузьмой Маркевічам Якімовічам, войтам, Даніелем Фрыдрыхавічам і Вакулай Іванавічам Шэўняй, бурмістрамі, перад райцамі і лаўнікамі места яго каралеўскай міласці Магілёва, сёлета, на пасяджэнні персанальна прысутнічаў славуты пан Казімір Іванавіч Бачкевіч, бурмістровіч места яго каралеўскай міласці Крычава прывілей яго каралеўскай міласці мяшчанам места яго каралеўскай міласці Крычава даны і служачы для ўнясення ў кнігі гарадскія магілёўскія падаў, а ў ім напісана:

Ян Казімір, з Божай ласкі кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жмудскі, мазавецкі, інфлянцкі, смаленскі, чарнігаўскі, шведскі, гоцкі, вандалскі дзедзічны кароль.

Паведамляю гэтым лістом нашым усім разам і кожнаму асобна, каму ведаць належыць.

Пададзена была нам праз некаторых паноў-рад і ўраднікаў нашых дворных просьба ад імя славутых бурмістраў, райцаў, лаўнікаў, магістрата і ўсяго паспольства места нашага Крычава, каб ім прывілей і пісьмовае пацверджанне аб наданні светлай памяці караля яго міласці Уладзіслава чацвёртага, пана брата нашага, на права магдэбургскае, пэўнымі вольнасцямі, свабодамі і прэрагатывамі служачыя, асобным прывілеем нашым абагульнілі і пацвердзілі, якія дакладнымі выпіскамі з кніг канцылярыі нашай малой Вялікага княства Літоўскага нам прад'яўлены.

***Першы прывілей***

Уладзіслаў etc. etc.

Паведамляю гэтым лістом нашым, каму аб гэтым ведаць належыць.

Да паляпшэння дзяржаў нашых бачым вялікую неабходнасць, каб усе гарады і мястэчкі нашы звычайнымі і хатнімі аплывалі дастаткамі, якімі б не толькі сабе, але і ўсёй Рэчы Паспалітай у яе патрэбах дапамагалі. А гэтыя павелічэнні дастаткаў, хутчэй за ўсё, з вялікай колькасці людзей і надання асобных вольнасцяў паўстаюць і абагачаюцца. Таму заўжды з задавальненнем схіляючыся да вольнасцей падданых нашых, з правам паспалітым згодных, схіляемся да дайшоўшай просьбы праз паноў-раду і ўраднікаў двара нашага, ад імя мяшчан нашых крычаўскіх, каб я, маючы міласцівы погляд на вернае падданства іх, якое яны як раней, так і пад час цяперашняй экспедыцыі маскоўскай мястэчка нашае Крычаўскае, агнём і мячом пагромленае і знішчанае ўтрымалі, з асобай ласкі нашай права ім магдэбургскае па прыкладу места нашага Оршы арганізавалі і надалі, якое лістом сваім гэтым надаем на вечныя часы, аддаляючы іх ад усялякіх парадкаў і шкод, якія асабліва з'ўляюцца перашкодай магдэбургскаму праву.

Дзеля гэтага адмяняем у іх усялякія юрысдыкцыі — ваявод, кашталянаў, стараст, дзяржаўцаў, падкаморых, суддзяў, падсудкаў, іх намеснікаў і іншых ураднікаў, як духоўных, так і свецкіх. Утвараю гарадскі ўрад — войта, вяльможнага Крыштафа Весялоўскага, маршалка надворнага Вялікага княства Літоўскага і дзяржаўцу крычаўскага, аж да яго смерці; двух бурмістраў, двух райцаў, шэсць лаўнікаў. А тыя бурмістры, райцы і лаўнікі, людзі рэлігіі рымскай і грэчаскай, павінны быць выбраны паспольствам, якое павінна дзеля гэтага кожны год выбіраць са свайго складу 24 кандыдатаў. Час элекцыі, альбо выбараў, тых ураднікаў прызначаю на дзень Новага года, свята рымскага.

Тыя, хто будзе ўпершыню ў гарадскі ўрад абраны, павінны перад пачаткам сваіх пасяджэнняў у ратушы прыняць прысягу, якая ім будзе згодна права магдэбургскага дадзена. Замест выбыўшых альбо памершых асобаў гарадскога ўрада паспольства мае права дабраць неабходную колькасць, абы заўсёды ў гарадскім урадзе было 24 выбраных асобаў. А праз тры гады тыя бурмістры, райцы, лаўнікі, калі яны добра працавалі і зноў былі абраныя, могуць займаць свае пасады без прыняцця прысягі ў другі раз.

Згаданы іх паважаны сучасны войт альбо сам, альбо праз лентвойта прысягнуўшага, якога грамада места Крычаўскага з ведама войта абярэ і пасадзіць побач з бурмістрамі і радай гарадской згодна права магдэбургскага, усялякія справы малыя і вялікія, звычайныя, вечыстыя, крымінальныя, як крадзяжы, справы аб межах, членашкодніцтве і іншых падзеях судзіць, падцвярджаць, караць і прыводзіць прысуд мае, абапіраючыся ва ўсім на права магдэбургскае. Лентвойт не мае права без бурміст-

рау разбіраць ніякія справы, ані судзебныя, ані іншыя звычайныя. Усе суды і пасяджэнні ўрада павінны адбывацца разам. Кожны мае права, хто не задаволены дэкрэтам агульнага суда альбо войтаўскага і радзецкага, да нас апеляваць і за праходжаннем спраў сваіх, згодна права магдэбургскага, назіраць і падтрымліваць іх.

Мы таксама згодна таго ж права магдэбургскага назіраць і падтрымліваць будзем і павінны іх судзіць. А для лепшай аздобы гэтага мястэчка надаем яму герб, альбо пячатку — крыж і меч каля яго, падобны на той, што ў гэтым прывілеі намаляваны. Гэтую пячатку ўрад павінен ставіць ва ўсялякіх справах публічных, на выпіскі і экстракты і іншыя гарадскія лісты і справы. Пісар на суд права магдэбургскага павінен быць абраны выбаршчыкамі і прыняць прысягу. Дазваляю таксама ім пабудаваць Ратушу на рынку, там, дзе яны выберуць найлепшае месца, па прыкладу іншых мест і мястэчак нашых. Пад канец стаўлю ўмову тым жа мяшчанам нашым крычаўскім, што пасля смерці вяльможнага маршалка нашага надворнага Вялікага княства Літоўскага, войта іх сучаснага, войтаўства будзе на асобным праве. І толькі той мае права валодаць даходамі войтаўскімі, каму асаблівым прывілеем нашым альбо найяснейшых нашчадкаў нашых пацверджаны будзе і то не каму іншаму, а толькі людзям шляхетнага саслоўя і каб прысягу згодна магдэбургскага права выканаў. Гэта ўсё на далейшыя часы зацвярджаю і для карыстання месту нашаму Крычаўскаму надаю.

Для большай упэўненасці рукою сваёю той прывілей падпісаўшы, пячатку Вялікага княства Літоўскага прыціснуць загадалі.

Дадзена ў Варшаве дня 23, месяца аўгуста, року Божага 1633, панавання нашага польскага першага, а шведскага другога року.

Уладзіслаў кароль.

Марцін Трызна рэферэнт і пісар Вялікага княства Літоўскага.

***Другі прывілей***

Уладзіслаў чацвёрты etc. etc.

Паведамляем тым лістом нашым, каму аб гэтым ведаць належыць.

Што вяльможны Крыштаф Весялоўскі, маршалак надворны Вялікага княства Літоўскага, стараста наш тыкоцінскі, дзяржаўца і войт крычаўскі, схіляючыся да прывілея месту крычаўскаму, ад нас вернападданым не толькі пад час панавання светлай памяці караля яго міласці пана бацькі нашага, але і ў шчаслівае панаванне наша, пад час інтэрвенцыі непрыяцельскай, амаль знішчаныя агнём і мячом, нам і Рэчы Паспалітай утрыманага на права магдэбургскае, дадзенае Варшаве дня 23 месяца жніўня року Божага 1633 уладай і правам сваім, якое над мяшчанамі крычаўскімі, судовымі і іншымі прэрагатывамі правам паспалітым звычайным меў, спецыяльным лістом адрокся, прасіўшы абы такі ліст вяльможнага маршалка надворнага Вялікага княства Літоўскага, дзяржаўцы і войта крычаўскага, сілай і павагай зацвердзілі і ўзмацнілі, які гучыць так.

Я, Крыштаф Весялоўскі, маршалак надворны Вялікага княства Літоўскага, цівун віленскі, тыкоцінскі, суражскі, крычаўскі стараста, эканом гарадзенскі, ляснічы перстанскі, прэломскі і навадворскі, чыню тым лістом маім, што мяшчане крычаўскія, менавіта Рыгор і Раман Кузмічы Быхаўцы і Яцко Аляксандравіч Казёл, пакладалі перад мной прывілей яго каралеўскай міласці, дадзены 23 аўгуста 1633 года ў Оршы, якім яго каралеўская міласць з літасцівай ласкі сваёй панскай, бачучы верныя і адважныя паслугі памянёных мяшчан, надаць права ім магдэбургскае вырашыў, і пры гэтым асобна да мяне пісьмо прынеслі, абы звяртаючыся да волі яго каралеўскай міласці і права майго першага, якое маю з ласкі і шчодрасці светлай памяці караля яго міласці Жыгімонта Трэцяга, пана і дабрадзея майго літасцівага ўхваліўшы, памянёных абывацеляў места Крычава пад вольнасць і права магдэбургскае выпусціў.

Просяць пры тым самі і брацііі сваей, ад імя ўсіх мяшчан крычаўскіх, абы ім, згодна надання яго каралеўскай міласці, правам магдэбургскім ласавацца дазволіў. Не жадаючы быць перашкодай волі яго каралеўскай міласці, пана майго літасцівага, а жадаючы тым людзям яго каралеўскай міласці і Рэчы Паспалітай здаўна, але асабліва пад час нядаўняй вайны з народам маскоўскім добра заслужаную чэсць сваю паказаць, саступаю і тым лістом сваім дабравольным права свайго першынства, якім у судах, як і ў іншых прэрагатывах з права паспалітага звычайных над мяшчанамі тамтэйшымі меў, саступаю і пад права магдэбургскае на столькі, колькі ад мяне залежыць, выпускаю пры ўмове выплат імі плацяжоў, якія як са старых рэвізій павінны былі даваць, так і якія ім пасля пацвярджэння караля яго міласці прызначаны будуць, пакідаючы сабе тое, што яны згодна таго ж прывілея яго каралеўскай міласці і права паспалітага як войту тамтэйшаму будзе належаць. Але не меней тых умоў, якія кожнаму старасце згодна даўніх звычаяў і права паспалітага ва ўсіх гарадах

карали яго міласці пад правам магдэбургскім знаходзіцца належыць. Нарэшце, захоўваючы за сабою права заключаць з гараджанамі пагадненні на ўмовах, якія вышей выказаны.

І на то даў гэты ліст мой, з пячаткай маёй і з подпісам рукі маёй.

Пісан у Каменнай, дня 21 месяца аўгуста 1634 года.

Крыштаф Весялоўскі.

Мы, Уладзіслаў чацвёрты, кароль, разглядзеўшы просьбу мяшчан крычаўскіх, да нас дайшоўшую, ласкава схіліўшыся да іх просьбы адзначаны ліст ва ўсіх яго пунктах, умовах і нормах сілай і павагай нашай каралеўскай узмацняем, зацвярджаем і на вечна ў адпаведным значэнні пакідаем і асобным гэтым прывілеем нашым, абы сучасны лентвойт, прызначаны вяльможным войтам, таксама і іншыя лентвойты, што будуць пасля, ніякіх спраў звычайных і крымінальных, па прыкладу места нашаго Аршанскага, без бурмістраў, райцаў і лаўнікаў места нашага крычаўскага, не судзіў. А той, хто набыў пляц у месцы нашым крычаўскім, будзе павінны ўсе павіннасці і цяжары месцкія выконваць. Таксама і тыя, хто будзе займацца гандлем, рамяством і шынкарствам, да места рэспандаваў неабходныя павіннасці аддаваць павінен.

Дазваляю тым жа мяшчанам крычаўскім два дамы гасцінныя мець; адзін за астрогам, а другі над ракой Сожам на сваіх грунтах і ратушу на рынку на плошчы пабудаваць. А для пашырэння рынку, з дазволу маршалка надворнага Вялікага княства Літоўскага, войта, дазваляецца выкарыстаць замкавы агарод.

Клеці замкавыя, у якіх мяшчане пад час небяспекі ад ворага мешкаюць, павінны быць вольнымі.

Дзве ярмаркі, па прыкладу іншых мест нашых, адну на Св. Троицу, а другую на Св. Міколу свята рымскага, месту нашаму крычаўскаму на вечныя часы надаем. Пры гэтых ярмарках каноны сычэння мёду чатыры разы маюць мець мяшчане, а воску палавіна ад тых мёдаў каталіцкаму касцёлу рымскаму, а другая палавіна царкве павінна належаць. Зборы і кантрыбуцыю мяшчане, самі выбраўшы, да скарбу нашага ўносіць павінны будуць, а таму замкавыя павіннасці — работы на патрэбу замка, пастаўцы падвод не падлягаюць, акрамя тых выпадкаў, калі ўзнікае патрэба для Рэчы Паспалітай згодна лістоў нашых.

Пры гэтым дадаўшы месту нашаму крычаўскаму просьбы, на якія вяльможны маршалак наш надворны Вялікага княства Літоўскага, дзяржаўца і войт крычаўскі ў лісце сваім, вышэй згаданым, выкладае, жадаем, каб мяшчане крычаўскія чыншы з валок і моргаў палявых і сенажатных, таксама як і з прэнтаў месцкіх — сядзібных і агародных па пяці пенязяў, а з моргаў палявых, сядзібных — па тры грошы з кожнай валокі па капе літоўскай плацілі. З моргаў засценкавых, якія ў памеру валочную не былі унесены, а за сценамі валаснымі праведзены з моргаў па тры грошы; з моргаў сенажатных па тры грошы ў замку крычаўскім пачаўшы ад Св. Міхала аж да Св. Марціна свята рымскага аддавалі.

Маюць права па дрэва на гарадскую будоўлю і на свае прыватныя патрэбы ў пушчу нашу за дзве мілі ад горада ездзіць. Дазваляецца мяшчанам крычаўскім па валасцях нашых ездзіць, купляць усялякія тавары і на торг свой крычаўскі прывозіць і гандляваць. А калі б на сваім таргу не прадаў, то тады на іншых таргах прадаваць можа. Маюць права вольнай лоўлі рыбы на Сожы ад граніцы прапойскай да граніцы рослаўскай. А іншыя пункты, умовы, абавязкі ў той жа рэвізіі апісаныя, якія б тут слова ў слова былі ўпісаны, моцаю і ўладаю нашай каралеўскай зацвярджаем, падмацоўваем і апрабуем. А пад канец жадаем, каб сённяшні вяльможны стараста крычаўскі і тыя, хто потым будзе, пляцаў, валок месцкіх слугам сваім не раздаваў і ўсе тыя валокі і пляцы навечна пры месцы павінны заставацца.

Прыезджыя купцы маюць права купляць тавары толькі на гарадскім таргу Крычава, а не ў воласці. Жыды, што жывуць у Крычаве, і тыя, хто потым жыць будзе з асоб і «добр» рухомых юрыдыкі замкавай, а з пляцаў і грунтаў пад юрыдыкай месцкай будучых, да места рэспандавалі і павіннасці ўсялякія выконваць павінны будуць. А для лепшых умоў і павагі таго места нашага Крычаўскага, па прыкладу гарадскога права Оршы, надаем на вечныя часы, а і бы кожны новы мешчанін, прымаючы аседласць і гарадскія правы, перш за ўсё павінен на Ратушы прынесці прысягу і адпаведна сваей магчымасці ўнесці уклад у гарадскі скарб, а потым мае права на гарадскія вольнасці і права гандляваць.

Пацверджаннем таго, што гэты прывілей наш, падпісаны маёй уласнай рукою, на вечныя часы зацвярджаецца, загадваю замацаваць яго пячаткай Вялікага княства Літоўскага.

Дадзены у Варшаве, дня 24 месяца лютага року Панскага 1634, панавання нашага польскага пятага, а шведскага шостага року.

Уладзіслаў кароль.

Марцін Трызна, рэферэнт ВКЛ.

Пры тым ліст, альбо пісьмовы адказ на згадваемы ахоўны ліст, у якім напісана:

Уладзіслаў чацвёрты etc. etc.

Мікалаю Пацу старасту крычаўскаму, нам верна міламу.

Пададзена нам праз супліку ад імя магістрата і ўсяго паспольства места нашага Крычава на вернасць вашу скарга аб тым, што вернасць ваша, не звяртаючы ўвагі на права і вольнасці, якія яны ад нас атрымалі, вялікія ўціскі чыніш сам і праз сваіх намеснікаў, таму яны, бачачы небяспеку свайму здароўю, уцяклі да нас, просячы нас аб літасці, каб як здароўе, так і «добра» іх пад абарону і пратэкцыю нашу каралеўскую ўзялі, тым лістом нашым ахоўным замацавалі. Бачачы, што скарга іх слушная, вырашыў іх пад абарону і пратэкцыю нашу ўзяць, як бяром іх здароўе разам з асновай, тым лістом глейтовым ад усялякіх амбіцый захоўваючы, жадаючы мець ад вас толькі вернасць вашу, ва ўсім, сам і нашчадкі вернасці вашай крычаўцы спакойна захавалі, чыншы з «места», як і ў іншых «местах» разам з Ратушай, а не асобна збіраць загадаў, да складанак «месцкіх». Не забараняў лавіць рыбу на рацэ Сожы, згодна нашага прывілея саступіў бы агарод замкавы, у грунтах, валоках, моргах сенажатных, польных і пляцах крыўды не чыніў і інных нікому не раздаваў, а ад воласці, абы ў тых грунтах перашкоды не мелі, бараніў: не прымаў мешчаніна пад юрыдыку замкавую; рамеснікам і іх рамёствам крыўды не чыніў. На жыццё іх сам, ні праз сваіх слуг, ні праз іншых падпарадкаваных асоб не пагражаў і біццём не цямежыў, але разам з імі, згодна з прывілеямі, ім дадзенымі, ні ў чым іх не абмяжоўваў і гвалту ім ніякага не чыніў; а калі б вернасць Ваша сабе да іх прэтэндаваў, абы з імі via iuris raczey, а не violente modo прэтэндаваў. Інакш вернасць Ваша не выканаеш павіннасці сваей і для ласкі нашай.

Дадзены ў Варшаве дня 21 месяца чэрвеня року Божага 1657, панавання нашага польскага 15, а шведскага 17 року.

Уладзіслаў кароль.

Станіслаў Нарушэвіч, рэферэнт і пісар.

Тады мы, Ян Казімір, кароль, літасціва бачачы вернападданства да нашых продкаў і да мяне самога і да Рэчы Паспалітай дабразычлівасць, мужнасць і адвагу мяшчан горада нашага Крычава, якое яны здаўна, а асабліва за светлай памяці караля яго мосці, пана брата нашага вельмі моцныя штурмы і аблогі маскоўскія адбівалі, так і пад час шчаслівага панавання нашага, у недалёкія часы, вялікіх мецяжоў казацкіх палкоў, па знішчэнні агнём і мячом, з усялякімі здабыткамі сваімі горада Крычаўскага з-за здрады падданых воласці замка Крычаўскага, з немалою крывёю сваёй пралітай, у голадзе і вялікай патрэбе адпор даюць і значныя шкоды непрыяцелю чыняць; ашчасlівілі тых жа мяшчан нашых крычаўскіх годнымі быць ласкі і дабразычлівасці нашай каралеўскай прызначанымі; а за тым прывілеем, светлай памяці караля яго мосці, пана брата нашага на права магдэбургскае, вольнасці, пажыткі і прэрагатывы гэтаму «месту» наданыя і згадваемы ліст глейтовы, супраць ураджонага старасце нашаму тамтэйшаму вынесены, ва ўсялякіх пунктах, умовах, параграфах, сілай і аўтарытэтам нашым каралеўскім узнаўляем і ўмацоўваем. Жадаючы мець і ставячы ўмовы, абы яны, як у іншых усялякіх непавагах да ўлады, так і поглядам агульным чыншы праз магістрат ад паспольства выбіраных адпаведна звычаяў іншых гарадоў і мястэчак нашых надзеленых прывілеямі, да замка крычаўскага аддаваць цалкам і павінны быць захаваны непарушанымі на вечный часы. І на то далі гэты ліст-прывілей наш з подпісам рукі нашай і з пячаткай Вялікага княства Літоўскага.

Дадзены ў Варшаве дня 10 месяца лютага року Божага 1650 панавання нашага польскага і шведскага 11 року.

У гэтага прывілея яго каралеўскай мосці пячатка меншая падвешана Вялікага княства Літоўскага, а пры пячатцы подпіс такімі словамі. Ян Казімір. Ян Даўгяла Завіша, рэферэнт і пісар Вялікага княства Літоўскага. Гэты прывілей яго каралеўскай мосці пана, нашага літасцівага, праз вышэй памянёных асоб, слова ў слова ў гарадскія акты магілёўскія ўпісаны.

*ДАДАТАК 4*

# КРЫЧАЎСКІ МАГІСТРАТ

| Дата | Пасада | Прозвішча | Крыніца |
|---|---|---|---|
| 1633 | Войт | Кшыштаф Весялоўскі | ИЮМ. Витебск, 1879. Т. 10. С. 310 |
| 1660 – 1661 | Войт | Раман Бочка | Русско-белорусские связи. Сборник документов. Мн., 1963. С. 441 |
| 1662 – 1670 | Бурмістр | Раман Бочка | ИЮМ. Витебск, 1888. Т. 17. С. 179, 229 |
| 1648/1654(?) – 1670 | Бурмістр | Якаў Аляксеевіч Казёл | ИЮМ. Витебск, 1888. Т. 17. С. 229 |
| 1662 – 1667 | Падстараста, лентвойт | Геліяш Уладзіслававіч Сурын | ИЮМ. Витебск, 1888. Т. 17. С. 179, 183, 199, 220. |
| 1663 | Бурмістр | Казімір Іванавіч Бочкевіч | ИЮМ. Витебск, 1888. Т. 10. С. 307 – 308 |
| 1664 | Бурмістр | Іван Кузьміч Бочка | ИЮМ. Витебск, 1894. Т. 25. С. 311 – 314 |
| 1664 | Райца | Ждан Карпач | ИЮМ. Витебск, 1894. Т. 25. С. 325 |
| 1667, 1669 | Падстараста, лентвойт | Томаш Сеген | ИЮМ. Витебск, 1894. Т. 17. С. 223, 225 |
| 17. 07. 1668 | Падстараста, лентвойт | Канстанцін Петух | Русско-белорусские связи во второй половине XVII века (1667 – 1686 гг.). Сборник документов. Мн., 1972. С. 50 |
| 1670 | Падстараста, лентвойт | Кшыштаф | ИЮМ. Витебск, 1894. Т. 17. С. 229 |
| 1673 | Бурмістр | Кузьма Бочка | НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1923, арк. 6 |
| 1676 | Бурмістры | Кузьма і Раман Бочка | НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1924, арк. 2 |
| 1676 | Райцы | Іван Масковіч, Сафрон Зуй, Казьма Зуй | НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1924, арк 4 – 6 |
| 1676 | Лаўнік | Рыгор Мамыч | НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1924, арк. 4 – 6 |
| 1677 | Бурмістр | Парфён Лявонавіч Карабан | ИЮМ. Витебск, 1894. Т. 10. С. 358 |
| 1679 | Бурмістры | Дзмітры і Кузьма Бочка | НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1925, арк. 6, 15 |
| 1682 | Бурмістры | Парфён Карабан, Якуб Бочка | НГАБ, кмф-5, воп. 4, адз. зах. 1926, арк. 6 – 8 |
| 1682 | Бурмістры | Кузьма і Зуй Бочка | НГАБ, кмф-5, воп. 4, адз. зах. 1926, арк. 6 – 8 |
| 1688 | Бурмістры | Парфён Карабан, Пімен Пастрыгач | НГАБ, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1155, арк. 199 |
| 1694 | Бурмістры | Парфён Карабан, Якуб Бочка | НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 34 |
| 1694 | Райца | Ісак Вясёлка | НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1928, арк. 34 |
| 1712 | Бурмістры | Аляксандр Бочка, Ян Зянкевіч | ИЮМ. Витебск, 1894. Т. 17. С. 239 |
| 1718 | Бурмістры | Захары Зуй, Аляксандр Бочка | НГАБ, ф. 1812, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 25 |
| 1730 | Бурмістры | Захары Зуй, Ян Рося | НГАБ, ф. 1812, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 42 |
| 1733 – 1735 | Лентвойт | Антоні Война-Ясянецкі | НГАБ, ф. 1812, воп. 1, адз. зах. 1, арк. 18, 28, 65 |
| 1735 | Бурмістры | Стэфан Рося, Васіль Баравік | ИЮМ. Витебск, 1894. Т. 17. С. 259 |
| 1737 – 1740 | Лентвойт | Пётр з Прылук Прэленцкі | ИЮМ. Витебск, 1894. Т. 17. С. 262, 264, 273; НГАБ, ф. 1812, воп. 1, адз. зах. 1, арк. 163 |
| 1738 | Бурмістр | Васіль Баравік | НГАБ, ф. 1812, воп. 1, адз. зах.1, арк. 359 |
| 1738 | Райцы | Іосіф Рося, Табор | НГАБ, ф. 1812, воп. 1, адз. зах. 1, арк. 359 |
| 1738, 1741, 1746, 1747 | Пісар магдэбургскі | Фёдар Лашкевіч | НГАБ, ф. 1812, воп. 1, адз. зах. 1, арк. 359; адз. зах. 3, арк. 126; НГАБ, ф. 694, воп. 2, адз. зах. 3982, арк. 112 – 113; НГАБ, кмф-5, воп. 1, адз. зах. 1936, арк. 24 |

